НЕИЗВЕСТНАЯ ИСТОРИЯ

Іван Ласкоў

# ЛЕТАПІСНАЯ ЛІТВА: СВАЯЦТВА І ЛЁС

(кніга-пошук)

Вільня
«Наша будучыня»
2011

ББК 63.3(0)6
Л

*Серия основана в 2009 году*
*Автор серии «Неизвестная история» А. Е. Тарас*
*Оформление серии Б. Г. Клюйко*

**Ласкоў, І.**

Л Летапісная літва: Сваяцтва і лёс (кніга-пошук) / І. Н. Ласкоў. — Вільня : Наша будучыня, 2011. — 288 с. : ил. — (Неизвестная история)

Ужо даўно ідуць спрэчкі аб паходжанні беларускага этнаса і аб той тэрыторыі, дзе калісьці жылі нашы продкі. У спрэчках сутыкаюцца процілеглыя меркаванні. Адны сцвярджаюць, што беларусы — першапачаткова славяне, іншыя пярэчаць — «не, балты!», трэція займаюць прамежкавую пазіцыю: продкамі беларусаў былі балты, якіх «расчынілі» у сваёй масе славяне, калі прыйшлі на нашы землі.

Аўтар кнігі лічыць, што продкі беларусаў — не балты, не славяне, нават не балта-славяне, а угра-фінскія плямёны, роднасныя сучасным пермянам, марыйцам і мардоўцам! Галоўны метад яго доказаў — лінгвістычны аналіз асабістых імёнаў, гідронімаў, тапонімаў і так званай «базавай» лексікі. Гэта не значыць, што трэба адпрэчыць усе іншыя тэорыі. Але неабходна пазнаёміцца з ідэямі І. Ласкова, параўнаць са сваімі перакананнямі. Бо ісціна нараджаецца у сутыкненні навуковых канцэпцый.

© Тарас А. Е., 2011

# Вяртанне з-за небакраю

У сучаснай беларускай літаратуры цяжка знайсці яшчэ аднаго пісьменніка з такім, як у Івана Ласкова, няпростым, пакручаста-драматычным лёсам. Асэнсоўваючы яго шлях, міжволі згадваем паэму класіка беларускай літаратуры Фанцішка Багушэвіча «Кепска будзе», герою якой, Аліндарку, змалку наканавана цярпець нястачу, бясхлібіцу, пераадольваць нечаканыя жыццёвыя патырчакі. Так і тут. Чытаем аўтабіяграфію:

> «Мой бацька — Ласкавы Антон Іванавіч, 1905 года нараджэння, украінец, быў родам з Палтаўскай губерніі. У 1933 годзе, падчас галадамору, калі ў яго памерла сям'я і ўсе блізкія, апрача брата Пятра, ён выратаваўся толькі тым, што здолеў уцячы у Гомель, дзе і пазнаёміўся з маёй маці. На Палтаўшчыне бацька быў земляробам, у Гомелі працаваў на цукерачнай фабрыцы «Спартак». Адсюль у чэрвені 1941 года ён пайшоў на фронт і прапаў без звестак. Такім чынам, я з ім «бачыўся» толькі тады, як маці са мной выпісалася з радзільнага дома.
>
> Маці з бацькам зарэгістраваныя не былі. Ніякіх дакументаў бацькі, яго рэчаў не захавалася, бо наш дом у Гомелі ў вайну згарэў. Маці пісалася «Ласкавая» і вымаўляла сваё прозвішча з націскам на першым складзе. Мне хлапчуком гэта не падабалася, таму, пайшоўшы ў школу, я сваё прозвішча «зрусіфікаваў». У пасведчанні аб нараджэнні, што было выдадзена ў Гомелі чэрвеием 1941 года, я быў запісаны пад дзявочым прозвішчам маці — «Казлоўскі Іван», з прочыркам у графе «па бацьку». Гэтае пасведчанне я бачыў малым, але яно не захавалася. Таму мне давялося ўзнаўляць яго ў 15 год для атрымання пашпарту. Да прозвішча «Ласкоў» я прывык і таму захаваў яго, хаця і ведаў, што на самой справе — «Ласкавы».

Апрача перыпетый знешніх, якія дапасоўваюцца да лёсу багушэвічавага Аліндаркі, спынім увагу на рана выяўленую такую адметнасць харктару, як натурыстасць, гэта значыць імкненне

рабіць так, як самому ўздумаецца. Гэта ж для малога зусім не проста ўзяць і памяняць сваё ўласнае прозвішча на іншае, самім прыдуманае. Скажам так — малое дурное. Але і ўвайшоўшы ў сталы розум, ужо юнаком атрымліваючы пашпарт, ён не выпраўляе «грахі маленства», афіцыйна замацоўвае фальш-недарэчнасць ў асноўным для кожнага грамадзяніна дакуменце.

І яшчэ адно: аўтабіяграфія пісалася на просьбу-запыт Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, дзе ствараўся бібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» ў 6-ці тамах. Тады яшчэ моцнай была «вядучая сіла сучаснасці» КПСС, а разам з ёю ідэалагічны і цэнзурны нагляд над усім, што пісалася і выдавалася. Але з прыведзенага ўрыўку бачна, што Іван Ласкоў пісаў так, як яму Бог на душу пакладзе, мала зважаючы на знешнія вымогі, ідэйныя патрабаванні і абмежаванні.

На лёс чалавека ўвогуле, а тым больш эмацыянальнага, уражлівага, без чаго наўрад ці можа здзейсніцца сапраўдны пісьменнік, уплывае не толькі тое, што з ім самім непасрэдна адбываецца, але і голас продкаў, памяць роду. У аўтабіяграфіі Ласкоў піша пра тое, як ягоны прашчур набыў досыць вялікі загон зямлі-няўдобіцы ў цяперашнім Краснапольскім раёне, непадалёку ад вёскі Беразякі, якую пісьменнік лічыў сваёй малой радзімай.

> «Зямлю прадзед падзяліў пароўну між трымя сынамі. Адзін з іх, Апанас, быў бацькам маёй маці. Калі пачалася вайна, дзеда Апанаса мабілізавалі ў войска. Служыў ён ці то ў артылерыі, ці ў кавалерыі, бо, згодна з успамінамі маці, меў шаблю. Пасля рэвалюцыі вярнуўся да хаты. Нашыя мясціны з 1917 года заўсёды былі пад савецкай уладай, ані немцы, ані палякі іх не дасягалі. У 1918 годзе сельсавет загадаў дзеду здаць зброю (у яго была шабля і вінтоўка). Дзед не згадзіўся. Тады двое людзей, пасланых сельсаветам, прыйшлі на хутар і забілі дзеда, а адначасова і прадзеда Мацвея. Яны былі пасланыя знарок дзеля гэтага. Сакратаром сельсавета быў наш далёкі родзіч, Казлоўскі Мікалай, які зрабіў гэта, каб адпомсціць за нейкую нязгоду паміж продкамі (відавочна, з-за зямлі)».

Найперш звернем увагу на паводзіны дзеда, які адмаўляецца здаваць савецкай уладзе зброю, быццам гэта не законныя патрабаванні правамоцнага дзяржаўнага органа, а лагодныя пажаданні добрага дзядзькі. Ці не падобны тут паводзіны дзеда на пазнейшыя ўнукавы; Іван у далейшым яшчэ не адзін раз праявіць сябе падобным чынам. Ды гэтае задзірыстае непаслушэн-

ства, па сутнасці, нішто перад жахлівым учынкам прадстаўніка улады, які з-за бытавой помслівасці самахоць пазбаўляе жыццяў двух нявінных людзей. А гэта не магло не запасці ва ўражлівую душу будучага пісьменніка, абвострана непрымірымага да ўсякай несправядлівасці, дыктатарскай жорсткасці ва ўсіх яе бесчалавечых праявах — вялікіх, як у аднаго з самых жахлівых тыранаў свету Тамерлане (паэма «Кульга»), так і ў значна драбнейшых праявах, уласцівых, скажам, некаторым героям аповесці «Пішчальнікі не пішчаць».

Між тым, як паказвае Ласкоў у аўтабіяграфіі, жыццё ягонай матулі — суцэльны боль, нястачы і драмы. Але яны не зломліваюць маладзіцу, наадварот, у нягодах яе характар загартоўваецца і кожны раз адраджаецца насустрач новым выпрабаванням. Выключэннем не стала жыццё ў акупаваным Гомелі. Тут для кожнага чалавека асноўны клопат быў у тым, каб выжыць, не памерці з голаду. А ў нашым выпадку не толькі самой, але і не даць знясілець немаўлятку Ваньку. Людзі ў акупаваных беларускіх гарадах імкнуліся займець любую працу, каб мець хоць якія сродкі на пражыццё. А вось як у гэтых драматычных умовах паводзіць сябе Юлія Апанасаўна.



*Іван Ласкоў (1941–1994)*

«Акупанты прымушалі маці працаваць на тэлеграфе, але яна адмаўлялася, відаць, жывучы з гарода і старых рэчаў. Аштрафавалі на 50 марак. Прадаўшы рэчы, заплаціла кару, але на працу не хадзіла. Тады аштрафавалі яшчэ раз, на 100 марак. Такіх грошай маці здабыць не магла, таму ў вясну 1942 года, калі ўжо краналіся рэкі (у тым ліку Сож, які трэба было перайсці), яна дабралася да Кармы на нейкай груза-

вой машыне (за рулём быў паліцай, які на самой справе дапамагаў партызанам), а ад Кармы са мной на руках каля 35 кіламетраў ішла пешкі да Беразяк».

Зацятасць і нязломнасць, вера ў сваю праваты, у сваё прызначэнне рабіць толькі тое, што лічыш патрэбным, не зважаючы на думку бальшыні, выразна праявяцца ў характары Івана Ласкова ў маладыя гады, але асабліва ў сталым узросце. Яны паспрыяюць станаўленню нязломнага і непахіснага беларускага патрыятызму, вызначаць абвостраную да справядлівасці грамадзянскую пазіцыю, жаданне гаварыць праўду, не зважаючы на спецыфіку побыту ў чужародным і чужамоўным якуцкім асяроддзі, якое працягвала і пры савецкай уладзе існаваць па сваіх традыцыйных нормах і правілах, у якія ён, чужак і прыхадзень, не меў ніякага маральнага права ўмешвацца рашуча і безаглядна, як ён рабіў. Але ўсё гэта наперадзе, а пакуль што гаворка ідзе аб пачатку жыццёвай дарогі будучага пісьменніка. Аўтабіяграфія сведчыць:

> «Я навучыўся чытаць сам, без аніякай дапамогі, у тры гады. Гэта была, можна сказаць, сенсацыя вясковага маштабу. Увогуле ў дзяцінстве я паказваў унікальныя здольнасці: яшчэ не ходзячы ў школу, вучыў падручнік нямецкай мовы для 5 класа (тады вывучэнне замежнай мовы пачыналася з 5-га). Калі мяне пыталіся, кім я буду, я адказваў «Пушкіным». Задавалі мне і болей цяжкія пытанні: напрыклад, ці будзе вайна. Я адказваў — не будзе. Яшчэ памятаю, што чытаў на нейкія святы ці на хаўтуры, Біблію на царкоўнаславянскай мове. Пагалоска пра незвычайнага хлопчыка прайшла па ўсім раёне. Нават калі мне было больш за дваццаць год, я ехаў у Беразякі праз Краснапольск і ў чаканні аўтобуса сеў у скверы на лаўку. Ішла міма нейкая жанчына, уважліва пaглядзела на мяне і запытала, ці я не той разумны хлопчык з Беразяк. Я збянтэжыўся і сказаў «не». Але яна мне не паверыла, усё азіралася. Зацікавіліся мной і сякія-такія ўлады. Але дапамога давалася толькі тая, што больш цярпліва ставіліся да нядоімак, якіх маці аніяк не магла выплаціць. Прынамсі, карову нашу не адбіралі».

Жыццё ў нястачы спрычынілася да запаволенасці фізічнага развіцця, кепскім росце на свае гады. Аднак разумова хлопчык развіваўся наўздзіў імкліва, на галаву вышэйшы быў за аднакласнікаў. І тады ў яго самахоць узнікла думка пайсці з новага навучальнага года не ў чацвёрты, а ў пяты клас. Яго адгаворвалі,

што дадатковыя нагрузкі могуць дрэнна паўплываць і на так кволы фізіялагічны стан. Але перамагла ўпартасць.

Падфарціла хлопчыку і тады, калі ён праз дасланыя у рэспубліканскую дзіцячую газету «Зорька» вершы трапіў у поле зроку галоўнага рэдактара А. Ф. Мазуравай, жонкі Кірылы Мазурава, які неўзабаве становіцца кіраўніком БССР. Дзякуючы Анастасіі Феакцістаўне Ласкоў атрымаў накіраванне на дзве змены (дзве вучэбныя чвэрці) у славуты на той час усесаюзны піянерскі лагер «Артэк» у Крыме. Тут Ваня, як зазначана ў аўтабіяграфіі, «акрыяў, пасыцеў». А потым А. Ф. Мазурава ўгаварыла Ваніну маму аддаць сына ў дзіцячы дом, каб ён здолеў нармальна жыць і вучыцца. Выбар паў на беларускамоўную СШ № 2 Магілёва. Аднак у краіне ў той час набірала абароты палітыка русіфікацыі і школу неўзабаве перавялі на рускую мову.

Скончыў сярэднюю адукацыю з залатым медалём. Падаў дакументы на журналісцкае аддзяленне філфака, але карэспандэнт саюзнай «Пионерской правды» па Беларусі В. М. Марозаў адгаварыў ад таго ўчынка (цытуем аўтабіяграфію), «лічачы, што з мяне ані журналіста, ані паэта не выйдзе, настояў забраць дакументы і падаць, куды хочаш, толькі не на філфак. Так на нейкі час я стаў хімікам».

Куды ж падзелася славутая ўпартасць Івана, жаданне рабіць па-свойму? Мабыць, найперш паўплывала тое, што ягоныя вершаваныя спробы на рускай мове ў «Зорцы» так і не надрукавалі, а тут трэба было рабіць выбар на ўсё жыццё і той, хто ў дзіцячым узросце заяўляў, што хоча быць Пушкіным, нечакана здаўся. А дарма. Бо славутага хіміка з яго не атрымалася, зрэшты, ён да гэтага і не імкнуўся. Выбар быў зроблены ад адваротнага: калі не магу пайсці па любімай сцяжыне жыцця, дык хай будзе найгорш — пайду па самай аддаленай для сваіх жаданняў, самай нецікавай і непатрэбнай.

І ў гэтым «натурыстасць» Івана выявілася спаўна. А дарэмна. Бо, перакананы, каб паступіў ён на журналісцкае ці на беларускае аддзяленне філфака, або на гістфак, ці на адзін з факультэтаў тадышняга інстытута замежных моў — карысць ад вучобы і для яго самога, і для беларускай культуры была б куды больш плённай. Спакойна паразважаць, куды далей пайсці вучыцца, не было з кім...

Але ж цягу да літаратуры хімфак не адбіў. Іван пачаў наведваць літаратурнае аб'яднанне для моладзі пры газеце «Чырвоная змена», якім кіраваў паэт Іван Калеснік. Нярэдка сюды заглядвалі і іншыя, ужо сталыя беларускія пісьменнікі. Увогуле «Чырвонка» для маладой беларускай літаратуры ў тыя часы значыла вельмі шмат. Цяпер, на жаль, гэтага выдання няма — як і некаторыя іншыя беларускамоўныя яно было зліквідавана ў незалежнай Беларусі. Парадаксальна, але факт...

У «Чырвонай змене» быў надрукаваны першы верш Ласкова «Сталь». Беларускамоўны. У «Аўтабіяграфіі» пісьменнік сам здзіўляецца, чаму пачынаў і аж да паступлення на хімфак спрабаваў пісаць па-руску:

> «Тады ў Беразяках усе размаўлялі па-беларуску, беларускамоўнай была і школа, у якой вучыўся. А вось літаратура на беларускай мове траплялася вельмі рэдка. Такім чынам — як чыталася, так і пісалася».

Паварот да свайго, роднага адбыўся натуральна. У нейкай ступені гэтаму паспрыяла і тое, што ў нашым пакоі на колішняй Паркавай магістралі (цяпер праспект Пераможцаў) жыў Алесь Мікалайчанка. Вучыўся ён на рускім аддзяленні і пісаў вершы таксама па-руску, але да беларушчыны быў прыхільны. Ягоны бацька працаваў першым сакратаром Бялыніцкага райкама партыі. Алесь, не афішуючы сваіх нацыянальных арыенціраў, спакваля пераходзіў ў размовах у пакоі, а потым і ў творчасці на родную яму бацькоўскую мову...

Частым госцем у нашым пакоі быў і славуты сёння на Беларусі літаратар аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў і дзесяці гістарычных раманаў Леанід Дайнека. Творы яго напоўнены кіпеннем страсцей, вострымі канфліктамі, імкненнем герояў да волі, незалежнасці ад чужакоў, у аснове іх звычайна ляжыць беларуская нацыянальная ідэя, падмацаваная чуйным адчуваннем магчымасцяў роднага слова, лексічным багаццем..

Верш «Сталь» быў надрукаваны ў 1956 годзе. Не скажаш, што гэта вучнёўская спроба пяра, напісаны ён сталай, можна сказаць прафесійнай рукой, па якім можна было вызначыць, што ў асобе выхаванца Магілёўскага дзіцячага дома ідзе ў беларускую паэзію перспектыўны пачатковец. Аднак потым, калі ён паступіў на хімфак і пераехаў у Мінск — руская мова пераважыла. Выні-

кам стала выданне зборнікаў вершаў «Стихия» (Мн., 1966) і «Белое небо» (Мн., 1969).

Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1964 годзе зноў круты жыццёвы віраж. Аўтабіяграфія сведчыць:

> «У г. Дзяржынску (сталіца ўсесаюзнай хіміі) я апынуўся згодна з размеркаваннем. Можна сказаць, сам выклікаўся паехаць туды, каб пабачыць свет. Я тады наіўна меркаваў, што на Беларусь заўсёды патраплю, калі захачу, а Горкаўскую вобласць, калі не цяпер, то ніколі не пабачу. З гэтага часу я на Беларусі стала не жыў і прыязджаў не болей як на месяц. У Дзяржынску вельмі хутка выявілася, што праца там не вельмі да мяне стасуецца. Працаваць даводзілася ў процігазе, а я нашу акуляры. Нацягнуць процігаз на акуляры практычна немагчыма, а працаваць без акуляраў я не мог... 1 чэрвеня 1966 года я звольніўся з працы ў Дзяржынску пасля канфлікту з начальствам».

Вось і ўся «хімічная» эпапея Івана Ласкова, якая літаральна ўмясцілася ў пару радкоў аўтабіяграфіі... Зразумела, што для таленавітага чалавека, якім быў Іван, асвоіць любую звычайную спецыяльнасць не складае ніякай праблемы. Само паступленне на хімфак было для яго памылкай, зрабіць якую падштурхнуў не які блізкі, родны, ці надзвычай аўтарытэтны чалавек, а нейкая па сутнасці нікчэмнасць, якой проста стрэліла ў галаву адгаварыць хлопца ісці туды, дзе якраз і мог разгарнуцца яго талент літаратара, ды рэалізавацца пакуль што прытоеныя амбіцыі вясковага вундэркінда.

Пра тое, якое ён глупства ўтварыў, да яго дойдзе пазней, калі позна было кусаць локці. І ён гэтага не рабіў. Выконваў добрасумленна тое, што рэгламентавалася вучобай, але круглым выдатнікам не быў. Ён, зацяты ў сабе, у свае ўнутраныя перажыванні, якімі ні з кім не дзяліўся, моўчкі адбываў павіннасць. Нават не ведаю, ці знайшоўся за гады навучання на хімічным факультэце чалавек, якога можна назваць сябрам, з кім можна падзяліцца самым запаветным, асабістым. А вось што сяброўкі не было, дык гэта дакладна. Істотнай перашкодай была маларослаць, якую Ваня запазычыў у маці, а да гэтага дабавілася ваенная і пасляваенная бясхлебіца, нястача таго ў харчаванні, што патрэбна дзіцяці.

Не быў сведкам публічных выступленняў Ласкова перад шырокай аўдыторыяй, але казалі, што аднойчы яго папрасілі падняцца на табурэтку, і ён пагадзіўся. Між тым меў магутны голас:

мы жылі на другім паверсе інтэрната, але дастаткова было прыадчыніць уваходныя з вуліцы дзверы, як беспамылкова ўгадвалася, што ў нас гасцюе Іван, пры гэтым я мог вызначыць, ці ён як сляза чысты, ці на лёгкім падпітку. П'яным, дарэчы, яго за ўсё жыццё ні разу не бачыў. Свайго магутнага барытону наш сябар не суцішаў, наадварот, ён быў яму своеасаблівым баявым шчытом, што кампенсаваў недахопы росту.

Аднак перааднолець пэўны комплекс непаўнацэннасці ў дачыненнях з дзяўчатамі Івану не собіла. Між тым ён, як і кожны творча таленавіты, інтэлектуальна дужы чалавек, без сумнення, быў такім і ў асабіста-інтымных дачыненнях. І гэта была для яго адна з самых датклівых праблемаў жыцця. Сябра тых гадоў Лёня Дайнека сцвярджае, што ў яго быў намер пасяліцца сярод нізкарослага народа, дзе б яго рост успрымаўся з'явай не анамальнай, а нармальнай, а таму з ахвотай (асноўнай прычынай, вядома, было імкненне прафесійна, як пісьменніку, удасканаліцца) скарыстоўвае квоту для Беларусі для паступлення ва ўсесаюзны літінстытут у Маскве. У аўтабіяграфіі адзначаецца:

> «Аказалася, літаральна ўсё забыў за восем год (пяць на хімфаку, тры у Дзяржынску. — Я. Л.) з правілаў рускай граматыкі. Але галоўнай перашкодай да майго паступлення у Літінстытут ледзь не сталі не мае веды, а мае... акуляры. Даведаўшыся, што маю слабы зрок, прыёмная камісія ледзь не адпрэчыла мяне на той падставе, што вучыцца яшчэ пяць гадоў — зусім яго згубіць. Мяне выратаваў Аляксандр Мікітавіч Уласенка, маскоўскі крытык, родам з усходняй Магілёўшчыны. У Літінстытуце вучыўся ўсе гады на «выдатна», атрымаў чырвоны дыплом».

У Літінстытуце, які Ласкоў скончыў у 1971 годзе, ён жаніўся з В. Гаўрыльевай — на той час ужо вядомай якуцкай пісьменніцай. Ці прычынай шлюбу было каханне, ці звычайны цвярозы жыццёвы сэнс, сказаць нічога не магу.

Трэці зборнік вершаў «Кружное лета» з'явіўся у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1973 годзе ўжо на беларускай мове.

Івана і яго жонку, а на той час у іх былі ўжо два сыны, я пабачыў тады, калі, будучы на чале Згуртавання беларусаў «Бацькаўшчына», па просьбе кіраўнікоў беларускай суполкі ў Якуціі Алеся Баркоўскага і Івана Ласкова прыляцеў у Якуцк разам са славутым тады ансамблем «Рунь» Беларускага тэхналагічнага інстытута, які узначальваў мой зямляк і аднакласнік Іван Жаркі.

Амаль увесь вольны час у мяне пайшоў на сустрэчы і размовы з Ласковым. Асабліва запамінальна была вандроўка на цеплаходзе па Лене на яго, умоўна кажучы, лецішча. Гэта была звычайная будка, падобна на тыя, якія адзін час ставілі у нашым калгасе для пастухоў, у якую не толькі што нельга было ўзайсці ў поўны рост, але трэба было запаўзаць на каленках. Тут Ваня захоўваў немудрагелісты рыбацкі рыхтунак, сякія-такія прылады і харчовыя прыпасы. Злавілі мы з дзясятак невялікіх карасікаў, зварылі юшку і як заведзена пасядзелі за чаркай. І тут. сярод дзікай прыроды, куды не далятала ніякіх гукаў чалавечага жытла, я да болю ў душы адчуў пачуццё самоты, з якім Ваня жыў усе гэтыя гады ўдалечыні ад Бацькаўшчыны. Неяк незнарок вырваліся з маіх вуснаў радкі:

*Ох, не пазбыцца*
*Вечна жывой тугі,*
*Вечна чужыя*
*Сцелюцца берагі...*

— Ты што гэта, цяпер вось склаў, пра мяне? — устрапянуўся Ваня.

— Ды не! Гэта з «Птушак і гнёздаў» Янкі Брыля, якому таксама давялося паспытаць жыцця на чужыне...

— Яму — паспытаць. А мне тут — карпець вечна! Не. Я больш не магу! Я ж шмат не прашу: куточак два на тры метры, каб было дзе пераспаць, ды паставіць тумбачку для пісання. Павер, гэта будзе тое, чаго няма ў беларускай літаратуры, але што ёй патрэбна.

Вярнуўшыся ў Мінск, я хадзіў з такой просьбай-прапановай па інстанцыях, але ўсюды натыкаўся на глухую сцяну непаразумення: няма такога заказа...

Найбольш турбаваў Івана лёс «Літвы летапіснай». Я абяцаў паспрыяць. Як вярнуліся з лецішча, я назаўтра прыйшоў на кватэру да яго, каб узяць рукапіс. Вярнуўся ў гатэль, пачаў чытаць і адчуваў, што даследаванне абудзіць цікавасць грамадскасці. Заўвагі былі чыста рэдактарскія, бо я не спец па праблемах угра-фінскага ўплыву на этнагенез беларусаў.

Да маіх рэдактарскіх заўваг аўтар аднёсся станоўча. Вырашыў яшчэ тыдзень-другі над кнігай пасядзець: якраз неўзабаве меўся ехаць у Беларусь ягоны сябра Алесь Баркоўскі. Ён і прывёз кнігу. Дырэктарам «Мастацкай літаратуры» тады працаваў Валера Тры-

шановіч, які з імпэтам браўся за самыя нечаканыя праекты. Але многае з ухваленага ім засталося не рэалізаваным.

Уладзімір Арлоў у першым выданні кнігі «Імёны свабоды» пісаў, што на свае вочы бачыў машынапісны варыянт (тады камп'ютараў яшчэ не было) «Літвы летапіснай» памерам у 700 старонак. З гэтай заявай можна было б пагадзіцца толькі з умовай, што ён спачатку паглядзеў адным вокам, потым другім, і так атрымалася 700 старонак, бо насамрэч памер машынапісу быў удвая меншым. Не ведаю, ці ад мяне, ці ад каго іншага дайшло гэтае ўдакладненне, але ў перавыданні «Імёнаў свабоды» ўжо згадкі пра семсот старонак няма.

Аднак мяне яшчэ больш закранула зусім непераканаўчае сцвярджэнне, што ў смерці Ласкова павінны якуты, якія нібыта так яму адпомсцілі за тое, што Іван выкрыў, як прафесійнага канфідэнта, класіка якуцкай літаратуры, стваральніка і першага кіраўніка Якуцкай аўтаномнай рэспублікі Аюпава. Пра канфідэнта Аюпава атрымалася тая самая гісторыя, што і з семістамі старонкамі тэксту. Ласкову ўдалося пакарыстацца сакрэтнымі дакументамі карных савецкіх «органов», з якіх сведчыць, што на допытах Аюпаў абвінавачваў у варожасці да ўлады сваіх былых паплечнікаў. Якім чынам тыя прызнанні былі атрыманы — невядома. Арлоў тут становіцца ў позу абвінаваўцы, але варта было б нагадаць, як у тыя часы карнікі абыходзіліся з «ворагамі народа».

Паводле заключэння судовай экспертызы, смерць Івана (28 чэрвеня 1994 года) наступіла ў лесе ад кровазліцця ў мозг. Дарэчы, у тым сама ўзросце і па той самай прычыне памерла яго мама ва ўласным гародзе, полючы грады.

Абвінавачваюць проста так — лёгка. Куды карысней было б разабрацца, чаму Ласкова, аўтара бяспрэчна таленавітага, не друкавалі на Бацькаўшчыне, чаму яго арыгінальнай кнізе «Пішчальнікі не пішчаць» быў наладжаны разгром у выдавецтве «Юнацтва». Ды і рукапіс «Літвы летапіснай» праляжаў да нашых дзён і толькі дзякуючы руплівасці адкрывальніка «невядомай гісторыі» Анатоля Тараса выходзіць да чытача. Напісанае — застаецца. Асабліва тое, у чым пульсуюць думкі і пачуцці, што створана таленавітай рукой.

*Яўген Лецка*

# На дарогу

18 жніўня 1989 года газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала мой артыкул «Племя пяці родаў», дзе выказана думка, што летапісная літва, якая заснавала Вялікае Княства Літоўскае (ці як яшчэ пішуць — Старабеларускую дзяржаву), была племем не балцкім, а фіна-вугорскім (пермскім), і да сённяшніх летувісаў, насельнікаў Рэспублікі Летува, не мае аніякага дачынення. Да такой высновы я прыйшоў, раскрываючы імёны літоўскіх князёў з дапамогай комі-пярмяцкай мовы.

Такая гіпотэза, здавалася мне, дазваляе растлумачыць шмат цьмяных старонак гісторыі як Беларусі, так і ВКЛ у цэлым. Таму я думаў (і спадзяваўся), што артыкул выкліча зацікаўленыя навуковыя спрэчкі, а ў тых, як вядома, нараджаецца ісціна. Я напісаў тагачаснаму рэдактару «ЛіМа» (Анатолю Вярцінскаму), што газета павінна склікаць пры рэдакцыі хаця б невялічкі сімпозіум, на які прыехаў бы і я з Якуцка. Ды рэдактар на маю прапанову не адгукнуўся.

Жывучы далёка ад Беларусі, я не ведаў, як глыбока ўелася ў свядомасць нашай інтэлігенцыі памылковае ўяўленне, што беларусы як этнас утварыліся «на выключна балцкім субстраце». Мабыць, з-за таго і не адбыўся сімпозіум, пра які я прасіў. Не было аніякіх абмеркаванняў майго артыкула і пазней. Навуковай ацэнкі публічна яму не давалася, пры асвятленні пытанняў гісторыі ў друку Беларусі (навуковым, навукова-папулярным, публіцыстычным) ён не ўлічваўся. Аніхто з навукоўцаў не кінуўся па маіх слядах, каб хаця праверыць, ці правільна я цытую комі-пярмяцкі слоўнік. Толькі даходзілі чуткі, што, да прыкладу, спадар С. недзе назваў маю гіпотэзу да таго абсурднай, што на доказ гэтага шкада і час марнаваць, а спадар В. пашкадаваў «мужыка, які піша добра, але зусім не пра тое».

Адкінуўшы амбіцыі, я пакрысе зразумеў, што прычыны гэтага наступныя. Я падняў праблему навуковую, а сам не навуковец — раз. Мая гіпотэза занадта нечаканая, а таму і няпростая для ўспрымання — два. Мой артыкул змяшчае занадта мала матэрыялу, каб пераканаць чалавека, які шмат гадоў трымаўся іншай думкі — такога на новы шлях можа павярнуць матэрыял толькі масавы.

І перада мной паўстаў выбар: або шукаць невядома дзе той матэрыял, або адступіцца, каб працягваць сваю звыклую працу: пісаць аповесці, вершы, публіцыстыку. Гэтая праца прыносіла мне і публікацыі, і кнігі, і прыязныя водгукі ў друку, а што дасць пошук невядома чаго? «Ідзі туды — не ведаю куды...» — як гавораца ў казцы. І ўсё ж я пайшоў па гэтай дарозе, не падазраючы, як шмат на ёй рассыпана скарбаў.

Першай на гэтай дарозе была падабраная такая нечаканая з'ява, як беларускія прозвішчы, што паходзяць ад пермскіх слоў. На гэтую тэму мне таксама ўдалося надрукаваць вялікі артыкул «Нашчадкі таямнічае літвы» («Полымя», 1991. № 8). Але і на яго навукоўцы Беларусі не адгукнуліся. Не адазваўся нават буйнейшы наш даследчык анамастыкі М.В. Бірыла, з кнігі якога я і выбраў беларуска-пермскія прозвішчы.

Але такая няўвага ўжо не магла мяне ні расчараваць, ні спыніць. Пошук мой пашыраўся, іншы раз заводзячы ў такія нетры, што сам дзіваваўся.

Вынікам стала кніга, якую прапаную чытачу. Немаленькая: за 300 старонак на машынцы, што перабольшвае мой любы мастацкі твор. А прачытана мною па гэтай тэме чужых старонак у дзесяць разоў болей. Такім чынам, мая праца абапіраецца на чужыя. Чытач адразу адчуе гэта.

У кожнай даследчай публікацыі сваё павінна быць выразна аддзеленым ад чужога. Для гэтага служаць спасылкі. Спосаб падачы іх можа быць розны. У спецыфічна навуковых публікацыях усе спасылкі зносяцца звычайна ў самы канец, пасля тэксту. Гэта найбольш ашчаджае паперу. Затое чытаць нязручна: каб даведацца, адкуль узятая тая або іншая цытата, чытач вымушаны кожны раз лезці ў канец кнігі. Навукоўцы — людзі цярплівыя, для іх такое сноўданне не перашкода. Але я пісаў сваю кнігу і для звычайнага чытача, у якога цярпення меней. Таму з надзеяй на спагадлівасць выдаўца я выбраў самы неэканомны, затое самы

зручны для чытача спосаб: даваць спасылкі адразу пасля цытаты, у тэксце, а пад канец прывесці яшчэ і спіс скарыстанай літаратуры.

Вядома, што ў перакладных слоўніках /комі-пярмяцка-расейскі, расейска-летувіскі і г.д./ словы размяшчаюцца згодна з алфавітам. Калі слова ў такім слоўніку ёсць, то адшукаць яго зусім няцяжка. Таму на перакладныя слоўнікі я не спасылаюся зусім. Проста паведамляю, што ў комі мове, дапусцім, ёсць слова мӧдзӧл — «вільготны ельнік з махавой глебай», на якой жа старонцы якога слоўніка я напаткаў яго — не паведамляю.

У тапанімічных слоўніках асноўны матэрыял таксама ідзе згодна з алфавітам. Спасылаючыся на іх, я даю не старонку, а назву артыкула. Напрыклад: В. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974 (у далейшым — КТСБ), Мядель. Але ў падобных кнігах бывае і дадатковы матэрыял, што ляжыць за межамі ўласна слоўніка: прадмовы, уводзіны, пасляслоўі. Калі цытуюцца яны, то я, натуральна, даю і старонку.



*Беларускі тканы арнамент*

Два словы наконт тэрмінаў. У дачыненні да літвы ў літаратуры да гэтага часу пануе тэрміналагічная блытаніна. «ЛІТВОЙ» называюць і Вялікае Княства Літоўскае, і сённяшнюю Рэспубліку Летуву, «літоўцамі» — і летапісную літву, і грамадзянаў Летувы. Мая ж мэта якраз і была ў тым, каб падзяліць гэтыя паняцці. Таму, каб іх не блытаць, праз усю кнігу я называю летапісную літву або літвой, або ліцвінамі, а грамадзянаў Летувы — летувісамі, як яны называюць самі сябе. Адпаведна і азначэнні: што датычыць летапіснай літвы — «літоўскі», «ліцвінскі», а што мае дачыненне да летувісаў — «летувіскі».

Значная частка летувісаў у мінулым называлася «жямайчяй». Гэты тэрмін у нас часта перадаецца як «жмудзь». Але гэта слова польскае. Нашы ж продкі, як вынікае з пісьмовых крыніцаў, называлі жямайчяй жамойцю. Так жамойтаў буду называць і я.

У сваіх пошуках я быў не адзінокі. «Племя пяці родаў» ускалыхнула нямала людзей, якія не толькі прынялі артыкул блізка да сэрца, але і імкнуліся дапамагчы мне літаратурай /у тым ліку слоўнікамі/ і парадамі. Гэта С.В. Казлоўскі — беларус з Віленшчыны, што доўгі час жыў у Сеймчане Магаданскай вобласці; расейцы В.Я. Мордзін (з удмурцкага горада Глазава) і М.С. Міхалева (з украінскага Ужгарада), комі Н.А. Міцюшава з Сыктыўкара, беларусы С. Габрусёнак (з Петразаводска), А. Лапышаў (з Таліна), У. Скрабатун (з Вентспілса).

Асабліва ж неацэнна шмат зрабілі для гэтай кнігі наш вядомы драматург і крытык Святлана Міхайлаўна Клімковіч і ленскі рачнік, жыхар адначасова Якуцка і Менска (так у яго атрымалася) Алесь Анатолевіч Баркоўскі.

Усім маім памочнікам, названым і неназваным, я складаю самую гарачую падзяку. Без іх мая праца расцягнулася б, можа, на дзесяць гадоў.

*Іван Ласкоў*
*г. Якуцк, 1993 г.*

Глава 1

# Племя пяці родаў

## *(З нязначнымі скарачэннямі і зменамі)*

Я доўга думаў, ці варта ўключаць у кнігу артыкул «Племя пяці родаў», бо для мяне самога ён шмат у чым ужо недасканалы. Але ўсе ж хочацца паказаць, з чаго ўсё пачалося.

Беларускі гісторык Мікола Ермаловіч зрабіў найважнейшае для разумення далёкага мінулага Беларусі адкрыццё*. Ім устаноўлена, што племя літва, якое дало дынастыю вялікіх князёў і саму назву Вялікага Княства Літоўскага, жыло не ў сучаснай Летуве, а ў Верхнім Панямонні, у акружэнні славянскіх плямёнаў.

З цягам часу племя літва растварылася ў беларускім народзе. Гэта магло быць толькі ў тым выпадку, калі яно было зусім малалікім. Такім чынам, няма чаго і казаць пра заваяванне літвой Беларусі. / ... /

Але якім было сваяцтва летапіснай літвы? Для Ермаловіча няма сумненняў, што літва была племем балцкім. І раптам у ягоным новым артыкуле («Студэнцкая думка», 1989, № 4) чытаю: «Як устаноўлена даследчыкамі, аніводнае імя так званых літоўскіх князёў не тлумачыцца літоўскай мовай».

Вось табе маеш! Нішто сабе балцкае племя. Добра вядома, што дахрысціянскія, паганскія імёны ў славянаў хоць штосьці азначалі: Багдан — бог даў, Святлана — светлая і г.д. Так было і ў цэлым свеце, бо не сталі ж бы людзі выдумляць нейкую бязглуздзіцу, каб называць сваіх дзяцей! Хрысціянскія ж імёны таксама штось значаць на старажытнаяўрэйскай, старажытнагрэцкай або лацінскай мовах: Іван — богам дадзены (той самы Багдан), Валянцін — здаровы, Віктар — пераможца. Значыць, калі летувісы не разумеюць імёны літоўскіх князёў, — мова, у якой створаныя тыя імёны, была не балцкай.

---

* Мікола Ермаловіч (1921–2000) — беларускі гісторык і літаратуразнавец. Шырокую вядомасць у нашым грамадстве набылі яго кнігі «Па слядах аднаго міфа», «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае», «Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды», «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд» Спачатку яны з'явіліся ў так званым «Самавыдавецтве». — *Заўвага рэд.*

Тады якой? Адказ наплывае сам сабой, але я не спяшаюся абвяшчаць яго ўголас. Правяраю спачатку, чым Ермаловіч даводзіць, што летапісная літва была балцкай.

«Старажытная Беларусь» — надзвычай грунтоўная праца. Проста ўражае скрупулёзнасць, з якой аўтар аналізуе мінуўшчыну. Перапрацаваны жахлівы аб'ём літаратуры: амаль 800 спасылак! І якое ўважлівае чытанне цьмяных летапісных тэкстаў! Не перабольшваючы, можна сказаць, што такога даследчыка даўно чакала наша гістарычная навука.

Але ці ў стане ахапіць усё розум аднаго чалавека? Ці можна быць абсалютна бездакорнай вялізная праца, якая абапіраецца і на чужыя даследаванні, чужыя думкі? Малаверагодна.

Вось і з літвою Ермаловіч не робіць спробы выйсці за межы сказанага папярэднікамі. Прыняўшы на веру балцкасць літвы, ён і тапаніміку нашу лічыць у значнай ступені балцкай. «Тыпова балцкай», у прыватнасці, ім абвяшчаецца назва ракі Лахва.

Чаму? Мікола Іванавіч не тлумачыць. Значыць, я меркаванне гэтае павінен браць на веру. А для мяне Лахва асацыруецца са словам Масква.

Кажуць, палеантолагі могуць па адной-дзвюх костках узнавіць увесь шкілет і вонкавы выгляд жывёліны, што вымерла мільёны гадоў назад.

А ці можна тое сама зрабіць з мовай, калі ад яе засталося ўсяго некалькі слоў — іменаў, якія невядома што значаць?

Літва, літва... Што мне нагадвае гэтае слова? Вельмі своеасаблівае. Яно — збіральнае, тыпу «жарства». А народы звычайна завуцца ў множным ліку: рускія, украінцы, беларусы... Так было і са старажытнымі плямёнамі: палянс, крывічы, радзімічы... Але ёсць і нешта падобнае ліцве: мардва!

Літва, мардва, Лахва, Масква. Ці ёсць паміж гэтымі словамі сувязь? Паміж Лахва і Масква — цалкам магчыма. Тое і другое — рэкі. Аб паходжанні назвы Масква пішуць час ад часу. Як памятаю, слова гэтае фіна-вугорскае: «ва» азначае «вада», рэштку лінгвісты дакладна вытлумачыць не могуць. Значыць, зусім верагодна, што Лахва — Лах + вада /ва/. А ці можа слова «вада» ўваходзіць у назву народа?

А чаму б і не? Напрыклад, «людзі вады».

Змалку люблю разглядваць геаграфічныя карты. Змалку памяталася, што недзе на поўначы месціцца цэлы куст рэк, чые

назвы канчаюцца на «ва»: Сосьва, Лысьва... А ў Мардовіі? Бяру «Малый атлас СССР» — вялікіх атласаў, на жаль, у нас не выдаецца. Буйнамаштабныя карты лічацца сакрэтнымі. Засакрэчваць у нас умеюць. Знаёмы геолаг расказваў, што засакрэчаная нават геафізічная карта СССР, атрыманая ў якасці падарунка ў гады вайны ад... амерыканцаў!

Маштаб «Малого атласа» сапраўды такі малы, што паказаныя толькі самыя буйныя рэкі. Згадваю, што яшчэ маю атлас аўтамабільных дарог, чый фармат і адпаведна маштаб удвая большы. Сапраўды, тут рэкаў паказана куды болей. Але ў Мардовіі з «ва» ўсё адно няма. І ўвогуле іх няма, апрача Масквы, у цэнтры Расеі. Толькі каля палярнага круга, у Комі рэспубліцы, у Пермскай і Свярдлоўскай абласцях знаходжу тое, чаго шукаю.

Лемва, Евва, Айюва, Нердва, Елва, Колва, Адзьва і яшчэ дзесяткі падобных. Але Лахвы між іх няма. На вока трапляюць зусім іншыя назвы: Ула, Уса, Сула, Турья Рутка... Бяру даведнік да БелСЭ. Так, не памыляюся! Ёсць і ў нас такія. Назваў Ула тры /рака, возера, гарадскі пасёлак/, Уса — таксама тры /усе рэкі/, Тур'я — чатыры /тры ракі і вёска/; ёсць і назва Уша, блізкая да Уса: іх пяць — тры ракі і дзве вёскі.

Што азначаюць гэтыя назвы, я яшчэ не ведаю, але ж ці не зразумела, што Усу нельга звязваць з вусамі, Ушу — з вушамі, Улу разглядаць як варыянт імя Вулляна, а Сулу выводзіць ад расейскага «сулить»? Дый Тур'я — ці мае дачыненне да тура, калі такую сама назву я знайшоў на поўначы Заходняй Сібіры, дзе пра тураў і не чулі?

Але ўсё гэта спадарожнае. Галоўнае для мяне — назвы з «ва», тым кавалачкам чалавечай мовы, што ўваходзіць у слова «літва». Ці ёсць у нас на Беларусі яшчэ рэкі, назвы якіх канчаюцца гэтым «ва»?

Чытаю спісы рэкаў па абласцях у пятым томе «Энцыклапедыі прыроды Беларусі» (у далейшым — ЭПБ). Ёсць! Выпісваю іх асобна па кожнай вобласці. І вось што маю:

Брэсцкая вобласць. Зальвянка /170 км. Выпісваю таму, што яе першапачатковая назва — безумоўна, Зэльва: так завецца пасёлак, што стаіць на ёй/, Лахазва /29 км/, Літкава /14/, Маства /80/, Пульва /54/, Сваротва /35/.

Віцебская вобласць. Дзіва /29/, Маргва /36/, Прорва /12/.

Гомельская вобласць. Гніва /20/, Мытва /58/, Ражава /20/.

Гродзенская вобласць. Валова /39/, Восава /14/, Дзітва /93/, Зальвянка /170/, Ізва /26/, Кернава /19/, Клява /56/, Нарва /24/, Паніква /16/, Сасва /25/, Сваротва /35/.

Магілёўская вобласць. Грава /14/, Езва /23/, Клява /80/, Лахва /90/, Лахвіца /19. Выпісваю таму, што першапачатковая назва — тая сама Лахва/.

Мінская вобласць. Клява /80/, Клявіца /31. Ад «Клява»/, Лонва /28/, Наква /14/, Рова /29/, Талва /10/, Тонва /13/, Удава /13/.



*Мужчыны-мары ў строі з народнай вышыўкай*

Падлічваю агульную колькасць. 36! Потым заўважаю, што тры ракі палічыў двойчы: Зальвянка цячэ па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, Сваротва — таксама, Клява /80/ — па Магілёўскай і Мінскай. Значыць, 33. Нямала!

Сёй-той, відавочна, зазначыць, што я дарма ўключыў у свой спіс такія назвы, як Дзіва, Гніва, Валова, Восава, Удава. Маўляў, і так цалкам зразумелыя, навошта шукаць іх у Комі? Не спяшайся, чытач, не спяшайся! Давай падумаем. Напрыклад, Дзіва. «Дзіва» ў сэнсе «цуд» — ніякага роду, яно. А ці ж на нашай мове рака можа быць названай словам ніякага роду? Валова... Няўжо гэтая рака /39 км/ належыць валу? Або Удава. Чаму «удава»? /.../

Прачытаўшы свой спіс і засвоіўшы, вяртаюся да картаў. Пермская, Свярдлоўская, Архангельская вобласці, Комі АССР. Як сапёр з мінашукальнікам, рухаюся з лупай уздоўж сініх жылак, вышукваючы на чужых землях назвы з майго спісу. І — не знаходжу... Аніводнай! Ці я сляпы, ці нашыя «ва» не маюць дачынення да «ва» фіна-вугорскіх?

Ёсць адзіны спосаб праверыць гэта: знайсці слоўнік мовы, у якой «ва» — «вада».

Рэспубліканская якуцкая бібліятэка імя А.С. Пушкіна (цяпер — Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Саха), дзе я звычайна папаўняю свае веды, стаіць якраз насупраць майго дома. Нават узімку, калі мароз не надта за сорак, хаджу сюды без паліто, каб не стаяць у чарзе да распранальні. З вокнаў краязнаўчага аддзела, дзе пераважна я сяджу, відаць вокны мае кватэры. Але, паглыбляючыся ў стагоддзі, я іх не бачу.

Як рэспубліканская, бібліятэка атрымлівае абавязковыя экземпляры ўсіх кніг, што выходзяць па СССР на расейскай мове. Але, на жаль, агульная для ўсіх айчынных бібліятэк бяда не абмінула і яе. Кнігі прыходзяць штодзень, а памяшканні не пашыраюцца з 1972 года.

Для таго каб паставіць новыя выданні, з паліцаў здымаюць старыя, асабліва тыя, што не маюць прамых дачыненняў да Якуціі, звязваюць і адносяць у склад. З кожным годам у выніку робіцца недаступнай для чытачоў усё большая колькасць выданняў мінулых дзесяцігоддзяў. Спачатку — 20-х гадоў, потым — 30-х, цяпер чарга дайшла да 40-х. Ды яшчэ з-за цеснаты вельмі няпоўны каталог. Кніга, можа, маецца ў бібліятэцы, а ў каталогу яе не знойдзеш, а калі і знойдзеш, атрымаеш не заўжды. Таму мяне грыз неспакой: ці змагу здабыць



*Беларускі мужык у святочнай кашулі*

тое, што мне патрэбна. Так, па сутнасці, і выйшла. У бібліятэцы не аказалася ні мардоўскіх, ні карэльскіх, ні эстонскіх, ні летувіскіх слоўнікаў. Усяго ўдалося ўзяць у рукі марыйска-расейскі, расейска-удмурцкі ды комі-пярмяцка-расейскі.

У марыйскім слоўніку «ва» не аказалася, «вада» ў марыйцаў вуд. Расейска-ўдмурцкі слоўнік перакладае «ваду» словам вы [Памылка аўтара. «Вада» па-ўдмурцку — ву. — *Рэд.*]: як той казаў, цёпла, але не горача. I вось мая апошняя надзея — комі-пярмяцка-расейскі слоўнік. Калі ва няма і ў ім, прыйдзецца занятак адкласці ды здабываць іншыя фіна-вугорскія слоўнікі. У першую чаргу — комі-зыранскія (комі-зыраны — асноўнае насельніцтва Комі АССР, комі-пермякі — Комі-Пярмяцкай нацыянальнай акругі, што ўваходзіць у склад Пермскай вобласці). Здабываць праз МБА, ■ гэта — месяцы і месяцы...

Са зразумелым хваляваннем гартаю кнігу і знаходжу: (1) «Ва — вода, водный... зэр ва дождевая вода... ва кора безвкусный, как вода... (2) ва — река, речной».

Як абухом стукнуты, узіраюся ў старонку. Няўжо так проста ды лёгка? Зэр ва — гэта ж Зэльва! Значыць, Зэльва — «дажджавая вада»? Ва кора — ці ж гэта не Вячора? Ёсць такая рака ў Любанскім раёне. Яе ўжо амаль паспелі перахрысціць у Вячэру, ужо і БелСЭ спачатку дае Вячэра, ■ Вячора — у дужках...

Трохі ніжэй на той сама старонцы кідаецца ў вочы: «вавьёр 1/ бродяга; 2/ бездельник». Дык вось адкуль узялася вавёрка ў назве ракі, што цячэ ў Лідскім раёне! «Вавёрка» — гэта «бадзяга» /вавьёр/ + ка. Што такое ка, ■ пакуль не ведаю, але ўсё адно бадзяга-рака падабасцца больш, чым рака-вавёрка. /.../

Знайду ■ ключ да «літва» ў гэтым слоўніку або не знайду — для мяне ўжо не мае вялікага значэння: усё адно цікава. I я знаёмлюся з ім не ўпохапкі: чытаю і прадмову, і граматычны нарыс, што змешчаны на заканчэнне.

Комі-пярмяцкая мова — з групы фіна-вугорскіх, падгрупы пермскіх. У падгрупу, апрача яе, уваходзяць яшчэ комі-зыранская і ўдмурцкая мовы.

Слоўнік змяшчае 27 тысяч словаў. Выдадзены ў 1985 годзе. Калі б мая здагадка завітала да мяне пяць гадоў назад, ■ не змог бы яе праверыць. Склалі слоўнік Раіса Міхайлаўна Баталава, супрацоўніца Інстытута мовазнаўства АН СССР, ды Антаніна Сямёнаўна Крывашчокава-Гантман, дацэнт Пермскага педінстыту-

та. Не ведаю, самі яны комі-пярмячкі або з тых адданых расейскіх жанчын, што так шмат далі для станаўлення культур шматлікіх народаў Урала, Сібіры ды Далёкага Усходу.

У 1979 годзе комі-пермякоў налічвалася 153 тысячы чалавек (комі-зыранаў — 322 тысячы). Сёння яны жывуць пераважна ў Комі-Пярмяцкай нацыянальнай акрузе (33 тыс. кв. км). А былі часы, калі яны займалі такую значную тэрыторыю, што яна называлася Пермю Вялікай. Але калі ў XV стагоддзі былі далучаныя да Маскоўскай дзяржавы, арэал іх хутка пачаў раставаць, а сам народ — асімілявацца. Пра ўсё гэта я чытаю ў прадмове. «Паступова значная частка комі-пермякоў змяшалася з расейцамі, пакінуўшы на зруселай тэрыторыі свае назвы рэкаў /Обва, Косьва, Сива, Лысьва, Нытва ды інш./, населеных пунктаў /Чердынь, Вильгорт, Камгорт, Майкар ды інш./».

Трохі пра комі-пярмяцкую мову. Гэта, мабыць, нароўні з комі-зыранскай найболей чыстая з усіх фіна-вугорскіх моваў. (Гаворачы «з усіх», аўтар пагарачыўся, бо комі-пярмяцкая мова, у адрозненне ад эстонскай і фінскай /суомі/, зазнала значны ўплыў расейскай). Доўгі час комі-пермякі жылі ізалявана. Сюды не дайшлі татары, якія пакінулі моцны след на марлоўскіх. марыйскіх мовах.

Гукавы склад, як ні дзіўна, нагадвае беларускі. Ёсць гук «дз», заўсёды мяккі. Вядомы даследчык пермскіх моваў В.І. Лыткін у артыкуле «Коми-пермяцкий язык» /глядзі зборнік «Языки народов СССР» (у далейшым — ЯН СССР), том 3. М., 1966/ так і піша, што гэты гук комі-пярмяцкай мовы блізкі да беларускага «дз» у слове «дзень». Ёсць і гук дж, заўсёды цвёрды, — таксама, як у нас. У сваёй іншай працы «Древнепермский язык» (М., 1952, с. 23) Лыткін паведамляе: «Старажытнапермскае «в», у асаблівасці перад галоснымі непярэдняга раду, акустычна блізка стаяла да нескладовага «у» (гэта значыць, да ў).

Такая асаблівасць захоўваецца і ў сучасных комі мовах. Афрыката тш у комі-пярмяцкай мове адпавядае нашаму цвёрдаму ч. Такім чынам, атрымліваецца, што амаль усе гукавыя адрозненні беларускай мовы ад расейскай быццам бы ўзятыя са старажытнай пермскай мовы. Гукаў, якіх няма ў расейскай ды беларускай мовах, а ў комі-пярмяцкай ёсць, практычна адзін «ӧ». па гучанні, як піша Лыткін, блізкі да англійскага галоснага ў слове girl (пры перадачы «ӧ» ў комі назвах па-расейску звычайна ўжываецца

«э». /глядзі «Географические названия Коми АССР. Словарь-справочник». Сыктывкар, 1990, — у далейшым ГНК/. Гэты гук, як убачыць у далейшым чытач, вельмі мне дапамог, калі я звярнуў на яго належную ўвагу.

У граматычным жа сэнсе комі-пярмяцкая мова адрозніваецца ад нашай вельмі. Тут няма катэгорыі граматычнага роду; ролю прыметнікаў звычайна адыгрываюць назоўнікі, калі іх ставяць перад іншымі назоўнікамі: пры гэтым яны не скланяюцца. Назоўнікі ды займеннікі скланяюцца, склонаў — 17. Развітая сістэма дзеяслова.

Першасныя словы /вада, зямля, дрэва, агонь ды г.д./, асновы галоўных дзеясловаў — аднаскладовыя. Калі ў назоўніку два склады без суфіксаў — гэта, здаецца, ужо складанае слова. Складанае часта дае зусім іншы сэнс. Напрыклад, <u>ягöд</u> — «ягада» /гэтае слова мы, мусіць, запазычылі ў пярмянаў/ падзяляецца на дзве часткі: яг — «сасоннік» ды <u>öд</u> — «гарачыня». Што гэта так, пацвярджаецца тым фактам, што словам <u>ягöд</u> азначаецца не толькі любая ягада, але і пылавікі хваёвых дрэваў. А калі ў сасонніку /<u>яг</u>/ пылавікі? Як настае гарачыня /<u>öд</u>/.

Можна сказаць, ад комі-пярмяцкай мовы так і патыхае старажытнасцю, тым таемным часам, калі чалавек толькі вучыўся гаварыць. Як захаваліся да нашых дзён гэтыя <u>ва</u> /«вада»/, <u>му</u> /«зямля»/, <u>пу</u> /«дрэва»/, <u>би</u> /«агонь»/? Слава народу, што іх пранёс праз тысячагоддзі, каб мы маглі зразумець, з чаго пачыналася мова!

Шмат эпох назад атрымалі назвы рэкі. Гэта словы яшчэ больш архаічнага стану фіна-вугорскіх моваў, чым той, у якім знаходзіцца комі-пярмяцкая мова сёння. Што нам дае разуменне гэтага практычна? Што ў гэтых назвах кожны склад, нават такія, як «<u>ю</u>», «<u>у</u>». «<u>я</u>». «<u>е</u>». «<u>і</u>», «<u>о</u>» ўяўляюць з сябе <u>асобнае</u> <u>слова</u>. Тым у першую чаргу і адрозніваюцца фіна-вугорскія назвы ад славянскіх ды балцкіх.

І вось я спрабую адгадаць першы склад у назвах майго спісу, дзе другі /<u>ва</u> — «вада»/ мне ўжо вядомы.

<u>Дзіва</u>. «<u>Дзиб</u>» — глухой, густой лес». Такім чынам, можна дапусціць, што першапачаткова было «Дзібва». «Б» ды «в» — блізкія гукі і павінны былі зліцца, тым болей што «дзібва» — незразумела, а «дзіва» — зразумелае цалкам. /.../

<u>Езва</u>. «<u>Езь</u> — язь».

Зэльва. «Зэр — дождь».

Ізва. «Из — камень».

Мытва. «Мыт — понос».

Нарва. «Нар — нары». Гэта, можа, і не пераканаўча, але назва безумоўна фіна-вугорская. Ёсць рака Нарва на мяжы РСФСР з Эстонскай ССР.

Лахва. Думаецца, раней называлася Логва, дзе лог азначала «лог» /слова, відавочна, намі запазычанае, у комі-пярмяцкай мове яно ёсць/.

Лонва. «Лöнь — тихий, спокойный».

Наква. «Нöк — сметана».

Тонва. «Тон-тон — обледеневший, мерзлый».

Пульва. «Пуль-паль /изобразит./: пуль-паль керны — плескаться водой» /літаральна «рабіць пуль-паль»/.

Вось і ўсе пакуль што поспехі ў разгадванні назваў з «ва» тых рэкаў, што цякуць па Беларусі.

Мала?

Я думаю, дастаткова, каб пераканацца, што з дапамогай комі-пярмяцкай мовы, хай і не ўсе, яны разгадваюцца. І значыць, аніякія яны не балцкія, а пермскія. Мова літвы была з той жа падгрупы, што і сучасная комі-пярмяцкая.

«Але чаму мова літвы»? — спытае прыдзірлівы чытач. — Ну добра, ты давёў, што назвы з «ва» /прынамсі, частка іх/ — пермскія. Але хто сказаў, што тыя назвы дадзеныя літвой? Чаму ты так вырашыў? Толькі таму, што і слова «літва» канчаецца на «ва»?

Не толькі.

Калі я скажу, што спачатку высвятляў этымалогію гідронімаў, а за назву «літва» ўзяўся толькі пасля іх, чытач, вядома ж, мне не паверыць. І будзе мець рацыю, бо які нармальны чалавек на маім месцы стаў бы скрупулёзна даследаваць другараднае, бачачы, што ён на шляху да галоўнага? Слова «літ» я пайшоў шукаць адразу, як толькі прачытаў і перачытаў у слоўніку старонку з «ва». Але «літ» я не знайшоў.

Расчараваны, я пачаў гартаць слоўнік, шукаючы найважнейшыя словы: сонца, зямля, агонь, чалавек. Знайшоў: «чалавек» — морт. А я думаў, што «літва» — «чалавек вады». Выходзіць, не. А можа, «людзі вады»? У шмат якіх мовах «чалавек» і «людзі» — рознакарэнныя словы, як у нашай. У якуцкай, напрыклад, «ча-

лавек» — киhи /чытаецца кігі/, людзі — дьон /чытаецца джён/. Вось і ў комі-пярмяцкай: «людзі» — йöз. Ды з «літва», як бачым, нічога агульнага...

«Людзі вады» — гэта, мусіць, было б йöзва, «чалавек вады» — мортва. Чакай... Морт-ва — гэта ж мардва!

Морт уваходзіць і ва «ўдмурт». То што ж, «чалавек» у назве народа — абавязковае?



*Вёска комі-пярмянаў Старыя Параты (Волжскі р-н). 1970-я гг.*

І раптам я без аніякай сувязі згадваю, што ў прадмове да слоўніка штось сказана наконт «л» у комі-пярмяцкай мове: быццам бы «л» з чымсьці чаргуецца... Так і ёсць! «У комі-пярмяцкай мове дзве гаворкі: паўночная і паўднёвая. /.../ Працягвае заставацца галоўнае адрозненне — ужыванне фанэмаў «в» ды «л». Паўднёвая гаворка... страціла фанэму «л». Замест яе ў сярэдзіне слова, перад галоснымі ды зычнымі, а таксама напрыканцы слова з'яўляецца в».

Значыць, «літ» усё адно, што «віт»? Праверым, ці ёсць «віт»!

Ёсць. Вит азначае «пяць». Лік «пяць», толькі і таго. Сяджу збянтэжаны, думаю. Што ж гэта такое выходзіць? «Літва» — витва — «пяць водаў». Як гэта — «пяць водаў»?

Хвілiначку... Ва — не толькі «вада». Гэта яшчэ «рака». «Пяць рэк» — гэта куды лепш! Племя пяці рэкаў! Якіх? Вядома, самых

вялікіх: Дняпро, Прыпяць, Нёман, Дзвіна. Пятая — Бярэзіна. Ва ўсе іх упадаюць мае «ва». «Ва» на Беларусі няма толькі на ўсход ад Дняпра, таму з «пяці рэкаў» выключаецца Сож.

І яшчэ, як спалох маланкі: з «віт» пачынаецца Вітаўт. Вітаўт — пяць-аўт.

Пяць — чаго? Што такое «аўт»? Гэта яшчэ трэба шукаць. Але ж называлі ў славянаў пятае дзіця ў сям'і Пятком. З таго ж шэрагу імёны Траццяк, Чацьвяртак, Шастак. Можа, Вітаўт пяты + дзіця, сын? Але няма ў слоўніку ні авт, ні овт.

Віцень /у летапісах Витень/ таксама з «віт» пачынаецца. Што такое «ень»? Ен — «бог». «Пяты бог»? Чаму? Імкнуся зразумець логіку сярэднявечча...

Заўважаю, што маю ключ яшчэ да двух імёнаў: морт — «чалавек». Жыгімонт — Жыгі + монт, Скірмунт — Скір + мунт. І монт, і мунт — тое сама, што морт, тым болей, што па-ўдмурцку «чалавек» — мурт. «Чалавек» як частка імя прыдаецца цалкам. Застаецца даведацца, што такое жыгі ды скір.

Жыга па-комі-пярмяцку «страх, страшны». Жыгімонт — Страшны Чалавек!

Скӧр па-комі-пярмяцку «злы, сярдзіты». Скірмунт — Злы Чалавек або Сярдзіты Чалавек!

Сам сабе не магу паверыць, што так лёгка гэта разблытваецца. Зрэшты, не ўсё...

Некалькі дзён трачу на Міндоўга. «Довгыны — ударить, двинуть». Калі паставіць «ударыць, сунуць» у шэраг «Страшны Чалавек», «Злы Чалавек», то яно нібыта і не выбіваецца. А вось «мін» не магу знайсці. Потым згадваю, што імя Міндоўг вядомае ў двух варыянтах, другі варыянт — Мендоўг. Слова мен таксама няма. Але ёсць ме — «я», і аказваецца, адной са склонавых формаў, якраз вінавальнага склону, з'яўляецца мен. Значыць, Мендоўг — «мяне ўдарыў», «той, хто мне сунуў». Ну што ж, відаць, такія імёны



*Сучаснае сельскае жыллё (Столінскі раён Беларусі)*

хлопчыкам з роду вояў даваліся невыпадкова — каб ворагі баяліся. Так разважаю я...

Без намаганняў перакладаю Радзівіла, толькі пераклад не магу зразумець. «Радз і мат /плетенка/, подстилка в санях из прутьев, дранок; радз (2) деревянный крест, деревянная рама под сито для процеживания кваса». «Виль новый». Такім чынам, атрымліваецца нейкая «Новая Пляцёнка» ці «Новая Рама», «Новы Крыж для сіта». Або, калі ўлічыць, што першае слова стаіць у пазіцыі прыметніка, — «Плеценая Навіна», «Рамная Навіна», «Крыжовая Навіна». Можа, апошняе — самае дакладнае, у сэнсе «новахрышчоны» /мянушка/?

Неяк увечары, гартаючы БелСЭ, знаходжу яшчэ адно старажытнае літоўскае імя — Вігунт. Гэта мяне бянтэжыць. Я ўжо прывык, што Вітаўт ды Віцень — «пятыя», і раптам узнікае імя, якое пачынаецца з «Ві», але за гэтым «Ві» не ідзе «т». Здагадваюся, што зрабіў памылку: гэтыя імёны трэба дзяліць на часткі не Вит + овт, Вит + ень, а аддзяляючы толькі «Ві»: Ви + товт, Ви + тень, Ви + гунт. Трэба тэрмінова гэта праверыць, а «пушкінка» ўжо зачыненая!

Раптам мне здаецца, што «Витень» штось нагадвае. Нібыта ў расейскай мове ёсць слова витютень, якое азначае нешта жывое: ці то звярка, ці то птушку /высветлілася — голуб/. Бяру слоўнік Даля: можа, побач з «витютень» агледжу «витень»?

Сапраўды — у гняздзе «вить»: «витень влгд. арх. плеть, кнут, бич, арапник, ременница, погонялка». Ну што ж, па сэнсе для княскага імя, імя воя — прыдаецца, але занадта яўная сувязь паміж гэтым бізуном і словам «вить», гэты витень утвораны яўна ад славянскага кораня.

Я ўжо гатовы паставіць Даля на паліцу, аж заўважаю далей, драбнейшым шрыфтам яшчэ раз витень! «Витень сиб. нож на ремне и на ратовище, которым бьют на лыжах сохатого, лося». Вось гэта ўдача! Тут аніяк не скажаш, што гэты витень ад «вить»! Нож на рамяні! Што ж тут нож, што рэмень? Улічваючы, што ви ўваходзіць у тры імі, мабыць, ви — «нож», бо з якой нагоды такая павага аддавалася б рэменю? Гэта нібыта пацвярджае зноў Даль: «гантай нвг. ряз. шнурок, особ, на крест». Ви + гунт — «нож на шнурку». Товт у Даля знайсці не магу. Витовт застаўся нявытлумачаным, але і Віценя з Вігунтам дастаткова, каб палепшыўся настрой.

Назаўтра іду ў бібліятэку і разгортваю слоўнік у перакананасці, што ви — па-комі-пярмяцку «нож». Аказалася... «масла». Ледзь не пакрыўджаны, шукаю «тень». Знаходжу тӧн: «учора». Ві + тень — «учорашняе масла». Нішто сабе княскае імя...

І тут мяне працінае здагадка, што я да гэтага часу не ўсё разумеў у механізме надання імёнаў. Калі чалавеку даецца імя? Пры нараджэнні. Што ў ім фіксуецца? Тое ўражанне, якое зрабіў на прысутных нованароджаны. «Учорашняе Масла» — значыць, ён колерам скуры падобны да такога масла. Колер учорашняга масла, дарэчы, прыемны, яно паспявае крыху пажаўцець; тым самым дзіця пахвалілі. Мендоўг — «Той, хто мне сунуў»: дзіця сунула ножкай, магчыма, у твар таму, хто над ім нахіліўся. «Страшны Чалавек», «Сярдзіты Чалавек» — гэта таксама магло быць сказана над нованароджаным.

Адшыфраваў нанова Віценя, за гое павіс Вігунт. Можа, і праўда — «Нож на шнурку»? Наўрад: па-комі-пярмяцку гӧнтӧм — «голый, без шерсти, без перьев». Відаць, нарадзіўся без валасоў на галаве. А можа, гӧнтӧм тут ні пры чым... З Вітаўтам такая гісторыя Слізгануў позіркам ніжэй ад ви /«масла»/ праз вит /«пяць»/ ды раптам... витӧт! Витӧт — «пяты». Але ёсць яшчэ ӧвт — «мах, взмах». «Пяты Узмах»? Што гэта азначае? Хай ламае галаву той, у каго яна большая.

У Л. Дайнекі, калі не памыляюся, ёсць разважанне, што імя Войшалк ідзе ад старажытнага беларускага вой /«воін»/ ды шал. Комі-пярмяцкі слоўнік дае такія значэнні: «вӧй дикий, неприрученный», «шорк /изобразит./ быстро, с шумом /входить/». Такім чынам, у гэтым імі таксама апісваецца першае ўражанне ад нованароджанага: ён «уваишоў» «хутка, з шумам» і не даючыся ў рукі /«дзікі, не прыручаны»/.

Мы цяпер пішам Альгерд, а ў летапісах ён Ольгерд. «Оль согра» /березово-еловый лес на заболоченных кочковатых низинах, «гӧрд» красный. Відавочна, адлюстраванае зноў-такі ўражанне ад скуры нованароджанага /колеру восеньскага лесу/. Дарэчы, з оль маем гідронімы: Ольніца ды Ольса /Магілёўская вобласць/. Але калі ўлічыць, што ў пермскіх мовах, дапушчальна, не было розніцы паміж «л» ды «в», то Ольгерд можна прачытаць як Овгерд, а гэта ўжо крыху іншае: ов па-комі-пярмяцку — корань слова овны «жыць», і Овгерд адшыфроўваецца як «Жывая Чырвань», што здаецца больш верагодным.

Кейстут мною да канца не зразуметы. Першая частка імя — кыйс, корань дзеяслова «паляваць», над другою часткай трэба яшчэ гарбець.

Імя Ягайла складаецца з трох частак. Ла, як памятаем, варыянт ва, аи — «бацька», яг — «малады сасоннік» /памятаеце ягöд?/. Такім чынам. перакласці можна так: «Малады Сасоннік, бацькоўская вада».

Скіргайла. «Скір» — як у Скірмунт /«злы, сярдзіты»/, «айла» — «бацькоўская вада». Праўда, тут аказваецца лішняе «г», але, можа, першапачаткова імя гучала як Скірягайла? Тады замест «г» з'яўляецца паўнаважнае яг — «малады сасоннік».

Свідрыгайла. Гэтае імя дзеліцца на чатыры часткі: Сві + дрыг + ай + ла. «Сві» здаецца коранем дзеяслова свигнытны — «быстро перепрыгнуть, сигануть». Ужыванне «свіг» можна растлумачыць тым, што дзіця нарадзілася неяк нязвычна хутка. «Дрыг», бадай што, — фанетычны варыянт комі-пярмяцкага дрöг — «/изобразит./ вздрогнуть». Можа, хто-небудзь скажа, што гэта падобнае да запазычання з расейскай мовы, але чаму не магло быць такога запазычання і ў літоўска-пермскай? Нагадаю, што ў нашай мове ёсць слова дрыгва — з тым жа самым коранем /«дрöг»/, але ў пермскім афармленні, корань слова + ва: ва — «вада», адкуль дрыгва — «дрыжачая вада». Зрэшты, я не філолаг /а тут трэба быць вельмі добрым філолагам/, катэгарычна сцвярджаць не буду.

Што такое «бацькоўская вада»? Перш-наперш прыходзіць да галавы выраз «як дзве кроплі вады», г. зн. «падобны да бацькі». Але, здаецца, такое тлумачэнне было б занадта прымітыўным.

Ці была для старажытных вада проста вадой, як для нас сёння? Ва па-комі не толькі «вада» нават цяпер. Гэта яшчэ «рака», «сок». Але ж адначасова ў гэтай мове ёсць слова ю, што таксама «рака». Прычым ю спалучаецца ў назвах рэкаў з ва: Юва, Юла. /.../. Юва з сучаснай комі-пярмяцкай мовы перакладаецца як «рачная вада». Але навошта было старажытным людзям вось такім чынам называць рэкі?.. Нелагічнасць назвы прыводзіць да думкі, што мы тут у нечым памыляемся. У чым жа? Ды, відавочна, у перакладзе ва. Незразумела? Я хачу сказаць, што першабытныя фіна-вугры ўкладвалі ў ва іншы сэнс, чым сённяшнія комі-пермякі.

Чым была вада для старажытных? Не толькі вадкасцю, якой можна напіцца ды памыць твар. У старажытнай натурфіласофіі вада — адзін з асноўных элементаў прыроды, адно з яе першарэчываў. Што было гэтымі першарэчывамі ва ўяўленні старажытных? У кітайцаў — вада, агонь, зямля, дрэва, метал; у грэкаў — зямля, вада, паветра, агонь. І ў той, і ў другой сістэме першаэлементаў вада несумненна сімвалізуе сабой не столькі вадкасць, колькі жыццё, якое без вады немагчымае.

Так успрымалі свет не толькі кітайцы ды грэкі. Коранем комі-пярмяцкага слова овны з'яўляецца ов — назва ракі Об. «Жыве!» — прашаптаў аднойчы дзікун, ступіўшы на бераг вялізнай, як мора, ракі... А як прамінуць тое, што ёсць і рака Обва? Як перакласці гэтую назву: «жывая вада»? Не! Я думаю, у назвах рэкаў ва перакладаць не трэба. Обва — «жывая ва», Юва — «рачная ва», Зэльва — «дажджавая ва», дзе ва — першасная стыхія, аснова жыцця. Тады нам стане больш зразумелай і былая назва хантаў ды мансі югра, дзе юг — «бляск, ззянне», і ра — фанетычны варыянт усе таго ж ва /нагадаю, што першая вядомая назва Волгі — Ра/. Не «бліскучая вада», а «паўднёвая ва» /бо юг на комі-пярмяцкай мове яшчэ і поўдзень/ — так трэба перакладаць найменне югра, дзе ра, роўнае ва — субстанцыя чалавечага існення.

І вяртаючыся да слова мардва, павінен прызнаць, што пераклад «чалавек вады» — нелакладны, бо, па-першае, назоўнік, стаўшы перад назоўнікам, ператвараецца ў прыметнік, адкуль морт-ва ўжо «чалавечая вада», а па-другое, ва тут зусім не трэба перакладаць, трэба яго пакінуць: мардва — «чалавечая ва», што знаходзіцца ў адным шэрагу слоў «рачная ва», «дажджавая ва», «жывая ва». У гэтым шэрагу і «бацькоўская ва» — субстанцыя жыцця, што перадаецца ад бацькі да дзіцяці.

Што ва было азначэннем такой субстанцыі, сведчыць і адсутнасць для азначэння жыцця такога ж кароткага, першаснага слова, як ва, пу, би, ви, у комі-пярмяцкай мове. Цяпер «жыццё» па-комі-пярмяцку олӧм: як сказана у слоўніку, гэтае слова ўтворанае ад овны «жыць».

Вернемся да «літва». Як жа груба я падышоў да гэтай назвы, пераклаўшы яе «пяць рэкаў»! Што тут значыць ва? «Пяць жыццяў»? Ды не. Думаецца, прасцей: «пяць родаў». Пяць вялікіх разгалінаваных сем'яў — вось што, відаць, уяўляла з сябе літва.

Дзе ж яна жыла? Ермаловіч вызначае яе арэалам верхняе Панямонне. Гэта пацвярджаецца і рэкамі. Якраз на гэтыя мясціны прыпадае нібы згушчэнне рэкаў з ва. Калі ўсяго на Беларусі іх 33, то 11 цячэ па Гродзенскай вобласці. Пры гэтым у Лідскім раёне тры, Наваградскім — тры, Ашмянскім — тры, Воранаўскім — дзве, Зэльвенскім — дзве; ёсць у Дзятлаўскім, Стаўбцоўскім, што мяжуе з Гродзеншчынай /некалькі рэкаў цякуць па двух ды болей раёнах, таму сумарная колькасць выглядае больш фактычнай/. Я думаю, гэта таксама можна браць пад увагу.

Арэал літвы, здаецца, заходзіў і на тэрыторыю сучаснай Летувы, дзе літва межавала з продкамі летувісаў.

На гэта, па-першае, паказвае тапаніміка. На памежжы з Летувой нямала фіна-вугорскіх назваў, у тым ліку населеных пунктаў, што шматзначна. Назва Ашмяны ідзе ад ош, што па-комі-пярмяцку «мядзведзь» /«ошма» — «мядзведжая ва». Рака з назвай Ошма маецца ў Горкаўскай вобласці/. Горад быў названы людзьмі, якія ведалі літоўска-пермскую мову, на што паказвае герб Ашмянаў — мядзведзь, што стаў на дыбкі (глядзі БелСЭ, уклейка паміж с. 432–433). С. Клімковіч звярнула маю ўвагу, што на іншым гербе Ашмянаў (А. Цітоў. Гарадская геральдыка Беларусі, 1990. с. 57) выяўлены бык. І тут цікава адзначыць, што ў комі-зыранскай мове ōш азначае «бык».



*Жанчына мары ў традыцыйным уборы. Пачатак XX ст.*

Назва Іўе адшыфроўваецца як «выток» /йыв/. У тым жа Іўеўскім раёне ёсць г. п. Юрацішкі, назва якога, магчыма, ідзе ад ю ра — таго сама, што і ю ва [Болей правільна выводзіць Юрацішкі ад юра ты, што азначала б «возера з

галавой» /юр «галава», ты «возера»/].У Астравецкім раёне маюцца Трокенікі; назва ідзе ад трок — што азначае трок, скажу крыху пазней. У Смаргонскім раёне пермскія назвы населеных пунктаў: Сырмеж /сыр II — бахрома, меж II — баран/; Жодзішкі /жодза — «кіслы», пра малако/; Кушляны /куш — «голый», «лысый»/; Ардашы /орда — у комі мовах «бурундук», ардо — паўдмурцку «дрыгва»/.

На тэрыторыі Летувы таксама ёсць фіна-вугорскія назвы. На жаль, не маю ні падрабязнай карты Віленшчыны, ні спісу гідронімаў /шмат якія, дарэчы, скажоныя сучаснай летувізацыяй/. Але магу сказаць, што фіна-вугорскімі з'яўляюцца назвы сталіц Вялікага Княства Літоўскага — Трокаў ды Вільні. «Трок» па-комі-пярмяцку выяўнае: «трок /изобразит./ скок, прыгскок» — такая назва вельмі стасуецца да невялікай гарэзлівай рачулкі /ад гэтага трок і Трокенікі/. Вільня — ад ракі Вільня, што ўпадае ў Вілію. Вілія — «новая я», дзе я — тое сама, што ю, «рака», ■ Вільня — падобна, тое ж, што Вілія. І каб ужо не заставалася аніякіх сумненняў, прашу параўнаць назву Вільня з комі-пярмяцкай Вільгорт, што азначае «новы дом».

Па-другое. Рэч не толькі ў назвах Трокаў і Вільні. Якраз на Віленшчыне пасля Наваградка былі ўладжаныя дзве сталіцы Вялікага Княства, а гэта гаворыць за тое, што Віленшчына была для літвы сваёй зямлёй. Іначай навошта было ставіць сталіцу пасярод чужога племя?

Думаецца, што пасля сказанага ўся гісторыя ВКЛ асвятляецца новым святлом, незразумелае робіцца зразумелым.



*Жанчына ў традыцыйным уборы (Столінскі павет, канец XIX ст.)*

Калі сцвярджаецца, на падставе летапісных крыніц, што Міндоўг спачатку вылучыўся сярод літоўскіх князёў і падпарадкаваў іх сабе, то мы павінны разумець, што тут гаворка ідзе пра князёў фіна-вуграў, да якіх сучасныя летувісы не маюць дачынення.

Калі натыкаемся на сведчанне, што «літоўцы Ягайлу, які ведаў іх мову, больш ахвотна слухалі, чым каталіцкіх прапаведнікаў» /Абецадарскі Л. «У святле неабвержных фактаў»/, дык мы павінны разумець, што маецца на ўвазе не летувіская /балцкая/, а літоўска-пермская мова.

Калі чытаем, што Гедымін тытулаваў сябе «вялікім князем літоўцаў і рускіх», то мы павінны разумець, што князем жамойці — продкаў сучасных летувісаў — ён сябе не тытулаваў.

Такім чынам, выходзіць, што продкі сучасных летувісаў выконвалі ў Вялікім Княстве Літоўскім, названым па імю зусім іншага племя, падпарадкаваную ролю.

Пераважную большасць дзяржаўных пасад займалі літоўскія /галоўным чынам з вялікакняскае сям'і/ ды славянскія феадалы, а аўкштоты і жамойты на іх амаль не дапускаліся.

Дзяржаўнай мовай у Вялікім Княстве была старабеларуская, а балцкая летувіская нават не мела пісьмовасці аж да сярэдзіны XVI стагоддзя.

Балцкія землі знаходзіліся ў Вялікім Княстве ў становішчы каланіяльнай ускраіны, якая, можна сказаць, не мела права голасу. Свой лёс аўкштоты і асабліва жамойты не прымалі без пярэчанняў. Вялікім князям даводзілася змагацца з аўкштоцкімі ды жамойцкімі феадаламі, душыць народныя паўстанні /1418 — Жамойць, 1536—1537 — Жамойць, 1545 — Аўкштота/.

Ну а якія былі адносіны паміж літвой і русінамі /беларусамі/? Літва была малалікім племем. Таму заваяваць Беларусь яна не магла. Калі б нават літве і ўдалося заваяваць нейкае асобнае княства, то праз пэўны час на дапамогу такому прыйшлі б іншыя ды скінулі літоўскае панаванне, а магчыма, і знішчылі саму літву. Тым часам мы ведаем, што шэраг княстваў увайшоў у Вялікае Княства Літоўскае добраахвотна, гэта зафіксаванае ў летапісах.

У чым прычына? На пачатку XIII стагоддзя Беларусь, як і ўся Старажытная Русь, уяўляла з сябе суму мала звязаных між забой феадальных уладанняў. Так цягнулася б, мабыць, яшчэ доўга, ды адразу дзве хмары насунуліся на небасхіл нашых продкаў: з усхо-

ду і захаду, з Галіцка-Валынскага княства — татары, з паўночнага захаду і поўначы — немцы. Абставіны прымушалі аб'ядноцца, але князі Рурыкавічы не маглі дамовіцца перад тварам небяспекі, як не дамовіліся і там, дзе цяпер Расея. Патрэбная была нейкая нейтральная сіла, вакол якой можна было згуртавацца. Такой сілай і аказаліся літоўскія князі — магутныя воі, умелыя палкаводцы ды неблагія дыпламаты. Першым з іх быў Міндоўг, які, дзякуючы сваім асабістым якасцям, быў запрошаны ў Навагрудак. Пасля гэтага з дапамогай Чорнай Русі яму ямчэй было падпарадкаваць сабе землі літвы. Стварылася ядро Вялікага Княства, да якога з цягам часу далучыліся ўсе землі Беларусі. Такою ўяўляецца схема першапачатковых падзей.

Такім чынам, можна правесці паралель паміж Міндоўгам і Рурыкам, які таксама, не будучы з усходніх славянаў, заснаваў дынастыю вялікіх князёў, што правіла ў Русі. Як Рурык, так і Міндоўг быў князем запрошаным, пасаджаным. Седзячы на стале славянскае дзяржавы, літоўскія князі не маглі не славянізавацца, тым болей, што бралі жонак з Полацка, Цверы і г.д. Характэрна, што літоўскія князі нават і не спрабавалі ўводзіць літоўскую мову ў якасці дзяржаўнай, надаць ёй пісьмовасць. Літоўска-пермская мова так і загінула беспісьмовай, не пакінуўшы аніводнага помніка, хаця літоўская дынастыя правіла на Беларусі, а з 1387 года і ў Польшчы, аж да 1572 года.

Але, у адрозненне ад Рурыкавічаў, літоўскія князі жылі ў атачэнні свайго нешматлікага этнасу, які растварыўся ў іншамоўным насельніцтве далёка не адразу. Мы ж ведаем, што Ягайла яшчэ гаварыў са сваімі воямі па-літоўску. Таму адчуць сябе русінамі-беларусамі на сто працэнтаў літоўскія князі не маглі. У іх сем'ях захоўваліся, мусіць, паганскія вераванні ды звычаі, не ўсе яны нават былі хрышчоныя, пра што гавораць іх імёны.

Такім чынам, не ўсе літоўскія князі адчувалі этнічную еднасць са славянскім народам, які ўзначальвалі. У сувязі з гэтым бацькі дзяржавы нярэдка дамагаліся не нацыянальных, а дынастычных або ўласных мэтаў. Характэрным для іх палітычнай дзейнасці робіцца кампраміс. З незвычайнай лёгкасцю асобныя з іх мяняюць веру, заключаюць палітычныя пагадненні. Такім «кампрамісчыкам», у прыватнасці, быў Ягайла, які за польскую карону заплаціў хрышчэннем літвы ў каталіцтва. /.../

Феадальны клас Польшчы ўмела скарыстоўваў схільнасць Гедымінавічаў да палітычнага ды рэлігійнага кампрамісу, цішком прыбіраючы «да рук» Вялікае Княства. Але з'яўленне ў Польшчы дынастыі Ягелонаў прынесла ёй не толькі карысць, але і вялікую шкоду. Трымаючыся за польскі трон, Ягелоны рабілі адну за другой саступку шляхце, што вяло да фактычнага драблення Польшчы і шляхецкай анархіі. І гэта ў той час, калі ў непасрэднай блізкасці да «Рэспублікі абодвух народаў» /Рэчы Паспалітай/ мацаваліся магутныя абсалютысцкія дзяржавы — Расея ды Прусія. Да чаго гэта прывяло — чытачу вядома...

Беларускаму народу літоўскія князі прынеслі і вялікі ўздым у XIV–XVI стагоддзях, і вялікі ўрон, калі з-за прапольскай арыентацыі апошніх з іх паланізуецца магнацтва, а потым і шляхта. Зразумела, у паланізацыі гэтай былі і іншыя прычыны, але і ролю Гедымінавічаў — Ягелонаў нельга адмаўляць. /.../

Ну а лёс таго племя, якое дало назву ды князёў Вялікаму Княству Літоўскаму?

Яно асімілявалася беларускім народам. На ўсёй сваёй тэрыторыі, уключаючы Вільню і Трокі. Тут і сёння жыве шмат беларусаў ды «палякаў», што гавораць па-беларуску. Гэта — нашчадкі пермскай Літвы, змяшанай са славянскім насельніцтвам.

Калі знікла літва? Сказаць цяжка. Жыгімонт II нарадзіўся ў 1520 годзе, і яму далі літоўскае, нехрысціянскае імя. Але, можа, то была сямейная традыцыя? Прынамсі, у XVI ст., здаецца, назва «літва» пачынае пераходзіць на балтаў, што межавалі з літвой.

Чаму? На гэта, думаецца, можна даць такі адказ.

Племя літва знікла, дзяржава ж па-ранейшаму называлася княствам Літоўскім. Мова літвы знікла, але захавалася згадка, што яна была рэзка непадобнай як да беларускай, так і да польскай, украінскай моваў. І шукаючы ў Княстве народ, чыім імем названая дзяржава, розныя людзі міжвольна звярталі ўвагу на балтаў Вялікага Княства. Гаварылі яны на незразумелай мове, жылі зусім блізка ад Вільні, сталіцы Літвы. Дык толькі іх і можна было лічыць «літвой» у этнічным сэнсе /у палітычным жа, як грамадзяне Княства, ліцвінамі зваліся і беларусы/.

Літва, літва... «Племя пяці родаў».

Як павінны мы ставіцца да літвы?

Як да сваіх продкаў.

Можа, і ў маіх жылах цячэ струменьчык фіна-вугорскай крыві. Нездарма ж такая цікавасць да Усходу: Тамерлан ды Якуція, цяпер вось Комі.

Усіх гэтых Міндоўга, Гедыміна, Вітаўта мы павінны лічыць сваімі, як лічаць сваім балгары хана Аспаруха.

Цюркскае племя балгараў злілося са славянамі і, хоць само знікла, дало ім сваю назву, застаўшыся, такім чынам, у памяці нашчадкаў.



*Свята ўраджаю ў мары. Пачатак XX ст.*

Літва, літва... Табе не было дадзена і гэтага.

Тваё імя маглі б насіць мы, беларусы. А называецца ім народ, які не мае да цябе дачынення ды нават не падазрае аб тваім колішнім існаванні.

Што ад цябе засталося, літва, апрача гучных дзеяў і гучных імёнаў?

Адказаць на гэта — цяпер справа нашага гонару.

Мы павінны вылучыць сляды аднаго з нашых продкаў — літвы — у нашай мове, геаграфічных назвах, звычаях, казках,

песнях, загадках, прымаўках, легендах. Перад беларускімі даследчыкамі стаіць неадкладная задача вывучэння фіна-вугорскіх. у першую чаргу пермскіх моваў, фальклору фіна-вугорскіх народаў, каб метадам параўнання знайсці тыя сляды. Гэта задача вялікая і высакародная.

Сляды ёсць — маю на ўвазе не толькі тапаніміку: я няраз, здаецца. іх адзначаў, гартаючы комі-пярмяцкі слоўнік. Я ўжо казаў пра слова «дрыгва». Фіна-вугорскім, мусіць, з'яўляецца і багна: баг па-комі-пярмяцку «цвіль», -на ў багна — варыянт ва /па-комі-пярмяцку «вада»/. Гэта вельмі верагодна, бо адначасова з багна для азначэння балота існуе ў нас і слова багва — глядзі «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (у далейшым — ЭСБМ), т. I, с. 260. Там жа на с. 265 сказана, што этымалогія слова багна «з'яўляецца адкрытай». /.../

Быў — і знік народ, што ў пэўнай меры стаяў на чале вялікай дзяржавы, даў дынастыю, якая правіла, феадальныя вярхі. Чаму? Яго ж ніхто не вынішчаў, не прыгнятаў як этнас.

Ён знік таму, што адцураўся свае мовы.

Думаючы аб лёсе літвы, я не магу не думаць і аб лёсе беларускага народа.

Няўжо і мы адцураемся свае мовы, і гадоў праз дзвесце забудзецца і яна, і ўсё тое, чым мы жылі стагоддзі, і назва наша пяройдзе на каго іншага, і не знойдзецца нават нейкага Ласкова, які, дзякуючы шчасліваму выпадку, адкрые, што беларусамі зваўся калісьці зусім іншы народ? Няўжо так і правалімся ў дрыгву стагоддзяў, няўжо зацягне нас багна забыцця?

## Глава 2

# Яблык разладу

Вось такі я спёк свой першы беларуска-пермскі блін і сам здзіўляюся цяпер, як пры маім тагачасным невуцтве замест бліна не атрымаўся камяк. Мабыць, выцягнула фантазія верша-складальніка. Ці будзе хто спрачацца, што ў «Племі пяці родаў» больш паэзіі, інтуіцыі, натхнення, чым навуковых дадзеных. Ды яшчэ ўляпіў некалькі такіх грубых памылак, што аж чырванеюць вушы. Пры перадруку я іх павыкідаў, і хто цікавіцца, што ж там было замест шматкроп'я, хай шукае падшыўку «ЛіМа».

І ўсё ж, нягледзячы на розныя хібы, асмельваюся сказаць, што галоўны кірунак быў узяты правільны.

Што з'яўляецца галоўнай адзнакай этнасу? Зразумела, мова. А як вызначыць, на якой мове гаварыў этнас, якога ўжо няма? Па ейных рэштках, калі іх маем. Гэта могуць быць асобныя словы і фразы ў пісьмовых крыніцах суседзяў, тапаніміка краю, дзе этнас жыў, і нарэшце, людскія імёны, пажадана дахрысціянскія, бо царкоўныя ўсе ідуць з вядомых крыніцаў і ў розных мовах, толькі прымаюць розныя формы (Іван — Ян — Ёган — Жан — Джон — Джаванні — Хуан — Юхан: ад старажытнаяўрэйскага Йонаан).

Дахрысціянскія ж імёны, трэба думаць, за рэдкім выключэннем, даваліся ў той мове, на якой этнас размаўляў. І чым болей іх захавалася, тым з большым поспехам мы можам вырашыць па іх, хаця б да якой групы адносілася страчаная мова.

Паўторым тое, што сцвярджае Ермаловіч: літва жыла на Беларусі і гаварыла яна не на той мове, якой карыстаюцца сённяшнія летувісы, бо аніводнае імя літоўскіх князёў з летувіскай мовы не раскрываецца. Гэтыя імёны былі дадзеныя ў нейкай іншай. Якой?

На наша шчасце, літва хрысцілася вельмі позна, аж праз 400 гадоў пасля славянаў Беларусі. Паганства трымалася на Літве і пасля таго, як утварылася Вялікае Княства — болей за сто гадоў. А гэта быў ужо час пісьмовы. І паганскія імёны князёў занатоўваліся ў летапісах, дакументах. Тут яны і захаваліся да нашых дзён. І іх нямала — недзе да сотні. Гэта — сур'ёзны, ёмісты матэ-

рыял, на такім полі можна сабраць бясспрэчна навуковы ўраджай.

Нагадаю, што якраз з фразы пра нераскрывальнасць літоўскіх імёнаў з летувіскай мовы і пачалося мае даследаванне. А да таго, як яе прачытаў — шчыра прызнаюся, і не думаў над праблемай летапіснай літвы.

Нечаканае паведамленне Ермаловіча прымусіла пачаць пошук, з якой жа мовы тыя імёны адшыфроўваюцца. Папярэднім вынікам і стала «Племя пяці родаў», надрукаванае ў «ЛіМе».

Мабыць, аніколі ў жыцці я так не чакаў водгукаў на сваю рэч. Але ў газеце яны ўсё не з'яўляліся. І раптам атрымліваю поштай невялікую бандэроль.

Вельмі спадзяюся, што не пакрыўджу Міколу Іванавіча тым, што выношу на публіку мясціны нашага прыватнага ліставання. Нізавошта не рабіў бы гэтага, каб можна было абысціся.

У сваім лісце ад 27 жніўня 1989 года Ермаловіч пісаў мне: «З вялікай цікавасцю прачытаў Ваш апошні артыкул у «ЛіМе». Ад мяне чакаюць адказу на яго. На вялікі жаль, зрабіць гэтага зараз не магу. Я перажываю вялікае гора — нядаўна пахаваў жонку. Пасылаю Вам сваю кнігу, якая толькі што выйшла, але напісана была ў 1968 годзе і ўвесь час хадзіла ў самвыдах. У ёй паўней за ўсё выкладзены мае погляды на Літву і ўтварэнне ВКЛ. Пазнаёміўшыся з ёй, Вы самі ўбачыце тое, у чым я не згодзен з Вамі».

У бандэроль была ўкладзеная кніга «Па слядах аднаго міфа»...

Яшчэ ў 1965 годзе я паехаў з Беларусі па накіраванні хімфака БДУ, ды так і не вяртаўся на стала. Таму самвыдаўскіх экземпляраў гэтае працы я ніколі не бачыў і нават пра яе не чуў. І вось, як узяўся за кніжку, так і не выпусціў яе з рук. За ракой, насупроць Якуцка, ужо шмат гадоў я лаўлю карасёў у возеры, на якім амаль ніхто не бывае. Лаўлю драцянымі венцерамі, якія майструю сам. Як прынаду кладу ў венцер хлеб, кідаю ў возера, а правяраць, ці злавілася рыба, прыязджаю ўлетку праз дзень-два, а ўвосень, калі вада сцюдзёная /дзякуючы гэтаму рыба ў венцеры не гіне/, і праз тыдзень. Дык вось, атрымаўшы бандэроль, я якраз збіраўся на возера і ўзяў «Па слядах аднаго міфа» з сабой. Спачатку чытаў на цеплаходзе, якім пераязджаў Лену, потым на возеры да вечара, потым зноў на цеплаходзе — і скончыў, яшчэ не вярнуўшыся дадому.

Я не буду тут рэцэнзаваць гэтую шырока вядомую цяпер, выдатную рэч, у якой слушна даводзіцца, што не было аніякага заваявання Беларусі літвой /у чым я сам быў даўно перакананы, хоць і не меў тых фактаў, якімі аперуе М. Ермаловіч/. Яна даўно ды правільна ацэненая як краекутны камень нашай новай гістарыяграфіі, што ідзе на змену ранейшай, хлуслівай. Але, чытаючы, я ўсе яе якасці адзначаў толькі спадарожна, бо галоўным чынам шукаў: у чым жа не згодны са мной М. І. Ермаловіч.

Аказалася, вось у чым: імёны літоўскіх князёў ён не прызнае летувіскімі, але лічыць іх... славянскімі. Мне ж і да галавы не прыходзіла такое вырашэнне праблемы. І што цікава: такі пункт гледжання існуе ўжо болей за сто гадоў! Яшчэ ў 1883 годзе нейкі Юргевіч выступіў з артыкулам, у якім «назваў кур'ёзам паходжанне імёнаў літоўскіх князёў Ягайлы, Кейстута, Гедыміна, Свідрыгайлы, Скіргайлы і іншых шукаць у літоўскай /г.зн. у летувіскай. — І. Л./ мове. Ён шляхам філалагічнага аналізу паказаў славянскае паходжанне імёнаў літоўскіх князёў» /М. Ермаловіч. Па слядах аднаго міфа. 1989, с. 47/.

Не, Ермаловіч зусім не лічыць, што літва была племем славянскім. Для яго няма сумненняў, што ліцвіны былі балтамі, якія мелі да летувісаў такое ж дачыненне, як латышы ды прусы. Гэта значыць, літва была асобным балцкім этнасам, які займаў тэрыторыю Верхняга Панямоння.

Князі ж Вялікага Княства Літоўскага, на думку Ермаловіча, ліцвінамі не былі. Гэта нібыта ўсё тая ж полацкая дынастыя, што ішла ад Рагвалода, бацькі Рагнеды /X стагоддзе/. Яна, так бы мовіць, толькі змяніла дыслакацыю, перабраўшыся з Полацка ў Вільню. Адбылося ж гэта так. Першапачаткова на месцы Вільні стаяў Крывіч-горад — удзел Полацкага княства, як Кукеноис ды Герцыке на Дзвіне. Пераважным насельніцтвам тут былі славяне-крывічы, нехрышчоныя. «Полацкія князі, — піша Ермаловіч, — якія ў адрозненне ад князёў іншых старажытнарускіх земляў маглі княжыць толькі ў Полацкай зямлі, страціўшы з той ці іншай прычыны свой пасад, уцякалі ў балцка-літоўскія землі» /с. 46/. З цягам часу ў Крывіч-горадзе апынуўся цэлы шэраг полацкіх князёў. Такімі былі і Гедымін з яго братамі Віценем ды Воінам. Усе гэтыя тры імі Ермаловіч лічыць славянскімі /с. 47/.

Вядома, такое імя, як Воін, не можа быць неславянскім. Іншая рэч Віцень ды Гедымін, а таксама імёны іхніх папя-

рэднікаў Давіл ды Маўколд. Ермаловіч лічыць, што ў вядомае з летапісаў Давіл пракралася памылка, яго трэба чытаць як Давід /с. 46/. Але гэта мала ратуе, бо ўсе астатнія імёны, хай бы яны былі славянскімі, не з'яўляюцца хрысціянскімі, а полацкая дынастыя была хрышчоная яшчэ за сотні гадоў да Гедыміна ды ягоных братоў. Гэта трэба было неяк растлумачыць, таму Ермаловіч піша: «Полацкія князі, апынуўшыся на балцка-літоўскіх землях, у паганскім асяроддзі, з палітычных меркаванняў прыкідваліся язычнікамі» /с. 47/.



*Дзяучынка-макшанка ў традыцыйным уборы*

З гэтым згадзіцца цяжка. Па-першае, калі Крывіч-горад быў сапраўды полацкім удзелам, то мусіў быць у значнай частцы хрысціянскім, а ў такім асяроддзі прыкідвацца паганамі не патрабавалася.

Па-другое, «полацкім» князям, можа, быў бы нейкі сэнс прыкідвацца паганамі, пакуль не мелі ўлады сярод паганскага насельніцтва, але навошта ім гэта было пасля таго, як яны сталі на чале дзяржавы, што складалася пераважна з хрысціянаў? Урэшце, ніхто ж не замінаў Гедыміну перанесці сталіцу ў Полацк, калі б у паганскай Вільні адчуваў нейкія нязручнасці. А паганскія імёны: Ягайла, Скіргайла, Карыбут, Лінгвен, Карыгайла, Вігунт — насілі і ўнукі Гедыміна, што ўяўлялі з сябе арыстакратыю вялізнай дзяржавы, хрысціянскай працэнтаў на 90.

Прыблізна так я і напісаў Міколу Іванавічу. Ліст атрымаўся доўгі — 14 старонак... У адказ Мікола Іванавіч даслаў мне фотакопію працы Юргевіча — мабыць свой адзіны экземпляр, без апошняй, згубленай старонкі (за што прашу вельмі прабачыць). Прачытаўшы Юргевічаў трактат, я ўстрывожыўся, бо мне ён здаўся зусім ненавуковым. Няўжо Ермаловіч абапіраецца толькі на яго ў сцверджанні, што «аніводнае імя так званых літоўскіх

князёў не раскрываецца з літоўскай мовы»? Працаваў з летувіскім слоўнікам або паверыў на слова папярэдніку?..

Прыйшлося зноў пісаць Міколу Іванавічу, хоць у той гаротны час — я разумеў — яму было не да маіх лістоў. Але і мне ў жыцці даводзілася страчваць блізкіх, і я памятаў, што выйсці з яміны гора дапамагала толькі праца. І вось што ён адказаў:

«Сваю выснову аб імёнах літоўскіх князёў я пачарпнуў з вядомай ужо Вам працы Юргевіча і з кнігі М. Морошкина «Славянский имянослов» /1867 г./. Вядома ж, гэта не ісціна ў вышэйшай інстанцыі, і Вы можаце яе абвяргаць, тым больш што названыя мной працы вельмі даўнія і таму могуць не адпавядаць сучаснаму ўзроўню філалагічнай навукі. Літоўскіх слоўнікаў у мяне няма, але я звярнуся да маіх знаёмых у Літве, і калі яны знойдуць гэтыя кнігі, то я прышлю іх Вам. Зычу Вам поспехаў у даследчыцкай працы».



*Беларуская дзяўчына ў скіндачцы (пачатак XX ст.)*

Шчыра скажу, вельмі я быў крануты высакароднасцю нашага выдатнага гісторыка, ад якой за гады «застою» даўно адвык. Але людзі, якія складаюць нацыянальны гонар, і не могуць не быць высакароднымі.

Ды вось ліха: у фотакопіі артыкула Юргевіча ніякіх доказаў на карысць думкі, што княскія імёны не адшыфроўваюцца з летувіскай мовы, я не знайшоў. Хто ведае, можа, аналіз як след не рабіўся?.. Што, калі тыя імёны чысцютка летувіскія, і я грымнуў у званы, не зазірнуўшы ў святцы?

Працу Юргевіча «Опыт объяснения имен князей литовских» М. Ермаловіч у сваёй кнізе фактычна толькі называе, не паказваючы ейнага зместу, таму ёсць сэнс спыніцца на ёй.

Гэта — брашура на 30 старонак, выдадзеная ў Маскве ў 1864 годзе. На тытуле пазначана: «Издание Императорского Обще-

ства Истории и Древностей Российских при Московском Университете», на адвароце тытула — «Чтения в Императорском Обществе Истории и Древностей Российских при Московском Университете 1883 г. кн. 3-я». З гэтага нібыта вынікае, што аўтар мог мець дачыненне да Маскоўскага ўніверсітэту, быць ягоным выкладчыкам.

Але гэта не так. Юргевіч Уладыслаў Нарбертавіч (1818–1898), археолаг і філолаг, спецыяліст па грэцкай і лацінскай мовах, з 1858 года жыў у Адэсе; адкуль быў ён родам — з Беларусі, Летувы, Польшчы ці іншага месца, з кароткага артыкула пра яго ў «Энциклопедическом словаре Брокгауза и Эфрона» (у далейшым — ЭСБЕ) /том 81, с. 409–410/ не бачна. Ніякіх прац Юргевіча па летувіскай філалогіі, як і «Опыт объяснения...», ЭСБЕ не згадвае. Таму можна заключыць, што «Опыт объяснения...» быў у аўтара дастаткова выпадковым даследаваннем. Як яно сведчыць, беларускай мовай Юргевіч не цікавіўся і не бачыў розніцы паміж ёю і расейскай. Не ведаў ён і летувіскай, бо нідзе не аперуе ёю, хаця і сцвярджае, што імёны ліцвінскіх князёў не маюць да яе дачынення. Усё гэта выклікае законны недавер да працы.

Але Юргевіч не лічыць ліцвінскіх князёў, як Ермаловіч, славянамі. Ён перакананы, што гэта былі летувісы. Скуль жа ўзяліся ў іх нелетувіскія імёны?

«Хто займаўся гісторыяй Літвы, — пачынае Юргевіч, — не мог не спыніцца на пэўных вельмі цёмных пытаннях. Пры чытанні радаводу літоўскіх князёў каго не ўражвала сумесь хрысціянскіх імёнаў з такімі, што здаюцца на першы погляд паганскімі? Хто не стараўся растлумачыць сабе, чаму гэтыя хрысціянскія імёны з'яўляюцца ў той час, калі паганства было на Літве ва ўсёй сіле?» Сапраўды, у адной і той сама княскай ліцвінскай сям'і ўжываліся як хрысціянскія, так і нехрысціянскія імёны. Напрыклад, сярод сыноў Альгерда былі Ягайла, Скіргайла, Свідрыгайла, Карыгайла, Лінівен, Вігунт, Карыбут — і адначасова Андрэй, Дзімітрый, Канстанцін, Уладзімір, Фёдар.

З гэтага Юргевіч робіць нечаканую выснову: што і тыя імёны, якія нам здаюцца паганскімі, у сапраўднасці таксама хрысціянскія, толькі да непазнавальнасці скажоныя:

«Прыглядаючыся бліжэй да розных формаў літоўскіх імёнаў і параўноўваючы іх з тымі народнымі расейскімі формамі, што

існуюць, і старажытнымі, мы ўбачым, што імя, якое лічылася да гэтага часу паганскім, не з'яўляецца паганскім і што, такім чынам, не заўсёды князь, вядомы нам як паганін, быў ім у сапраўднасці, хаця часам быў вымушаны хаваць сваё хрысціянства, жывучы сярод народа грубага і моцна адданага паганству» /с. 2/.

І далей даводзіць, што нязвыклыя для нашага слыху імёны літоўскіх князёў ёсць не што іншае, як расейскія народныя формы хрысціянскіх. Пры гэтым ён прысвячае спецыяльны вялікі раздзел /14 старонак/ паказу таго, як трансфармуюцца ў расейскіх народных гаворках грэцкія імёны. Ні пераказваць, ні аспрэчваць гэтага аналізу я не буду; мабыць, ён мае значэнне, але толькі самастойнае, не ў сувязі з ліцвінскімі князямі.

Чаму? Таму, што народныя формы імёнаў існуюць толькі ў народных гаворках, а царквой яны не прызнаюцца. Даючы імя, святар глядзіць у святцы і дае ў адпаведнасці з днём, у які хрысціць дзіця або дарослага. У святцах жа імёны занатаваныя ў зыходнай форме. Гэтая форма часта бывае нязручнай для вымаўлення, таму народам перарабляецца, і сапраўды іншы раз да непазнавальнасці, але не абы-як, а згодна з нормамі мясцовай гаворкі. Літоўскія ж князі, што насілі «скажоныя хрысціянскія» імёны, жылі сярод свайго племя, у акружэнні сваёй, неславянскай мовы, і па ейных, а не па законах славянскіх гаворак павінны былі спрашчацца і перарабляцца імёны. Юргевіч жа дапускае варыянт, пры якім святар даваў літоўскаму князю ўжо гатовае, «адгабляванае» славянскімі гаворкамі хрысціянскае імя. Пры гэтым ён зусім не ўлічвае, да якой мясцовасці належыць тая ці іншая расейская народная форма, ці мог быць моўны кантакт паміж ёю і літоўскім племем. Дзякуючы гэтаму ён і знаходзіць падобныя да ліцвінскіх расейскія народныя імёны — падобныя, зрэшты, не на 100 працэнтаў.

Вось што ў яго атрымліваецца:

«Мингайло... которое сами литовцы объясняют именем Михаило... образовалось из уменьшительного Минка /.../, Наргайло... из Нарка, уменьш. от Наркис /.../, Кешгайло... из уменьш. Кишка вместо Окишка /.../, Мунтигайло, Монтигайло... из уменьш. Мунтин /.../, Дангайло... из уменьш. Данка /Даниил/ /.../, Сипайло... из Сипа /Осип/, /.../ Нигайло... из Никола /.../, Мустилло... из Мустя /Модест/, Коригайло... из уменьш. Егорик, Егорка» /с. 20–21/. Імя Ягайло ў Юргевіча аказваецца сап-

саваным Яков, Ольгерд — Александр, Витовт — Викентий, Кейстут — Константин, Войшелк — Василько, Товтивил — Феофил, Миндовг — Дементий, Гедимин — Вындемиян і г.д.

Летувісы наўрад ці згаджаюцца з такім тлумачэннем. Запазычаныя ў славянаў хрысціянскія імёны да такой ступені імі не перакручваліся ніколі. У альманаху «Балто-славянские исследования» (у далейшым — БСИ) за 1980 год змешчаны цікавы артыкул Зігмаса Зінкявічуса «К истории литовской христианской терминологии восточнославянского происхождения» /с. 131–139/, дзе паказана, якія формы прымалі ў летувісаў хрысціянскія імёны, запазычаныя ад славянскіх продкаў беларусаў. Формы гэтыя вельмі далёкія ад таго, што дае Юргевіч. Так, Міхайла пераходзіла ў Mikaila, а не ў Мінгайла, Якаў — у Jakavas , а не Ягайла. І астатнія летувіскія формы вельмі блізкія да нашых: Хама — Kamas, Даніла — Donyla , Дзімітрый — Dimitras , Майсей — Maisiejus, Мікіта — Nikitenas, Панас — Panas і гэтак далей.

Далей, Юргевіч яўна не ўлічвае, што Ягайло, Ольгерд, Витовт, Кейстут і г.д. былі не з чарналюддзя, а князямі, гаспадарамі агромністай дзяржавы, імёны якіх, вядома, маглі скажацца ў народным маўленні, але ў разнастайных дакументах — скажам, такіх, як указы, дамовы, мусілі пісацца толькі ў сваёй першаснай, афіцыйнай форме. Ён гэтага не адчувае. Так, канчатак -айло /хоць і не прама/ ён абвяшчае памяншальным суфіксам, таму ў яго ўсе імёны на — айло: Сенгайло, Пунигайло, Мунтигайло ды інш. — памяншальныя, «фамільярныя».

«Відавочна, — піша ён /с. 22/, — што Ягайло была фамільярная форма імя Яков, якое князю далі пры хрышчэнні. Гэта пацвярджае, як мне здаецца, і Васкрасенскі летапіс... дзе чытаем: «у Олгерда от В. Княгини Ульяны Тверской Яков, нареченный Ягайло», г. зн. імя хроснае Яков перарабілі ў фамільярную форму ды назвалі яго Ягаилом, бо іначай летапісец сказаў бы: «был сын Ягайло нареченный Яков», паставіўшы раней яго паганскае імя. Гэтаксама, як убачым, Евнутий, Витовт, Ольгерд і іншыя насілі імёны, дадзеныя ім пры хросце».

Зразумець логіку гэтага разважання цяжка. Калі Ягайло — фамільярная форма імя Яков, то прычым тут увогуле слова «нареченный» /названы/? Фамільярныя імёны, што выцякаюць з афіцыйнай формы імені, спецыяльна не даюцца. Фамільярныя формы з асноўнага імя выцякаюць. Напрыклад, ■ — Іван,

гэтае імя мне далі, калі я нарадзіўся. І ва ўсіх дакументах я — Іван. Але так мяне завуць рэдка: блізкія людзі майго веку — Ваня, у афіцыйных і напалову афіцыйных размовах я — Іван Антонавіч. Ёсць жа такія, асабліва блізкія сябры, што завуць Ванька, Ванюха, Ванятка, Янка, Яначка, Янук. Такіх варыянтаў ад імя Іван у расейскай ды беларускай мовах вельмі шмат, і імі ўсімі мяне назвалі ў той дзень, калі далі імя Іван.

Так і з Якавам. Калі Ягайло — гэта Яков у фамільярнай форме, то летапісцу не было аніякай патрэбы пісаць «Яков, нареченный Ягайло». А ён напісаў. Значыць, Ягайло — не форма імя Яков /уявіце сабе, было б напісана: «Иван, нареченный Ванька»/, а зусім іншае, самастойнае імя. Гэта падкрэсліваецца і тым, што вялікі князь Ягайла як Якаў нам фактычна невядомы. Да таго, як сеў на польскі трон і хрысціўся ў каталіцызм, стаўшы Уладыславам, Ягайла заўсёды быў Ягайлам.

Што ж гэта атрымліваецца: вялікі князь, адзін з найвялікшых уладароў Еўропы, і сам падпісваўся фамільярным імем, і дазваляў, каб да яго так звярталіся іншыя? Гэта ж проста недарэчнасць. Цара Івана Жахлівага пры ягоным жыцці ніхто і Іванам не зваў, бо яго афіцыйнае імя было Иоанн. А вялікі князь літоўскі, выходзіць, быў да таго дробнай фігурай, што мог у любых становішчах карыстацца дзіцячым імем. Дый яшчэ зрабіў яго дынастычным прозвішчам каралёў Ягелонаў.

Далей, Юргевіч вельмі перабольшвае хрысціянскі, у прыватнасці праваслаўны, уплыў на літоўскіх князёў. Паводле яго, і Міндоўг, і Войшалк, і ўсе астатнія насілі фактычна хрысціянскія імёны, г.зн. былі хрышчонымі ад нараджэння, толькі свой хрост хавалі ад аднапляменнікаў-паганаў. Але гісторыя захавала на гэты конт розныя цікавыя падрабязнасці. Калі ў 1342 годзе пскавічы запрашалі Альгерда на княжанне да сябе і раілі яму хрысціцца, — ён адказваў: «уже крещен есмь, и христианин есмь, второе креститися не хощу я» /Белоруссия и Литва. СПб., 1890, с. 76/. Але польскі даследчык С. Кучыньскі паведамляе, што Альгерд прыняў хрост толькі перад смерцю /S. Kuczyński. Władysław Jagiełło. Warszawa, 1971, с. 18/. Меў Альгерд 12 сыноў, але гарантавана хрышчонымі былі толькі 10 /Белоруссия и Литва, с. 78/.

Юргевіч сцвярджае, што Ягайло — форма імя Яков, Ольгерд — форма імя Александр; такім чынам, Ягайла і Альгерд «насілі імёны, дадзеныя ім пры хросце». Зразумела, пры вялікім

жаданні можна пачуць штосьці агульнае ў парах Яков — Ягайло, Александр — Ольгерд. Але ж вядома і шмат такіх выпадкаў, калі два імі аднаго князя не супадаюць зусім. Так, Альгердаў сын Корибут атрымаў пры хросце імя Димитрий, брат Карыбута Скіргайла — Іван. Яшчэ адзін сын Альгерда, славуты Андрэй Полацкі насіў паганскае імя Вінгольт. Паміж Андрэй і Вінгольт таксама яўна няма нічога агульнага.

Гісторыя імёнаў Андрэя-Вінгольта цікавая яшчэ тым, што ён быў сынам хрысціянкі, Марыі Віцебскай, і нарадзіўся ў хрысціянскім Віцебску, дзе княжыў ягоны бацька Альгерд, але, аказваецца, першым імем Андрэя было ўсё ж Вінгольт. Пра гэта сведчаць пскоўскія летапісы, дзе паведамляецца: у 1341 годзе, над пагрозай нападу з боку немцаў, «послаша послове в Витебско ко князю Ольгерду помощи прошати. /.../ Князь же Ольгерд, послушав псковских послов, не оставя слова псковского, посла воеводу своего князя Георгия Витовтовича; а сам Ольгерд подъим брата своего Кестуита и мужин своих Литовъков и мужин видьблян, и приеха в помошь псковичам, месяца июля во 20 день /.../ и приведе с собою сына своего Андрея, тако бо бяше имя ему молитвенное, а еще бе не крещен» /Псковские летописи. М.–Л., 1941, с. 18/.

Як бачым, Андрэй Полацкі да 16 гадоў не быў хрышчоны, а імя Андрэй меў малітоўнае, г. зн. яго называлі так, калі за яго маліліся. Гэта ясна паказвае, што князі-ліцвіны былі не тайнымі хрысціянамі, а наадварот, адданымі паганамі, якімі заставаліся і ў хрысціянскім асяроддзі. З палітычных меркаванняў яны прымалі і праваслаўе, і каталіцызм /у абедзве веры хрысціліся Міндоўг, Ягайла, Свідрыгайла/, але, па сутнасці, пакланяліся паганскім багам і імёнамі карысталіся пераважна паганскімі. Іначай як растлумачыць, што ледзь не ў кожнага з іх, аж уключаючы пакаленне Ягайлы, было па два імі: хрысціянскае і паганскае? Андрэй — Вінгольт, Ягайла — Якаў, Скіргайла — Іван, Карыбут — Дзімітрыи, Лунгвен — Сімяон, Карыгайла — Казімір, Вігант — Аляксандр, Свідрыгайла — Леў... Праўда, Альгерд меў яшчэ чатырох сыноў ад першай жонкі, і нам вядомыя іх толькі хрысціянскія імёны: Дзімітрый, Канстанцін, Уладзімір і Фёдар, але іх паганскія імёны проста не дайшлі да нас. Наяўнасць такіх іменных пар канчаткова падрывае гіпотэзу Юргевіча, што паганскія імёны князёў-ліцвінаў — у сапраўднасці скажоныя

хрысціянскія, бо навошта пры адным хрысціянскім, хай сабе скажоным, патрэбна яшчэ адно, нескажонае?

Такім чынам, што Ягайла, Віцень, Вітаўт і г. д. — імёны хрысціянскія, выключана. Іншая рэч, што яны маглі б быць хоць і паганскімі, але славянскага паходжання. М. Ермаловіч звяртае ўвагу на такія імёны, як Воін /брат Гедыміна/, Гердзень; воін — чыста славянскае слова, а Гердзень падобнае да горды. Магу дадаць, што ў слоўніку Даля маюцца словы ягайла «горлан, бранчливый нахал, ругатель» і витень «плеть, кнут; нож на ремне». Але бясспрэчна славянскім уяўляецца толькі імя Воін. Бо ягайла ў расейскай мове ўтворанае ад дзеяслова ягать /валагодскае, пермскае, сібірскае/ — «кричать, шуметь, бушевать, браниться, вздорить» з дапамогай расейскага суфікса.

Калі б імя Ягайло было славянскага паходжання, то праз ягоную схему можна было б растлумачыць і астатнія імёны ліцвінаў на -айло: Скиргайло, Свидригайло, Коригайло, Кезгайло, Мингайло і інш. Але гэта немагчыма, бо ані ў расейскай, ані ў беларускай мове няма дзеясловаў скіргаць, свідрыгаць, карыгаць, кезгаць, мінгаць. Такім чынам, супадзенне паміж імем Ягайло і расейскім словам ягайла — чыста выпадковае. Я ўжо не кажу, што сэнс слова ягайла абсалютна не адпавядае таму, што мы можам лічыць княскім імем. Немалаважна і тое, што слова ягайла — валагодскае, пермскае, сібірскае, г.зн. геаграфічна далёкае ад Беларусі і ў беларускіх гаворках яго няма; як жа яно магло трапіць да ліцвінаў? /Маці Ягайлы была з Цверы, а як цверскае слова ягайла Даль не адзначае/. Тое сама можна сказаць і пра расейскае витень: у значэнні «плеть, бич» яно ўжываецца, паводле Даля, на Валагодчыне ды Архангельшчыне, а ў значэнні «нож на рамяні» ў Сібіры. Адносна Гердзень трэба прызнаць, што калі гэтае імя ўтворанае ад горды, то незразумелы пераход «о» ў «е».

Розныя аўтары спрабуюць адшыфраваць са славянскіх каранёў і іншыя імёны — напрыклад Войшелк. Зыходзячы з яго сучаснай формы /Войшалк/, падзяляюць на вой ды шал, атрымліваючы «шалёны воін». Але аналізаваць трэба не сучасныя, а колішнія формы імёнаў, занатаваныя ў летапісах і дакументах. «Шелк» жа далёка не шал — думаецца, гэта зразумела без лішніх слоў.

Асноўная ж маса летапісных ліцвінскіх імёнаў для славянскага вуха зусім чужая, незразумелая. Як растлумачыць, адштурхва-

ючыся ад беларускай, расейскай, польскай моваў, Гедимин, Витовт, Скирмунт, Кезгайло?

Незразумелымі ліцвінскія імёны былі і для славянаў-сучаснікаў. Аб гэтым сведчыць той факт, што летапісы фіксавалі іх у самых розных, іншы раз нечаканых формах.

У змястоўнай кнізе М.М. Улашчыка «Введение в изучение белорусско-литовского летописания» /М., 1985 (у далейшым «Н. Улащик» з указаннем старонкі), у імённым паказальніку прыводзяцца розныя варыянты ліцвінскіх іменаў, што маюцца ў летапісах, складзеных на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Напрыклад: Миндовг — Мендольф, Миндов, Миндауг; Войшелк — Войшвилок; Любард — Любарт, Люборт; Довгирд — Долгирд; Ейкшис — Ейкша, Ейкшыс, Екшис, Ечькшис; Свидригайло — Оветригайло, Швидригайло, Швинтригайло; Живибунд — Живинбуд, Живинбид, Зивибунт і г.д.

Адсюль бачна, што летапісцы-славяне не да канца разумелі, як перадаваць гэтыя імёны. Праўда, летапісы, якія разбірае Улашчык, позні я. яны пісаліся не раней за XVI стагоддзе, г.зн. калі пералічаныя князі даўно памерлі. Але блыталіся ў ліцвінскіх імёнах



*Старая хата комі. Пачатак XX ст.*

і болей раннія летапісцы. У Іпацьеўскім летапісе, што складаўся ў XIII стагоддзі, сустракаем формы Миндовг, Миндог, Мидог, Мидогв, Минодовг /Полное собрание русских летописей (у далейшым ПСРЛ), том II, сл. 735. 801, 818, 855 ды інш./, Воишелк, Вышелк, Вышегл, Вошелк, Войшеволк /сл. 830, 837, 847, 855, 863/. Такога рознабою, вядома, не было б, калі б імёны мелі славянскае паходжанне.



*Беларуская хата сярэдзіны XIX ст.*

Важна адзначыць, што нязгодныя варыянты аднаго імя сустракаюцца ў летапісах літаральна побач. Вядома, што Пскоўская зямля была цесна звязаная з Вялікім Княствам Літоўскім, фактычна знаходзячыся пад ягонай апекай. Тут жылі тыя сама крывічы, што складалі аснову Полацкага княства. І калі ліцвінскія князі зваліся па-славянску, г. зн. па-крыўску, то ў Пскове не мелі б клопатаў з напісаннем іх імёнаў. Аж не. Вось красамоўны факт. Нальшчанскі князь Даўмонт у 1266 годзе «уцёк у Пскоў, ратуючыся ад Войшалка» /М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь. 1990, с. 325/. Тут Даўмонт праз год стаў князем і, як паведамляе Пскоўскі летапіс, тады ж «ходил... с мужи псковичи, и плени землю Литовскую, и погону побиша» /Псковские летописи. Вып. І, с. 13/. У далейшым Даўмонт служыў Пскову верай і праўдай. У Пскове ён прыняў хрост, атрымаўшы імя Цімафей; перад смерцю, здаецца, пастрыгся і праз пэўны час быў кананізаваны. Цімафей — і да нашага часу найвялікшы пскоўскі святы.

Здавалася б, для пскавічоў з напісаннем ягонага імя не павінна быць аніякіх праблем. Але ўжо на першых старонках Ціханаўскага спісу сустракаецца як звычайная форма Довмонт, так і нязвычная — Довмот /Псковские летописи, вып. І. с. 3/. А ніжэй у тым жа спісе можна ўбачыць і формы Домонт, Домант

/с. 13, 23 ды інш./. Такім чынам, імя былога нальшчанскага князя мае ў Ціханаўскім спісе чатыры варыянты.

Імя Кейстут у Пскоўскім летапісе мае дзве формы: Кестуит ды Кестутий, прычым абедзве ужываюцца побач. Так, на с. 18 можна прачытаць: «Ольгердъ подъимъ брата своего Кестуита», «А Ольгердъ князь и Кестутий князь...», на с. 19: «И бысть Ольгерду князю и Кестуиту... скорбь и печаль», «А князь Ольгердъ и братъ его Кестутий прочь поехаша» /літары «й» тады яшчэ не было, таму Кестутий пісалася як Кестутии/. Зазначым, што асноўная форма Кейстут пры гэтым не ўжываецца. Так і з пэўнымі іншымі імёнамі князёў-ліцвінаў: Пскоўскі летапіс ужывае не асноўныя формы іх, а нейкія свае. Напрыклад, Войшелк — Войшегл /с. 13/, Лингвений — Лугмений /с. 40/, Свидригайло — Свитригайло /с. 40–41/, Скиргайло — Скиригайло /с. 24/, Жигимонт — Жидимонт, Жидомонт /с. 40–41, 43, 44/.

Зразумела, няма чаму здзіўляцца, калі пскоўскі летапісец называе караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя Степаном Обатуром /с. 118/, бо такім чынам скажалася іншамоўнае імя. Але раз скажаліся імёны Войшелк, Кеистут, Довмонт, Жигимонт, Лингвений, то, трэба думаць, і яны для пскавічоў былі нязвычнымі, чужымі.

Цяпер прыгледзімся да структуры ліцвінскіх імёнаў. Ужо даўно заўважана, што яны большай часткаю двухчленныя, г.зн. складаюцца з дзвюх частак па тыпу Владимир, Ростислав. Гэтыя часткі можна вылучыць, нават не ведаючы іх значэння. Возьмем для прыкладу імя Ольгерд. Юргевіч яго разглядае як скажонае хрысціянскае Александр. Але рэч не толькі ў тым, што Ольгерд і Александр па гучанні, як кажуць у Алэсе, «дзве вялікія розніцы». Паставім побач з Ольгерд імя Гердзень, якое Ермаловічу здаецца славянскім /Старажытная Беларусь, с. 327/. Ясна відаць, што абодва імі маюць агульны элемент — герд, якім пачынаецца Гердень і канчаецца Ольгерд. У кнізе Улашчыка згадваецца віленскі ваявода Долгирд, ён жа Довгирд. Быў і яшчэ варыянт таго сама імя — Довгерд /Белоруссия и Литва, с. 170/. Як бачым, герд і тут. Трохразовае ўжыванне гэтай «цаглінкі» паказвае, што яна — самастойнае слова нейкай мовы.

А элемент оль, з якога пачынаецца Ольгерд? Ён стаіць і на пачатку імя Ольгимонт. Значыць, і оль — «цаглінка». Што ж да монт, якім Ольгимонт канчаецца, то гэта адна з найчасцейшых

«цаглінак»: Видимонт, Гермонт, Жигимонт, Писимонт, Скирмонт, Ямонт — і гэта яшчэ не ўсё. З монт імя можа і пачынацца: Монтвил. Вил жа, якім Монтвил канчаецца, таксама «цаглінка»: Радивил, Гинвил. Довгерд пачынаецца з дов, як Довмонт; значыць, «цаглінка» і дов. Але, улічваючы імя Миндовг, якое канчаецца на довг, можна дапусціць, што і ў Довгерд, і ў Довмонт першым элементам з'яўляецца не дов, а довг: довг + герд — Довгерд, довг + монт — Довмонт.

Яшчэ «цаглінкі»: товт /Витовт, Товтивил/, вид /Видимонт, Монивид/, мин /Миндовг, Мингайло/, кор /Кориат, Корибут, Коригайло/, бут /Корибут, Вутав/, скир /Скирмонт, Скиргайло/, гайло /Скиргайло, Ягайло, Кезгайло, Свидригайло ды інш./.

Падкрэслю яшчэ раз: калі нейкім элементам імя можа і канчацца, і пачынацца, то гэты элемент, несумненна, не суфікс і не прыстаўка, а самастойнае слова ці хаця б корань слова. Таму такія цаглінкі, як вил, герд, довг, товт ды інш. — словы. Гэта пацвярджаецца яшчэ і тым, што сярод беларускіх прозвішчаў сустракаюцца Віль, Гайла, Герда, Герт, Монт, Скір, Тоўт, блізкія да «цаглінак». Разглядаючы такія прозвішчы, М. Бірыла не заўсёды абапіраецца на славянскі матэрыял. Так, да Гайла ён дае паралель з расейскай мовы гайло «шырокае горла, пашча, зяпа», да Жыга — беларускае рэгіянальнае жыга «жвавы, спрытны, борзды», «хто ўмешваецца ў чужыя справы», расейскае жига «лаянка, пострах, пакаранне», да Тоўт — украінскае товт «купец». Монт жа ён тлумачыць праз цюркскае імя Мантай, Віж ды Герт — праз летувіскія прозвішчы /без аналізу іх/, Герда ды Скір — праз летувіскія словы. Летувіскія паралелі даюцца ім таксама да Гайла /гл. М. Бірыла. Беларуская антрапанімія, ч. 2. 1969 (у далейшым — «М. Бірыла, 2»).

Такім чынам, славянскімі могуць быць прызнаныя «цаглінкі» жига, гайло, товт. Але што гэта дае? Дапусцім, у імі Жигимонт пачатак уяўляе з сябе беларускае або расейскае слова. А монт? Такога слова ў славянскіх мовах няма. Або Витовт. Хай сабе товт — «купец». А што такое ў славянскіх мовах ви? А вил у Товтивил? Што ж да расейскага гайло «шырокая пашча, зяпа», то калі прызнаць, што якраз яно ўваходзіць у імёны Ягайло, Мингайло, Скиргайло, Коригайло, Кезгайло і г. д., — ці не занадта «шырокіх пашчаў» сярод літоўскіх князёў?

Скажам прама: лічыць усе гэтыя імёны славянскімі гэтак жа неправамерна, як і скажонымі хрысціянскімі.

«А Воін? — скажа чытач. — Ты ж сам згадзіўся, што гэтае імя славянскае. Чаму ж яго насіў брат Гедыміна — па-твойму, неславянін?»

На гэта адказ просты. Літва жыла не на востраве, не былі ейныя землі агароджаныя і непраходнымі прадоннямі. Літва здавён суседзіла са славянамі, нітавалася з імі шлюбнымі сувязямі, запазычваючы ў выніку не толькі словы, але і імёны. Дарэчы сказаць, запазычванне імёнаў — увогуле распаўсюджаная з'ява. Так, даследчык удмурцкай анамастыкі вылучае сярод удмурцкіх імёнаў цэлыя пласты запазычаных. Тут іранскі пласт (Артан, Алан, Алангасар, Базак, Бандур, Дада, Дангыр, Занок, Зарина, Казмас ды інш.), вугорскі (Закнай, Мансэй, Порег, Салькай), мноства цюркскіх імёнаў, якія «займалі выключна вялікае месца ў дахрысціянскім іменніку ўдмуртаў» /гл. М.Г. Атаманов. Удмуртская ономастика. Ижевск, 1988, с. 109–123 (у далейшым «М. Атаманов»). Працытаваная с. 116/. «Гаворачы пра запазычванне расейскага іменніка, — піша Атаманаў, — трэба адзначыць, што некалянларныя расейскія імёны, як Ждан, Нечай, Поздей, Третьяк, Милован, Бажен ды інш., былі засвоеныя ўдмуртамі без аніякіх фанетычных зменаў» /с. 121/.

Як ужо было сказана вышэй, Ермаловіч лічыць Гедымінавічаў працягам Полацкай дынастыі, што ішла ад Рагвалода. Але разгляд імёнаў абедзвюх дынастый гэтага не пацвярджае. Вядома, што ў кожным родзе маюцца свае ўлюбёныя імёны. Такімі ў Рагвалодавічаў былі на -слав: Изяслав, Брячислав, Ростислав, Всеслав, Мстислав. А ў Гедымінавічаў яны не сустракаюцца зусім, як сярод асноўных, так і паралельных. 12 сыноў Альгерда, апрача паганскіх, насілі праваслаўныя імёны Андрей, Димитрий (двое), Константин, Владимир, Федор, Яков, Иван, Симеон, Александр, Лев ды каталіцкае Казімір. Як бачым, аніводзін з іх не меў імя на -слав, за выключэннем Свідрыгайлы, які атрымаў імя Баляслаў пры другім хросце, у каталіцтва, а ад першага насіў імя Леў. Але імя Баляслаў Рагвалодавічамі не скарыстоўвалася, бо яно польскае.

А нашчадкі полацкай дынастыі і ў часы Альгерда працягвалі даваць сваім дзецям імёны на -слав, пра што сведчыць, напрыклад, імя па бацьку першай жонкі Альгерда — Марыі Яраслаўны,

віцебскай князёўны. Але Альгерд не даў імя свайго цесця Яраслава аніводнаму са сваіх пяці сыноў, народжаных яму Марыяй. Трэба думаць, у гэтым праявіліся патрыярхальныя звычкі даваць імёны па мужчынскай лініі роду.

Дадамо, што ў Гедымінавічаў зусім не сустракаецца і імя пачынальніка Полацкай дынастыі — Рагвалода, тым часам як у ёй самой давалася неаднаразова: з гісторыі вядомыя Рагвалод — сын Ізяслава, Рагвалод Барысавіч — полацкі князь, унук Усяслава. Як бачым, Рагвалод у родзе Гедымінавічаў не карыстаўся пашанай продка. Такім чынам, Рагвалодавічы і Гедымінавічы — розныя дынастыі, і няма падстаў сцвярджаць, што ўзвышэнне Вільні было «другім узвышэннем Полацка».

Калі імёны князёў-ліцвінаў не хрысціянскія з паходжання і не славянскія, то, можа, яны усё ж летувіскія? Гэтая думка доўгі час не давала мне спакою. Пішучы «Племя пяці родаў», я не ўсе імёны тыя адшыфраваў, а пры адшыфроўцы не абышлося без дапушчэнняў, здагадак. А што, калі ўсе яны спакойна раскрываюцца з летувіскай? Тым болей, што да мяне ў Якуцк сталі даходзіць чуткі, што беларускія лінгвісты, якія валодаюць ёю, толькі пасмейваюцца з мяне, бо ўсе гэтыя Альгерд ды Вітаўт, Гедымін ды Ягайла — спрэс летувіскія. Але чаму яны не крытыкуюць мяне ў друку? Ермаловіча баяцца зачапіць? Але ж ці варты навукоўца такі падыход? Для навукі няма ні брата, ні свата. Яна тады толькі навука, калі робіць свае высновы не для таго, каб зрабіць прыемнасць таму ці іншаму чалавеку, групе, партыі, нацыі, а каб узнавіць ісціну...

Ды тут удалося мне дастаць іншым шляхам дзве апошнія старонкі працы Юргевіча, якія ў Міколы Іванавіча згубіліся. З іх я даведаўся, што артыкул быў напісаны ў Адэсе, скончаны 5 лютага 1881 года. Але гэта, зразумела, дробязі ў параўнанні з тым, што я прачытаў на перадапошняй, 28-й старонцы. Як вельмі важны, падаю гэты кавалак без перакладу:

«Представив мой опыт имен литовско-русских, я не могу не поместить здесь курьезного объяснения их, сделанного двумя литовцами Даниллом и Доугдарисом, напечатанного в Петербургской польской газете «Tygodnik Petersburgski» за 1850 год 17 июля.

Ягелло или Ягайло, по мнению Данилова (так у тэксце. — *Аўт.*), первое если боль, второе если жаль. По мнению Доугда-

риса это имя означает дельного всадника от литовского глагола ять /ехать/ и галеть /мочь/.

Кейстут, у Даниллы изменяющийся, у Доуглариса распаляющий, разогревающий, потому что кейсто означает согревать.

Кориат должно быть, как думает Данилло, правильно Кориант — поместил на или Курайт — куда идти, по Доугдарису воин и составлено из коре война, ять ехать.

Гедимин, как объясняет Доугдарис, значит превосходный певец, из доук много и мена понимает. То же имя, по Данилле, состоит из геда «стыд» и мин «топчет, попирает». Видно, этот князь был бесстыдным от рождения!

Свидригайло у Даниллы значит сердца жаль; у Доугдариса состоит из вить «гнать», рыть «уничтожать, истреблять» и галеть «мочь», следовательно значит: догнав могущий уничтожить.

Скиргайло у первого отнимает боль, у второго могущий делить. Скирть «делить» и галеть «мочь».

Войшелг, Вайшилг у первого — долгое пребывание, у второго Войсен, Войтовт, Вейтас значит волостной староста /Wyjt/.

Витовт у первого погоняющий, у второго могущий догнать. То же значение он находит и в имени Витень. В подобном роде у них объяснение и других слов».

Цяжка сказаць, ці ўсе тлумачэнні Даніллы ды Даўгдарыса перададзеныя Юргевічам правільна, ці правільна перадае ён расейскімі літарамі летувіскія словы (у летувіскай мове неазначальная форма дзеяслова канчаецца на «і», а Юргевіч піша «ять», «галеть»). Але ім заўважанае галоўнае: што паміж летувісамі няма згоды ў адшыфроўцы нібыта летувіскіх імёнаў, а адшыфроўкі часцей за ўсё атрымліваюцца проста дзівацкімі. Гэта паказвае, што Даніллам ды Даўгдарысам імёны адшыфроўваліся яўна не з той мовы, у якой былі дадзеныя. Бо для нас жа няма праблемаў калі мы спасцігаем сэнс імёнаў Владимир, Святослав, Всеволод. А яны ж не пазнейшыя, чым ліцвінскія. Наадварот. Святослав ды Владимир вядомыя нам з X стагоддзя, а найстаражытнейшае ліцвінскае Миндовг — з XIII-га. Імёны ж Гедимин, Ольгерд, Витовт, Кейстут — нават і з XIV-га. А летувісы спрачаюцца, як іх разумець.

Прайшло 140 год з дня публікацыі распрацовак Даўгдарыса і Даніллы. І вось у аднатомнай энцыклапедыі «Литва» /Вільнюс,

1989 (у далейшым — «Литва»), у артыкуле «Антропонимы» чытаем:

«Сначала двухосновные личные имена (маюцца на ўвазе княскія імёны. — *Аўт.*) имели благородный ономастический смысл: имена отражали человеческие качества. которые высоко ценились в народе /напр., «Гинтаутас» — «защищающий народ»/. Наиболее распространенные основы древнелитовских личных имен: таут — /«таута» — народ/, кант — /«кантрус» — терпеливый/, мин — /«минтис» — мысль/, вил — /«вильтис» — надежда/, гайл — /«гайле» — жалеть/. С течением времени система личных двухосновных имен утратила связь с нарицательными словами. Личные имена начали образовываться из механически слагаемых компонентов, поэтому смысл многих двухосновных имен стал трудно объяснимым» (падкрэслена мной. — *Аўт.*).

У энцыклапедыі гэтай артыкулы не падпісаныя. Але ў заключэнне тома сказана, што ў яго складанні бралі ўдзел А. Ванагас, З. Зінкявічус ды іншыя найбуйнейшыя мовазнаўцы Летувы. Выйшла «Литва» нядаўна. Значыць, прыведзеную з яе характарыстыку можна лічыць апошнім словам летувіскага мовазнаўства ў тлумачэнні літоўскіх імёнаў. І вось гэтае апошняе слова прызнае, што «смысл многих двухосновных имен стал трудно объяснимым», г.зн. адшыфраваць іх не могуць.

Пры гэтым аўтар артыкула «Антропонимы» (так і будзем яго называць далей) адважваецца на вельмі рызыкоўны пасаж. Ён заяўляе, што спачатку двухасноўныя літоўскія імёны даваліся з «высакародным анамастычным сэнсам», цалкам зразумелым, а потым сталі кампанавацца механічна, з-за чаго сэнс разбурыўся. Такім чынам. найболей зразумелыя — гэта. на ягоную думку, найболей старажытныя імёны. З гэтым наўрад ці згодзіцца хоць адзін аб'ектыўны філолаг. Наадварот, найменей зразумелыя антрапонімы, этнонімы, тапонімы — гэта якраз найстаражытнейшыя, з забытым сэнсам асноў. Не думаю, што аўтар «Антропонимов» гэтага не разумее. Дык для чаго спатрэбіўся такі тэзіс? Ды каб хоць неяк растлумачыць той дзіўны факт, што летувіская навука не можа адшыфраваць імёны, дадзеныя ў «летувіскай» мове.

Важна падкрэсліць: аўтар «Антропонимов» зусім не кажа, што сэнс нейкіх асноў страчаны. Ён упэўнена перакладае іх адну за

адной: товт /у яго таут-/ — «народ», мин — «думка», вил — «надзея», гайло — «шкадаваць»... Словы таўта, мінтіс, вільтіс, гайлетіс маюцца і сёння. Усе яны шырока ўжывальныя. Тым болей сэнс іх быў цалкам зразумелы і ў часы ўтварэння двухасноўных імёнаў. Значыць, людзі з цалкам зразумелых каранёў свядома ляпілі бязглуздзіцу, каб называць ёю сваіх дзяцей?

І з чаго аўтар «Антропонимов» узяў, што Гінтаўтас (у летапісах Гинтовт) — найстаражытнейшае літоўскае імя? Чым ён можа тое пацвердзіць? Упершыню яно згаданае, здаецца, пад 1401 годам /глядзі П. Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў. Мюнхэн – Нью-Ёрк, 1972, с. 51/. Дык няўжо яно старэйшае за такія, як Миндовг, Войшелк, Товтивил, Довмонт, вядомыя з летапісаў XIII стагоддзя?



*Удзельніца мардоўскага народнага хору*

Цяпер паглядзім, ці ўсё ў парадку ў аўтара «Антропонимов» з перакладам. Аснову мин ён узводзіць да мінтіс — «думка». Але ў мінтіс корань мінт — /mintyti — «думаць»/. Зразумела, што гэты корань уваходзіў бы ў імёны ў выглядзе минт, а не мин. Гэта ясна паказвае аснова шматлікіх літоўскіх імёнаў монт, што захоўвае «т» як напрыканцы імя /Скирмонт, Жигимонт/, так і ў сярэдзіне /Монтвил, Монтигирд/, а адрозніваецца ад мінт адным галосным гукам. Гэтаксама ў розных пазіцыях захоўваецца канцавое «т» асновы товт /Витовт, Товтивил/. Чым жа тады растлумачыць, што ў мінт яно «адпала»? Гэта — раз.

Другое — у летувіскай мове маецца слова minti, што азначае «таптаць», і корань ягоны — мін. Зразумела, што ў такіх умовах

адпадзенне «т» ад мінт, ператварэнне яго ў мін прывяло б да змены сэнсу. Значыць, калі б у імёнах была аснова минт, то яна і засталася б. А паколькі мы маем не минт, а мин, узводзіць гэтае мин у летувіскай мове можна толькі да minti. Але з «таптаць» не атрымліваецца «высакароднага анамастычнага сэнсу», імя Гедимин з дапамогай minti Даніллам адшыфроўвалася як «топча сорам». І аўтар «Антропонимов» прыцягвае нерэальнае ў дадзеным выпадку мінтіс. Толькі «сорам-думка» ці нашмат высакародней, чым «сорам-таптаць».

А аснова вил, сцвярджае аўтар «Антропонимов», — гэта корань слова вільтіс — «надзея». Сапраўды, у viltis корань віл. Але гэтае слова паходзіць ад viltis «спадзявацца», тое ж, у сваю чаргу — ад vilti «падманваць у надзеях», «расчароўваць». Незразумела? Рэч у тым, што viltis «спадзявацца» — дзеяслоў зваротны, на што паказвае канчатак -tis, які адпавядае нашаму -цца, расейскаму -ться. А vilti — з тым жа коранем віл — дзеяслоў прамы.



*Беларускія сялянкі ў святочным убранні*

Зваротны дзеяслоў — фактычна складанае слова, у якое ўключаецца займеннік «сябе». Такім чынам, летувіскае viltis «спадзявацца», калі яго супаставіць з vilti «расчароўваць», «падманваць у надзеях», азначае «расчароўваць сябе», «падманваць у надзеях сябе». Зразумела, што асобна ўзяты дзеяслоўны корань, без канчатку, які надае зваротнасць, успрымацца ў зваротным сэнсе не можа /мыць аніяк не можа даць сэнсу «мыцца»/.

Адсюль ясна, што корань віл, уваходзячы ў імёны без -tis, не можа азначаць «надзею», і калі б ён быў сапраўды летувіскім, то за ім стаяла б «расчароўваць», «ашукваць у надзеях», што не толькі не надае «высакароднага анамастычнага сэнсу», а і ўвогуле не стасуецца да імя, бо не могуць жа бацькі жадаць свайму дзіцяці, каб яно «расчароўвала», «ашуквала надзеі». А цяпер возьмем імя Товтивил /летувісы пішуць Таутвіла/. Згодна са схемаю аўтара «Антропонимов» /народ + надзея/, яно адшыфроўваецца прыгожа /«Народная надзея»/. Аб'ектыўна ж — «Народнае расчараванне», «Народны падман у надзеях».

Ды і з тымі значэннямі асноў, якія называе аўтар «Антропонимов», далёка не заўсёды выходзіць гладка. Вось, напрыклад, імя Мингайло. Мин, паводле аўтара, «думка», гайло — «шкадаваць». Як жа гэта зразумець? «Думка шкадуе» або «Думку шкадуе»?

Яшчэ імя з элементам гайло: Скиргайло. Па-летувіску skirti «рэзаць» або «дзяліць». Значыць, змест імя Скиргайло — «рэзаць-шкадаваць» або «дзяліць-шкадаваць». Абракадабра!

Дый увогуле ясна, што такая аснова, як «шкадаваць», можа прыдасціся толькі для вельмі абмежаванай колькасці імёнаў, у выглядзе выпадковага выключэння, бо шкадаванне каго або чаго можа быць зафіксаваным у імі? Бацькі? Маці? Свайго племя? Але ці бачыў старажытны чалавек нейкую карысць у бяздзейным шкадаванні? Думаецца, што у імённых формулах на месцы «шкадаваць» ён хутчэй ужыў бы «берагчы», «абараняць». Тым часам, з гайло імёнаў — цэлыя прыгаршчы: Мингайло, Яргайло, Сенгайло, Наргайло, Пунигайло, Кешгайло /Кезгайло/, Монтигайло /Мунтигайло/, Дангайло, Вежгайло, Довгайло, Виликайло, Нигайло, Стригайло, Коригайло, Ягайло, Швинтригайло /Свидригайло/, Скиргайло, Сунигайла, Свугайла /з кніг Юргевіча, Улашчыка ды Урбана/. І калі падысці да першай асновы іх з летувіскім слоўнікам, атрымліваецца часам такая лухта, што немагчыма стрымаць усмешку: Мингайло — «таптаць-шкада-

ваць», Вежгайло — «везці-шкадаваць» або «рак-шкадаваць», Ягайло — «ехаць-шкадаваць» /першая частка гэтага імя літуаністамі звычайна выводзіцца з joti «ехаць»/ і да т. п. А да цэлага шэрагу імёнаў увогуле не знаходзіцца апелятываў.

Аўтар «Антропонимов» прыводзіць з перакладам усяго пяць «найболей распаўсюджаных» асноваў княскіх імяў: товт, кант, мин, вил ды гайло. Пры гэтым ён прыкметна хітруе. На першае месца ставіць товт /у яго таут-/ з «высокародным» сэнсам, а гайло — на пятае. У сапраўднасці ж з прыведзенай пяцёркі найболей пашыраная — якраз гайло, бо імёны з ёю перабольшваюць імёны з товт ледзь не ўтрая /з товт вядомыя Витовт, Бутовт, Монтовт, Товтивил, Товтигерд, Гинтовт, Гаштовт/. У лік «найболей распаўсюджаных» трапіла ў аўтара і аснова кант, якую асабіста мне ўдалося напаткаць толькі ў кнізе Улашчыка, дый тое ў варыянце Выконт імя Викинт — дый, як бачыць чытач, у форме конт, а не кант, што не адно і тое ж.

А вось аснову монт /з варыянтам мунт/ не згадвае зусім, хаця імёнаў з ёю яшчэ болей, чым з гайло. Гэта па колькасці ўвогуле рэкардсмен сярод асноў літоўскіх імяў: Акгимонт, Амонт /Ямонт/, Видимонт, Гермонт, Довмонт, Жигимонт, Норимонт /Наримунт/, Ольгимонт, Писимонт, Скилмонт, Скирмонт /Скирмунт/, Рымонт, Монтвил, Монтигайло /Мунтигайло/, Монтигирд, Монтовт /паводле кніг М. Улашчыка, У. Юргевіча ды «Белоруссия и Литва»/; Валімунт, Крымунт, Кімунт, Мінімунд, Сігімунд, Монтрым /П. Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў/.

Чаму ж аўтар «Антропонимов» гэтую аснову прапусціў? Ды таму, што не можа ёй даць прыстойнага тлумачэння. У летувіскіх варыянтах імёнаў замест монт пішуць мантас: Скірмантас, Жігімантас, Нарімантас і г. д. А адзінае летувіскае слова, якое супадае гучаннем з гэтым мантас, — manta «маёмасць, манаткі, рэчы». І ў імі Скірмантас, дзе першую частку можна супаставіць з летувіскім skirti «дзяліць», канцы з канцамі нібыта зводзяцца: «дзяліць-маёмасць» — гэта, зразумела, не Владимир /«владеть миром»/, не Всеволод /«всем владеть»/, але штосьці блізкае да іх.

А вось Гермонт, дзе першую аснову могуць вытлумачыць праз geras «добры»: «добрая маёмасць» — ці ж можа такое імя быць дадзена чалавеку, дзіцяці? žygis — «паход»; значыць, Жігімантас — «паходная маёмасць»? А ўзяць Монтигайло: «маёмасць-

шкадаваць». Вядома, маёмасць трэба шкадаваць. Але няўжо княскаму сыну маглі даць імя як пажаданне «шкадаваць маёмасць»? Монтвил — «маёмасць + ашукваць надзеі», Мінімунд — «таптаць-маёмасць»... А ёсць і такія імёны з монт/ мунт, да якіх апелятываў зусім не падбярэш, напрыклад Сугімонт, Писимонд ды інш. Дый няўжо вярхушка феадальнага грамадства /а двухасноўныя імёны належалі ёй/ магла надаваць такое значэнне маёмасці, каб па-купецку, па-ліхвярску ўвесь час думаць адно пра яе?

Хто-небудзь скажа: навошта гэты бой з ценем, калі аўтар «Антропонимов» нават не згадвае монт, для чаго даводзіць, што гэтая аснова не вырашаецца з manta? Рэч у тым, што спробы тлумачыць монт праз manta ўжо былі: на «skirti + manta» разбіваў імя Скирмонт ковенскі даследчык В. Рымша /гл. БСИ-1980, с. 201/.

Аднак нестасоўнасць асновы manta да вялікай колькасці іншых занадта відавочная, каб яе не заўважалі. Таму яшчэ ў 1971 годзе два летувіскія лінгвісты, Б. Савукінас ды К. Кузавініс, прапанавалі іншую версію паходжання монт: быццам бы ў старажытнасці існавала слова mantus «кемлівы», утворанае з дапамогай пратэтычнага «т» ад mantuti «думаць, меркаваць» /гл. БСИ-1980, с. 201/. З такой прапановай згодны не адзін В. Рымша /гл. яшчэ ягоны арт. у: Системы личных имен у народов мира. М., 1989, с. 75/.

Амерыканскі даследчык расейскіх прозвішчаў, сярод якіх сустракаюцца і з монт /Бальмонт, Висмонт, Зимонт, з паходжання яны лічуцца летувіскімі / піша: «Эти фамилии соотносятся со славянскими именами на -мысл» /Б. Унбегаун. Русские фамилии. М., 1989, с. 278/. А вось аўтар «Антропонимов» не стаў карыстацца ёю, і я здагадваюся чаму. У аснове мин, узводзячы яе да мінтіс, ён дапускае страту канцавога «т», а К. Кузавініс з Б. Савукінасам, наадварот, сцвярджаюць, што ў монт — дадатковае «т», і калі б ён гэтую гіпотэзу падтрымаў, выйшла б зусім непрыгожа: у адным выпадку «т» адкідваем, у другім прышпільваем — дзе нам выгадна.

А калі mantus і сапраўды існавала, то што гэта дае для адшыфроўкі двухчленных імёнаў з монт? Вернемся да Скірмонт. З manta «маёмасць» яно яшчэ сяк-так вырашалася: «дзяліць маёмасць». Калі ж дапусціць, што тут mantus, атрымліваецца

«дзяліць-кемлівы»! Што ж гэта за пажаданне нашчадку: «умей дзяліць»? Няўжо такое ўменне важнае для шчасця чалавека?

Або Монтигайло: «кемлівы-шкадаваць». Няўжо для таго, каб шкадаваць, патрабуецца кемлівасць?

Мінімунд, калі ісці за аўтарам «Антропонимов», які выводзіць мин ад мінтіс «думка», адшыфруецца як «думка-кемлівасць» — непатрэбная таўталогія. А калі разглядаць мин як корань дзеяслова minti «таптаць» /чаго вымагае летувіская мова/, то Мінімунд — «таптаць-кемлівы». Нішто сабе кемлівасць: таптаць!

Монтвил, калі згадзіцца, што вил — гэта вільтіс «надзея», складзецца з «кемлівы-надзея». Як гэта разумець? А «кемлівы + падман у надзеях» — што гэта за імя?

Падобныя недарэчнасці ўзнікаюць амаль што кожны раз, калі спрабуеш адшыфраваць праз mantus шматлікія імёны з монт. І гэта зразумела. «Кемлівы», «разумны» і да т. п. не могуць утвараць шмат лагічных спалучэнняў з іншымі словамі. Прытым паколькі яно само па сабе з'яўляецца азначэннем, то азначэння для сябе, г. зн. другой асновы не патрабуе. Тлумачальнымі словамі да «кемлівы» могуць быць: «вельмі», «хутка» — што яшчэ? /«Мала кемлівы» — такога імя-пажадання я не ўяўляю/.

Тлумачэнне монт праз прыдуманае mantus не ўлічвае яшчэ той акалічнасці, што частка імёнаў на монт мае варыянт з мунт. Чаму адно mantus дало ў славянскіх летапісах два напісанні? Амерыканец сцвярджае, што Скирмунт — «восточнолитовская форма» (Унбегаун, с. 278). Аднак Рымша, двойчы аналізуючы Скірмантас /БСИ — 1980, с. 201; Системы личных имен у народов мира, с. 75/, варыянта Скірмунт зусім не згадвае, з чаго можна заключыць, што ў летувіскай мове няма дыялекту, у якім mantus магло б перайсці ў muntus.

Цяпер пяройдзем да такой важнай падрабязнасці. Як летувіскія, так і шматлікія нелетувіскія даследчыкі чамусьці перакананыя, што выходныя формы імёнаў Миндовг, Войшелк, Скирмонт, Ольгерд ды г. д. — летувіскія Мідаўгас, Вайшвілкас, Скірмантас, Альгірдас, г. зн. летувісы іх пішуць правільна, і нашы продкі, што складалі летапісы, скажалі. Летувіскія напісанні ўжо фактычна выціскаюць летапісныя з гістарычнай літаратуры, энцыклапедычных выданняў на расейскай мове. Дык давайце разбяромся ў гэтым.

Аніякіх летапісаў на летувіскаи мове не існуе і не існавала, бо летувіская мова займела пісьмовасць толькі ў 1547 годзе, дый пасля гэтага гадоў 150 на ёй выдавалася толькі рэлігійная ды мовазнаўчая літаратура. Такім чынам, пры жыцці Міндоўга, Войшалка ды іншых літоўскіх князёў імёны іх на летувіскай мове не фіксаваліся, і сучасныя летувіскія напісанні гэтых імёнаў — толькі рэканструкцыя на падставе славянскіх, г. зн. дапушчэнні, як яны маглі гучаць па-летувіску, а не аутэнтычныя, дакументальна зафіксаваныя формы. Паглядзім жа, ці ў правільным кірунку вялася тая рэканструкцыя, ці няма ў ёй нацяжак.

Монт, сцвярджаюць літуаністы, атрымалася з мантас. Выходзіць, у летапісцаў-славянаў з «а» пры напісанні княскіх імёнаў атрымлівалася націскное, добра чутнае «о». Чаму, з якой прычыны? Ці нашы продкі былі глухія? Ці, можа, у славянскіх мовах ёсць такі закон — запазычанае «а» перарабляць у «о»? Няма такога закону, ні ў беларускай, ні ў польскай (Унбегаўн піша, што монт «представляет собой польскую форму литовского mantas. Гл. с. 278).

А вось у летувіскай мове запазычанае націскное «о» часта перарабляецца ў «а»: Воін /імя/ яны пішуць Vainius, Казлоўскі ў іх — Казлаускас, Каліноўскі – Калінаускас ды г.д. Нарімантас у беларускім маўленні нізавошта не стаў бы Нарымонтам, бо беларуская мова «акае», яна схільная замяняць «о» на «а», а не наадварот. Летувіс жа не можа сказаць Нарімонтас, бо гэта было б парушэннем фанетычнай нормы. Значыць, першаснымі формамі імёнаў з монт былі якраз летапісныя, а не «рэканструяваныя» летувіскія. Гэта яны і з'яўляюцца скажэннем аўтэнтычных формаў, бо імёны з монт — чужыя для летувіскай мовы, не ўласцівыя ёй фанетычна. І гэта пацвярджаецца тым фактам, што не толькі ў летапісах — і ў разнастайных іншых дакументах, што выходзілі з канцылярыі вялікіх князёў /напрыклад, Жыгімонта/, монт як мант і тым болей як мантас не пісалася ніколі.

Тое сама тычыцца і асновы товт, якую летувісы перадаюць як таутас. Не пісалі б летапісцы Витовт, калі б сапраўднае імя гаспадара было Вітаутас. Ці гэтая форма хаця б прарывалася ў іх то ў выглядзе Витавт, то Витаутас, Витавтас. Але такіх формаў мы не сустракаем. Затое маюцца іншыя варыянты, міма якіх аб'ектыўны даследчык не мае права прайсці: імя Витовт у летапісах нярэдка пішацца Витолт, а ў палякаў ён увогуле Вітольд (Унбе-

гаўн піша, што <u>товт</u> — «польская форма литовского <u>tautas</u>». Гл. с. 278). Ці магло <u>Витолт</u>, <u>Вітольд</u> утварыцца з <u>Вітаутас</u>? Безумоўна. не. Разважаючы над імем <u>Витовт</u>, прыходзіш да высновы, што ягонай першаснай формай было <u>Витолт</u> або <u>Вітольд</u>, а шырока прынятае <u>Витовт</u> з'яўляецца вынікам беларусізацыі, вядома ж, што ў беларускіх гаворках у такой пазіцыі «л» пераходзіць у нескладовае «у», блізкае да губна-губнога «в»: па-расейску <u>волк</u>, <u>колтун</u> — па-нашаму <u>воўк</u>, <u>каўтун</u>. А ў летувіскай мове <u>Витовт</u>, узятае з летапісаў, магло трансфармавацца толькі ў <u>Вітаутас</u>, як робіцца ў іх <u>Якубаускасам</u> наш <u>Якубоўскі</u>.

Значыць, падсумуем: і <u>Витовт</u> — чужое для летувісаў імя, і часцінка <u>товт</u> /<u>толт</u>, <u>тольд</u>/ — для іх чужая. Таму, дарэчы, і не складваюцца асновы ў такіх імёнах, як <u>Товтивил</u>, <u>Гаштовт</u>, калі іх лічыць летувіскімі: з <u>Товтивила</u> атрымліваецца «народны падман у надзеях», а да першай асновы імя <u>Гаштовт</u> увогуле немагчыма падабраць апелятыў.

Ды і там, дзе асновы нібыта складваюцца, фактычна атрымліваецца «нескладуха». Які сэнс укладвае аўтар «Антропонимов» у адшыфроўку імя <u>Гинтовт</u>, прапанаваную ім: «обороняющий народ»? Чалавек, які абараняе народ? Але ж у балцкіх мовах азначэнне заўжды стаіць <u>перад</u> азначаемым словам, і ў аніякім разе не наадварот. Параўнайце нашае «дружба народаў» з летувіскім <u>tautu</u> <u>drugystė</u> поўным адэкватам нашага выразу /гл. Русско-литовский словарь в 4 тт. Вильнюс, 1983, т. 2/. Летувіская форма нашую быццам бы пераварочвае: «дружба народаў» — «народаў дружба».

Таму ў двухчленным летувіскім імі, зразумела, вядучай, галоўнай асновай павінна быць другая, а тая, якая папярэднічае ёй, першая — азначэнне, і калі б <u>Гинтовт</u> было летувіскім імем, калі б яно сапраўды складалася з летувіскіх асноў «абарона + народ», то гэта азначала б «народ, які абараняе», «абаронцы народ», а не «абаронца народа». Але ж ні пры якіх азначэннях слова «народ» не можа быць імем асобнага чалавека.

Вось яшчэ адна выключна важная асаблівасць. У летапісах — <u>Миндовг</u>, <u>Ольгерд</u>, <u>Витовт</u>. А летувісы тыя сама імёны /як і шмат іншых/ пішуць з «с» напрыканцы: <u>МіндаугАС</u>, АльгірдАС, <u>ВітаутАС</u>. Такая ў летувіскай мовы рыса: калі слова канчаецца не на галосны гук, то абавязкова — на «с». Гэта — архаічны канчатак, які лічыцца сведчаннем вялікай старажытнасці ды некранутасці

летувіскай мовы. Ужываючы пералічаныя ды іншыя імёны з гэтым «с» і ў напісанні па-расейску, у чым можа пераканацца кожны, хто возьме ў рукі хаця б энцыклапедыю «Литва», летувісы, такім чынам, сцвярджаюць, што канчатак «с» быў уласцівы літоускім імёнам ад пачатку, а летапісцы, адкідваючы тое «с», іх скажалі.



*Панчохі і рукавіцы комі з арнаментам. На панчохах – свасціка*

Але навошта б тое рабілася?.. Ці ёсць у славянскіх мовах закон, згодна з якім напрыканцы слова не можа стаяць «с»? Няма такога закона, і «с» у зыходзе слова — беларускага, расейскага, украінскага — бывае нярэдка: колас, голас, волас, квас... Маюцца ў нас і імёны з «с» напрыканцы: Панас, Улас, Пратас, Тарас, Барыс. Вось гуку «й» напрыканцы слова беларуская мова не церпіць, дык і атрымалася з Афанасий — Панас, з Власий — Улас. А «с», як бачым, пасля гэтай «аперацыі» якраз агаліўся, аказаўся напрыканцы, і паспрабуй адсячы яго!

Не, наша мова супроць канцавога «с» нічога не мае. І ў выніку ў летапісах нямала неславянскіх імёнаў, якія канчаюцца на «с». Так, у кнізе М. Улашчыка «Введение в изучение белоруско-литовского летописания», што пераказвае летапісы, можна сустрэць /гл. іменны паказальнік/: Немонос, Вилюс, Гедрус, Гравзиссус /Грависюс/, Игровкис, Кгровжс, Доспрунгус, Ейкшис, Ликшис, Эвксюс, Кернус, Кунос ды іншыя. А для імёнаў з монт, товт ды шэрагу іншых, як Ольгерд, Кейстут, Гедимин, Миндовг, Войшелк — гэта далёка не ўсе! — М. Улашчык не дае аніводнага варыянта з канцавым «с». Гэта можа азначаць толькі адно: што першасныя іх варыянты канцавога «с» і не мелі.

Значэнне гэтай, здавалася б, дробязі ўспрымаеш адно тады, калі згадваеш, што канцавое «с» уласціваe ўсім вядомым балцкім мовам: летувіскай, латышскай, прускай, «яцвяжскай» /мова племені, што жыло на Нараве, слоўнічак яе знойдзены брэсцкім

студэнтам В. Зіновым. Гл. пра гэта: БСИ — 1983, арт. З. Зінкявічуса «Польско-ятвяжский словарик?»/. Адсутнасць абавязковага канцавога «с» у літоўскіх імёнах гаворыць за тое, што мова летапіснай літвы не была балцкай.

Яшчэ цікавая дэталь. Паглядзіце на такія пары варыянтаў: Скирмонт — СкирИмонт, Монтвил — МонтИвил. Што такое «и» у СкирИмонт перад монт, у МонтИвил перад вил? Правільна: злучальны галосны гук. Злучальны «і» — уласнасць шмат якіх ліцвінскіх імёнаў: АкгИмонт, ВидИмонт, ОльгИмонт, КорИбут, КорИгайло, МонтИгайло, ТовтИвил, ЭрдИвил ды інш. Таму і там, дзе яго няма /Ольгерд ды інш./ можна дапусціць, што ён меўся, бо гук «і» ў славянскіх мовах даволі няўстойлівы: пасля галоснага пераходзіць у «й» /вайна/, а пасля зычнага перад галосным — у ноль гуку /мгновение — мгновенье/.

З другога боку, у славянскіх складаных імёнах таксама сустракаецца злучальны «і» /Мстислав, Ростислав/, таму можна было б падумаць, што злучальны «і» ўнесены ў ліцвінскія імёны славянамі-летапісцамі, а ўвогуле яго не існавала. Але ў славянскіх двухчленных імёнах у якасці злучальнага галоснага выступае не толькі «і»: Ярослав, Осмомысл — «о», Изяслав — «я», Всеслав — «е». У ліцвінскіх жа злучальны галосны — толькі «і», а «о» сустракаецца выключна рэдка і толькі ў варыянтах (Миндовг — варыянт імя Миндовг, Жидомонт — варыянт імя Жигимонт), якія і можна якраз растлумачыць славянскасцю летапісцаў. Такім чынам, ліцвінскія імёны мелі злучальны гук, і гукам гэтым быў «і».



*Свасціка — старажытны сімвал сонца — ў беларускім арнаменце*

А вось у летувіскіх складаных словах злучальнага гуку няма. Як паказваюць назіранні над слоўнікам, большасць летувіскіх складаных словаў уяўляе з сябе механічна складзеныя асновы, хай бы нават першая канчалася на зычны гук, а другая пачыналася з зычнага: jurligė — «марская хвароба» /jura «мора», ligė «хвароба»/; duonkubilis — «дзяжа» / duona «хлеб», kubilis «чан»/; žem-

grindas «непрыкметная дарога пад вадой» / žemas «нізкі», grindas «гаць з бярвенняў»/; žemdirbis «земляроб» / žeme «зямля» dirbti «працаваць»/. Зрэдку між асновамі ўзнікае галосны гук, але гэта той самы гук канчатку, што ідзе пасля ў слове: mažakalbis — «малагаваркі» /mažas «малы», kalbus «гаворкі»/. Можна з упэўненасцю сказаць, што злучальнага «і» летувіскай мове няма. Такім чынам, злучальны «і» ліцвінскіх імёнаў таксама гаворыць за тое, што яны — нелетувіскія.

Падвядзём рахунак. Гайло не можа быць летувіскім коранем, бо гайлетіс «шкадаваць» не ў стане спалучацца з вялікай колькасцю іншых асноваў, а імяў з гайло да двух дзесяткаў. Па той прычыне не адпавядаюць аснове монт летувіскія manta «маёмасць» ды «рэканструяванае» mantus «кемлівы». У дадатак гіпотэза аб паходжанні монт ад гэтых словаў не пацвярджаецца фанетычна /недаказальны пераход «а» ў націскное «о»/ і дыялектна /наяўнасць, апрача монт, варыянта мунт/. Нічога лепшага да монт летувіская мова прапанаваць не можа, таму і монт — аснова нелетувіская. Не адпавядае аснове товт летувіскае tauta «народ», бо праз яго, па-першае, немагчыма вытлумачыць наяўнасць варыянтаў толт, тольд, па-другое, слова «народ» ані ў якіх спалучэннях не можа быць імем асобнага чалавека. Такім чынам, і товт — аснова нелетувіская.

Тым часам імёны з асновамі монт, гаило, товт складаюць ці не 70–80 працэнтаў усіх ліцвінскіх двухчленных імёнаў. А ў гэтыя імёны, апрача монт, гайло, товт, уваходзяць такія, як кор, вид, вил, мин, гевд, скир, дов, гин /Коригайло, Видимонт, Товтивил, Мингайло, Монтигирд, Скирмонт, Довмонт, Гинтовт ды інш./. Значыць, і гэтыя асновы — нелетувіскія. А з імі, у сваю чаргу, спалучаюцца яшчэ некалькі рэдкіх асноваў: бут, ат, ерд, гил /Корибут, Кориат, Ердивил, Гилигин/.

І як бачым, нелетувіскімі з'яўляюцца каля 15 асноў ліцвінскіх імяў. За іх межамі аказваюцца толькі Войшелк, Витень, Кейстут. Аднак гэта зусім не азначае, што хаця б яны — летувіскія, бо аніводнае з іх не раскрываецца з дапамогай летувішчыны без нацяжкі. Войшелк летувісы пішуць Вайшвілкас, мабыць, лічачы першасной выпадковую летапісную форму Войшвилок. Вайшвілкас можна падзяліць ад зіна на vaišus «гасцінны» + vilkas «вок»: сэнс дастаткова цьмяны! Але каб ён і быў прымальны, усё роўна Войшвилок у летапісах пішацца ўсяго разы са два, а Вой-

шелк — шматразова, дык і няма падставаў лічыць, што Войшвилок больш правільная форма, чым Войшелк. Витень па-летувіску Вітяніс, але такога слова ў летувіскай мове няма. Кейстут па-летувіску — Кястутіс, кясті — «цярпець»; але ж форма Кястутіс не ўлічвае, што ў асноўнай летапіснай форме пасля «е» стаіць «й», якога летапісцы без дай прычыны ўставіць не маглі.

Зрэшты, нельга адмаўляць, што ў ліцвінаў маглі быць і адзінкавыя летувіскія імёны. Плямёны ж жылі побач, сумаўляліся, штось бралі адно ў аднаго. Але асноўная маса ліцвінскіх імёнаў — свае, самабытныя, дадзеныя ў мове, якую нават нельга лічыць балцкай, бо не прызнае рэгулярнага «с» напрыканцы слова.

А шматлікія даследчыкі ўсё стараюцца — не кіем, дык палкай загнаць усё-такі гэтыя імёны ва ўлонне чужое мовы. Вышэй ужо былі паказаны спробы Б. Унбегаўна растлумачыць розніцу паміж mantas ды монт, tautas ды товт «польскім уплывам». Спробы гэтыя ясна паказваюць няведанне аўтарам польскай мовы. Наш Жучкевіч называе монт «летувіскім фармантам» /КТСБ, Гірмантаўцы/, Р. Аўчыннікава сцвярджала, што гэта «часцінка... якая азначае дэмінутыўнасць, памяншальнасць» /адзін з ейных артыкулаў у «Чырвонай змене»/. Але ж ці можа фармант, суфікс стаяць на пачатку імя, як монт у Монтвил, Монтигайло, Монтовт?

Вытлумачваючы ліцвінскія цаглінкі праз летувіскія карані, даследчыкі самі не заўважаюць, да якой лухты дагаворваюцца. Так, В. Рымша падзяляе імя Корибут на karas «вайна» + butas «дом» /Системы личных имен у народов мира, с. 75/. «Ваенны дом» — ці ж гэта можа быць імем? Ці у старажытных было такое абстрактнае мысленне, да якога нам далёка?

Вось і думаецца, што досыць ужо ў аналізе ліцвінскіх імяў таптацца ў летувіскім тупіку, час выходзіць на іншую дарогу.

Пераважная большасць ліцвінскіх імёнаў — двухчленныя. Гэта — складаныя словы. Таму для вызначэння мовы, у якой яны дадзеныя, трэба, мабыць, шукаць такую, для якой характэрнае словаскладанне. З найбліжэйшых гэта — германскія. Але ліцвінскія імёны амаль ніхто не лічыць германскімі /адзіную спробу ўзвесці іх да скандынаўскіх мы яшчэ разгледзім/. А як наконт словаскладання ў фіна-вугорскіх мовах?

Аказваецца, усім ім яно добра ўласцівае, і асабліва — пермскім, дзе такі спосаб словаўтварэння вельмі прадуктыўны. Тут агульная, родавая назва прадметаў, істот, з'яў нярэдка ўключаецца ў канкрэтную, гатунковую /відавую/. Гэта вельмі яскрава праяўляецца ў гідраніміі, дзе сотні назваў канчаюцца на адно ва /«рака»/, ю /«рака»/, ёль /«рэчка»/, ты /«возера»/. А вось прыклады з іншых галін лексікі.

Слова турун /«трава»/ у комі-зыранскай мове ўключаецца ў безліч траўных назваў: мята палявая — душник турун, исань турун; мятлік лугавы — ситурун /«волас-трава»/; юрси турун /«галаўны волас-трава»/; асака — пыридз турун; трыпутнік — пыкöс турун /«пухлінная трава»/; пушыца /тундравая трава з зырка-белаю галоўкаю, падобнаю да бавоўны/ — гöна юра турун /«трава з пушыстай галавой»/; пырнік — шепта рудзöг турун /«трава з жытнім коласам»/ ды г.д.

Для абазначэння двух тыпаў грыбоў у комі мовах маюцца словы тшак /грыб з пласцінкамі тыпу сыраежкі/ і гоб /трубчасты/. Тшак /чытаецца чак/ ды гоб уключаюцца ледзьве не ў кожную назву грыба: сыраежка — уртшак /«вавёрчын грыб»/, грузд /жоўты/ — йöла тшак /«малочны грыб»/; мухамор — гут кулан тшак /«грыб паміраючай мухі»/; лісічка — уллё тшак /«вільготны грыб»/; баравік — еджыд гоб /«белы грыб»/, дона гоб /«каштоўны грыб»/; абабак — кöчгоб /«заечы грыб»/; падасінавік — гöрд гоб /«чырвоны грыб»/; гöрд юра гоб /«грыб з чырвонаю галавой». На Капыльшчыне падасінавік называюць «краснагаловікам»/.

У назвы шмат якіх дрэў і кустоў уключаецца слова пу — «дрэва»: хвоя — пожöм пу, елка — кöз пу, кедр — сус пу, вольха — ловпу, вярба — бадь пу, каліна — жов пу /гл. Краткий коми-русский, русско-коми ботанический словарь. Аўтар А. Н. Ракин, на вокладцы не ўказаны. Сыктывкар, 1989/.

Аса па-комі-зыранску зі. Гэтае слова ўключаецца ў назвы пчалы ды чмяля /мазі/ — «мядовая аса», авадня /вöвзі — «конская аса»/.

Гэты прынцып распаўсюджваецца не толькі на назвы насякомых. — «Да нядаўняга часу ў комі захоўвалася вера ў ніжэйшых духаў — лесавіка ворса, вадзяніка васа, бауса» / А.Ю. Айхенвальд, В.Я. Петрухин, Е.А. Хелимский. К реконструкции мифологических представлений финно-угорских народов. — БСИ-

1981, с. 172/. «Краткий этимологический словарь коми языка», М., 1970/ (у далейшым — КЭСКЯ) дае: войса — калядны злы дух, ад вой «ноч, поўнач /напрамак свету/». Як бачым, назвы пералічаных духаў канчаюцца на са, што і азначае «дух». Ворса ідзе ад вӧр «лес», васа ад ва «вада», а бауса ад бау «карова», так што сааўтары артыкула «К реконструкции...», мабыць, памыляюцца, сцвярджаючы, што бауса, як і васа — «вадзянік».

Шмат духаў комі носяць імёны, у якія ўваходзіць слова морт — «чалавек». Найболей значны з іх — Ягморт, «Чалавек Хваёвага Бору». Аўтары артыкула «К реконструкции...» называюць яго «лясным людаедам». Тут жа яны паведамляюць, што ў комі-пермякаў маюцца духі Ваисьморт, Вэрисьморт (с. 172). Калі і духі — «людзі», то не прыходзіцца здзіўляцца, што і фальклорныя героі носяць назвы, у якія ўваходзіць «морт».

Цэлы россып такіх імёнаў змяшчаецца ў фальклорных запісах і апрацоўках, якія зрабіў выдатны комі вучоны і пісьменнік Калістрат Жакаў (1866–1926): Бурморт /Добры Чалавек/, Качаморт /кач — кара піхты, якую ў галодны час елі/, Мичаморт /Прыгожы Чалавек/, Шорморт /Чалавек Ручая/, Саридзморт /Марскі Чалавек/, Пармамонт /парма — «возвышенное ровное место, покрытое елью»/, Бараморт /бара — «зноў»/, Вэрморт /Лясны Чалавек (глядзі: К. Жаков. Под шум северного ветра. Сыктывкар, 1990, раздзел «Сказки и предания»)/.

Калі прыгледзецца да гэтых фальклорных імёнаў, то можна адчуць, што яны быццам падзяляюцца на дзве групы: адна — тая, якая дае іх носьбітам характарыстыкі паводле іх чалавечых якасцяў: «добры», «прыгожы», другая — па месцы жыхарства або валодання нейкай мясцовасцю /ручай, лес, мора/. Такім чынам, з канцоўкай морт спалучаюцца самыя розныя словы.

А цяпер вернемся да ліцвінскіх імёнаў і прывядзём з іх тыя, што канчаюцца на монт: Акгимонт, Амонт, Видимонт, Гермонт, Жигимонт, Довмонт, Норимонт, Ольгимонт, Писимонт, Скилмонт, Скирмонт, Рымонт, Ямонт /узятыя з кніг: Н.Улащик...; Белоруссия и Литва/, ёсць і імёны, якія гэтым сама элементам пачынаюцца: Монтвил, Монтигайло, Монтовт, Монтигирд /з кнігі М. Улашчыка і працы У. Юргевіча/. У кнізе Улашчыка маецца таксама Висимот, якое, падобна, з'яўляецца формай імя Висимонт, бо Унбегаўнам адзначанае сучаснае прозвішча Висмонт. Акрамя таго, Унбегаўн дае прозвішчы Бальмонт, Зимонт,

Эймонт, Эйсмонт, Монтвид, Скирмонт, Ямонт. Два апошнія супадаюць з княскімі імёнамі, што падтрымлівае паралель паміж прозвішчам Висмонт ды імем Висимот. Дадамо да гэтага даўняе імя-прозвішча Лермонт /Р. Аўчыннікава/ ды сучаснае Вильмонт.

Пэўныя з гэтых імёнаў ды прозвішчаў маюць варыянт з мунт: Скирмонт — Скирмунт, Наримонт — Наримунт, Монтигайло — Мунтигайло, Лермонт — Лермунт і нават Висимот — Вишимут, чым апошняя пара паказвае, што яна — з таго ж гнязда назваў на монт — мунт. Маюцца і імёны на мунт, якія не маюць пары з монт: Кримунт, Ромунт. Але ясна, што яны — таго ж паходжання і тыпу. Таму далучым да пералічаных імёны на мунт /мунд/, узятыя Урбанам з дзяржаўных актаў Вялікага Княства Літоўскага: Валімунт, Кімунт, Мінімунд, Сугімунд, а таксама Монтрым /П. Урбан. У святле гістарычных фактаў, с. 50–51/.

Як бачым, у гэтых імёнах ды прозвішчах з монт — мундт спалучаецца каля дваццаці пяці розных іншых слоў або каранёў. Гэта ясна паказвае, што значэнне монт — мунт павінна быць нейкім універсальным. Такую колькасць азначэнняў не далучыш ні да «маёмасць», ні да «кемлівы». І комі фальклорныя імёны з морт падказваюць нам, што такім словам можа быць «чалавек».

Па гучанні монт і морт вельмі блізкія. У такіх жа суадносінах знаходзяцца мунт і ўдмурцкае мурт — таксама «чалавек». Гэтае мурт, як і морт, уваходзіць у імёны мноства духаў: Ягмурт — «Чалавек Хваёвага Лесу», Нюлэсмурт — «Лясны Чалавек», Чамурт — «Чалавек Лясных Нетраў», Сикмурт — «Чалавек Лесу», Вумурт — Вадзянік, Мунчомурт — дамавік /літаральна Чалавек Лазні/, Палесмурт — аднавокі волат, Гудмурт — міфічная істота, якая жыве ў пуні (глядзі Удмуртские народные сказки. Ижевск. 1976. с. 319–320).

Прызнанню, што монт — гэта морт, а мунт — мурт крыху замінае несупадзенне н — р. Але, я думаю, праз яго пераступіць лёгка. Я ж не сцвярджаю, што трэць ліцвінаў гаварыла на комі-пярмяцкай, трэць — на комі-зыранскай, а рэштка — на ўдмурцкай мовах. Ліцвінская мова /з яе дыялектамі/ была адной з пермскіх моваў таго часу. Зразумела, што яна шматлікімі рысамі — як беларуская да іншых славянскіх — была падобнаи да трох пералічаных, а чымсьці і адрознівалася ад іх, бо і комі мовы ды ўдмурцкая не супадаюць між сабою.

Паглядзіце: калі ў комі мовах «расеец» — роч, то па-ўдмурцку — уч, што чытаецца як дзючь. Гэта не выпадкова. Ва ўдмурцкай мове няма пачатковага р /апрача запазычаных словаў/, г.зн. незапазычанае ўдмурцкае слова не можа пачынацца на р, у той час як у комі мовах — можа. Комі-зыранскаму ды комі-пярмяцкаму р на пачатку ўдмурцкага слова адпавядаюць гукі ӟ /дз/ або ӝ /дж/, ды яшчэ ў дадатак часта мяняецца і галосны пасля р, з-за чаго слова прымае зусім іншы выгляд: па-комі-зыранску «гронка» роз — па-удмурцку ӟуски, па-комі-зыранску «каша» рок — па-ўдмурцку ӝук, па-комі-зыранску «мох» рой — па-ўдмурцку ӝуй. (Гэта нагадвае лёс р у славянскіх мовах: па-беларуску «рака», па-польску жэка, па-чэшску ржэка. Ці не адбіліся ў гэтым дыялекты пярмянаў, што ўвайшлі ў склад беларусаў, палякаў, чэхаў?)

Такім чынам, ліцвінская мова магла мець асаблівасць, згодна з якой пасля «о» перад «т» р пераходзіла ў н. На гэта паказвае такая падрабязнасць. Па-комі-зыранску і комі-пярмяцку «дом» — горт. У нас маецца слова гонт, што азначае матэрыял, якім крыюць дах. Дах, як вядома, завяршае дом — адсюль гонт цалкам можа мець паходжанне ад ліцвінскага гонт «дом», паралельнага комі горт. (Слова гонт «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» /том 2/ лічыць запазычаным з польскай, але і ў польскую яно магло прыйсці з ліцвінскай.)

Пераход морт у монт мог адбыцца і пад уплывам старажытнагерманскага mand «мужчына» /захавалася ў дацкай мове/. А што кантакты паміж літвой і старажытнымі германцамі былі, мы яшчэ пабачым.

Але, зразумела, само па сабе монт вырашае не ўсё. Не меней важна, да якіх асноў яно далучанае. І калі мы дапускаем, што монт — пермскага паходжання, то і другая частка імёнаў з монт павінна быць галоўным чынам пермскай /пішу «галоўным чынам», а не «цалкам», бо ў імёны маглі трапіць і запазычаныя ў ліцвінскую мовы асновы/.

У артыкуле «Племя пяці родаў» я ўжо аналізаваў імёны Скірмонт, Жыгімонт і Нарымонт /болей я тады і не ведаў. І прыйшоў да высновы, што ў іх, апрача пермскага морт, змяшчаюцца комі-пярмяцкія жыга «страшны», скӧр «сярдзіты», нар «сонны» /у пермскіх мовах нар — «нары»/. Я тыя словы свае не бяру назад, толькі мушу іх крыху дапоўніць.

Вялікіх князёў літоўскіх Жыгімонтаў шматлікія аўтары называюць Сігізмундамі, лічучы, што Жыгімонт — летувіская форма еўрапейскага імператарскага імя, што на лаціне пісалася Sigismundas. Так, Улашчык увесь час называе Сигизмундом Кейстутьевичем Жыгімонта Кейстутавіча. Але ў тых рэдкіх выпадках, калі ён цытуе летапісныя кавалкі з гэтым імем, ніякага Сігізмунда ў іх няма: летапісцы называюць вялікага князя або Жикгимонт, або Жидимонт /Н.Улащик, с. 31, 47/. Пскоўскі летапіс дае або Жидимонт, або Жидомонт. Нарэшце, як на тытуле, так і ў прадмове да Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года імя караля і вялікага князя Літоўскага (Жыгімонта Трэцяга) пішацца як Жикгимонт.



*Бурак і коўш з бяросты (посуд марыйцаў)*

Перарабляць Сігізмунда ў Жыгімонта летувісам не было ніякай патрэбы, бо летувіская мова пачатковае с мае. Гэтаксама і пермскія мовы не перарабляюць пры запазычанні пачатковае с, бо тут яно сустракаецца ў масавай колькасці.

І яшчэ. Сігізмунд І, імператар Свяшчэннай Рымскай Імперыі, нарадзіўся у 1368 годзе, а імператарам стаў у 1410-м. Жыгімонт жа, сын князя Кейстута, нарадзіўся каля 1365 года, г.зн. быў старэйшы за Сігізмунда І — дык, зразумела, не мог атрымаць імя ў ягоны гонар. Такім чынам, Жыгімонт — прыроднае ліцвінскае імя, якое потым сталі блытаць з Сігізмунд з-за вонкавага падабенства.

Улашчык дае варыянты Наримунт ды Норимонт. Такім чынам, аснова гэтага імя можа быць і нор. Для такога выпадку масцца ў комі мовах слова нор — «скарга»: Норимонт — «Чалавек, які скардзіцца», «жаліцца». Па-ўдмурцку нор — «шум»; адсюль Норимонт — «Шумны чалавек».

Апрача комі-пярмяцкага скӧр, у Скирмонт — Скирмунт можа змяшчацца і ўдмурцкае сукыр — «сляпы».

Чытач можа зазначыць, што азначэнні, якія адкрываюцца ў імёнах, нейкія не святочныя: «страшны»; «сонны» або «жаласлівы»; «злы» або «сляпы», а нараджэнне дзіцяці заўсёды свята. Але трэба разумець людзей, якія давалі тыя імёны. Гэта былі паганы, для якіх у кожным кусце хаваўся злы дух, што быў не супроць паласавацца дзіцячым целам і душою. Таму імёны даваліся і такія, каб адпудзіць духа: маўляў, навошта ён табе такі — «сонны», «сляпы»?

Вось што піша Атаманаў («Удмуртская ономастика», с. 112):

> «Як і ў імянніках шмат якіх народаў свету, ва ўдмуртаў таксама зафіксаваныя імёны, закліканыя адпужваць, адштурхваць: Шакта «дрэнны, непрыемны», «бруд, смецце»; Жага, Жагей, Жаг̌зи: жаг «смецце, хлам» /-а, -ей, -з̌и — суфіксы/; Гордошли «чырвоны бычок»; Кионбыж «ваўчыны хвост»; Кый «змяя» ды інш. Бацькі верылі, што нованароджаны з такім імем зможа пазбегчы ўздзеяння дрэннага вока ды злых духаў, што выклікаюць хваробы. Пры частых хваробах учынялі абрад ним вошто̆н /«замена імя»/. Пры гэтым у якасці імя часцей за ўсё прысвойвалі назвы звяроў, птушак або імёны, якія адпужваюць, адштурхваюць».



*Беларуская дзяжа з бяросты*

У ліцвінаў асабліваe ахоўнае значэнне мелі, мабыць, імёны, што азначалі «страшны», «злы, сярдзіты». Таму і вядомыя некалькі Жыгімонтаў; апрача імя Скірмонт, было Скіргайла. Видимонт мела падобнае значэнне, бо па-комі видны «лаяць». Імя Мендоўг у «Племі пяці родаў» я адшыфроўваў як «мне сунуў» /ударыў/. Той жа самы элемент довг /ад дӧвгыны «ударыць, сунуць»/ змяшчаецца ў імі Довмонт /довг + монт — Довмонт/.

Кімунт (у П. Урбана) адшыфроўваецца як Рука — Чалавек /ки ва ўсіх пермскіх мовах — «рука»/. За «рукой» можна ўбачыць

«кулак», г.зн. Рука — Чалавек небяспечны для таго, хто на яго збіраецца напасці. Писимонт — ад удмурцкага пис «палена», што можа паказваць нязломнасць носьбіта імя.

У Лермонт (Лермунт) бачыцца комі-пярмяцкае вермыны «перабароць», «перамагчы», «мець сілу». Сучаснае прозвішча Зимонт /у Унбегаўна/ адшыфроўваецца як Аса — Чалавек. Такое імя таксама было заклікана адпужваць.

У Монтигирд другая частка — магчыма, комі гырд «кроў, што запяклася». Тут чуецца пострах ворагам. Калі ж гирд у сапраўднасці фанетычны варыянт «цаглінкі» герд /на што паказваюць пары Довгерд — Довгирд, Монтигирд — Мандыгерд/, то Монтигирд — Чалавечая Чырвань (маецца на ўвазе колер скуры), бо ў комі мовах гӧрд — «чырвоны».

Але сярод ліцвінскіх імёнаў сустракаюцца і такія, што можна назваць «святочнымі». Так, па-ўдмурцку ям – «прыгожы, цудоўны». Ад ям, падобна, утворанае Ямонт. Ромунт — гэта, магчыма, ад комі рӧм — «колер, афарбоўка, адценне»; рӧма ў коміязьвінскім дыялекце — «румяны». Аўтары КЭСКЯ сцвярджаюць, што рӧм, рӧма запазычаныя з іранскіх моваў, такім чынам, у славянскія «румяны» перайшло з пермскіх.

Мінімунд (па Урбану) магло ўтварыцца ад агульнапермскага мынь «усмешка». А вось імёны Сугімунд /П. Урбан/, прозвішча Эймонт /Унбегаўн/ характарызавалі носьбітаў не з лепшага боку: сюг па-комі-пярмяцку «космы», йӧй у комі мовах — «дурны».

Ёсць імёны, дзе монт «чалавек» звязанае з нейкай свойскай жывёлай: Скалмонт /легендарны продак Гедымінавічаў/ — ад удмурцкага «карова», Валімунт (па Урбану) — ад удмурцкага вал «конь», прозвішча Бальмонт (гл. Унбегаўн) — ад комі баля «авечка». Такія імёны цалкам зразумелыя. У іх бачыцца зычэнне нашчадку валодаць быдлам, жыць заможна і шчасліва. Дачыненне да гаспадаркі маюць імя Гермонт ды прозвішча Эйсмонт (гл. Унбегаўн). Гер /гӧр/ агульнапермскае «саха». Удмурты імя Герей давалі дзецям, што нараджаліся падчас ворыва /М. Атаманов, с. 112/; ӧйс па-комі-зырански «дзверы».

Сустракаюцца сярод ліцвінскіх і «ландшафтныя» імёны, г.зн. дадзеныя ў гонар духа той або іншай мясцовасці. Так, Висмонт (у Б. Унбегаўна) ідзе ад комі вис — «пратока». Ольгимонт утворанае ад комі-пярмяцкага оль — «бярозава-яловы лес на забалочаных купінаватых нізінах» або «балоцістая, вільготная мясціна».

Праўда, паміж Оль ды -монт у гэтым імі стаіць -ги-, якое трэба растлумачыць. -И- , як добра бачна, злучальны галосны, уласцівы шмат якім ліцвінскім імёнам. З аднаго зычнага гуку слова не бывае, значыцца, -г- адносіцца да оль. Гэта, на мой погляд, рэштка пермскага суфікса -öг/-ег. Ва ўдмурцкай мове гэта суфікс прыметніка, у комі — назоўніка. Такім чынам, можна цалкам дапусціць, што Ольгимонт — Олегимонт, дзе Олег — утваранае ад оль.

Ольгимонт у летапісах згадваецца і як Акгимонт. Ольгимонт ды Акгимонт — імёны занадта розныя, каб быць варыянтамі. Як папраўдзе зваўся гэты легендарны князь, для нас значэння не мае, для нас важнейшае, што ў той час, калі стваралася легенда, нароўні з імем Ольгимонт у ліцвінаў было і Акгимонт. Як слушна адзначае П. Садоўскі («Беларусь», 1989, № 10), «к» перад «г» ў ліцвінскіх імёнах /Кгедимин, Жикгимонт/ не самастойны гук, гэтая літара толькі паказвае, што «г» у ліцвінаў, у адрозненне ад беларускай мовы, было ўзрыўным. Такім чынам, Акгимонт — гэта Агимонт. «И» — злучальны галосны; без яго ператвараецца ў Агмонт. Слова аг у пермскіх мовах няма, але ёсць яг — «бор», «сасоннік». Тут заўважаеш, што і Ямонт мае варыянт Амонт. Такім чынам, Акгимонт — Агмонт — гэта Ягморт комі-зыранскага ды комі-пярмяцкага, Яг-мурт удмурцкага фальклору!

Засталося яшчэ некалькі імёнаў з монт, якія і разгледзім на заканчэнне. Рымонт (Римунд), Монтрым ідуць нібыта ад рим /рым/. Такога слова ў пермскіх мовах я не знайшоў. Але можна падумаць, што тут можа быць і рцм, пра якое ўжо ішла гаворка. У імі Кримунт першая аснова ўяўляе з сябе Кр- (и — злучальны гук/, што не можа быць словам. Адсюль вынікае, што пасля «К» страчаны галосны гук. Калі так, то варыянтаў шмат: кар — «горад, гарадзішча», кер — «бервяно», кор — «лісце», «бацвінне», кöр «алень», «смак», «пах», кыр — «дзяцел», «узвышша, гара» /усе з комі-пярмяцкай мовы). Калі выбіраць з гэтага багацця, то я спыніўся б на кыр «узвышша, гара»: па-першае, на слых адчуваеш, што ў Кыримунт «ы» не магло ўтрымацца, па-другое, гэта было ▮ цікавае «ландшафтнае» імя.

За выключэннем Монтрым ды Монтигирд, мы яшчэ не краналі тых імёнаў і прозвішчаў, якія на монт пачынаюцца: Монтвил, Монтвид, Монтовт, Монтигайло. Не краналі таму, што яны

ўваходзяць ў гнёзды імёнаў з іншымі зыходамі. Але цяпер мы гняздо з -монт скончылі і пяройдзем да чарговых.

Найбольш шматлікім пасля -монт з'яўляецца гняздо на -гайла. Асабліва шмат дае іх Юргевіч: Вежгайло, Виликайло, Дангайло, Довгайло, Кешгайло, Киригайло, Мингайло, Монтигайло (Мунтигайло), Наргайло, Нигайло, Пунигайло, Сенгайло, Скиргайло, Стригайло, Швитригайло, Ягайло, Яргайло.

У параўнанні з ім Улашчык новых не дае, прыводзіць толькі іншыя варыянты: Швитригайло — Свидригайло, Швидригайло, Оветригайло; Кешгайло — Кезгайло. Унбегаўн дае два прозвішчы: Рымгайло, Сангайло; Урбан — імёны знаці Сунігайла, Свугайла. Не кранаючы пакуль што -гайло, паспрабуем перакласці з пермскіх моваў першую частку пералічаных антрапонімаў:

Вежгайло. Веж па-комі-пярмяцку «жоўты, зялёны», па-комізыранску, апрача таго, «зайздрасць». Вежа ў комі мовах «святы, свяшчэнны».

Виликайло. Виль па-комі-пярмяцку, выль па-комі-зыранску ды па-ўдмурцку «новы».

Дангайло. Па-ўдмурцку дан — «гонар, слава, пашана, аўтарытэт, годнасць».

Довгайло. Дӧвгыны па-комі-пярмяцку «сунуць, ударыць»; довгыны па-комі-зыранску «брысці, плесціся».

Кешгайло, Кезгайло. Кеж — агульнапермскае «чакаць, спадзявацца», кежны — у комі мовах «павярнуць», кеж па-ўдмурцку «палатно»; кӧз па-комі-пярмяцку «елка»; кӧдж па-комі-зыранску «лука ракі», кӧдза «сяўба».

Коригайло. Кор, кӧр — гл. вышэй імя Кримунт.

Мингайло. Агульнапермскае мынь — «усмешка»; комі мын — «плата».

Монтигайло /Мунтигайло/. У комі мовах морт, ва ўдмурцкай мурт — «чалавек».

Наргайло. Агульнапермскае нар — «нары»; ў комі мовах нор — «скарга», па-ўдмурцку нор — «шум, галас».

Нигайло. Ниа па-комі-зыранску «лістоўніца»; па-ўдмурцку ни — «маруна /павіліца/ учэпістая», ниег «спешчаны, пястун; капрызуля».

Пунигайло. Па-комі-зыранску пун — «жыла» /КЭСКЯ/.

Рымгайло. Рöм — у комі мовах «колер», «адценне», рöма ў комі-язьвінскім дыялекце «румяны».

Сангайло. Сан — па-ўдмурцку «гонар, пашана, павага».

Свидригайло. Свит — па-комі-пярмяцку «бляск», öр суфікс /параўн. агульнапермскае юг — «бляск», югöр «прамень»/.

Свугайла. Калі гэтае імя П. Урбан перадае правільна, то можна дапусціць, што першая частка першапачаткова выглядала як су ву — па-ўдмурцку «чорная вада», чым мог падкрэсліваццa колер скуры нованароджанага.

Сенгайло. Агульнапермскае сöн — «жыла, жылісты».

Скиргайло. Скöр — у комі мовах «злы, сярдзіты», сукыр паўдмурцку «сляпы».

Стригайло. Тут на пачатку, падобна, таксама страціліся галосныя гукі. Стр — можа быць скарачэннем комі сэтöр «парэчкі». Вымаўце некалькі разоў узапар Сэтöригайло. І ў вас саміх урэшце атрымаецца Стригайло. А магчыма, пераход адбыўся пад уплывам славянскага «стрыгчы».

Сунігайла. Сунны па-комі-пярмяцку — «задрамаць».

Ягайло. Яг — агульнапермскае «бор», «сасоннік».

Яргайло. Па-комі-пярмяцку яр — «яскравы», «зыркі»; паўдмурцку яр — «строма», «яр». Па-комі-зырянску яр — «хвароба скуры», па-ўдмурцку яра — «язва, рана, струп».

Такім чынам, амаль усе асновы антрапонімаў на -гайло адшыфроўваюцца з пермскіх моваў без цяжкасцей, а пэўныя маюць у гэтых мовах па некалькі магчымых паралеляў. Зразумела, што пры гэтым і сам зыход -гайло не можа быць ні славянскім, ні летувіскім, ён — пермскі. Што ж ён азначае?

У артыкуле «Племя пяці родаў» я дапусціў», што імёны Ягайла, Скіргайла, Свідрыгайла канчаюцца на ай + ла, дзе ай — комі-пярмяцкае «бацька», а ла — комі-пярмяцкае ва «вада» ў л-. Ай ла, такім чынам, азначала «бацькоўская вада», «падобны да бацькі». Але калі я пісаў артыкул, ведаў толькі гэтыя тры імі на -айла, таму не звярнуў асаблівай увагі на тое, што перад -айла рэгулярна стаіць -г-. Калі ж мая калекцыя ліцвінскіх імёнаў стала павялічвацца — хочаш не хочаш, стаў я перад праблемай: адкуль бярэцца -г-?

Слова гайло ў аніводнай пермскай мове няма. Праўда, ёсць у комі-пярмяцкай кайло, што азначае «румза» або «ненажэра». Вядома, «румза» можа ўваходзіць у імёны, але ж не ў такой коль-

касці! Ну, дапусцім. Виликаило можа азначаць і «ненажэру». А каля дваццаці астатніх? Усе — «ненажэры», «румзы»?

І яшчэ. Элементам монт пачынаецца цэлы шэраг імёнаў, на пачатку стаяць і «цаглінкі» вил, герд, вид, товт — а гайло ніколі. Такім чынам, можна падумаць, што -гайло — суфікс. Але ў граматыках пермскіх моваў (а я маю вельмі падрабязную граматыку ўдмурцкай, 1927 года выдання) такога не зарэгістравана.

Што ж атрымліваецца? З аднаго боку, гайло — не суфікс, з другога — на пачатку імя, як самастойны корань, не сустракаецца. Дык ці не значыць, што гэта — нейкая падпарадкаваная частка імя тыпу -задэ, -оглу ва ўсходніх імёнах, што азначае «сын»? Аднак прыгадаем спіс сыноў Альгерда ад другой жонкі: Ягайло, Корибут, Лингвений, Коригайло, Вигант, Свидригайло, Скиргайло. Калі б гайло азначала «сын», то, мабыць, усе гэтыя імі канчаліся б на гайло! Чым растлумачыць, што чатыры з іх канчаюцца на гайло, а тры — не?

Вось тут і прыдаецца здагадка, што айла — ад ай «бацька» і азначае «падобны да бацькі». Сапраўды, падабенства да маці і бацькі звычайна дзеліцца пароўну, асабліва пры вялікай колькасці дзяцей. А -ла — неабавязкова трансфармаванае ва «вада». Ва ўдмурцкай мове дагэтуль захаваўся суфікс -ла, з дапамогай якога ад назоўніка ўтвараецца прыметнік. Разглядаючы беларускія прозвішчы («Полымя», 1991, № 8), я ўжо адзначаў, што сярод іх маецца цэлая група на -ла /Ворла, Кезла, Кісла, Шудла ды інш./, і ўсе яны адшыфроўваюцца з дапамогай пермскага матэрыялу. Гэта значыць, што суфікс -ла ў ліцвінскіх гаворках меўся і быў даволі актыўны, бо група нашых прозвішчаў на -ла налічвае каля паўтара дзесяткаў. І суфікс -ла мог завяршаць імёны, як ён завяршае гэтыя прозвішчы.

Узнікае пытанне: а чаму ж імёны тыпу Ягайло ў летапісах канчаюцца не на -а, а на -о? Сам жа я трохі вышэй сцвярджаў, што беларускія летапісцы не маглі іншамоўнае «а»ператварыць у «о»! На гэта ўскосна адказвае А. Емяльянаў, аўтар «Грамматики вотяцкого языка» (Ленинград, 1927, с. 116), які паказвае, што ва ўдмурцкай мове з цягам часу састарэлы суфікс -ла перайшоў у -ло. Дзякуючы гэтаму можна дапусціць, што ў ліцвінскай мове -ла мог быць варыянтным з -ло, г.зн. абедзве формы суфікса ўжываліся адначасова, летапісцы ж аддавалі перавагу форме гайло.

Але якім ветрам у тое гайло прынесла -г-? Шчыра скажу, над гэтым прыйшлося паламаць галаву. І вось вынік. Вядома, што беларускім гаворкам той тэрыторыі, якую займала летапісная літва, уласцівае пратэтычнае «г» перад галоснымі, асабліва перад «а». Гэта адбілася, напрыклад, на творчасці Ф. Багушэвіча: «Бацькі яго угасцілі, далі торбачку гарэхаў...» («Кепска будзе». Гл. Ф. Багушэвіч. Творы. Мн., 1991, с. 52). У гэтых жа мясцінах маюцца рэкі Гайна ды Гожа, якія ў дакументах мінулага зафіксаваныя ў формах Аина ды Ожа (гл. КТСБ).

Пратэтычнае «г» можна заўважыць і ў саміх ліцвінскіх імёнах. Так, «Белоруссия и Литва» дае імя Ерденъ (с. 58, 61, 63), а Ермаловіч карыстаецца формай Герденъ (гл. М. Ермаловіч. Па слядах аднаго міфа, с. 46, 47 ды інш.), а на с. 46 у дужках дае і Ерденъ. Юргевіч таксама лічыць Герденъ і Ерденъ формамі аднаго імя (с. 22). Тут жа ён паведамляе, што ў адным дакуменце на лаціне Ольгерд запісаны як Holgerd, г. зн. пратэтычнае «г» узнікала і ў гэтым імі. Ён жа дае імя Гедимин і ў форме Едиман (с. 27).

Пратэтычныя гукі на пачатку слова характэрныя для пермскіх моваў. У комі-зыранскай маецца пратэтычнае «в», што ўжо намёртва зраслося з асновай /па-комі-пярмяцку «ноч» — ой, па-комі-зыранску — вой/, «с» (гл. КЭСКЯ, тола — стола), «п» (КЭСКЯ. рой — прой). А ва ўдмурцкай мове ёсць і пратэтычнае «г» (гырпинь — тое сама, што йырпинь «кутні зуб»). Што ж да ліцвінскіх гаворак, то несумненную наяўнасць у іх пратэтычнага «г» паказваюць імёны (Ерденъ — Герденъ). Адсюль яно перайшло ў беларускія гаворкі, што замянілі пермскія на тэрыторыі летапіснай літвы.

На заканчэнне гутаркі пра гайло трэба адзначыць загадкавую польскую форму гэтага кампанента — gieŁło. Я кажу «загадкавую», бо, зыходзячы з правілаў польскай мовы, па-мойму, пераход гайло ў гелло немагчымы. Немагчыма знайсці і нейкую зыходную форму, ад якой пайшло б старабеларускае гайло ды польскае гелло. Можа, утварэнне гелло звязанае з нейкай першапачатковай памылкай напісання, якая потым замацавалася ды перайшла ў традыцыю, а можа, сакрэт у лаціне, праз якую прыйшлі ў пальшчызну ліцвінскія імёны: вядома ж, што польска-ліцвінскія дамовы, што распрацоўваліся пры ўдзеле Ягайлы, складаліся на лаціне. Але такі напрамак пошуку ўжо не для аўта-

ра гэтых радкоў. Я толькі буду сцвярджаць, што першаснай формай была не гелло, а гайло, бо гелло з пермскіх моваў не адшыфроўваецца, а 90% асноваў імёнаў з гайло — гарантавана пермскія.



Мардоўскі ўбор маладой

Прызнанне «г» як пратэтычнага спрашчае аналіз імя Гедимин. У пермскіх мовах няма слова гед, і адшыфраваць Гедимин з пермшчыны магчымасці нібыта няма. Але калі ўлічыць форму Едиман, гэта значыць што «г» на пачатку імя пратэтычнае, то магчымасці знаходзяцца. У комі мовах ӧд — «гарачыня, гарачы», ва ўдмурцкай ӧды — «сіла, моц»; у комі мовах мынны — «вызваліцца, вырвацца», ва ўдмурцкай мыныны — «ісці».

Апрача таго, нагадаю, агульнапермскае мынь — «усмешка». Адсюль Гедимин можа быць і «гарачыўсмешлівы», «магутныўсмешлівы», і «з сілай вырываецца-вызваляецца», і «магутна ідзе». Адным словам, ёсць з чаго выбраць — і хай кожны выбірае згодна са сваім густам.

Што ж да герд, якім пачынаецца Гердень і канчаецца некалькі імёнаў (Ольгерд, Довгерд, Вышэгерд, Мандыгерд, Таўтыгерд — апошнія тры з Урбана), то гэты кампанент можа быць аднолькавым не ва ўсіх выпадках. Так, мы ведаем, што Гердень мае варыянт Ердень, і ў адшыфроўцы яго трэба зыходзіць з Ерд-, як і ў адшыфроўцы імя Ердивил. Такое слова маецца ў комі-пярмяцкай мове, дзе ёрд — «клятва». У комі-зыранскай мове ёрт — «таварыш, напарнік». Паводле нашых уяўленняў, «клятва» для паганскага імя стасуецца лепш, ды і ў гукавых адносінах ёрд бліжэй-

шае да Ерденъ, Ердивил. Другая частка імя Герденъ (Ерденъ) па-комі «бог, неба» (ен) або «моцны» (ён), у імі Ердивил — «новы» (виль). Хаця сувязь слоў «клятва-бог», «клятва-неба», «клятва-новы» ў нашай мове так проста не сфармулюеш, сэнс прыблізна зразумелы.

Таму, лічу, адшыфроўкі абодвух імёнаў дакладныя. Ёрд з пратэтычным «г» можа ўваходзіць і ў Мандыгерд (Монт-герд — «чалавечая клятва»). Але зусім неабавязкова, каб ёрд змяшчалася і ў Ольгерд, бо оль па-комі-пярмяцку «лісцёва-хваёвы лес», а гэта і «клятва» — стасуецца. Таму лепш дапусціць, што тут мы маем комі гӧрд «чырвоны, руды», і сэнс імя Ольгерд будзе ў тым, што ягоны носьбіт «чырвоны, руды», а імя яму дадзенае ў гонар духа-гаспадара лісцёва-хваёвага лесу.

Разгляд імёнаў з герд ускладняецца тым, што часам герд пераходзіць у гирд: вядомыя формы Довгерд і Довгирд, Монтигирд і Мандыгерд. Ды ў комі мовах ёсць і гырд: у комі-зыранскай яно азначае проста «кроў», у комі-пярмяцкай — «кроў, якая запяклася». І зусім не выключана, што ў імі Довгерд (Довгирд) з ягонай першай часткай дӧвгыны «сунуць, ударыць» другая частка не герд, а гирд («які б'е — крывавіць», дӧвг-гырд).

Для таго каб вырашыць, які з трох варыянтаў герд змяшчаецца ў імі Таўтыгерд, трэба спачатку высветліць, што ж такое товт. Як ужо гаварылася, летувіскія лінгвісты бачаць у ім tauta «народ». Але не кажучы ўжо пра тое, што гэтае «народ» не заўжды стасуецца з другой часткай імёнаў /напрыклад, Товтивил — па-летувіску «народнае расчараванне»/, tauta не можа задаволіць і фанетычна, бо з ягонай дапамогай немагчыма растлумачыць паходжанне ва-



*Дзяўчына ў святочным уборы (Веткаўскі раён, 1930 гг.)*

рыянтаў товт, толт ды тольд, што сустракаюцца ў беларускіх, расейскіх ды польскіх крыніцах (Витовт — Витолт — Вітольд). Іншая рэч удмурцкае тольт — «моцны, вынослівы». Вядома, што ў беларускіх гаворках «л» у такой пазіцыі, на якой размешчаны ў тольт, пераходзіць у нескладовае «у» — фактычна губна-губное «в»: расейскае волк — беларускае воўк, расейскае колтун — беларускае каўтун. Такім чынам, товт — гэта беларускі варыянт ліцвінскага тольт, у польскіх жа і часткова расейскіх крыніцах захавалася «л» (Витолт, Вітольд).

Калі товт у Таўтыгерд «моцны, вынослівы», то што тут тады герд? Наўрад ці «клятва» (ёрд). А вось «кроў» — гырд — цалкам можа быць: Таўтыгерд — «моцная кроў». Можа быць і гөрд: «моцны, чырвоны /руды/».

Тры імі з товт належалі тром братам: Витовт, Товтивил ды Бутовт былі сынамі аднаго бацькі — Кейстута /згодна з плакатам «Гедымінавічы»/. Зразумела, што ва ўсіх трох імях товт павінна азначаць адно і тое ж. Таму, хоць і падобнае Витовт да комі-пярмяцкага витӧт («пяты»), ад такога тлумачэння трэба адмовіцца. Як жа лепш? У комі-зыранскай мове, як і ў марыйскай, ви азначае «сіла». Думаецца, на гэтым і можна спыніцца, хаця яшчэ ў комі-пярмяцкай мове маецца ви «масла», ▪ ва ўдмурцкай ви — «час, момант», нэрв — «раўніна паміж двума рэкамі», вы — «сілок» (на птушак).

Паўтарэннем у імі «сіла» — «вынослівасць» выказвалася гарачае жаданне бацькоў бачыць сына здаровым і магутным. Ясна, што ў тыя часы фізічная моц цанілася значна вышэй, чым звычка думаць /вышэй казалася, што летувіскія лінгвісты мин імёнаў выводзяць ад мінтіс «думка»/.

З «новы» «вынослівы» спалучаецца без праблем: той, хто нарадзіўся — вядома ж, «новы»; гэтаму «новаму» жадаюць моцы і вынослівасці. Адсюль — Товтивил. У пермскіх мовах пу — «дрэва». З адзначэннем пачатковага зычнага гэта магло даць бу: Бутовт — «дрэўна-вынослівы».

Ёсць імёны з товт, што адшыфроўваюцца ўвогуле без праблем: Монтовт — Монт — товт — «чалавечая вынослівасць», Гаштовт — ад комі гаж «вясёлы, весялосць» — «вясёлы-вынослівы». Больш складаныя выпадкі — Гинтовт ды Гетовт. Гын ва ўсіх трох пермскіх мовах «лямец», што не надта спалучаецца з «вынослівы».

Можна было б падумаць. што за Гин — хаваецца скажонае гым (у комі мовах «гром»), але маюцца яшчэ Гинвил, Гилигин — няўжо і тут скажонае гым? Таму прыходзіцца шукаць іншы шлях. Ва ўсіх трох пермскіх мовах кын азначае «мёрзлы». Калі ўлічыць закон пераходу глухіх зычных у звонкія на пачатку слова, што дзейнічаў у старажытнапермскай мове, то гэтае кын у ліцвінскай мове магло гучаць як гын. Слова ж кын «мёрзлы» ў пермскіх мовах з'яўляецца сінонімам моцы, сілы. Утворанае ад кын ва ўдмурцкай мове кынар азначае «сіла», «моц» (-ар — старажытны суфікс, што ўжо зросся з асновай. Гл. А.И. Емельянов, с. 117). Такім чынам. Гинтовт адшыфроўваецца як «мёрзлы /у сэнсе «моцны»/ — вынослівы». Гетовт можна разглядаць як Етовт з пратэтычным «г» /Гердень — Ердень/. Па-ўдмурцку йӧ — «лёд». Калі прызнаць, што гэтае імя складаецца з Г-йӧ-тольт, то Гетовт — «ледзяны-вынослівы» — становіцца побач з Гин-товт — «мёрзлы-вынослівы».

Акрамя пералічаных імёнаў з товт, у П. Урбана маюцца яшчэ Манштоўд, Застольд. Гэтыя — не паддаюцца. Але яны ўзятыя аўтарам з лацінскага тэксту, дзе правільна яны перададзеныя або не зусім — невядома. Унбегаўн (с. 276) прыводзіць нізку сучасных расейскіх прозвішчаў: Битовт, Гежтовт, Гинтовт, Заштовт, Контовт, Минтовт, Ятовт.

Битовт — ад комі би «агонь», Гежтовт — думаецца, тое сама, што Гаштовт, Гинтовт — мы ўжо казалі, Заштовт — не паддаецца, Контовт — ад комі конда «сасна», Минтовт — ад мынь «усмешка», Ятовт — магчыма, ад комі ад «ненажэра» (прыгадаем варыянты Ямонт — Амонт). Такім чынам, з вялікаи колькасці антрапонімаў на товт толькі Манштоўд ды Заштовт (Застольд) не паддаюцца адшыфроўцы. Але абодва яны да асноўнага грона ліцвінскіх імёнаў не адносяцца.

У даміно ўсіх костачак пароўну: 7 шасцёрак, 7 пяцёрак, 7 чацвёрак ды г.д. Але калі выбераш 7 шасцёрак, то ў кучы застанецца толькі 6 пяцёрак; аддзяліўшы іх, сярод астатніх знойдзеш 5 чацвёрак — аж покуль не застанецца адно пуста-пуста. Так і з ліцвінскімі імёнамі, што складаюцца з дзвюх стандартных частак, тым самым нагадваючы костачкі даміно. Аналізуючы антрапонімы з монт, гайло, герд, товт, г.зн. нібыта выбіраючы «шасцёркі», «пяцёркі», «чацвёркі», я быў вымушаны закранаць і «тройкі», «двойкі», «адзінкі» — «цаглінкі» вил, вид, ган ды інш.

Таму неразгледжаных імёнаў, бадай што, засталося мала. Напрыклад, на вил: Монтвил, Вильмонт (прозвішча), Едивил, Товтивил, Гинвил, Виликайло... Іх мы ўжо «праходзілі». Застаецца Радивил, але гэтае імя я ўжо разглядаў у «Племя пяці родаў», тут жа дадам, што пачатак ягоны Рад — можа быць і запазычаным славянскім коранем.

Ды яшчэ Улашчык прыводзіць імя легендарнага князя Вилли (с. 135,136), якое мела таксама варыянт Вилюс. Гэтае Вилли здаецца памяншальным ад нямецкага Вільгельм, але ці можна сумнявацца, што ў сапраўднасці тут пермскае виль «новы», бо ў комі-пермякоў у 1579 годзе было адзначанае імя Вилес і да гэтага часу комі-пермякі носяць прозвішчы Вилесов, Вілесова, Вилисов /А.С. Кривощекова-Гантман. Географические названия Верхнего Прикамья. Пермь, 1983 — у далейшым ГНВП/.

Павінен сказаць, што не ставіў мэты абавязкова адшыфраваць кожнае ліцвінскае імя, бо гэта проста немагчыма. Я ж карыстаюся не ліцвінскаю мовай, а блізкімі. Гэта прыблізна тое сама, калі б, дапусцім, рэшткі расейскай мовы вывучаліся з дапамогай чэшскай ды серба-харвацкай. У ліцвінскай мове маглі быць свае, індывідуальныя, а не толькі групавыя, як фанетычныя ды словаўтваральныя, так і лексічныя, семантычныя асаблівасці.

Мы ж добра ведаем, што адно і тое сама слова ў блізкіх мовах можа азначаць штось іншае, нават наадваротнае: па-расейску благо — «дабро», у нас жа блага — «дрэнна»; па-польску воня — «добры пах», па-расейску вонь — смурод... Таму, напрыклад, слова гын, якое ў трох пермскіх мовах азначае «лямец», у чацвёртай — ліцвінскай — магло азначаць штось блізкае, але іншае, дапусцім, «шэрсць», і ўключэнне гын «шэрсць» у імя паказвала, што дзіця нарадзілася з густымі валасамі на галаве (дарэчы, «шэрсць» у комі мовах — гён, дастаткова блізка ды гын). А цаглінка вид, якую я кваліфікаваў як «сярдзіты» (корань дзеяслова видны) магла быць увогуле запазычанай са славяншчыны (відзець), як і рад у Радивил, люб у Любарт. Нарэшце, у ліцвінаў маглі быць цалкам запазычаныя імёны!

Таму галоўнае не ў тым, ці з'яўляюцца ліцвінскімі імёны Стейкинт або Тройден. З цягам часу навука ў гэтым разбярэцца. Матэрыял жа, які сабраны тут, важны тым, што паказвае ёй новы напрамак пошуку, пацвярджаючы, што большая частка ліцвінскіх імёнаў — пермскага паходжання. А гэта азначае, што

ліцвіны былі этнасам пермскім, бо запазычыць свае імёны па-суседску ад комі-пермякоў, комі-зыранаў ды ўдмуртаў яны не маглі.

Некалькі імёнаў, якія не маюць агульных з іншымі «цаглінак». Кейстут. На мой погляд, тут першая «цаглінка» — корань комі дзеяслова кыйсьыны «паляваць», «займацца паляваннем або рыбнаю лоўляй», -тут агульнапермскае «расці», «падымацца», «даваць парасткі» (гл. КЭСКЯ, Туту). Такім чынам, Кейстут — «паляўнічы, які расце».

Войшелк. Па-комі вӧй — «дзікі, непрыручаны», шельк — «кавалак варанага мяса або рыбы», шелькйыны — «рэзаць мяса або рыбу на кавалкі», адкуль Войшелк — «дзікі кавалак мяса».

Витень. У «Племі пяці родаў» я падзяляў гэтае імя на ви «масла» ды тӧн «учора», але маецца ўдмурцкае витён «чаканне» або «ікаўка»; тое і другое ў прынцыпе можа быць імем. Другі варыянт гэтага імя — Витенес, а -ес, -эс — суфікс удмурцкай мовы, утварае прыметнікі (напрыклад, беренэс — «упарты, непаслухмяны»: вельмі падобнае гэтае слова да прозвішча Бернес). Летувісы ж пішуць гэтае сама імя як Витянис (Литва, с. 191), канчатку -ес у летувіскай мове няма. Слова Вітяніс па-летувіску нічога не азначае.

Палемон — легендарны продак ліцвінскіх князёў, што згодна з паданнем прыбыў са сваім акружэннем з Рыма. У старажытным Рыме сапраўды было імя Палемон (бог мора; гл. И.Х. Дворецкий. Латинско-русский словарь. М., 1976, с. 718), аднак і ва ўдмурцкай мове маецца слова палёмон — назоўнік ад дзеяслова палёмыны, што мае некалькі значэнняў, сярод іх – «загледзецца». Калі такое слова было і ў ліцвінскай мове, то супадзеннем яго з імем старажытнарымскага бога і можа тлумачыцца ўзнікненне легенды пра Палямона. Сярод спадарожнікаў Палямона, што, згодна з легендай, прыбылі з ім з Рыма, называецца Конос. Па-комі-пярмяцку кӧньӧс — «кадушка». Гирус — легендарны князь літоўскі і жамойцкі. Па-комі-пярмяцку гырись — «буйны» (памерамі), гырйӧсь — «які мае ступу» (гыр «ступа» ў комі-пермякоў — у пераносным сэнсе «мажны, каржакаваты, з цвёрдай ступою»).

Род Сапегаў лічыцца з паходжання славянскім, бо, па-першае, вядома, што першыя Сапегі былі са Смаленшчыны, а па-другое, сэнс антрапоніма здаецца празрыстым, ад сапці. Але, па-

мойму, тут не так проста. Калі Сапега ўтварылася ад сапці, то гэта асабістая мянушка. Такія мянушкі рабіліся прозвішчамі ў XVII–XVIII стагоддзях, Сапегі ж вядомыя на некалькі стагоддзяў раней. Нават у XV стагоддзі асабістая мянушка наўрад ці магла передавацца ад бацькі да сына, а што ўжо казаць пра папярэднія часы. Таму спыняе ўдмурцкае слова сапег, што азначае «бот». Шавецтва, безумоўна, магло быць сямейным заняткам, што пераходзіў з пакалення ў пакаленне, — зразумела, што гэты занятак мог стаць і родавым прозвішчам. Наяўнасць удмурцкага сапег дазваляе па-новаму зірнуць на паходжанне расейскага сапог.

Яшчэ з найболей вядомых магнатаў ВКЛ — Пацы. Бірыла прозвішча Пац узводзіць да рэгіянальнага пац, што азначае «пацук» (гл.: М Бірыла, 2). Але можа быць і іншае тлумачэнне: у комі мовах пась — «футра», што лепш пасуе да магнатаў, чым «пацук».

Цяпер, перш чым рухацца далей, мушу адказаць на адну рэпліку з-за акіяна. Ужо памянёны вышэй гісторык Паўла Урбан у часопісе «Полацак» (Кліўленд, ЗША) надрукаваў новую вялікую працу «Да пытаньня этнічнай прыналежасьці старажытных ліцьвіноў» (друкавалася ўвесь 1992 год, а таксама ў 1993 годзе)*. У ёй аўтар перш за ўсё з дапамогаю розных шматлікіх аргументаў даводзіць, што ліцвіны не былі продкамі летувісаў. Тут мы з ім сыходзімся.

Але што датычыць пытання, якім жа быў у сапраўднасці ліцвінскі этнас, то ў Урбана зусім іншая думка, чым у мяне. Ён лічыць, што літва была племем... славянскім. З гэтых пазіцый ён мяне і крытыкуе:

«Літаратар Іван Ласкоў... захапіўся тэорыяй так званага «ўграфінскага паходжання Літвы», або, прынамсі, угра-фінскага паходжання імёнаў ліцьвіноў і «літоўскіх князёў». У яго атрымліваецца, быццам імёны накшталт Сьвякленій (так у тэксце. — *Аўт.*), Лясота, Любарт, Жыгімонт, Монтвіл, Нарымонт, Радзівіл і гэтак далей тлумачацца запазычаньнямі з комі-пярмяцкай мовы», — піша ён, спасылаючыся на артыкулы «Племя пяці родаў» ды «Нашчадкі таямнічае літвы». І дае такое павучанне:

---

* Гэтая праца выйшла ў Менску ў 2003 годзе асобным выданнем пад назвай «Старажытныя ліцьвіны: Мова, паходжанне, этнічная прыналежнасць». — *Рэд.*

«Бясспрэчна, ня ўсе могуць мець доступ да старых заходнеэўрапейскіх хронікаў ды іншых крыніцаў. Тым ня менш, маючы зацікаўленасьць да праблемы паходжаньня імёнаў ліцьвіноў, варта было б зьвярнуцца хоць бы да хронікаў Адама Брэменскага, Тытмара Марзэбургскага, Гяльмольда і Бузава або польскага храніста Гала Ананіма і чэскага Козьмы Пражскага».

Што ж дае, на думку Урбана, звяртанне да гэтых крыніцаў? А тое, што ў іх, як сведчыць ён, безліч германскіх ды славянскіх імёнаў, падобных да Альгерд, Вітаўт, Любарт, Гердзень ды іншых ліцвінскіх /Ольгерд — англійскае Альгард, Витовт — чэшскае Витеслав, Любарт — Любамір у чэхаў, Люб у люцічаў ды г.д./. Хай не пакрыўдзіцца спадар Урбан, але гэта вельмі нагадвае «метад» Юргевіча, які выводзіў Витовт з Викентий ды Ольгерд і Александр. Чаму я так кажу? Ды таму, што не робячы аніякага аналізу, з-за выпадковага вонкавага падабенства Урбан фактычна адбірае ў літвы права на ўласныя імёны, раскідваючы іх направа і налева: гэта славянскае, гэта — германскае. Што ж да таго, ці была літва славянскім племем, то славянскія летапісцы яе ў славяне не залічвалі, і ў «Аповесці мінулых гадоў» («Повесть временных лет») літва ідзе ў пераліку неславянскіх плямёнаў (ПСРЛ, том I, сл. II; том 2, сл. 9). I я думаю, што гэты факт перакрэслівае ўсе разважанні наконт «славянскасці» літвы.

Нельга абысці і сцверджанне Урбана, быццам я ліцвінскія імёны тлумачу «запазычаньнямі з комі-пярмяцкай мовы». У мяне гаворка зусім не пра «запазычанні». I ў «Племі пяці родаў», і ў «Нашчадках таямнічае літвы» ясна сказана, што, паводле майго дапушчэння, мова самой літвы была блізкай да комі-пярмяцкай, комі-зыранскай ды ўдмурцкай моваў, дзякуючы чаму іх і можна ўжываць у якасці струманта пры аналізе ліцвінскіх слядоў.

Такім чынам, мы разгледзелі некалькі версій тлумачэння ліцвінскіх імёнаў: славяна-хрысціянскую, славяна-паганскую, летувіскую ды пермскую. Здавалася б, і гэтага болей чым даволі. Але «яблык разладу» ў спакоі не застаецца, і ёсць яшчэ адна версія.

Пра існаванне ейнае я даведаўся з артыкула Г. Сагановіча «Літва! Мая Айчына!..», надрукаванага «Нашым словам» (1990, № 8, 9). У ім аўтар, як і я, дае агляд усіх вядомых версій тлумачэн-

ня ліцвінскіх імёнаў (у тым ліку маю з «Племя пяці родаў»), а далей піша:

«Яшчэ адну версію распрацаваў беларускі эміграцыйны даследчык Л. Галяк. У брашуры «Паходжаньне літоўскіх князёў», што выйшла ў 1983 годзе ў Нью-Ёрку, ён тлумачыць княскія імёны пры дапамозе скандынаўскіх моўных каранёў ды паказвае старажытную літву скандынаўскай. Імя Мантвіл Л. Галяк прачытаў як «Моцная воля», Альгерд — «Той, што ўсё чуе», Кейстут — «Леваручны», Буйвіл — «Вялікі Лук» і г.д.».

Сагановіч гэтай версіі аніякай ацэнкі не дае, ды аглядальнік і не абавязаны гэта рабіць. Іншая рэч, калі сам працуеш у той самай галіне. Але дзе мне ўзяць брашуру, выдадзеную ў Нью-Ёрку?.. Хіба што ў Сагановіча? Але аўтар артыкула «Літва! Мая айчына!..» на мой ліст не адгукнуўся.

На шчасце, ёсць такі энтузіяст збірання беларушчыны, як А. Баркоўскі, што падтрымлівае сувязі з беларусамі ўсяго свету. І вось на маім стале ксеракопія працы Галяка, атрыманая... з Аўстраліі.

Трэба сказаць, што ў невялічкі абзац, прысвечаны ў Сагановіча Л. Галяку, пракраліся дзве памылкі. Адна з іх — не вельмі значная: як «Вялікі Лук» Галяк перакладае не Буйвіл, а Буйвід.



*Дзве хаты комі з агульнымі сенцамі. 1960-е гг.*

Другая — болей сур'ёзная, бо скажае асноўную думку Галяка. Маю на ўвазе словы, што Галяк «паказвае старажытную літву скандынаўскай». Гэта можна зразумець так, што летапісная літва ў сцверджаннях Галяка з'яўляецца скандынаўскім племем. Такога Галяк не кажа.

Галяк не бачыць розніцы паміж жамойцю ды літвой. На яго погляд, гэта адзін і той самы этнас, які спачатку зваўся жамойць, а потым перамазваўся ў «літву». Пры гэтым на значэнні слова «літва» ён не спыняецца і чаму адбылася замена аднаго этноніма другім не цікавіцца. Такім чынам, сама па сабе літва для Галяка — балцкая. Іншая рэч — князі, што «ня мелі этнічна нічога супольнага з балцкім племем Жамойцаў, якія ў пэўным часе пачалі называць сябе Ліцьвінамі, ані наагул з Балтамі, ■ былі паходжаньня паўночна-германскага, а дакладней — скандынаўскага» (с. 3).



*Дзве беларускія хаты з агульнымі сенцамі (XIX ст.)*

Нагадаўшы, што «у VII–IX вякох Скандынавы праявілі вялікую экспансыю», рабуючы ўзбярэжжы Еўропы і адначасова каланізуючы вольныя тэрыторыі, «як у Ісляндыі, Грэнляндыі, Англіі», Галяк (с. 14) выказвае бясспрэчнае меркаванне: «Ведаючы з гісторыі аб размаху скандынаўскай экспансыі, што сягала ад Грэнляндыі й Амэрыкі да Канстантынопаля, цяжка думаць, што Скандынавы не пацікавіліся, што ляжыць у іхнім беспасрэдным суседстве, праз мора, над Нёманам» (с. 15).

Але далей з ім пагадзіцца цяжка. «У дакладней неазначальным часе», піша ён, «нейкая скандынаўская група» паднялася па Нёмне ўгору, дзе падпарадкавала сабе «мясцовае жамойцкае насельніцтва» ды ўзначаліла яго. У далейшым нашчадкі прыбышоў-скандынаваў правілі як жамойцю, так і Вялікім Княствам Літоўскім, якое стварылі.

Чым жа гэта даводзіцца? Аргументы Галяка досыць разнастайныя, але непераканаўчыя. Так, ён адзначае, што ў вусьці Нёмана маецца шэраг гідронімаў з коранем рус (пратокі Русс, Варрус, затока Русна), якія ён звязвае з нібыта скандынаўскім племем «русь», што дало назву Русі. Але корань рус не такі непаўторны, каб яго тлумачыць толькі адной крыніцай. Так, па-эстонску «руды» — ruske, па-нямецку RuЯ «сажа, копаць, куродым». А хутчэй за ўсё сакрэты назваў Русс, Варрус, Русна трэба шукаць у ліўскай мове, носьбіты якой жылі каля Нёмана задоўга да нарманскіх набегаў.

Другі «козыр» аўтара — даўно раскрытыкаваная даследчыкамі летапісная легенда, быццам летувісы — выхадні з Рыма на чале з Палямонам. «Легенду пра паходжанне літоўскай княжай групы з Рыма трэба адкінуць, — піша Галяк (с. 16), — як не знаходзячай падтрыму ў іншых крыніцах. Трэба аднак прыняць пад у вагу той факт, што ў кожнай амаль легендзе часта захоўваюцца сьляды праўдзівых здарэньняў і гэтым праўдзівым здарэньнем у легендзе аб паходжаньні літоўскіх князёў будзе факт прыбыцьця гэтай групы з мора, г.зн. са Скандынавіі». Чаму ж скандынавы ў легендзе ператварыліся ў рымлянаў? «Зразумела, што ім (шляхце ВКЛ. — *Аўт.*) лепш было паходзіць са слаўнага Рыма, чым ад піратаў-гандляроў» (с. 17). Але ж вядома, што ад тых сама «піратаў-гандляроў» — скандынаўскіх варагаў — доўгі час вяла радавод сваіх манархаў афіцыйная расейская гістарыяграфія. Так што, як бачым, «піратамі-гандлярамі» не грэбавалі і ў такой пыхлівай краіне, як Расея.

Вядома, што скандынавам было ўласцівае сагаскладанне — фактычнае летапісанне без паперы. У ісландскіх сагах падрабязна апісваецца прыбыццё першых скандынаваў на гэты востраў, усе першыя пасяленцы. Апісаныя ў сагах і іншыя падзеі, што адбываліся з вікінгамі далёка за межамі іх радзімы. Але пра заваёў жамойці або літвы ў сагах, падобна, не апавядаецца.

Я кажу «падобна», бо каб прачытаць усе сагі, спатрэбіўся б не адзін год, дый яны далёка не ўсе перакладзеныя. Але яшчэ да вайны ленінградка Алёна Рыдзеўская вывучала спецыяльна сагі для ўстанаўлення сувязяў Скандынавіі з Руссю. І ў ейнай кнізе «Древняя Русь и Скандинавия в IX–XIV вв.» (М., 1978) скрупулёзна выпісанае з сагаў усё, што мае дачыненне да Русі. Дык вось: Беларусь у гэтых выпісках не згадваецца.

Важная крыніца гісторыі вікінгаў — рунічныя надпісы на камянях. Гэтыя камяні ставіліся ў памяць вікінгаў, што загінулі на чужыне, іх роднымі ды сябрамі. Такіх камянёў захавалася шмат, але толькі малая частка іх прысвечаная мараходам, што загінулі ці зніклі ва Усходняй Еўропе.

Рунічным надпісам на такіх камянях (іх каля 100) прысвечаная праца Алёны Мельнікавай «Скандинавские рунические надписи» (М., 1977). І сярод іх няма аніводнай, якая б тычылася Беларусі або Летувы. У геаграфічным паказальніку нават няма назвы Нёман (гл. с. 198–210). Галоўны шлях вікінгаў у Кіеў і далей у Візантыю ішоў па Дзвіне (па-скандынаўску Duna — як Дунай па-венгерску).

Археолагі адзначылі нешматлікія скандынаўскія праявы ў басейне Нёмана (гл. Ф.Д. Гуревич. Скандинавские находки X–XI вв. на территории Белоруссии. — Скандинавский сборник XXXII. Таллин, 1988, с. 110–121). Але мячы ды грошы маглі блукаць і без удзелу вікінгаў. Думаецца, што «гандляроў-разбойнікаў» мала цікавілі мясціны, дзе не было буйных гарадоў, развітага рамяства. У дадатак Нёман даволі складаная для плавання рака з-за парогаў у ніжняй частцы.

Яшчэ адзін аргумент Галяка — наяўнасць у літоўскіх князёў пахавальнага абраду ў выглядзе трупаспалення, уласцівага старажытным скандынавам. Але сам Галяк прызнае, што «абрад хаўтураў са спаліваньнем ня ёсць выключнай асаблівасцю Скандынаваў». У гэтым сэнсе народы свету падзяляліся спрадвеку на дзве вялікія групы: адны нябожчыкаў хавалі ў зямлю, другія — спальвалі. Да такіх абрадаў яны перайшлі, магчыма, ад нейкіх болей старажытных. Так, якуты да прыходу расейцаў хавалі нябожчыкаў на дрэвах (так званае «паветранае пахаванне»), а чукчы вывозілі на пагорак, дзе пакідалі.

Можа, дзе-небудзь у Афрыцы або Амерыцы былі і іншыя экзатычныя абрады пахавання, але мусім прызнаць, што з мёртвым целам асабліва не нафантазіруеш і спосабаў распарадзіцца з ім мала. І што цела Гедыміна спалілі, ■ не закапалі ў зямлю, зусім не сведчыць аб нарманскім паходжанні князя. Галоўны ж доказ Галяка на карысць «нарманскасці» ліцвінскіх князёў — аналіз княскіх імёнаў, малую частку якога паказвае ў сваім артыкуле Сагановіч. Мяне газетная плошча не абмяжоўвае, таму прывяду той аналіз паўней, але папярэдне адна заўвага.

Набегі вікінгаў былі мужчынскай справай, жанчын з сабою ў паходы нарманы не бралі. Значыць, асеўшы на ліцвінскіх землях, яны павінны былі, каб мець нашчадкаў, брацца з мясцовымі жанчынамі, якія гаварылі на сваёй мове.

Вядома, што ў моўных адносінах жанчыны болей кансерватыўныя, чым мужчыны, і нездарма ў розных народаў роднай мовай лічыцца мова маці (па-чэшску «родная мова» — матэрштіна). Ды яшчэ дарасламу чалавеку (а скандынавы, зразумела, мусілі брацца не з дзецьмі) перайсці на чужую мову цяжка. Таму ў дапушчальных нарманска-ліцвінскіх сем'ях мужчына і жанчына вымушаныя былі разумець адно аднаго галоўным чынам без слоў. Дзеці ж, якія нараджаліся ў такіх сем'ях, маглі валодаць абедзвюма мовамі, бо да іх звярталіся і бацька, і маці, кожны на сваёй. Але ў раннім узросце, калі якраз і засвойваецца мова, дзіця бавіла час у некалькі разоў больш з маці, чым з бацькам, бо маці заўсёды была дома, бацька ж — на працы, паляванні, у ваенных набегах і г.д. Таму ўжо першае пакаленне «скандынаваў», народжанае на ліцвінскай зямлі, павінна было валодаць лепш ліцвінскай мовай, чым мовай нарманаў.

Калі ж «піраты-гандляры» памерлі, то іх дзеці, якія лепш валодалі мовай матак, аказаліся цалкам у ліцвінскім моўным асяроддзі, дзе ў прынесенай скандынавамі мове зусім не было патрэбы. Ці ж няясна, што тая мова мусіла непазбежна знікнуць?

Прыклад такога працэсу зафіксаваны, напрыклад, у Якуціі. Казакі ў XVII стагоддзі, дый надалей пасылаліся царскім урадам сюды без жонак. Каб мець сям'ю і гаспадарку, «служылыя» вымушаныя былі жаніцца з якуцкімі жанчынамі. І нягледзячы на тое, што Якуцкі казацкі полк папаўняўся прысланымі з Расеі, у XIX стагоддзі тутэйшае казацтва цалкам з'якуцізавалася. Гэтыя казакі вонкава былі падобныя і да еўрапейцаў, але не ведалі іншай мовы, апрача якуцкай. Такіх людзей можна сустрэць і цяпер.

Зрэшты, Галяк і сам разумее гэта. Група скандынаваў, піша ён, што прыйшла на Літву, «з увагі на сваю малалікасць, а таксама дзеля адсутнасці скандынаўскіх жанчынаў (падкрэслена мной. — *Аўт.*), моўна магчыма хутка здэнацыяналізавалася» (с. 16). «Моўна здэнацыяналізавалася» — гэта значыць, страціла мову. А калі мова знікла, то як, не ведаючы яе, людзі маглі даваць у ёй імёны?

Згадаем дынастыю Рурыкавічаў. Рюрик, Олег, Игорь — імёны яўна неславянскія. А ўжо ў сына Ігара, Святаслава — бясспрэчна славянскае. І ў далейшым імёны Рурыкавічаў — спрэс славянскія. Зрэдку даюцца Рюрик, Олег, Игорь — у гонар продкаў. І — аніякіх іншых, такіх жа незразумелых.

А імёны, якія Галяк лічыць скандынаўскімі, даваліся ліцвінскім князям нават у XV стагоддзі. Дый не толькі князям, але і іншым людзям, адзначаным у летапісах ды дакументах. Прычым імёнаў гэтых не тры, як Рюрик — Олег — Игорь, а шматлікія дзесяткі. Гэта паказвае, што мова, у якой яны даваліся, жыла. Дык што: аж да XV стагоддзя на Літве гучала скандынаўская мова?

Зразумела, так не магло быць. Бо «скандынаўская экспансія» скончылася ў сярэдзіне XI стагоддзя, на 400 год раней. А пасля 1200 года дапусціць пранікненне нарманаў-заваёўнікаў на Літву зусім немагчыма, бо ўсё балцкае ўзбярэжжа насупроць літвы было зачыненае немцамі. Для знікнення ж — поўнага — мовы людзей, што прыйшлі без жанчын, дастаткова трох пакаленняў, 70–80 гадоў.

Такім чынам, згодна са схемай з'яўлення скандынаваў на Літве, прапанаванай Галяком, імёны ліцвінскіх князёў скандынаўскімі быць не могуць. Але, можа, літва сама была скандынаўскай, роднаснай па мове шведам ды нарвежцам?

Такую магчымасць абвяргае гідранімія. Калі б літва была сапраўды скандынаўскай, то на ейнай тэрыторыі былі б і скандынаўскія гідронімы. Зірніце на карту Швецыі, дзе знаходзім рачныя назвы Далэльвен, Штээльвен, Гета-Эльв, Йідээльв, Дегдээльв, Эрзэльв і мноства іншых з канчаткам эльв-эльвен, што азначае «рака». На Беларусі і ў Летуве такіх няма.

Ліцвінскіх імёнаў да нас дайшлі дзесяткі. А скандынаўскіх — сотні і сотні. Найважнейшая крыніца іх — сагі, дзе літаральна кожны персанаж мае імя. «У «сагах аб Ісландцах» згадваецца ў агульнай колькасці болей за сем тысяч асобаў» (М.И. Стеблин-Каменский. Мир саги. Становление литературы. М., 1983. с. 83). Вялікую колькасць імёнаў змяшчаюць і рунічныя надпісы на камянях-помніках. Алфавітны паказальнік да кнігі А. Мельнікавай налічвае 220 імёнаў вікінгаў, што загінулі або памерлі ва Усходняй Еўропе, а таксама іх блізкіх ды сяброў, што ставілі тыя помнікі (гл. Е.А. Мельникова, с. 211–215).

Як правільна адзначае Галяк, большасць скандынаўскіх імёнаў эпохі вікінгаў — двухчленныя, як і ліцвінскія. У тых і гэтых маюцца падобныя гучаннем часткі: скандынаўскае <u>мунд</u> — ліцвінскае <u>мунт</u>, <u>монт</u>; <u>герд</u> — <u>герд</u>; <u>від</u> — <u>від</u>. У вікінгаў сустракаюцца нават цэлыя імёны, вельмі падобныя да ліцвінскіх: скандынаўскае <u>Гермунд</u> — ліцвінскае <u>Гермонт</u>. Але калі чытаеш скандынаўскія імёны пасля ліцвінскіх /ці наадварот/, зусім не складваецца ўражанне тоеснасці імённых сістэмаў. Каб не быць галаслоўным, прывяду поўны пералік імёнаў з кнігі Е.А. Мельнікавай у ейнай, расейскай перадачы:

Аки, Альвхильд, Али, Альрик, Альви, Андсвар, Арнфаст, Асбьёрн, Асгаута, Асгаут, Асгейр, Аскель, Аспак, Асмунд, Асрад, Ассур, Астрид, Асвид, Аудвальд;

Балли, Баульв, Бергвид, Бьёрн, Бьёрнлауг, Блейк, Блэси, Ботмунд, Бранд, Бруси, Буи, Бюрстейн;

Дьярв, Домар;

Эгиль, Эирик, Эринмунд, Эйгаут, Эймунд, Эйстеин, Эйват, Эйвинд;

Фарульв, Фаствн, Фолькбьёрн, Фолькмар, Фот, Фрегейр, Фрейстейн;

Гаутфьярв, Гаути, Гейрвьёрн, Гейрфаст, Гейр, Гердар, Гисл, Гислн, Гисмунд, Гнупа, Горм, Грани, Гудлейв, Гудмунд, Гудрун, Гудвер, Гуви, Гулли, Гума, Гуннар, Гуннлейв, Гуннульв, Гуннвальд, Гуннвид;

Хакон, Хальвдан, Халльфинд, Харальд, Хедифрид, Хедин, Хельга, Хельги, Херлейв, Хермод, Хертруд, Хливей, Хольм, Хольмфаст, Хольмфрид, Хольмгейр, Хольмстейн, Хольвид, Хравн, Хродар, Хродельв, Хродфос, Хродгаут, Хродгейр, Хродлейв, Хродвальд, Хродвисл, Хрольв, Хрут, Хёрд;

Явни, Инга, Ингибьёрг, Ингифаст, Ингифрид, Ингимунд, Ингирунн, Ингитора, Ингвар, Ярл;

Ион, Йорунн, Йули, Йовурфаст;

Кари, Карл, Кар, Кетилей, Кетиль, Кетильфаст, Кетильмунд, Кольбейн, Христос;

Ликнат, Ликни, Льот;

Мистивой;

Оддлауг, Офейг, Олав, Орм, Ормульв, Отрюгг, Оттар;

Рагнар, Рагнфрид, Рагнхильд, Рунфаст;

Сибби, Сиград, Сигрид, Сигстейн, Сигтрюгг, Сигвид, Скарди, Скарв, Слагви, Слоди, Смид, Спьялбуди, Спьоти, Стейнфрид, Стейнхильд, Стейн, Стюрбьёрн, Стюрлауг, Суннват, Свейн, Сэбьёрн;

Таваст, Това, Токи, Тола, Тости;

Ульв, Ульвар;

Вагн, Вермунд, Вестейн, Вильбьёрн, Внфаст, Вифиль,

Тьялви, Тьодульв, Торбьёрн, Торд, Торфрид, Торгейр, Торгерд, Торир, Торкель, Торольв, Торстейн, Торвальд;

Эгмунд, Энунд, Эпир.

(Імёны прыводжу ў тым парадку, у якім яны размяшчаюцца ў кнізе, згодна са старажытнаісландскім алфавітам.)

Параўнайце з гэтым тыя ліцвінскія імёны, што разглядаліся вышэй. Сярод кампанентаў ліцвінскіх імёнаў найчасцей сустракаецца монт (мунт). Сярод скандынаўскіх трапляюцца імёны з мунд: Асмунд, Эринмунд, Эймунд, Гисмунд, Гудмунд, Ингимунд, Кетильмунд, Вермунд, Эгмунд. Але калі сярод ліцвінскіх «цаглінак» монт — лідар, то сярод скандынаўскіх мунд — адзін з лідараў.

«Цаглінка» ас нават крыху часцейшая: Асбьёрн, Асгаут, Асгейр, Аскель, Аслак, Асмунд, Асрад, Ассур, Астрид, Асвид.

Столькі ж, як з мунд, імёнаў з тор: Торбьёрн, Торфрид, Торгейр, Торгерд, Торир, Торкель, Торольв, Торстейн, Торвальд.

На адзін-два разы радзей, чым мунд, ужываюцца:

— гейр /Асгейр, Фрейгейр, Гейрбьёрн, Гейрфаст, Гейр, Хольмгейр, Хродгейр, Торгейр/,

— стейн /Борстейн, Эйстейн, Фрейстейн, Хольмстейн, Сигстейн, Стейнфрид, Стейнхильд, Стейн/,

— хрод /Хродар, Хродельв, Хродгаут, Хродфос, Хродгейр, Хродлейв, Хродвальд, Хродвисл/,

— бьёрн /Асбьёрн, Бьёрн, Бьёрнлауг, Фалькбьёрн, Торнбьёрн, Сэбьёрн, Видбьёрн, Торбьёрн/,

— фаст /Арнфаст, Хольмфаст, Кетильфаст, Ингифаст, Рунфаст, Вифаст/.

А гэтых гейр, стейн, хрод, бьёрн, фаст сярод ліцвінскіх няма зусім, як няма і такіх, здавалася б, просценькіх часцінак, як ас ды тор, а асы ж — багі скандынаўскай міфалогіі, Тор — наймагутнейшы з асаў, так што ўжо адна адсутнасць элементаў ас ды тор у ліцвінскіх імёнах гаворыць супроць таго, што яны — скандынаўскага паходжання. Даволі адметна адрозніваюцца скандынаўскія імёны ад ліцвінскіх і ў фанетычным сэнсе. У скандынаўскіх вельмі частыя гукі «х», «ф», якіх у ліцвінскіх няма абсалютна.

Імёны з мунд — не самыя папулярныя і ў сагах. «Пэўныя імёны ўжываюцца шматразова ў адной сазе. Так, у «Сазе пра Ньяла» згадваюцца 15 Торкеляў, 14 Кетыляў, 12 Торыраў, 10 Грымаў, 7 Хельгды г.д.» (М. К. Стеблин-Каменский. Мир саги, с. 57). Як бачым, сярод найчасцейшых імёнаў у сагах з мунд няма.

Адначасова сярод скандынаўскіх імённых часцінак няма такіх ліцвінскіх, як гайло ды товт. Скандынаўская герд сустракаецца галоўным чынам у жаночых імёнах: Торгерд (Е. Мельникова), Ингигерд, Исгерд (Е. Рыдзевская, с. 43, 84), Герд (М. Стеблин-Каменский, с. 38). Мне ва ўсім прачытаным удалося адзначыць толькі адно мужчынскае імя з герд, але яно з герд пачынаецца (Гердар. Е. Мельникова). Імёны ж, якія канчаюцца на герд, як ліцвінскія Ольгерд, Довгерд, Мандыгерд, у скандынаваў жаночыя. Што азначае скандынаўскае герд, мне адшукаць не ўдалося, але падобна, што значэнне гэтага слова больш стасуецца да жанчыны.

Такім чынам, калі скандынаўскія ды ліцвінскія імёны ўявіць у выглядзе двух злучаных агульнай плошчай кругоў, то агульная частка будзе выглядаць як вузенькая лінза.

А як жа філалагічны аналіз, які вядзе Галяк? Трэба сказаць, што ён вельмі павярхоўны і недакладны.

Недакладнасць пачынаецца ўжо там, дзе Галяк дае агульную характарыстыку скандынаўскім імёнам, сцвярджаючы, што яны «азначалі пераважна тагачасна ўважаныя ў тым асяроддзі розныя пазітыўныя вартасьці, як удача, адвага, сіла, улада, багацьце, кіраўніцтва, або важныя рэчы, як лук, меч, кінжал, і г.д.». Але гэта не зусім так. Як мы ўжо гаварылі, у імёны ўваходзіць слова ас — «бог», імёны асаў, як Тор, іншае слова «бог» — гуд (параўнай нямецкае Gott). Стейн азначае «камень», так што лексічная база імёнаў шырэйшая, чым паказвае Галяк.

У сваю звужаную сістэму Галяк заганяе і ліцвінскія імёны. Яму абавязкова трэба, каб яны былі не проста скандынаўскімі, а азначалі менавіта тое, што ён назваў: удачу, адвагу, сілу, кап'ё, кінжал. Таму ён часам скажае самі імёны. Так, Товтивил для яго — Тотвіл, Рогвольд (Рогволод) — Рагвальд. Пэўныя імёны ён няправільна падзяляе на кампаненты: Гаштальт у яго — гашт + альт, хаця па аналогіі з Витовт, Гинтовт у Гаштовт (Гаштольд) вылучаюцца элементы гаш + товт /тольд/. А яшчэ Галяк ужывае «скандынаўскія» словы, якіх няма. Так, элемент монт ён тлума-

чыць праз «монт ці мунт», якое «ў першым значэнні азначае руку, а ў больш пераносным сілу, апеку» (с. 23). Але ў аніводнай скандынаўскай мове ні монт, ні мунт са значэннем «рука», «сіла, апека» не сустракаюцца. Што ж да мунд сярэднявечных нарманскіх імёнаў, то яно, падобна, азначала «чалавек», «мужчына» /сёння толькі ў дацкай мове захавалася mand «мужчына», у шведскай жа ды нарвежскай « чалавек», «мужчына» — mann, як у нямецкай/.

Не адшукалася ў скандынаўскіх слоўніках і такіх словаў, як min «стары», kejste «левая рука», kori «кучаравы», якімі аперыруе Галяк. Шэраг скандынаўскіх словаў ён скажае: замест gejr («кап'ё») піша ger, замест tott — tot. Пры гэтым скажае і сэнс: па-нарвежску tott «туга нацягнуты», а ў Галяка — «тугі» (цвёрды). І ўвогуле скажэнне сэнсу скандынаўскіх словаў у Галяка даволі частае: vid ён перакладае як «вялікі», у сапраўднасці ж — «шырокі», «бязмежны»; narid «суровы, няроўны», а трэба — «няроўны, шурпаты». Sig у Сігмунд, на яго думку, азначае «сам». Але Sig — «сябе», і гэтае слова не мае дачынення да імя з скандынаўскага эпасу, бо Сіг — у ім азначае «перамагаць» (згадайце нямецкае «зіг хайль!»).

Тут Галяк паўтарае і чужую памылку, гаворачы ўслед за Юргевічам, што Сігмунд — «тытул скандынаўскага бога Одына і тлумачыцца як самаўладца» (В. Юргевич, с. 26). Напраўдзе ж Сігмунд — імя эпічнага героя (гл. Скандинавские сказания. М., 1988).

Яшчэ цікава адзначыць, што Галяк зусім не спрабуе вытлумачыць з дапамогаю скандынаўскіх моваў імёны Палямона ды ягоных сыноў (Борк, Кунос, Спера) — г. зн. тых ліцвінскіх князёў, што на яго думку прыйшлі са Скандынавіі. Ці не таму, што гэта бескарысна?

Зразумела, што, дакапаўшыся да скандынаўскіх слоўнікаў, не мог не пацікавіцца я і такім пытаннем, як паходжанне нашых першых князёў (яшчэ не літоўскіх).

Ёсць у кнізе А. Рыдзеўскай вялікі цікавы артыкул, які называецца «К вопросу об устных преданиях в составе древнейшей русской летописи». З яго можна даведацца, што такія паданні, змешчаныя ў «Аповесці мінулых гадоў», перагукваюцца з легендамі скандынаўскімі (напрыклад, пра смерць Алега «ад каня»).

Ёсць у артыкуле і раздзел, прысвечаны паданню пра Рагнеду (с. 209–213): «у Ynglingo saga, што апавядае пра легендарных каралёў Швецыі ды Нарвегіі, гаворыцца пра сватанне аднаго абласнога нарвежскага конунга да дачкі другога, якую звалі Асай: атрымаўшы адмову, ён ідзе на яго вайной; у баі гіне і бацька, і брат Асы, яе саму пераможца бярэ сабе ў жонкі, але гады праз два гіне ад рукі падасланага ёю забойцы. Аса, як і Рагнеда, мае сына ад мужа-захопніка. Помста, як мы бачым, у абодвух выпадках прыходзіць не адразу. Рагнеда, па версіі 1128 г., пасля разрыву з Уладзімірам атрымлівае сваю «отчину» з Ізяславам, Аса пасля смерці мужа ідзе ў тое княства, якім валодаў яе бацька, і там выхоўваецца яе сын» (с. 209). Падабенства вельмі вялікае. А. Рыдзеўская лічыць, што тут або тыпалогія, або ўплыў Русі на Скандынавію.



*Сяўба з лукошка (пярмяне, пачатак XX ст.)*

Я не буду кідацца ў спрэчку з гэтым, бо прыводжу вытрымку пра Асу, уласна кажучы, толькі з-за той цікавасці, якая праяўляецца ў нас да Рагнеды, бо для маёй тэмы дастаткова было б працытаваць вось гэты кавалачак:

«Цалкам магчымы таму і нейкі рэальны Рагвалод, хаця ён як гістарычная асоба застаецца даволі няясным ды неазначаным. Ягонае імя, што трывала ўвайшло ў традыцыю ў родзе полацкіх князёў, а таксама імя ягонай дачкі (Рагнеды. — *Аўт.*) праўдападобна тлумачацца як скандынаўскія і валодаюць характэрнай алітэрацыяй» /с. 213/.

Яшчэ ў 1891 годзе думку аб гэтых імёнах як славянскіх выказаў М. Доў-

нар-Запольскі (Е. Рыдзевская, с. 213). Наш Ермаловіч таксама на баку славянскай версіі:

> «Імя яго, як і яго дачкі Рагнеды, стала выводзіцца са скандынаўскіх моваў.
>
> Але з гэтым пагадзіцца нельга. Імя Рагвалод (у некаторых варыянтах Рагаварод) — чыста славянскае, яно азначае «ўладар рога», г. зн. мыса, і пашырана ў іншых славянскіх народаў, у прыватнасці, у чэхаў, да якіх нарманы не даходзілі. Славянскім з'яўляецца і імя Рагнеда, правільней Рагнедзь. Яно таксама мае свае варыянты ў чэхаў. І ў Наўгародскім летапісе пад 1135 годам упамінаецца княгіня Рагнедзь».
>
> (М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь, с. 70–71).



*Сяўба з лукошка (Беларусь, 1930-е гг.)*

Затое Галяк цалкам далучаецца да прыхільнікаў скандынаўскай версіі. Імя Рагвалод ён аналізуе так: «Рагвалд: rag — цягнуць у значэньні веславаць, vald — сіла, кіраваньне. Корань Раг выступае ў імені швэцкага князя XI стагоддзя, а таксама ў рунічных надпісах з X стагоддзя — Рагнгілд і Рагнфрід» (Л. Галяк, с. 24–25).

Думаецца, што пераклад імя Рогволод як «уладар мыса» вельмі нестасоўны. Бо якога мыса? Наша старонка сухапутная (як, дарэчы, і Чэхія), так што гаворкі пра мыс марскі тут быць не можа. Калі ж бацькі, даючы імя Рагвалоду, жычылі яму валодаць рачным мысам, то ці не занадта мізэрны лёс вызначалі яны свайму сыну? Іншая справа — Владимир: «валодай светам»! Або Всеволод: «усім валодай»... Або Володарь: ізноў жа «валодай усім». «Уладар мыса» ў гэты шэраг яўна не становіцца. А што такое Ро-

гнедь? Тут жа таксама «рог». Што павінна з гэтым «рогам» рабіць князёўна?

Галяк робіць правільна, што адштурхвасцца не ад Рогволод. Але формы, якую ён абраў для аналізу — Рагвальд — у летапісах няма. У «Аповесці мінулых гадоў» пішацца — Рогволод, у нейкіх іншых помніках — Рогвольд (гл. Белоруссия и Литва, с. 12, 25, 30). Таму для адшыфроўкі гэтага імя няма аніякага значэння, як перакладаюцца са скандынаўскіх моваў rag ды vald. Але зазначу ўсё ж, што слова rag у значэнні «цягнуць» /«веславаць»/ няма ні ў шведскай, ні ў нарвежскай мове.

Дарэчы, калі б Галяк трохі пашырыў свой пошук, то сярод імёнаў, што сустракаюцца ў рунічных надпісах, знайшоў бы Рагнвальд (Е. Мельникова, с. 214, 118), што куды бліжэйшае да ягонага Рагвальд, чым Рагнгілд або Рагнфрід. Але ці можа Рагнвальд быць першакрыніцай імя Рогвольд? Вельмі сумняваюся. Абсалютна немагчыма вытлумачыць, якім чынам два «а», г.зн. і націскное, і ненаціскное, маглі ператварыцца ў два «о». І ці не пайшла б пераробка Рагнвальд у напрамку Рагнальд?

Трэба сказаць, што зусім выключаць скандынаўскае паходжанне імёнаў Рогвольд ды Рогнедь няварта. Не можа, напрыклад, не прыцягваць увагу тое, што Рогнедь са скандынаўскага вырашаецца прасцей, чым Рогвольд. Рогнедь пачынаецца з Рогн -, як Рагн-фрід, Рагн-гілд, Рагн-вальд. У скандынаўскіх мовах ёсць слова ed /«клятва, прысяга» па-шведску і па-нарвежску/. Так што, магчыма, сярод рунічных або сагавых імёнаў сустракаецца Рагнед. На гэты конт магла даць сведчанне А. Рыдзеўская, але яна абмежавалася назіраннем, што імёны Рогволод ды Рогнеда «валодаюць характэрнай (скандынаўскай. — *Аўт.*/ алітэрацыяй».

Але я ўсе ж думаю, што разгадку гэтых антрапонімаў трэба шукаць у мясцовых, фіна-вугорскіх мовах (мабыць, чытач усміхнецца, што для мяне гэтыя мовы ўжо мясцовыя). Не будзем забывацца, што Рогвольд ды Рогнедь — гэта імёны бацькі і дачкі, значыць, агульны іх элемент рог — радавое імя, а вольд ды недь — індывідуальныя, уласныя. Ці ж не падобна, што Рог-Вольд — Вольд з роду Рог, а Рог-Недь — гэта Недь з таго ж роду?

Усе гэтыя тры словы маюцца ў комі-зыранскай мове: рога — «смала»; вöльд — «пароша», «снег, які толькі што выпаў»; ньöдз /чытаецца «недзь»/ — «гнуткі, няломкі».

На Беларусі нямала тапонімаў, утвораных ад «рог»: вёскі Рог (дзве), Рогава, Рагава, Рагадашч, Рагазіна, Рагі (дзве), Рагінь. На жаль, не так проста аддзяліць звязаныя з пачаткам імёнаў Рогвольд ды Рогнедь ад аднакарэнных са славянскім рог. Але прынамсі Рагава канчаецца на -ва, як этнонімы літва, мардва. І калі мае дапушчэнне, што -ва ў такіх выпадках азначае «народ, племя» (гл. «Племя пяці родаў»), правільнае, то рагава — гэта рога-ва, «смаляное племя». Ці не так яно і называлася, племя Рагвалода ды Рагнеды?

Вось пытанне: ці заўсёды пры славянізацыі падобныя этнонімы захоўваліся ў сваім пачатковым выглядзе? Можа, яны часткова і перакладаліся? Сярод заходнеславянскіх плямёнаў, што жылі ў Польшчы, былі смольнянс (В. Чивилихин. Память. Роман-газета, 1982, № 17, с. 1), што ўваходзілі ў саюз борычаў /абадрытаў/. Ці сапраўды яны былі славянамі? Мы ж ведаем, што ў плямённы саюз, які запрасіў Рурыка, уваходзілі і фінскія чудзь, весь, мера. А можа, наша рагава і не мае да тых смальнянаў дачынення, і тут простае супадзенне? У той жа час кідаюцца ў вочы такія назвы, як Смаленск, Смалявічы /горад пад Менскам/, Смаляны /вёскі ў Аршанскім ды Пружанскім раёнах/. Не думаю, каб яны ішлі ад «смала». Гэта праявы племя смалянаў, што, магчыма, з'яўляецца перакладам этноніма рагава.

Шмат якія даследчыкі лічуць нарманам і Тура, легендарнага заснавальніка горада Турава. «Гэтага прызнаць нельга, — піша Ермаловіч. — Не маюць рацыі і тыя, хто сцвярджае, што ў старажытных славянаў адсутнічала імя Тур. Яно зарэгістравана ў рускіх летапісах, было і ў іншых славянскіх народаў» (М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь, с. 74).

Але рэч у тым, што ў летапісах не Тур: «БѢ бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья, имяше власть свою в ПолотьскѢ, а Туры ТуровѢ» /Изборник, 1969, с. 58/. І сам М. Ермаловіч цытуе: «а Туры ТуровѢ, от него же и туровцы прозвашася» (Старажытная Беларусь, с. 74). Але, не звяртаючы ўвагі на тое, што ўладар Турава зваўся Туры, піша ўсюды пра яго «Тур».

Рыдзеўская супастаўляе Туры са скандынаўскім Торир (с. 213), адзначаным у рунічных надпісах (Е. Мельникова, с. 83 ды інш.). Але вытлумачыць выпадзенне на канцы слова пасля галоснага такога гучнага зычнага, як «р», немагчыма. А тым часам у комі

мовах масцца турu «жораў», абсалютна дакладны адпаведнік імя Туры.

Што ж у нас атрымліваецца? А тое, што ўсе вядомыя імёны нашай ранняй гісторыі /праўда, іх толькі тры/ аказваюцца пермскімі. Прычым гэта антрапонімы не з тых тэрыторый, дзе мы прывыклі размяшчаць неславянскія плямёны: Рогвольд ды Рогнедь — Полацк, Туры — Тураў.

Выходзіць, пермскаю на Беларусі была не толькі літва, а яшчэ і нейкія іншыя плямёны, накшталт рагавы, што зусім не пакінулі следу ў гістарычных крыніцах. Але не будзем забягаць наперад, бо і з літвой разабраліся яшчэ не да канца. Тое, што ліцвінскія імёны адшыфроўваюцца з пермскага моўнага матэрыялу, бясспрэчна. Але чым можна падмацаваць гэтую распрацоўку, каб не заставалася аніякіх сумлеваў? Ці ёсць чым падмацаваць?

Ёсць. Пра гэта — у наступным раздзеле.

## Глава 3
# Там, дзе жыла літва

Уадданага рупліўца на ніве беларушчыны Міколы Іванавіча Ермаловіча шмат выдатных знаходак, што навечна ўвойдуць у нашу гістарычную навуку. Але найбольшым яго дасягненнем, безумоўна, будзе лічыцца вызначэнне ім месца жыхарства летапіснай літвы.

Усмактаных з малаком маці стэрэатыпаў не так лёгка пазбыцца, і, на жаль, аж да гэтага часу, калі распрацоўка Ермаловіча даўно апублікаваная, знаходзяцца гісторыкі, што не засвоілі гэтага найважнейшага для разумення нашай мінуўшчыны адкрыцця. Таму дазволю сабе ў некалькіх словах выкласці факты, устаноўленыя Міколам Іванавічам.

Чытаючы летапісы, ён заўважыў, што згадкі аб літве не стасуюцца з уяўленнямі, што гэтае племя жыло на тэрыторыі сучаснай Летувы. Так, у адным з летапісаў сказана, што князь Войшалк «учини собе монастырь на реце на Немне, межи Литвою и Новым городком», г. зн. Навагрудкам. А месца гэтага манастыра дакладна вядомае: пры ўпадзенні ў Нёман ракі Валоўкі. Выходзіць, літва жыла на ўсход ад Навагрудка, паміж ім ды Менскам.

Падобных сведчанняў не адно і не два. Прычым яны пацвярджаюцца тапанімікай: «Характэрна, што на тэрыторыі, якая ў летапісах выступае пад назвай «Літва», да сённяшняга дня захаваўся тапонім «Літва». Населеныя пункты з такой назвай мы сустракаем у Слонімскім (Гродзенская вобл.), Ляхавіцкім (Брэсцкая вобл.), Уздзенскім, Стаўбцоўскім, Маладзечанскім (Мінская вобл.) раёнах» (М. Ермаловіч. Па слядах аднаго міфа, с. 22, 24). І зыходзячы з назірання, што этнічныя назвы звычайна размяшчаюцца <u>на межах</u> этнасаў, Ермаловіч вызначае месцазнаходжаннем летапіснай літвы верхняе Панямонне, у пералічаных раёнах.

Тым часам энцыклапедыя «Літва» паказвае арэал летапіснай літвы істотна іначай. Пачынаецца ён, паводле «Літвы», ад Нава-

градка, а канчаецца ўпадзеннем Віліі (Няріса) у Нёман, прычым займае ладны кавалак і на поўнач ад Віліі (гл. с. 135, карта). А на с. 357 «першай сталіцай Літоўскага княства», са спасылкай на «гістарычныя летапісы XVI стагоддзя» вызначаецца Кернаўскі замак, што стаяў паблізу ад Віліі кіламетраў на 50 ніжэй за Вільню.

Такі падыход выклікае адразу два пярэчанні. Па-першае, у летапісах XVI стагоддзя згадкі аб Кернаве (Кернов, Кернова) змяшчаюцца толькі ў іх легендарнай частцы — як вельмі слушна даводзіць Ермаловіч, прыдуманай для таго, каб падкрэсліць, што паходжанне Вялікага Княства Літоўскага — неславянскае (гл. Старажытная Беларусь, с. 312–315). У параўнанні з вядомымі летапісамі XIII стагоддзя гэтая частка беларускіх летапісаў выключна блытаная ды непраўдзівая. Так, у ёй зусім адсутнічаюць звесткі пра першага вялікага князя літоўскага Міндоўга (гл. ПСРЛ, том 35). Затое прысутнічае маса князёў, якіх увогуле не было. Вось яшчэ характэрны прыклад. У Іпацьеўскім летапісе расказваецца, што Міндоўг адабраў жонку ў нальшчанскага князя Даўмонта. А ў летапісах XVI ст., наадварот, Даўмонт адбірае жонку ў іншага князя.

Але, па-другое, і гэтыя летапісы называюць першай сталіцай не Кернаў, а Навагародак, з якога яна быццам бы пераносілася ў Кернаў: «По смерти великого князя Романа начнет княжити сын его старший Наримонт, и учинит город Кернов, и знесет з Новагородка столец до Кернова и назовется великий князь литовский и новогородский и жомоитьский» (Летапіс археалагічнага таварыства. ПСРЛ, том 35, с. 93); «И вмерши Роману, начнет княжити сын его Наримонт, и вчинить город Кпрнов (так у тэксце. — *Аўт.*), и знесе з Новагородка столец до Кернова, и начал княжити, и назовется великим князем литовским, новогородским и жомоитьским» (Летапіс Красінскага, ПСРЛ, том 35, с. 132) ды інш. Так што калі спасылацца на «гістарычныя летапісы» XVI стагоддзя, то першай сталіцай ВКЛ трэба называць Навагародак.

Праўда, Стрыйкоўскі сцвярджаў, што Міндоўг каранаваўся ў 1252 годзе ў Кернаве (Н. Улащик, с. 143). Але і Стрыйкоўскі — аўтар XVI стагоддзя. Апрача таго, не трэба забывацца, што на Беларусі ёсць рака Кернава — доплыў Ашмянкі (Вілейскі ды Смаргонскі раёны). Там, магчыма, і размяшчалася невялікае га-

радзішча Міндоўга, бо мусіў жа ён мець нейкае сховішча ў той час, калі не князяваў у Новагародку.

Я кажу «невялікае» таму, што Іпацьеўскі летапіс XIII стагоддзя, дзякуючы якому нам і вядомая з меншага пачатковая гісторыя ВКЛ, ні аб якой «сталіцы» Міндоўга анічога не гаворыць. І прычына зусім не ў геаграфічнай недасведчанасці летапісца. Так, расказваючы пра вайну Міндоўга супроць Таўцівіла, Едзівіла ды Вікінта, якіх падтрымала Галіцка-Валынскае княства (1252 год), ён называе «градъ именем Вороута», у які «вниде» Міндоўг, «город Выкинтовъ именемъ Твиреметь» (ПСРЛ, том 2, с. 818). Зразумела, што ведаючы нейкія «пазаштатныя» Варуту ды Твірамець, — сталіцу Міндоўга, калі б гэта быў горад або добра ўмацаваны замак, летапісец бы ведаў. І абавязкова назваў бы, бо зачэпак для таго меў дастаткова. Вось, напрыклад, як канчасцца ў апісанні летапісца згаданая вайна: «И возвратися Минодовгъ в землю свою» (ПСРЛ, том 2, сл. 818). Куды канкрэтна? Не сказана.

Вось яшчэ месца, дзе сталіца Міндоўга, калі б яна была, абавязкова была б названая — маю на ўвазе забойства вялікага князя. Пачытайма спачатку: «В лѢто 6771. Послалъ бяшеть Миндовгъ всю свою силоу за ДнѢпръ на Романа на Бряньского князя. Довмонт же бяшеть с ними же пошелъ на воину и оусмотри время подобьно собѢ и воротися назад /.../ и погна вборзѢ изогна Миндовга тоу же и оуби его» (ПСРЛ, том 2, сл. 860).

Што адсюль вынікае? Што Міндоўг паслаў усё свае войска на Бранск, а сам застаўся дома. Даўмонт і скарыстаў гэта: зрабіў выгляд, што ідзе ў паход таксама, а сам вярнуўся і забіў вялікага князя, які застаўся без абароны. Дзе гэта адбылося? Ясная рэч, у «сталіцы» Міндоўга або каля яе. І калі б летапісец ведаў назву той «сталіцы», то няўжо не згадаў бы яе? Але, падобна, ніякай літоўскай сталіцы, апрача Новагародка, у той час не было.

Дый увогуле літва новагародскага перыяду была бедная на буйныя паселішчы, добрыя ўмацаванні. Калі на літву нападалі, яна не зачынялася ў гарадах ды замках, якіх не было, а адступала ў непраходныя балоты, лясы, дзе да яе немагчыма было дабрацца. Аб гэтым сведчыць гісторыя некалькіх паходаў на яе, адлюстраваных у летапісах. Так, у 1252 годзе, дапамагаючы Таўцівілу ды Вікінту, галіцка-валынскія князі ідуць супраць Міндоўга такім чынам: «Данило же и Василко поидоста к Ново-

угородоу /.../ со сынмъ брата си посла Волковыескъ а сына на Оуслонимъ а сам иде ко Здитову и поимаша грады многы и звратишася в домы» (ПСРЛ, том 2, сл. 816). Як бачым, «поимаша» Навагародак, Валкавыск, Слонім ды Здзітаў (усё — славянскія гарады!) — і «з506ратишася в домы».

А чаму б пасля такіх перамог не ўдарыць непасрэдна па літве, па літоўскай рэзідэнцыі Міндоўга? У летапісца такое пытанне нават не ўзнікае — відавочна, «рэзідэнцыя» не заслугоўвала гаворкі. На гэтым барацьба супроць Міндоўга не канчаецца. Праз год «Тевтивил присла (да Данілы Галіцкага. — *Аўт.*) Ревбоу река поиди к Новугородоу. Данило же поиде с братом Василкомъ и со сынмъ Львомъ и с Половци со сватомъ своимъ Тегакомъ /.../ и пославша сторожу Литва на озерѣ Зьятѣ и гнаша чересъ болота до рекы Щарьѣ» (ПСРЛ, том 2, сл. 818). Потым князі радзяцца: ісці далей або не? «Данилъ же моудростью речь створи яко срамотоу имеешь от Литвы и от всехъ земль аще не доидемъ и вратимъ».

Як бачым, паход супроць Новагародка аказваецца паходам супроць літвы, Новагародак ды літва змешваюцца ў свядомасці летапісца (і тых, пра каго ён піша): пайшлі на Новагародак — «сторожу послала Литва», не дойдзем да Новагародка – «срамотоу имеешь от Литвы». Але ж літва тады існавала і па-за Новагародкам, этнічная. І Міндоўг нібыта быў ейным прадстаўніком. І згодна з такой логікай, авалодаўшы Новагародкам, трэба было ісці на літву, каб канчаткова разграміць Міндоўга. Але, як і год назад: «Наоутрея же плениша всю землю Новогородскоую. Отоуда же возвратишася в домъ свои».

Тое сама назіраем і праз 20 год, пры Тройдзеню. У 1274 годзе Тройдзень «пославъ Городняны... взяти Дорогичинъ» «и тако взяша и на самы великъ день избиша и всѣ от мала и до велика» (ПСРЛ, том 2, сл. 971). Тое, што гарадняны ўзялі Дарагічын ды ўчынілі там разню ў вялікдзень, ясна сведчыць, што на чале іх стаялі паганы, бо хрысціяне не сталі б ліць кроў хрысціянаў у дзень уваскрэсення Хрыста. Да гэтага часу Галіцка-Валынскае княства з-за татарскага ціску стала ўжо прыходзіць у заняпад і само даць рады Тройдзеню, мабыць, не магло. Таму Леў (сын Данілы Галіцкага) «посла в Татары ко великому цреви Меньгоу Темиреви прося собѣ помочи оу него на Литвоу». Не абмінем гэтага: «помочи» не на Новагародак, а <u>на літву</u>.

І вось прыходзяць татары, а з імі васалы татарскага князя — рускія князі, і вялізнае злучанае войска ідзе — куды б вы думалі? На які-небудзь Кернаў? Не. На Новагародак! Пры аблозе ж Новагародка адбываецца такая гісторыя: Леў, згаварыўшыся з татарамі, не чакаючы іншых саюзнікаў, разам са стэпавікамі захоплівае спачатку «окольный город» Новагародка, — зразумела, разрабаваўшы. Тут усе князі на Льва так усердавалі, што «возвратишася во свояси тако же от Новогородка». Аказваецца, быў план (сл. 873–874), «вземше Новогородок тоже потомъ пойти в землю Литовьскую». Вось табе і маеш: збіраліся адплаціць літве за Дарагічын, а не падзяліўшы багацці Новагародка, на літву забыліся.

Праз тры гады татарскі хан паслаў галіцка-валынскім князям «грамоту», у якой было сказана: вы мне скардзіцеся ўвесь час на літву, дык я пасылаю вам войска і ідзіце з ім на сваіх ворагаў. Дачакаліся зімы (Ермаловіч трапна зазначае, што супроць літвы паходы заўсёды ладзіліся ўзімку — несумненна, з-за балотаў, у якіх яна жыла), і «поидоша князи Роусции на Литвоу Мьстиславъ ВолодимѢръ а Левъ не иде но посла сына своего Юрья и тако поидоша вси...» — куды б вы думалі? Правільна, «к Новогородку». А як дайшлі да Берасця, прыляцела чутка, што «оуже ТатаровѢ попередили к Новоугородкоу». Князёў агарнула прыкрасць: «поидемъ к Новоугородкоу а тамъ оуже ТатаровѢ извоевали все». Ну і што, можна спытаць, вашая ж мэта — літва, ідзіце ды распраўляйцеся з ёю! Аж не: «поидемъ кдѢ к чѢлому мѢстоу и тако здоумавше поидоша к Городну» (ПСРЛ, том 2, сл. 871) — г. зн., у пошуках «цэлага горада», зусім у іншы бок!

Растлумачыць гэта можна толькі тым, што летапісная літва не мела аніякіх гарадоў, крэпасцяў, багаццяў, на якія можна было б пакваліцца. Дзейнічаючы згодна з прынцыпам «усё маё нашу з сабой», пры набліжэнні ворага яна ўцякала ў лясныя ды балотныя нетры, якія мела пад бокам. Тут не было чым падлатацца. Вось чаму і не пайшлі князі пасля таго, як Леў з татарамі разрабаваў вакольны горад Новагародка, на літву: што там лавіць? Таму і праз тры гады тыя, хто спазніўся да ўзяцця Новагародка, павярнулі не на літву, а да Горадна.

І вельмі правільна М. Ермаловіч аспрэчвае сцверджанне У. Пашуты, што сталіцай Тройдзеня ў часы гэтых нападаў быў Кернаў на Віліі (Старажытная Беларусь, с. 335). Рэч не толькі

ў тым, што Іпацьеўскі летапіс увогуле не згадвае Кернаў. Калі б Тройдзень сапраўды меў добра ўмацаваную, бяспечную сталіцу так далёка ад тэатра ваенных дзеяў, то абараняў бы неяк сваю галоўную каштоўнасць — Новагародак: пасылаў у яго з Кернава войскі, учыняў бы нейкія адплатныя паходы — пра такое летапіс маўчыць. Таму падобна, што сталіцай Тройдзеня быў Новагародак, з якога князь пры набліжэнні вялікіх варожых сілаў проста ўцякаў з усім войскам, з-за чаго горад і рабіўся безабаронным.



*Сельскагаспадарчыя драўляныя прылады комі (1 — граблі, 2 — вілы, 3 — цэп, 4 — кічыга, 5 — матыка)*

Такія паводзіны для літоўскіх князёў у XIII стагоддзі ўвогуле характэрныя: учыніць паход, парабаваць, а потым браць «лахі падпахі», кіруючыся ў свае балоты. Можна было б пералічыць шмат такіх экспедыцый, якія з-за раптоўнасці нападу пачыналіся для літвы вельмі ўдала, а канчаліся поўным разгромам. Тактыка ўцёкаў, зразумела, вызначалася не нейкім там «нацыянальным характарам», а нешматлікасцю, дрэннай узброенасцю, адным словам — слабасцю літвы.

Вось чаму і думаецца, што арэал летапіснай літвы ў энцыклапедыі «Литва» моцна перабольшаны, і мае рацыю Ермаловіч, змяшчаючы яе цалкам на Беларусі.

Узнікае пытанне: чаму тады навастораная тут дзяржава атрымала назву Вялікага Княства Літоўскага? Прычына, мабыць, у тым, што ў папярэднія часы арэал літвы быў значна шырэйшы і Новагародак быў заснаваны на ейных землях. Прынамсі, вакол Наваградка шмат так званых усходнелітоўскіх курганоў — неславянскіх захаванняў (гл. Я.Г. Зверуго. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Мн., 1989, с. 8). Паколькі славяне прыйшлі сюды толькі ў сярэдзіне XI стагоддзя (Наваградак, лічыцца, заснаваны ў 1044 годзе), то да сярэдзіны XIII стагоддзя памяць пра тое, што тут даўней жыла літва, была яшчэ жывая. Тым, мажліва, і тлумачацца цесныя сувязі паміж Новагародкам ды літвой з запрашэннямі літоўскіх князёў на новагародскі пасад, і той факт, што

ў свядомасці сучаснікаў, як паказвае Іпацьеўскі летапіс, паняцці «Новагародак» ды «Літва» часта зліваліся.

У далейшым, са стварэннем моцнай дзяржавы, уключэннем у яе Дзяволтвы, Нальшчанаў ды іншых плямёнаў назоў «Літва» стаў пашырацца і на новыя землі. Але мы не павінны пераносіць той сэнс, які ўкладваўся ў яго нават у XIV стагоддзі, на XIII. Можа, Кернаў і быў нейкі час рэзідэнцыяй вялікіх літоўскіх князёў у малавядомыя дзесяцігоддзі канца XIII — пачатку XIV стагоддзя, але пасля таго, як ВКЛ пашырылася і на гэтыя мясціны.

Ермаловіч аддзяляе літву ад жамойці, лічыць іх рознымі плямёнамі. Аднак для яго несумненна, што і літва была племем балцкім. Таму ён спрабуе нават для падмацавання свайго адкрыцця карыстацца балцкай (летувіскай)лексікай: нагадвае сцверджанне тапаністаў, што назва Шчара — «балцкага паходжання, азначае «вузкая» (М. Ермаловіч. Па слядах аднаго міфа, с. 23).

На жаль, пры гэтым ён не звяртае ўвагі, што аднаго гідроніма, каб пацвердзіць месцазнаходжанне нейкай мовы, мала, ды яшчэ «вузкая» да Шчары не стасуецца. У вярхоўях яна, вядома, вузкая, як і ўсе рэкі, а ў сярэднім цячэнні і ніжнім гэта для Беларусі рака вялікая і па шырыні не саступае Нёмну, у які ўпадае /гл. Энцыклапедыя прыроды Беларусі (у далейшым ЭПБ) — Шчара, Нёман: Нёман пры ўпадзенні Шчары — да 90 метраў, Шчара — да 100/. Так што тлумачыць назву Шчара як «вузкая» проста недарэчна.



*Старажытныя цапы беларусаў*

Гэта папрок не Ермаловічу, а тым тапаністам, што прапанавалі такое тлумачэнне (Качубінскі) або згадзіліся з ім (К. Буга, В. Жучкевіч ды інш.). Сам жа Ермаловіч не тапаніст, ён карыстаўся чужой распрацоўкай.

Што цікава, гіпотэза гэтая трымаецца ўжо амаль

100 год. Чаму сто гадоў анікому не прыходзіла на одум, што Шчара зусім не вузкая — зразумець цяжка. Мабыць, прычына толькі тая, што назву Шчара немагчыма вытлумачыць са славянскага матэрыялу. А якія мовы маглі быць вакол Шчары, апрача славянскіх? Толькі балцкія, — разважаюць даследчыкі, што прывыклі праецыраваць на мінуўшчыну сённяшні дзень. А ў балцкіх мовах, акрамя «вузкая», да Шчары (даўней — Шара) анічога не адшукваецца. Значыць — «вузкая».

Трэба сказаць, што такі падыход характэрны для даследаванняў беларускай гідраніміі ўвогуле. Праўда, аднадушша, як у прыкладзе са Шчарай, тут праяўляецца рэдка. Наадварот — пра пэўныя назвы існуе безліч версій. Але аб чым спрэчкі? Адны, як маскоўскія акадэмікі У. Тапароў ды А. Трубачоў, лічаць Беларусь полем суцэльнай балцкай гідраніміі. Другія напіраюць на тое, што яна ўсё ж такі край славянскі, дык славянскіх назваў мусіць быць болей, чым прызнаюць балтафілы. Да такіх прыхільнікаў славянскасці можна залічыць нашага В. Жучкевіча, які аналізуе беларускія назвы з дапамогай... расейскіх дыялектных словаў, іншы раз з рэгіёнаў выключна далёкіх ад Беларусі. Яднае ж адных і другіх тое, што тлумачэнні назвам даюць яны вельмі прыблізныя, а то і зусім немагчымыя, як у выпадку са Шчарай.

Кажуць, закон, што дышаль: куды схацеў, туды і павярнуў. Так здаецца і шмат якім тапанімістам. Але гідранімія — не дышаль. Згвалтаваў назву — гвалт хто-небудзь ды заўважыць.

Як прайсці, напрыклад, міма такога. Вось узяліся Тапароў ды Трубачоў за Случ. І пішуць (падаю ў арыгінале, каб лепш адчуўся смак напісанага): «Несмотря на установившуюся традицию считать это название славянским /.../ полезно поставить вопрос о возможности балтийского происхождения названия Случь и ряду других гидронимов на -ь по Днепру» (В.Н. Топоров, О.Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962 /у далейшым ТТ/, с. 208). Такім чынам, аўтары залічваюць гідронім у балцкія таму, што згодна з расейскай арфаграфіяй ён пішацца з мяккім знакам напрыканцы!

А Жучкевіч услед за расейскім даследчыкам Сабалеўскім дае такое фантастычнае «тлумачэнне»: паколькі возера Svіцязь маецца яшчэ ў Валынскай вобласці, то «беларуская назва, верагод-

на. мігрант ад украінскай, якая паходзіць ад асабовага імя Hviting германскага паходжання» (КТСБ, Свитязь).

Тое, што тапанімістам даводзіцца адважвацца на такія «этымалогіі», сведчыць адно: яны ідуць няправільным шляхам. Таму давайце збочым на іншы, не пабаяўшыся, што нехта нас тузане назад — на ранейшы, здрадны.

Зразумела, што паколькі нас перш за ўсё цікавіць этнічнае сваяцтва літвы, то аналізаваць будзем тапанімію (дакладней, гідранімію) толькі той беларускай тэрыторыі, на якой яна дапушчальна размяшчалася.

Вёскі з назвай Літва Ермаловіч агледзеў у пяці раёнах: Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім ды Маладзечанскім. Гэтымі айконімамі, лічыць ён, і вызначаюцца межы летапіснай літвы. Думка слушная і спрачацца з ёю не будзем.

Але магчыма, што да ўзнікнення гэтых вёсак межы літвы былі шырэйшыя. Таму акрэслім арэал крыху больш і да пяці названых далучым яшчэ 9 вакольных раёнаў: Ашмянскі, Валожынскі, Віленскі, Зэльвенскі, Карэліцкі, Мядзельскі. Навагрудскі, Нясвіжскі ды Смаргонскі.

На абсягах гэтых 14 раёнаў, згодна з ЭПБ, цячэ больш за 70 рэк даўжынёй у 10 кіламетраў і болей (меншых ЭПБ не называе). Вось яны, згодна з алфавітам:

Альхоўка, Альшанка, Ашмянка (2 ракі);
Блюшка, Бобрык І-ы, Бяроза, Бярэзіна;
Валожынка, Валоўка, Ведзьма, Вілія, Волка, Волма, Вузлянка;
Гавязнянка, Гадзея, Гальшанка, Гаружанка, Грыўда;
Жацераўка;
Зальвянка;
Ізва, Ізледзь, Ілія, Іса, Іслач;
Клява, Крамушэўка, Кроманка;
Лань, Лахазва, Ліпнянка, Лоша (2), Луконіца;
Ментынь, Міранка, Моўчадзь, Мышанка, Мядзелка, Мяркіс;
Наква, Нарач, Нёман, Неўда;
Перакоп /Вялікі/, Ператуць, Перакуль, Пліса;
Рута, Рыбчанка;
Самароўка /Крамяніца/, Сасва, Свяротва, Сіша, Спорня, Страча, Сула, Сэрвач (2), Сярмяжка;
Тонва, Тур'я;
Уздзенка, Уса (2), Уша;
Цапра, Цна;

Шаць, Шура, Шчара.

Ды яшчэ некалькі буйных азёраў: Кромань, Нарач, Свір, Свіцязь.

Ці ёсць сярод гэтых дзесяткаў назваў з паходжання летувіскія? Давайце глядзець. Летувіскія словы нагадваюць: Блюшка (blusa «блыха»), Клява (klevas «клён»), Мядзелка (medis «дрэва, лес»), Мяркіс (merkti «змочваць адзенне»), Рута (ruta «рута»), Страча (strakseti «скакаць, падскокваць»), Сула (sula «дрэўны сок»), Уса (uosis «ясень»), Шчара (siauras «вузкі»).

Апрача таго, Жучкевіч услед за Качубінскім зводзіць Сэрвач з serga «хвароба», Лошу Тапароў і Трубачоў услед за Казімірам Бугам з lašiša «ласось», Тур'ю яны ж — з tauras «тур»; назва Ашмянка даўно выводзіцца з akmenas «камень». Але пры гэтым несупадзенне «к» ды «ш» нічым не тлумачыцца, як і «г» ды «в» у serga ды Сэрвач.

Пойдзем далей. У нашай мове маецца ўласнае слова тур, якое бліжэйшае да Тур'я, чым летувіскае tauras з тым сама значэннем. А яшчэ немалаважна, што ў Летуве таксама маецца рака Turia; ясна, што паміж tauras ды Turia сувязі няма, дык чаму яна павінна быць паміж tauras ды Тур'я? Маецца ў нас і ўласнае слова рута, паходзіць яно з лаціны, як і летувіскае, дык чаму трэба лічыць, што гідронім Рута ідзе ад летувіскага, а не нашага слова?

Што Шчара не вузкая, мы ўжо гаварылі. Мядзелка — рака лясnога краю, і проста немагчыма паверыць, каб ейная назва ішла ад такога неканкрэтнага апелятыву, як «дрэва, лес»: тут жа ўсе вакольныя рэкі лясныя, а не стэпавыя ці горныя. «Змочваць адзенне» — гэта да даволі прыкметнай ракі, якой з'яўляецца Мяркіс, не стасуецца, дый увогуле як гэта зразумець — «рака, якая змочвае адзенне»? У летувіскім klevas націск падае на першы склад, а ў назве Клява — на другі — гэта раз. Другое: не можа ж рака называцца «Клён». Калі б такая назва была фіна-вугорскай, то было б нармальна, бо ў фіна-вугорскіх мовах назоўнік ва ўласнай форме можа быць і прыметнікам, г. зн. «Клён» адначасова азначала б і «Кляновы, Кляновая». Летувіскай жа мове, індаеўрапейскай, гэта не ўласцівае, тут «клён» klevas, а «кляновы» — klevinis. Пры беларусізацыі назвы гэта дало б не Клява, а, безумоўна, Клявіна.

А тут яшчэ такая дэталь: аказваецца, і ў Летуве маецца рака Клява, менавіта ў такой, незразумелай для летувіса форме. Значыць, і гэтая назва не летувіская. Аналагічна гідронім, утвораны ад uosis, мусіў бы гучаць uosinis, а ад lašiša — lašišinis. А мы маем назвы яшчэ карацейшыя за uosis (Уса) ды lašiša (Лоша). Значыць, і тут летувіскія апелятывы не адпавядаюць.

Спадарожна адзначу, што назвы Тур'я, Уса, Клява, Лоша на Беларусі не адзінкавыя: тры Тур'і, тры Усы, дзве Клявы ды дзве Лошы, а скажэнні заўсёды даюць разнабой. Значыць, гэта не скажэнні нейкіх летувіскіх назваў, а аўтэнтычныя назвы, дадзеныя ў іншай мове. «Дрэўны сок» — такая назва наўрад ці магчымая па сэнсе (Сула — sula), дык невыпадкова Жучкевіч дае гэтаму гідроніму іншае тлумачэнне. І як ні дзіўна, з усіх «летувіскіх» гідронімаў акрэсленага рэгіёну сапраўды летувіскай можа быць толькі Блюшка — ад «блыха». Гэтая рэчка невялікая, усяго 16 кіламетраў, затое мае даволі вялікі нахіл воднай паверхні — 2,9 праміллe (ЭПБ, том 1, с. 313). Падобна, скакала, «як блыха», пакуль не каналізавалі. Страча, наадварот, рака даволі марудная (нахіл — 1,0 праміллe), таму «скакаць, падскокваць» (па-летувіску strakseti) ёй не выпадае, і трэба шукаць іншы апелятыў.

Па-летувіску «рака» — upe (упэ). Гэтае слова ўваходзіць у шэраг гідронімаў Летувы: Алкупіс, Барупэ, Друкупэ, Йодупіс, Йонупіс, Лаукупэ, Лянупіс, Мішупэ, Нснупэ, Швянтупіс, Шяшупэ, ёсць і Упэ. Як бачым, -упэ для Летувы — распаўсюджаны гідранімічны зыход. А на тэрыторыі летапіснай літвы назваў з -упэ няма зусім, як няма і гідронімаў з такімі летувіскімі гідранімічнымі тэрмінамі, як vanduo «вада», ištaka «выток», intakas «доплыў», vaga, lovys «рэчышча», pėlkė, bala «дрыгва», sala «востраў», šaltinis, versmė «крыніца» ды інш.

А трэба мець на ўвазе, што ў кожнай мове нейкая свая тапанімічная сістэма. І на думку вядомага летувіскага лінгвіста А. Ванагаса, летувіскія (як і наогул балцкія) гідронімы звязаныя галоўным чынам з паняццямі «вада», «рака», «крыніца», «цячы», «плысці», «ліцца» і да т.п. (гл. А.П. Ванагас. Максимальный ареал балтской гидронимии и проблемы происхождения балтов. — Этнографические и лингвистические аспекты этнической истории балтских народов. Рига, 1980. У адпаведнасці з: БСИ-1982, с. 282). Значыць, назвы тыпу Кляновая, Ясеневая, Лясная, Ласосевая летувіскай гідранімічнай сістэме не адпавядаюць, і дарэм-

на падганяць Кляву, Усу, Мядзелку ды Лошу пад падобныя летувіскія словы з названым сэнсам.

Як ужо гаварылася вышэй, назвы Клява ды Тур'я ў гэтай самай, нелетувіскай форме паўтараюцца ў Летуве. Такія ж гідронімы Беларусі, як Шчара (Шара), Зальвянка, Вілія, Рута, Мядзелка, Лоша, Сула ў Летуве, здаецца, не паўтараюцца ў аніякай форме (пішу «здаецца» таму, што поўнага спісу рэк Летувы не маю, а карыстаюся пералікам 250 ейных рэкаў, складзеным паводле выключна падрабязнай карты).

А вось калі падняць галаву вышэй ды зірнуць далей, дык аналагі гідронімам 14 раёнаў, хай і не ўсім, знайсці можна. У Комі рэспубліцы маюцца рэкі Немын, Нем, што адпавядае нашаму Нёман; тут жа цякуць Шаръю, Виль, Сула, Воль, Вольма, Изьва, Уса, Шадью, што паўтарае нашы Шчара (Шара), Вілія, Сула, Волка, Волма, Ізва, Уса, Шаць (гл. ГНК). У Пермскай вобласці агледжваюцца: 6 рэкаў з назвай Вильва, рэкі Лолог, Гадья, Серва, Вольва, вёска Зельва (ГНВП) — гэта пары да нашых Вілія, Валожынка, Гадзея, Сэрвач, Волка, Зальвянка. У Свярдлоўскай вобласці — рэкі Сосьва ды Турья, у нас — Сасва ды Тур'я.

Аналагі гідронімам 14 раёнаў маюцца і на іншых, у мінулым несумненна фіна-вугорскіх тэрыторыях:

Ашмянка — Ошма (Ніжняноўгарадская вобласць);
Валожынка — Вологда (доплыў Волгі);
Жацераўка — Жатал, Жатва (басейн Акі);
Ілія — Ильинка (басейн Акі, 12 рэкаў);
Іса — Иса (басейн Акі, Пензенская вобл.);
Клява — Клевеченка, Клевиченка, Калява (басейн Акі);
Лань –Лань, Ланка (басейн Акі);
Лахазва — Лахость (басейн Акі);
Лоша — Лошинка, Лоша, Лошня (басейн Акі);
Наква — Наковка (басейн Акі);
Нарач — Нарош, Нарачмар (басейн Акі, Уладзімірская вобл.);
Пліса — Плишка (басейн Акі, Тульская вобл.);
Рута — Рутка (Марый Эл), а таксама Рута (2), Рутка (3), Руть (2) у басейне Акі;
Самароўка — Самара, Самаровка (басейн Акі, Калужская вобл.), Самара (доплыў Волгі — Самарская вобл.);
Турья — Турья (2, басейн Акі);
Уса — Уса, Усия (басейн Акі — Смаленская вобл.);

Уша — Ушанка (2), Ушма (2), Ушна (2), Ушенка (2), Ушлей, Ушлейка (2, басейн Акі);

Цна — Цна (2, басейн Акі);

Шура — Шура, Шурка, Шуровка (басейн Акі);

возера Свір — рака Свирь (Ленінградская вобл.).

(Дадзеныя па басейну Акі ўзятыя з: Г.П. Смолицкая. Гидронимия бассейна Оки. М., 1976. У далейшым — ГБО).

Гідраніміка паказвае, што старажытныя этнічныя межы далёка не заўсёды супадаюць з сучаснымі. У старажытнасці плямёны, не скаваныя аніякімі абмежаваннямі, блукалі па незанятых мясцовасцях, як хацелі. Падзяліўшыся, асобныя часткі плямёнаў маглі сысці вельмі далёка адна ад адной. Класічны прыклад таму, вядомы з гісторыі, — лёс балгараў-цюркаў, што першапачаткова качавалі паміж Волгай ды Донам. Потым частка іх пайшла на поўнач і заснавала ў сучаснай Татарыі Вялікі Булгар, а другая — на захад, за Дунай, дзе, змяшаўшыся са славянамі, утварыла новую супольнасць — балгарскі народ.

Падобных выпадкаў было шмат. Плямёны хадзілі сюд-туд, ладкаваліся на новых рэчках, даючы ім назвы. Потым сыходзілі зноў невядома куды. Тыя людзі, што займалі апусцелыя мясціны, пераназывалі вадаёмы па-новаму. Так цягнулася да таго часу, пакуль былыя паляўнічыя не аселі канчаткова. Цяпер назвы або не мяняліся зусім, або перакладаліся на новую мову, калі яна мянялася з прыходам новых насельнікаў, з якімі зліваліся ранейшыя.

Такім чынам, гідранімія, якую мы маем сёння — гэта этнічны зрэз таго часу, калі насельніцтва краю перайшло на аселасць. І выглядае гэты зрэз выключна стракатым. Для любой мясцовасці характэрнае перамешванне гідронімаў самага markingрознага паходжання, што высвятляецца з дапамогай аналізу. Вось і ў акрэсленым намі рэгіёне сустракаюцца гідронімы славянскія (Альхоўка ды інш.), мардоўскія (Цна). Ды найболей тут усё ж назваў пермскіх, г. зн. такіх, якія вырашаюцца з дапамогай комі-пярмяцкай, комі-зыранскай ды ўдмурцкай моваў.

Але перш чым паказваць гэта, некалькі словаў пра агульныя прынцыпы пермскай і ўвогуле фіна-вугорскай гідраніміі, выведзеныя мною з назіранняў над ёю. Карэнным адрозненнем фіна-вугорскіх (г. зн. і пермскіх) моваў ад індаеўрапейскіх, у тым ліку славянскіх ды балцкіх, з'яўляецца тое, што тут любы назоўнік у яго ўласнай форме можа быць і прыметнікам, як толькі

стане перад іншым назоўнікам. У комі мовах, напрыклад, ва — «вада, рака». А ў выразе ва кора — ва ўжо «вадзяны»: «вадзяны смак» (прэсны). Таму ў пермскіх слоўніках да масы словаў даецца па два пераклады — і ў выглядзе назоўніка, і ў выглядзе прыметніка: ва — «вада; водны»; лун — «дзень; дзённы»; шонди — «сонца; сонечны»; би — «агонь; вогненны» ды г.д.

Такім чынам, у свядомасці пярмяніна кожны назоўнік адначасова гучыць і як прыметнік. Мы гаворым «восень» — і маем на ўвазе пару года. А калі мы захочам падкрэсліць, што рэчка асабліва поўная бывае ўвосень, мы яе «Восенню» не назавём, скажам «Восеньская». А для комі за словам арцс стаіць адначасова і «восень», і «восеньскі», «восеньская». І рака атрымлівае назву Арӧс (у перадачы па-расейску — Арес. Гл. ГНК).

Цяпер перанясёмся ў думках у той час, калі славяне прыйшлі на тэрыторыі, заселеныя фіна-уграмі. Пераходзячы на новую мову, фіна-вугры нярэдка перакладалі на яе і свае рачныя, азёрныя назвы. Але яны не разумелі яшчэ той асаблівасці славяншчыны, што ў ёй назоўнік прыметнікам быць не можа, і свае, фактычна прыметнікавыя назвы перакладалі назоўнікам: Вішня, Узда, Ветв, Жэрдзь (Беларусь), Тетерев (Украіна), Орел, Медведица, Ворона (Расея).

Такія назвы неспрактыкаванаму слыху здаюцца славянскімі, але вядомы расейскі тапаніміст У. Ніканаў, аналізуючы назву Гусь (доплыў Акі), яшчэ 25 гадоў назад пісаў: «Меней верагоднае паходжанне з расейскага гусь, у такім выпадку назва па законах славянскага словаўтварэння звычайна атрымлівала выгворную форму (варта было б чакаць, напрыклад, Гусиная, Гусиха і да т.п., але не «гэтая рака — гусь»)» /В.А. Никонов. Краткий топонимический словарь. М., 1966, Гусь/. Праўда, у назве Гусь Ніканаў перакладу не заўважае і спрабуе вывесці яе ад эрзянскага куз або фінскага kuusi «елка». Што ж, падгонка незразумелых іншамоўных назваў славянамі пад свае словы (куз пад гусь) таксама магчымая, але і літаральны пераклад нельга адмаўляць, бо для такіх «скажэнняў», як Жэрдзь, Ветв, Медведица, наўрад ці знойдзеш у іншых мовах падобныя па гучанні словы.

Вось і вяртаючыся да Арӧс, трэба думаць, што менавіта з такой назвы перакладзеная падмаскоўная Осень. А наша Арэса — тое самае Арӧс — засталася неперакладзенай. Дарэчы, гэтая назва выводзіцца ад летувіскага ares «кулік» (гл. КТСБ, Оресса),

але, па-першае, у летувіскіх слоўніках такога слова няма, па-другое, мы ўжо казалі, што такія летувіскія назвы немагчымыя, летувіская гучала б як «арэсініс», а пасля беларусізацыі — <u>Арэсіна</u>.

Назвы, якія складаюцца з аднаго назоўніка-прыметніка, у пярмянаў не рэдкасць. Так, у ГНК мы сустракаем <u>Йир</u> (<u>йир</u> у комі мовах — «вір»), <u>Нэрис</u> (<u>нэрис</u> — «пагорак»), <u>Чед</u> (<u>чӧд</u> — «чарніцы»), <u>Лем</u> (<u>льӧм</u> — «чаромха») ды інш. Але, як ужо было сказана, назоўнік па-сапраўднаму робіцца прыметнікам толькі перад іншым назоўнікам, граматычная сутнасць назоўніка-прыметніка высвятляецца толькі са словаспалучэння.

Гэта значыць, назоўнік-прыметнік, калі стаіць асобна, нясе на сабе адзнаку няпэўнасці, як яго разумець: назва гэта прадмета, з'явы, або назва якасці. І калі разумеецца, што якасці (што тычыцца тапонімаў), то такі няпэўны прыметнік патрабуе закрыць яго родавым назоўнікам, каб стала ясна, што ён — сапраўды прыметнік. Таму і ўключаецца ў пермскіх мовах у назвы дрэваў <u>пу</u> («дрэва»), траваў — <u>турун</u> («трава»), грыбоў — <u>гоб</u> («трубчаты грыб») ды <u>тшак</u> («пласцiністы грыб»). А сярод гідронімаў вельмі пераважаюць складаныя, з азначэннем у першай частцы ды гідранімічным тэрмінам у другой. У рачных назвах у якасці гідранімічнага тэрміна часцей выступае «рака»: у пермскіх — <u>ва</u>, <u>ю</u>, мардоўскіх — <u>ляй</u>, <u>лей</u>, карэльскіх — йогі, фінскіх (суомі) — иокі, эстонскіх — <u>йыгі</u>. Але імі, асабліва ў пермскіх, гідранімічныя канчаткі-тэрміны не вычэрпваюцца, і мы гэта яшчэ пабачым.

Тое, што фіна-вугорская назва можа быць як «голай», так і з гідранімічным тэрмінам, вельмі дапамагае для ўстанаўлення фіна-вугорскасці назваў. Сучасны стан фіна-вугоршчыны ўжо далёка не такі, якім ён быў паўтары-дзве тысячы гадоў назад. З тых часоў з карты Усходне-Еўрапейскай раўніны знікла не адна фіна-вугорская мова: чудзі, меры, весі, мурамы, мяшчоры ды іншых плямёнаў, што растварыліся ў славянах. Зніклі і шматлікія адгалінаванні-дыялекты тых моваў, якія дайшлі да нашых дзён. Гідронімы ж, дадзеныя ў знікшых мовах і дыялектах, засталіся. Іх нярэдка спрабуюць падагнаць і пад балтыйшчыну, і славяншчыну, але з гэтага нічога не атрымліваецца.

Як жа пазнаваць фіна-вугорскія гідронімы? Тапаністы зусім не звяртаюць увагі на такія супадзенні напалову, як <u>Виль</u> (Комі) — <u>Вильма</u> (басейн Акі), <u>Лим</u> (Архангельская вобл.) —

Лімна (Беларусь), Нем (Комі) — Немца (Кіраўская вобл.) і да т.п. Аб чым яны сведчаць? Што ма, на, да , без якіх гідронім можа і абысціся — гідранімічныя фіна-вугорскія тэрміны (відавочна, па значэнні тоесныя ва «рака») і што ўсе пералічаныя назвы — фіна-вугорскія. Запамятаем гэта, яно нам вельмі спатрэбіцца.

Цяпер аб семантыцы фіна-вугорскіх гідронімаў. Супастаўленне іх з лексікай фіна-вугорскіх моваў паказвае, што азначэнні рэкаў у фіна-вуграў вельмі разнастайныя. Тут і непасрэдныя характарыстыкі вадацёку тыпу «глыбокі», «мелкі», «хуткі», «марудны», прыкметы ложа — «пясчаны», «гліністы», «парожысты». Часта ўказваюцца прыкметы берагоў, г. зн. тое, што на гэтых берагах маецца: «бярозавая рака», «сасновая», «заечая», «сабаліная» і да т. п. За такімі назвамі стаіць неабходнасць для старажытнага паляўнічага арыентавацца ў пушчы. Эстонскія гідронімы нярэдка змяшчаюць назвы сельскагаспадарчых культураў ды пабудоў («буракoвая», «млынавая»). Вельмі цікава, што сярод фіна-вугорскіх назваў сустракаюцца вобразныя, г. зн. такія, якія даюць валаёму нейкае сімвалічнае азначэнне. З іх у першую чаргу варта адзначыць «тып шна». Шна па-макшанску, кшна па-эрзянску — «рэмень». Называючы раку Кшна (маецца ў Польшчы) або Шна (у славянскіх дыялектах перайшло ў Сна, Цна), фіна-вугры падкрэслівалі, што рака — доўгая, вузкая ды



*Вадзяныя млыны комі-пермянаў*

выгінастая. Да тыпу шна адносіцца і наша Ведзьма: па-макшанску вядьме — «повад» (каня). (Хаця Ведзьма можа быць і перакладам адпаведнай фіна-вугорскай назвы.)

Тып шна ўласцівы не толькі мардоўскай гідраніміі. Так, у Пскоўскай вобласці ёсць рака Воо. Гэтая назва не можа быць растлумачаная іначай, чым праз эстонскае vöö «пояс». Таму з якой мовы перакладзеная наша Узда — сказаць цяжка, ясна толькі, што гэта пераклад назвы тыпу шна.



*Вадзяны млын на рацэ Лясная (Брэсцкі павет, канец XIX ст.)*

Сярод пермскіх да яўна сімвалічных адносяцца «сямейныя» рэкі: «Бацька-рака» (Ай-юва), «Жонка-рака» (Иньва), «Дзіця-рака» (Пию; усе тры — Комі). А на прасторах Расеі раскідана некалькі рэкаў з назвай Сестра. Улічваючы «сямейнасць» яе, можна было б дапусціць, што яна перакладзеная з пермскай. Аднак сустракаюцца і падобныя мардоўскія. Так, памардоўску ака — «старэйшая сястра». Можна не сумнявацца, што тут і схаваны сакрэт назвы вядомай ракі Ока, якая мясцінамі называецца і Ака. На гэта паказвае назва вытока Акі — Голова Оки, бо па-макшанску слова пря — адначасова «галава» і «выток», з чаго бачна, што Ока — рака мардоўская, а ў мардоўскіх мовах да Ока (Ака) іншага апелятыву, чым ака, не падбярэш.

Сімвалы ў фіна-вугорскай гідраніміі бываюць вельмі розныя. Што гэта за назва такая — Даска (рэчка пад Магілёвам)? Ці можа рака быць «дошкай»? Або можа, тут укладзены сэнс, што на берагах яе робяць дошкі? Зразумела ж, не. Невядомым словам, перакладзеным як Даска, падкрэсліваецца хуткасць ракі: вада ў ёй імчыцца, як па дошцы. Каб праверыць такое дапушчэнне, зазірнуў у ЭПБ. І што ж? Сапраўды, рэчка для Беларусі хуткая. Сярэдні нахіл яе воднай паверхні — 2,7 прамілле (ЭПБ, том 2,

Даска). Для параўнання, у мінскай Свіслачы — 0,5 прамілле (ЭПБ, том 4, Свіслач). А невядомым словам, перакладзеным як Даска, можа быць удмурцкае пул «дошка», бо ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці маем раку Пульва з пермскім гідранімічным зыходам ва («рака»).

Цяпер, калі чытач атрымаў сякое-такое ўяўленне аб фіна-вугорскай гідраніміі ў цэлым, вернемся да сцверджання, што на тэрыторыі летапіснай літвы найболей гідронімаў пермскіх. Напачатку пакажам гэта на тых, якія маюць «пару» на пермскіх землях, сённяшніх пермскіх або пермскіх былых. Виль у комі мовах — «новы». Менавіта гэтым словам А. Крывашчокава-Гантман тлумачыць рачную назву Вильва. Такія рэкі людзі называлі «новымі», калі прыходзілі на іх. Праз виль можна тлумачыць і нашу Вілію. Спадарожна адзначым, што ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці маецца возера Вілія. Яно поймавае, г. зн. калісьці магло быць новай пратокай Сажа.

Воль у комі мовах — «расчышчанае ад лесу месца» (ляда). Гэтым словам Крывашчокава-Гантман тлумачыць рачную назву Вольва, а мы можам такія, як Волка ды Волма. Лолог (параўн. нашу Валожынку), на думку Крывашчокавай-Гантман, ідзе ад комі лола «лось» /-ӧг — суфікс/, Серва (параўн. Сэрвач) ад сер «доплыў; лясная рэчка»; Зельва (параўн. Зальвянка) — ад дзель «ягня».

А вось магчымыя адшыфроўкі іншых гідронімаў летапіснай літвы, што маюць аналагі на пермскіх тэрыторыях: Гадзея — ад кад «дрыгва», Ізва — ад из «камень», Сасва — ад сос «рукаў» (мы і самі называем асобныя рэчышчы «рукавамі») або оӧс «брудны», Тур'я — ад тури «жораў», Шаць — ад шат «прут», шаття «чарот», Шчара (Шара) — ад комі-зыранскага шар «праліў» (рака з пратокамі, «пралівамі»), Сула — ад комі-зыранскага су, «агароджа». Сімвалічны сэнс такой назвы ў тым, што рака ўяўляе з сябе нейкую мяжу, рубеж. Што Сула Стаўбцоўскага раёна азначае «рубеж», сведчыць сяло Рубяжэвічы, што здавён стаіць на ёй (вядомае з XIV стагоддзя. Гл. БелСЭ, том 9, с. 163). Непадалёк ад Рубяжэвічаў — вёска Літва, а такія вёскі Ермаловіч лічыць межавымі паміж літвой ды славянамі. Такім чынам, Сула — межавая рака летапіснай літвы, і тое, што яна мае пермскую назву, сведчыць аб пермскасці самой літвы.

Немын (Комі рэспубліка) мае комі-пярмяцкі канчатак прыметніка -ын (пыдын — «глыбокі», вылын — «высокі»). Нем у комі мовах — «нішто». Такім чынам, сэнс слова Немын — «які нічога не мае», «пусты». Відавочна, такая вялікая рака, як наш Нёман, не спраўджвала надзей на ейнае вялікае багацце (паляўнічае, рыбнае).

Толькі Уса, хаця ў Комі рэспубліцы і маюцца тры ракі з такой назвай, з комі моваў не вырашаецца, таму прыходзіцца дапусціць, што яна належыць нейкаму дапермскаму насельніцтву. На Беларусі тры ракі Уса; цячэ Уса і ў Смаленскай вобласці, а таксама ў Самарскай. Так што летувіскай гэтая назва аніяк быць не можа.

Ёсць у 14 раёнах і такія гідронімы, якіх на паўночна-пермскіх тэрыторыях няма, але тым не меней адшыфроўваюцца з пермскіх моваў. Гэта Бярэзіна (па-ўдмурцку беризь — «ліпа»); Гавязнянка (па-комі-пярмяцку гов — рыба «галавень», -ӧсь — суфікс прыметніка); Жацераўка (у комі мовах шаття — «чарот», ӧр — па-комі-пярмяцку ды па-ўдмурцку «рэчышча»); Ілія (у комі мовах ылі — «далёкі»); Лань (даўней звалася Лана, а па-комі-пярмяцку лана — «расамаха»); Лоша (па-комі-зыранску лос — «вільготная нізіна»). Лос пры скланенні пераходзіць у лоск. На тэрыторыі летапіснай літвы маюцца дзве вёскі з назвай Лоск — у Валожынскім ды Маладзечанскім раёнах; Мядзелка (па-комі-зыранску мӧдзӧл — «ельнік з махавой глебай»); Нарач (нар у пермскіх мовах — «нары», г. зн. месца для сну); Нёўда (у комі мовах нявда — расліна «макрыца»); Свіцязь (свитт па-комі-пярмяцку корань дзеяслова «блішчэць», -ӧсь — суфікс); Сіпа (па-ўдмурцку шып — «ціхі», «маўклівы»); Шура (па-ўдмурцку шур «рака»).

Як ужо казалася, на тэрыторыі летапіснай літвы не адзначаецца балцкі гідранімічны тэрмін упэ (рака). А вось пермскі ва («рака») тут, можна сказаць, часты: Зальвянка (пачаткова Зэльва), Ізва, Клява, Лахазва, Наква, Сасва, Сваротва, Тонва, Сула — гэта таксама гідронім з -ва, Сува, бо ў пермскіх мовах «в» мае пастаянную тэндэнцыю пераходзіць у «л» (як, дарэчы, і ў нашай: ёсць мясціны, дзе замест вапна, вымя кажуць лапна, лымя. Гл. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы (у далейшым — ЭСБМ), том 5, Лапна; том 6, Лымя).

Назвы Жацераўка ды Самароўка таксама яўна з -ва, бо іх першапачатковая форма ўзнаўляецца як Жацерва ды Самарва: уявіць, што Жацераўка, Самароўка ўтвораныя па тыпу Альхоўка (ад Альховая) немагчыма, бо ў нашай мове прыметнікаў «жацеравая», «самаровая» няма і не магло быць. Асновы амаль усіх пералічаных гідронімаў таксама раскрываюцца з пермшчыны: Жацераўка, Ізва, Зэльва, Сасва, Сула — я ўжо паказваў; Лахазва — ад комі лёк «непралазны лес»; Наква — ад няк «сасок», «жаночыя грудзі» (сэнс назвы ў тым, што вады ў рэчцы мала, але яна смачная); Тонва — ад тӧн «учорашні» (рака, якая занепадае); Самароўка — ад комі-зыранскага шом «вугаль» (брудная, чорная рака). У назве Сваротва аснова перакладзеная на славяншчыну, а зыход -ва застаўся пермскі (такія выпадкі нярэдкія, прыгадаймa яшчэ з беларускіх рэкаў: Маства, Валхва).

Такім чынам, на тэрыторыі летапіснай літвы добры дзесятак рачных назваў з -ва, і асновы амаль усіх часта раскрываюцца з пермшчыны. А ўсяго на Беларусі, як было сказана ў «Плямі пяці родаў», падобных гідронімаў болей за 30. Чаму ж ніхто з тапаністаў аж да гэтага часу не грымнуў у званы, што на Беларусі пермскія сляды? Няўжо нікому з іх невядома, што ва — па-комі «рака»?

Вядома. І яшчэ як вядома. Ды яны не хочуць даваць гэтаму веры.

«При исследовании гидронимии Верхнего Поднепровья (зразумела ж, тым болей басейна Нёмана. — *Аўт.*) практически бесполезным оказывается привлечение данных пермской... гидронимии», — абвясцілі ў 1962 годзе тады маладыя даследчыкі, цяпер акадэмікі Тапароў ды Трубачоў (ТТ, с. 27). На падставе чаго ж гэта было сказана? Ды, па-мойму, проста так, абсалютна не кранаючы тых дадзеных пермскай гідраніміі, не зазіраючы ў слоўнікі пермскіх моваў.

А якое ж паходжанне, на думку Тапарова і Трубачова, маюць верхнядняпроўскія гідроніма з -ва? Такое: малая частка — славянскае, а вялікая рэштка — балцкае. Чаму? Толькі таму, што ў Летуве ды Латвіі таксама маюцца назвы з -ва, напрыклад — у Летуве: Аунува, Дегува, Гардува, Гелува, Грыжува, Картува, Латува ды інш. (ТТ, с. 155). А што такое па-летувіску -ва? Гэтага з даследавання Тапарова і Трубачова зразумець немагчыма! -Ва яны называюць то суфіксам, то «цэльным гідранімічным фар-

мантам», але не даюць аніводнага прыкладу таго, як дзейнічае той суфікс або фармант у мове. І асноваў, як летувіскіх, так і верхнядняпроўскіх рэкаў з -ва не перакладаюць. Вось дык «лингвистический анализ»! (Так называецца кніга).

Прыйшлося звярнуцца да летувіскіх слоўнікаў самастойна. Што ж высветлілася? З пералічаных Тапаровым і Трубачовым 17 летувіскіх рачных назваў у летувіскім напісанні толькі некалькі маюць асновы, змешчаныя ў слоўніках: Гардува — гардас «загон», «стойла»; Гялува — гялас «прэсны»; Рінгува — рінгіс «выгін»; Сятува — сятас «прывязь»; Жябрува — жябрас «брудны». Пры гэтым, як бачым, толькі Гялува, Рінгува ды Жябрува маюць асновы, якія адпавядаюць летувіскай гідранімічнай сістэме, накрэсленай А. Ванагасам, апелятывы ж «загон» ды «прывязь» — гэта ўжо семантычна іншыя і, трэба думаць, перакладаліся на летувіскую мову з папярэдніх, іншамоўных асноваў (як у нашых Сваротва, Маства, Валхва).

Не мая справа рабіць аналіз летувіскіх назваў. Для гэтага трэба добра ведаць летувіскую мову, асабліва тыя заканамернасці, паводле якіх падганяецца пад летувіскае гучанне іншамоўны матэрыял. Тым не меней зазначу, што ў назвах Аунува, Куртува, Латува, Ваігува, Вардува аснова, падобна, эстонская: аун па-эстонску «яблык», курт — «глухі», латв — «верх», ваікэ — «малы», варт «цэп». Дягува — хутчэй ад удмурцкага -ег (чытаецца дзег) «жыта»; Гріжува — ад комі-пярмяцкага грись «буйны», «вялікі»; Мітува — ад комі-пярмяцкага мыт «панос»; Ніжува — ад комі низь «собаль»; Шяшува — ад удмурцкага шаш «асака»; Тітува — ад комі-пярмяцкага дзит «сініца»; Вадува — ад комі-зыранскага вад «лясное возера».

У летувіскай мове няма слова «ва», якое мела б нейкае дачыненне да ракі, вады. Маецца выключна рэдка ўжывальны суфікс -ва са значэннем зборнасці (як у нашым «жарства»). Другі суфікс -ва ўтварае аддзеяслоўныя назоўнікі. Зразумела, што гэта для ўтварэння гідронімаў не прыдаецца. Іншая рэч — фіна-вугорскія мовы. Тут не толькі комі ва «вада, рака», але і карэльскі суфікс -ва, які ўтварае прыметнікі. Суфікс гэты, відавочна, мела і эстонская мова, але цяпер ён страціў -а, у выніку чаго шэраг эстонскіх прыметнікаў канчаецца на -в, як лытв «вялы», куів «сухі» ды інш.

Адсюль бачна, што частка летувіскіх гідронімаў на -ва можа быць пермскай, з ва «рака», частка — заходне-фінскай, з суфік-

сам прыметніка -ва. Са з'яўленнем на тутэйшых абшарах летувіскай мовы частка асноваў пераклалася, частка захавалася ў сваім выглядзе, як захаваўся і канчатак. Пры гэтым пэўныя фінскія асновы перайшлі ў летувіскую мову. Так, па-летувіску «загон, стойла» — gardas, а ў комі мовах — карта; па-эстонску kurt «глухі», па-летувіску «глухі» — kurtinis; па-эстонску vaike «невялікі», па-летувіску vaikas «дзіця».

На вялікі жаль, выключна спрэчны «Лингвистический анализ...» быў успрыняты некрытычна, і за 30 гадоў ператварыўся быццам бы ў падмурак беларускай ды заходнерасейскай гідранімікі.

А тым часам сцверджанне, што гідранімія Беларусі ды заходнерасейскіх абласцей скрозь балцкая, выведзенае з наскоку, без сур'ёзнага роздуму, і мы ў гэтым яшчэ пераканаемся. А цяпер вернемся да рачных назваў 14 раёнаў.

Другі пасля ва гідранімічны пермскі тэрмін — ю «рака». На сённяшніх пермскіх тэрыторыях ён сустракаецца бясконца: Косью, Лемью, Расью, Лопью, Тыбью і г.д. Але канчатак -ю неўласцівы словам расейскай мовы. Таму там, дзе пермскія гаворкі ўжо зніклі, як у Пермскай вобласці, -ю ў зыходзе гідронімаў пераходзіць у болей прывычнае -я: Косья, Лемья, Расья, Лопья, Тыбья (ГНВП, с. 21). Зразумела, што канчатак -ю не мог утрымацца і ў гідронімах Беларусі. І ў зыходах назваў рэкаў летапіснай літвы мы назіраем -я: Вілія, Гадзея, Ілія. Асновы іх пермскія, што мы ўжо паказвалі.

Трэці гідранімічны пермскі тэрмін — адз (вымаўляецца адзь) «даліна». На Беларусі ён таксама сустракаецца. У прыватнасці, на тэрыторыі летапіснай літвы цячэ Моўчадзь. Што ў гэтай назве зыход уяўляе з сябе «дадатак», гідранімічны тэрмін, паказвае назва ракі Молч у Верхнім Падняпроўі (ТТ, с. 196). Несумненна адз завяршае назву Ізледзь, дзе аснова пермская — из «камень» (Із-адз — Із-ядзь — Ізледзь. Пераход й у л характэрны для ўдмурцкай мовы. Напрыклад, слова яг «бор» тут існуе і ў форме ляг). Адз выразна чуецца і ў назве Лахазва, дзе спалучаюцца два гідранімічныя пермскія тэрміны — адз і ва (Лёк-адз-ва — Лахазва).

Для расейскай мовы гук дз нехарактэрны. Таму комі канчатак у расейскім маўленні пераходзіць у ч: Ылыдз — Илыч, Вылыдз — Вылыч, Зöридз — Зорич. У беларускай мове гук дз ёсць. Але ён,

відавочна, не спаконвечны, а перайшоў з пермскіх гаворак. Таму частка назваў з адз захавалася ў сваёй форме, як Моўчадзь, а ў такіх, як Сэрвач, Нарач, дз перайшло ў ч.

Яшчэ адзін пермскі гідранімічны тэрмін — ёр «рэчышча», што выразна чуецца ў такіх рачных назвах, як Остёр, Хопёр ды інш. У тых гідронімах, што мы разглядаем, ён прыхаваны, але можна вылучыць: Жацераўка (Жацерва) — гэта Шат-ёр-ва, Самароўка (Самарва) — Шём-ёр-ва (хаця ёсць і венгерскае szamar, чытаецца самар — «асёл»).

З усяго сказанага бачна, што пермская гідранімія для арэалу летапіснай літвы з'яўляецца вядучай: ні інакшая фіна-вугорская, ні славянская, ні тым болей летувіская і ўвогуле балцкая канкурэнцыі ёй тут скласці не могуць. Пермскія назвы носяць як найбольшыя рэкі (Нёман, Вілія, Зальвянка, Шчара, Бярэзіна), так і зусім невялічкія. І гэта ясна паказвае, што мова літвы была пермскай.

Мова бясследна гіне толькі ў тым выпадку, калі ейны носьбіт этнас гіне фізічна. Калі ж ён пераходзіць на новую мову, то абавязкова цягне ў яе шматлікія словы ранейшай. Пермскіх словаў у нашай мове, калі ўлічваць дыялекты, сотні. Але гэта асобная тэма, па якой пагутарым у іншай кнізе, таму пакажу толькі, што яны ёсць.

Па-комі-пярмяцку «гамузам» — гамазöн, «шурпаты» — шарба; па-комі-зыранску «пошасць» — пöшöс, «рыззё»п— рыж; паўдмурцку «капыл» — калып. Па-нашаму «кумільгам» — па-комізыранску кумільган «віхурай кружыцца»; па-нашаму «шэрань» — у комі мовах шер «град». Некалькі нашых словаў дыялектных (узятыя з ЭСБМ): батура — «балака, пустамеля», бадыль — «сцябло», ліска — «шыпулькі», лыч — «націннс», муглаты — «бязрогі». А па-комі-пярмяцку ботора — «той, хто гаворыць хутка ды манатонна», лыч — «націнне»; лыс у комі мовах — «шыпулькі»; па-ўдмурцку боды — «сцябло», мугло — «бязрогі».

Большасць з прыведзеных словаў у расейскай мове не сустракаецца; пошесть маецца толькі ў блізкіх да Беларусі пскоўскіх гаворках, а лыч — блізкіх да комі-пярмяцкай акругі паўночных (гл. В. Даль). Такім чынам, праз расейскую мову яны на Беларусь прыйсці не маглі.

Мала таго: у беларускай мове маюцца словы несумненна пермскія, якіх няма і ў сучасных пермскіх мовах. Так, ЭСБМ па-

дае кілчак — «хвароба языка ў жывёлы». Слова кілчак не прыводзіць аніводзін з вядомых мне пермскіх слоўнікаў. Але ў пермскіх мовах кыл — «язык», а тшак (вымаўляецца чак) — «нарост на целе жывёлы». Слова кілчак, такім чынам, утварылася з пермскіх каранёў непасрэдна на Беларусі, а гэтага б не магло здарыцца, калі б тут не было пермскіх гаворак (ЭСБМ тлумачыць кілчак праз кіла, што абсурдна: якая можа быць кіла на языку?).

Блізкае суседства ў мінулым з пермскімі гаворкамі агледжвае і летувіская мова. Яшчэ 35 год назад расейскі даследчык Б. Сярэбранікаў апублікаваў такія свае знаходкі:

па-комі-зырансху рам «ціхі» — па-летувіску ramus «ціхі, спакойны»;

па-комі-зыранску мыськыны «мыць» — па-летувіску mazgoti «мыць падлогу, посуд»;

па-комі-зыранску верӧс «муж» — па-летувіску vyras «мужчына, муж»;

па-комі-зыранску эрд «паляна ў лесе» — па-летувіску erdvas «прасторны»;

па-комі-зыранску гор «печ» — па-летувіску kurti «паліць у печы»;

па-комі-зыранску агас «барана» — па-летувіску akėti «баранаваць»;

па-комі-зыранску шань «слаўны, добры» — па-летувіску — šaunus «бравы, удалы, слаўны»;

па-комі-зыранску гид «хлеў» — па-летувіску kutė «хлеў»;

па-комі-зыранску льӧб «губа» — па-летувіску lupa «губа»;

па-ўдмурцку мыл «жаданне» — па-летувіску meilė «каханне»;

па-комі-зыранску кыпӧдны «падымаць» — па-летувіску kopti «падымацца, лезці»;

па-комі-зыранску эжа «неўзараная зямля» — па-летувіску ežia «мяжа»;

па-комі-зыранску туис «сасуд з бяросты» — па-летувіску tošis «бяроста»;

па-комі-зыранску турас «аб'ём» — па-летувіску turis «аб'ём»

(Б.А. Серебренников. О некоторых следах исчезнувшего индоевропейского языка в центре европейской части СССР, близкого к балтийским языкам. — Труды Академии наук Литовской ССР, серия А, І. 1957, с. 70–71).

Карыстаючыся выпадкам, складаю шчырую ўдзячнасць прафесару Віленскага ўніверсітэта Зінкявічусу, дзякуючы якому ўда-

лося пазнаёміцца з гэтай працай/. На жаль, даследчык, які адкрыў такую колькасць супадзенняў, даў ім надуманае тлумачэнне, высунуўшы гіпотэзу, што «ў лясной палосе Волга-Клязьмінскага міжрэчча» да прыходу славянаў жыў нейкі народ, блізкі па мове да летувісаў і латышоў, і што пералічаныя комі ды ўдмурцкія словы запазычаныя з мовы гэтага народа. Недарэчнасць гіпотэзы бачная з таго, што Сярэбранікаў не пацвярджае існаванне прыдуманага ім народа ні гістарычнымі, ні тапанімічнымі (нягледзячы на тое, што сам тапаніміст!), ні хоць якімі-небудзь іншымі фактамі.

Жыхар Вільні, гісторык-аматар В. Валанцеюс піша: «Я заметил несколько слов, которые заслуживают внимания. /.../ В коми аттьӧ «спасибо»; ср. лит. ačiu «спасибо» (древняя форма была atiu). Ср. коми така (сев. удм. Тяка) — «баран» и лит. tekas «баран». Комі гас «лампа» и литовское gaselis — примитивная лампа без стекла. /.../ Лит. ubas «поле определенного размера» и коми-перм. ыб «поле» (з прыватнага ліста да мяне).

Перш чым прывесці паралелі, напатканыя мной самім, мушу дамовіцца аб наступным. Каб не паўтараць бясконца «комі-зыранскае», «комі-пярмяцкае», «удмурцкае», давайце зробім так: комі-зыранскія, комі-пярмяцкія ды тыя словы, якія маюцца ў абедзвюх гэтых мовах, абазначым літарай «к.», удмурцкія — «у.». Летувіскія ж не будзем абазначаць аніяк, бо і без таго зразумела, што яны летувіскія. А яшчэ нагадаю чытачу, што ę ў летувіскай мове — гук, блізкі да «я», ė з кропкай наверсе — «е», у — доўгае «і», č — «ч», š — «ш», ž — «ж». Рушылі:

alsys «стамляльны» — у. альсыраны «стамляць», «стамляцца»;
andai «нядаўна» — к. ӧнтай «нядаўна»;
ardyti «распорваць» — орйодлыны «рвать»;
arti «каля» — к. орд «каля»;
baras «участак» — к. бор «участак»;
bepigu «добра, лёгка» — к. пик «безвыходнае становішча» /летувіскае be — «без»/;
bigas «куцы» — к. пегыш «маленькі, нізкарослы»;
birus «сыпучы» — к. пыриг «крошкі»;
brungzti «гусці» — к. брунгыны «гусці»;
burgėti «біць струменем» — к. боргыны «цурчэць»;
burgėti «пакрывацца лёдам» — к. бырӧд «наледзь» /ледзяная скарынка/;

burgzti «гусці» — быргыны «гусці»;
čiukuras «вільчык» — к. чук «вяршыня гары», чукöр «куча»;
čiurkšti «біць струменем» — к. чурйыны «біць струменем»;
dardėti «грукатаць» — к. таркöдны «грукаць»;
daigiti «калоць» — к. тойны «укалоць», дой «боль»;
darkyti «псаваць» — к. торкны «псаваць»;
dausinti «брысці» — к. довгыны «брысці»;
daužti «ударыць» — к. дöвгыны «ударыць»;
deja «бяда, гора» — у. дэймыны «жахнуцца»;
dergti «брудзіць» — у. дэри «гразь»;
galia «сіла» — у. кал «сіла»;
gardas «загон, стойла» — к. карта «хлеў»;
gižys «станок для віцця вяровак» — к. гез «вяроўка»;
gudus «жахлівы» — к. гудыр «цемра»;
gurdinti «губіць» — к. гырд «кроў»;
ilgis «даўжыня» — к. ылі «даль»;
jega «сіла» — у. егыт «малады»;
juodas «чорны» — к., у. сьöд «чорны»;
kad «што» — к. код «хто»;
kaita «чаргаванне» — у. кайта «зноў», к. кайтны «паўтараць»;
kalenti «шчоўкаць» — к. колс «шчоўк!»;
kekulas «камяк» — к. коколь «камяк»;
keras «куст» — к. кер «бервяно»;
kudra «балота, парослае кустоў'ем» — у. куд «балота»;
kukis «крук» — кукро «крук»;
kulis «камень» — к. кöльы «галька»;
kulys «сноп» — у. культо «сноп»;
kumpti «выгінацца» — к. комбыля «выгнуты»;
kuokinti «ісці без мэты» — у. кук, к. кок «нага»;
kupra «горб» — у. купырес «гарбаты»;
lėnas «ціхі, спакойны» — к. лöнь «ціхі, спакойны»;
miknoti «заікацца» — к. мыктывны «заікацца»;
nartus «упарты» — к. нарт «упарты»;
noras «жаданне» — к. нор «скарга»;
pedė «слуп» — к. падöс «слуп»;
pelėda «сава» — у. пелё «сыч»;
pietus «абед» — к. пöт «сыты»;
perdoras «перагародка» — к. перитны «падзяліць перагародкай», дор «край»;
pušis «сасна» — к. пожум, у. пужым «сасна»;
rytas «раніца», rytai «усход» — к. рыт «вечар, захад»;
rykste «прут» — к. ридз «стебель»;

straksīti «скакаць» — к. трок «скок-скок»;

sulyti «мачьшь, змочваць» — к. суль «макрата», сульк «наскрозь мокры»;

svidus «бліскучы» — к. свиттявны «блішчэць»;

šapas «саломіна» — к. шеп «колас»;

šatras «хлуд» — к. шат «хлуд»;

šerkšna «іней» — к. шер «град»;

šiušus «змрочны, жудасны» — к. шуштом «змрочны, жудасны»;

tabalas «вісюлька» — к. таб «паплавень»;

tai «гэта» — к. тайц «гэта»;

tad «так што» — к. тадз «так, такім чынам»;

tamsa «цемра» — к. тымны «зацямніць»;

tapatibė «тоеснасць» — к. топ «дакладна»;

tapnoti «пляскаць» — к. гапкӧдны «пляскаць»;

tarksti «трашчаць» — к. таркӧдны «стукаць»;

tarškalas «бразгалка» — у. торс гукападрабленне трэску сухіх прадметаў;

tašas «брус» — к. тас «папярочка, драўляная засаўка»;

teršti «брудзіць» — у. дэри «гразь»;

tilindžiuoti «звінець» — к. тільгыны «звінець»;

tyna «напуханне» — у. тын-тын «тугі, цвёрды»;

tirtenti «дрыжаць» — к. тіравны «дрыжаць»;

tužti «шалець» — у. тышкыны «біць, дубасіць»;

valas «чысты» — к. воль «ачышчаны ад лесу», вольк «чыста»;

valgis «яда» — к. вӧлӧга «яда»;

vampla «рот» — к. вом «рот»;

vargas «бяда» — к. варкавны «быць вельмі скалечаным»;

варгос «непаслухмяны», у. варгас «адзінокі чалавек»;

vėrgas «слуга» — у. вар «слуга»;

žiužė «агонь» — у. жыж «сатлелы» /напр., пра паперу/;

žiurkė «пацук» — к., у. шыр «мыш».

Гэты спіс можна было б і пашырыць за лік такіх супадзенняў, калі словы гучаць дастаткова блізка, але разыходзяцца па сэнсе: kujis «молат» — у. куй «рыдлёўка»; kukas «парася» — к. кук «цяля»; kuokas «драўляны молат» — у. кукчо «матыка»; namas «дом» — к. ньӧм «баба для забівання паляў» (у балоцістых мясцовасцях дамы па ўсёй Еўропе спаконвечна будаваліся на палях); žiutė «гусь» — у. утэс «ястраб» ды інш.

Яшчэ адно сховішча пермскіх словаў — мова латышская. Прычым у ёй сустракаюцца і такія пермскія словы, якіх у летувіскай няма: напрыклад, riets «заход» (сонца) — к. рыт «вечар».

У той жа час у латышскай мове пярмізмаў прыкметна меней, чым у летувіскай. Гэта ясна паказвае, што летувіскія пярмізмы прыйшлі не праз латышскую мову з усходу, а непасрэдна з пермскіх гаворак, што размяшчаліся недзе паміж продкамі летувісаў і латышоў, прычым з першымі пярмяне мелі больш цесны кантакт. Такім патрабаванням летапісная літва цалкам адпавядае.



*Пярмяцкія прылады працы: саха, барана-пляцёнка, каса-гарбуша, каса-літоўка*

У 1978 годзе берасцейскі студэнт Вячаслаў Зіноў, збіральнік розных старажытных рэчаў (манет, абразоў, кніг) у глухой вёсцы на паўночнай ускраіне Белавежскай пушчы набыў вельмі старое друкаванае выданне рэлігійнага зместу, у які аказалася ўклеена некалькі аркушаў паперы. На першым з іх было напісана па-польску «Паганскія гаворкі з Нарава», а далей ішоў слоўнік: злева — слова па-польску, справа — на нейкай невядомай мове. Чуўшы, што ў заходняй Беларусі калісь жылі яцвягі і што мова іх лічыцца блізкай да летувіскай, Зіноў перадаў на пачатку 1983 года гэты слоўнік на кафедру летувіскай мовы Віленскага ўніверсітэта. Праз год прафесар гэтай кафедры, буйны летувіскі лінгвіст Зігмас Зінкявічус надрукаваў старажытны рукапіс са сваім каментарам (Польско-ятвяжский словарик? — БСИ-1984, с. 3 і далей). І хаця Зінкявічус не ўпэўнены, што слоўнічак сапраўды яцвяжскі, няма сумлеву, што ў ім адлюстравалася балцкая гаворка — не зусім такая, як летувіская, латыская ды пруская мовы.

Усяго невядомым знаўцам «паганскіх гаворак» занатавана трохі болей за 200 словаў. І што асабліва цікава, шэсць з іх маюць паразоў з пермскімі: lels «вялікі» — у. ляль «шмат»; mard «чалавек» — к. морт «чалавек»; puse «сасна» — к. пожум, у. пужым

«сасна»; tirtis «сякера» — у. тўр «сякера»; wiza «луг» — к. видз «луг»; tuolis «дʼябал» — к. куль «дʼябал». Тое, што ў апошняй пары не супадаюць пачатковыя зычныя (т» — «к»), паралель не перакрэслівае, бо Зінкявічус прызнае магчымасць пераходу «к» у «т» у балцкіх гаворках (БСИ-1984, с. 19). Прытым у прускай мове мелася слова pickuls, якое таксама азначала «дʼябал» — pic, магчыма, тут першы корань складанага слова. Асабліва ж прываблівае з шасцёркі паралель mard — морт, бо ў летувіскай, латыскай ды прускай мовах чаго-небудзь падобнага да mard «чалавек» няма. Паралель tirtis «сякера» з удмурцкім тЙр «сякера» дазваляе залічыць у актыў і летувіскае kirvis «сякера» — к. чер «сякера», з дапушчальным чаргаваннем комі «ч» — летувіскае «к».



*Віцебская саха (Лепельскі раён)*

Калі аб'яднаць паралелі, напатканыя Б. Сярэбранікавым, В. Валанцеюсам і мной, іх акажацца болей за 100. Трэба яшчэ ўлічваць, што практычна ўсе прыведзеныя — гэта паралелі са словамі сучаснай летувіскай літаратурнай мовы. Даўней жа, калі суседнія пермскія гаворкі яшчэ існавалі, мабыць, у мове летувіскіх продкаў пярмізмаў было яшчэ болей.

Разуменне гэтага дазваляе вытлумачыць нарэшце загадку, якую загадаў нам Адам Каменскі-Длужык. Гэты беларускі шляхціц трапіў у маскоўскі палон у 1660 годзе. Па хуткім часе палонны быў адпраўлены ў выгнанне, у Якуцію. І вось, праязджаючы праз землі зыранаў (комі), ён запісаў у сваім «Дыярыюшу»: «Język (зыранаў) poszedł na żmudzki». У выніку даследчыкі «Дыярыюша» аж да гэтага часу паціскаюць плячмі, як, напрыклад, Валянцін Грыцкевіч: «А. Каменский нашел, что язык зырян похож на жмудский, т.е. на литовский /.../ Зырянский язык с литовским, безусловно, не имеет ничего общего, это язык финно-угорской группы, а литовский — летто-литовской группы»

(В.П. Грицкевич. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986, с. 49). Але ясна, што калі у зыранскай ды жамойцкай мовах было дастаткова шмат агульных словаў, то слухач цалкам мог адчуць, што адна «poszedła» на другую.

Але чаму А. Каменскі-Длужык не напісаў, што зыранская мова падобная да літоўскай? У нас жа атрымліваецца, дзякуючы аналізу ліцвінскіх іменаў ды гідраніміі летапіснай літвы, што яна была да пермскіх куды бліжэйшая, чым балцкая мова жамойці! Прычына тая, што да гэтага часу (сярэдзіна XVII стагоддзя) мова летапіснай літвы ўжо даўно знікла, а сучасная летувіская («літоўская») тады называлася жамойцкай.

Дарэчы, зазірнём у гісторыю летувіскай мовы, спынімся на яе мала вядомых старонках. Пісьмовасці яна не мела аж да 1547 года, г. зн. атрымала яе апошняй у нерасейскай Еўропе. А ў 1547 годзе на ёй выйшла першая, адразу друкаваная кніга — «Катэхізіс» М. Мажвідаса. Выйшла за межамі ВКЛ, у Кёнігсбергу, а выдалі яе пры ўдзеле людзей з Летувы лютаранскія місіянеры, немцы. Вядома, што Лютар быў палкім прапагандыстам таго, каб слова божае ішло да любога народа на ягонай роднай мове, і сам першы пераклаў «Біблію» з лаціны на нямеччыну. Паслядоўнікі ягоныя прадоўжылі гэтую справу для іншых народаў. Так дабраліся ўрэшце і да летувіскіх продкаў.

Катэхізіс 1547 года прызначаўся для самых заходніх жамойтаў, якія ў выніку перадзелаў трапілі ў склад Усходняй Прусіі. Гэтай кнігай і быў закладзены падмурак летувіскай сучаснай літаратурнай мовы, якую з катэхізісам 1547 года звязвае прамая традыцыя, што практычна не мела адхіленняў. На мову выдання 1547 года абапіраліся ўсе наступныя аўтары летувіскіх кніг, як на тэрыторыі Усходняй Прусіі, так і ВКЛ. Характэрныя такія факты. У 1595 годзе, нарэшце, выйшла першая летувіская кніга і ў ВКЛ. Гэта быў катэхізіс Якуба Ледэсмы, перакладзены з польскай мовы М. Даўкшам. «На падставе супастаўлення тэкстаў Ю. Лебедіс прыходзіць да высновы, што перад тым, як апублікаваць «Катэхізіс», Даўкша пазнаёміўся з кнігамі М. Мажвідаса, Б. Вілентаса, Й. Брэткунаса, што выйшлі ў Кёнігсбергу, і карыстаўся пры перакладзе тэкстам «Энхідрыёна» Б. Вілентаса» (А. Анушкин. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. У далейшым — «А. Анушкин», с. 41–42).

А «ў 1605 г. друкарня акадэміі (у Вільні. — *Аўт.*) другі раз выдае пераклад на летувіскую мову «Катэхізіса Ледэсмы». /.../ Але гэта ўжо пераклад не Даўкшы, а іншай асобы, якая не ўказала свайго прозвішча. У прадмове, напісанай па-летувіску, ананімны аўтар тлумачыць прычыны, якія прымусілі яго зрабіць новы пераклад. Ён гаворыць, што пераклад Даўкшы зроблены па-жамойцку і для пэўных летувісаў — не жамойтау» (мусіць, гаворка пра аўкштотаў. — *Аўт.*) — незразумелы, таму і прыйшлося рабіць яго зноў. З далейшага, аднак, бачна, што ананімны перакладчык карыстаўся перакладам Даўкшы, перапрацаваўшы яго ў шэрагу месцаў»(А. Анушкин, с. 48).

Такім чынам, жамойцкая літаратурная традыцыя, што ішла ад Мажвідаса праз Даўкшу, не перарывалася, не парушалася і нават баранілася. М. Біржышка, гісторык летувіскай літаратуры, пісаў: «Прачынаецца і паэзія (у сярэдзіне XIX ст. — *Аўт.*), прычым вылучаюцца пераважна ўраджэнцы ўсходняй Летувы, што выйшлі з народу і пісалі на сваёй усходнелетувіскай гаворцы, што выклікала нават пратэсты з боку пэўных жамойцкіх пурыстаў» (Энциклопедический словарь бр. Гранат, том 27, 1913, сл. 251).

Такім чынам, сучасная летувіская мова ад самога пачатку была жамойцкай, і называць яе літоўскай, г. зн. узводзіць да летапіснай літвы, незаконна. Літва была зусім іншым племем, чым жамойць. А ў літаратуры пануе погляд, што літва і жамойць — дзве часткі аднаго народу, з агульнай мовай!

Тыя, хто гэты тэзіс абараняе, любяць спасылацца на ліст вялікага князя Вітаўта да імператара Свяшчэннай Рымскай Імперыі Сігізмунда ад 11 сакавіка 1420 года, напісаны пасля таго, як імператар прысудзіў Жамойць Ордэну: «Вы выказаліся і прынялі пастанову наконт зямлі Жамойцаў, якая ёсьць нашай спадчынай і ўласнасьцяй ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер ды якая ёсьць і заўсёды была адзіная зь зямлёю Літвы, бо ж адна тая самая гаворка і тыя самыя людзі ... зямля адна і людзі адны» (пераклад з лаціны П. Урбана. Гл. «Полацак», 1992, № 3).

Але ж трэба разумець, што такое сцверджанне (а праверыць яго Сігізмунд наўрад ці мог) было выкліканае нічым іншым, як нежаданнем страціць Жамойць, заваяваную ў нялёгкай Грунвальдскай бітве. У падобных выпадках палітыкі пускаюцца на самыя розныя фальсіфікацыі (добра памятаю, што ў пасляваен-

ных школьных падручніках Калінінградская вобласць /Усходняя Прусія/ называлася «исконно русской землей»). Факты ж кажуць за тое, што вялікі князь у сваім лісце да імператара быў няшчыры. I гэта добра паказвае Урбан ва ўжо згаданай працы «Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў». Не буду пераказваць усе ягоныя аргументы і падзялюся толькі сваіміназіраннямі.

У шматлікіх гістарычных крыніцах літва і жамойць ніколі не падмяняюць адна адну: калі гаворыцца «літва», гэта не азначае адначасова «жамойць», калі гаворыцца «жамойць» — не азначае адначасова «літва». Назвы «літва» і «жамойць» — раўнапраўныя, сэнс «жамойць» у «літва» не ўваходзіць.

Жамойць аддзяляецца ад літвы з першых згадак жамойці ў летапісах. Так, у Іпацьеўскім летапісе пад 1215 годам запісана, што «Божиимъ повелениемъ» да галіцка-валынскіх князёў «прислаша» з мірам літоўскіх, жамойцкіх ды дзяволтаўскіх князёў. Князі гэтыя выразна падзяляюцца: «Литовьскихъ князеи сее старсйшеи Живинбоудъ Давьятъ Довспрунк брат его Мидогъ братъ Довъяловъ Виликаилъ»; «а Жемотьскыи кня Ерьдивилъ Выкынтъ...»; «а се князи из Дяволтвы Юдьки ПоукѢикъ Бикши...» (ПСРЛ, том 2, сл. 735). Праўда, усе яны спачатку нібыта названыя «літоўскімі» («Божиимъ повелениемъ прислаша князи Литовьскыя»), але думаецца, што гэта зроблена для кароткасці, бо іначай навошта было б з «литовьскыхъ» вылучаць тутсама ізноўтакі літоўскіх («Литовьскихъ князеи сее...», «а Жемоитьскыя кня...», «а се князи из Дяволтвы»).

Вось яшчэ надзвычай важныя мясціны таго сама летапісу. Вядома, што Транята, жамойцкі князь, забіў Міндоўга. Пасля гэтага «Тренята нача княжити во всеи землѢ Литовьскои» (ПСРЛ, том 2, сл. 860). З пункту гледжання, што і Жамойць — Літва, здавалася б, дастаткова: «пачаў княжыць ва ўсёй Літоўскай зямлі» — навошта згадваць Жамойць? Але летапісец дадае: «...во всеи землѢ Литовьскои и в Жемоти». На пасадзе Транята надоўга не затрымаўся — яго забілі верныя «конюси», «паробци» Міндоўга.

Тут Міндоўгаў сын Войшалк, што адседжваўся ў Пінску, «поиде с Пиняны к Новоугородкоу и оттолѢ поя со собою НовгородцѢ и поиде в Литвоу княжить. Литва же вся прияша и с радостью своего господичича» (ПСРЛ, том 2, сл. 861). Як бачым, і тут фігуруе «вся Литва». Запамятаем гэта ды будзем чытаць далей:

«Воишелкъ же нача княжити во всеи земли Литовьскои и поча вороги своѣ избивати изби ихъ бещисленное множество а друзии розбегошася камо кто видя». Раз «бещисленное множество», то, значыць, маецца Летува ў сучасных межах? Не! Праз два дзесяткі радкоў летапісец паведамляе, што Войшалк, якога «с радостью прияша вся Литва», «в силе тяжце нача городы имати во Дяволтвѣ и Нальщанехъ» (ПСРЛ, том 2, сл. 863). Значыць, Дзяволтва і Нальшчаны ў паняцце «Літва» не ўваходзілі.

А Жамойць? Натуральна, таксама. Бо каб Войшалк валодаў, апрача Літвы, яшчэ Жамойцю, што даволі ўпэўнена адбівалася ад магутных крыжакоў, даў бы рады, вядома, Дзяволтве ды Нальшчанам без чужога ўдзелу. А з летапісу вынікае, што перш чым ісці на гэтыя плямёны, Войшалк быў вымушаны прасіць дапамогі ў галіцка-валынскіх князёў: «нареклъ Василка отца собѣ и господина /.../ посемъ же Шварно поиде в помочь Воишелкови а Василко князь от себе посла смоу помочь <u>всю свою рать</u> (падкрэслена мной. — *Аўт.*)... и видевъ Воишеволкъ помочь Шварновоу и Василковоу... радъ бис велми... и поиде в силѣ тяжцѣ и нача города имати во Дявелътвѣ и Нальщанехъ». Гэты выключна важны факт, між іншым, сведчыць аб увогуле малой сіле літвы і дае зразумець, чаму са сваіх набегаў яна амаль заўсёды вярталася бітай. Дык не можа быць і гаворкі, што літва кагосьці заваявала. Яна дала Вялікаму Княству Літоўскаму толькі імя ды князёў, а вядучую ролю ў ім ігралі нашы славянскія продкі.

Не валодаў Жамойцю і Міндоўг, раз пра гэта не гаворыцца ў летапісе. Ён княжыў «во всеи землѣ Литовьскои» (ПСРЛ, том 2, сл. 858) — і толькі. Тым часам, гісторыкі з-за сваёй няўважлівасці лічуць, што за словамі «вся земля Литовьская» стаіць Летува ў сучасных межах. Але ж, як бачым, летапіс разглядае літву толькі як адну з раўнапраўных земляў: Літва, Жамойць, Дзяволтва, Нальшчаны.

Пра Міндоўга ў самых розных працах можна прачытаць такое: «С 1236 года известен как правитель всей Литвы» (Литва, с. 410) — маецца на ўвазе Летува. Але згадаем такія факты. Якраз у 1236 годзе адбылася вядомая бітва з крыжакамі Лівонскага ордэна пад Шаўлямі (22 верасня), што скончылася поўным паражэннем немцаў. Падзеі развіваліся такім чынам: спачатку крыжакі ўчынілі крывавы паход на жамойць, а парабаваўшы яе, вяр-

таліся ў Рыгу і былі ад яе недалёка, калі на іх напалі жамойты. Узначальваў іх нібыта Вікінт (Литва, с. 536). А дзе ж быў Міндоўг? У бітве «правитель всей литвы» не ўдзельнічаў, як і ягонае войска.

Летапіс сведчыць, што паміж літвой ды жамойцю не толькі не было адзінства і дружбы, але і была варожасць. Характэрныя падзеі 1252—1253 гадоў, калі Вікінт у барацьбе з Міндоўгам шукаў сабе саюзнікаў і сярод галіцка-валынскіх князёў, і яцвезі, і крыжакоў. У выніку адбылося некалькі бітваў, у якіх жамойць нязменна выступала супроць Міндоўга (ПСРЛ, том 2, сл. 816—818). Уратавала тады Міндоўга тое, што ўдалося схіліць на свой бок немцаў, атрад якіх дапамагаў яму абараняцца. За гэта Міндоўг у 1253 годзе не запярэчыў супроць таго, каб Ордэн заняў частку Жамойці (Литва, с. 410). Жамойць, не скарыўшыся перад Ордэнам, працягвала з ім барацьбу. І што ж? Ці быў на баку «аднапляменнікаў» Міндоўг? Не. Ён быў у саюзе з Ордэнам. І толькі пасля таго, як жамойць перамагла крыжакоў у Дурбескай бітве (1260 г.), у якой Міндоўг пераможцам нічым не дапамог, ён парваў з пераможанымі немцамі.

Штосьці падобнае працягвалася і пасля Міндоўга. У 1270 годзе адбылася бітва з крыжакамі каля Карусе. Тут крыжакоў перамагла літва. Жамойць у бітве не ўдзельнічала (Литва, с. 366). «Въ лѣто 6794 (1286 г. — *Аўт.*). Ходиша Литва вся и Жемоть на Нѣмцѣ к Ризи. Онем же вѣсть быс и збегошася в городы. Они же пришедъше к городоу не воспев ничего и отолѣ же идоша на Латыголоу и доходивше города Мѣдвежеи Головы и не вспевше оу него ничто и тако возвратишася во своя добывше мало полона. Ся же оуслышавше Торуньсцѣи Нѣмцѣ оже Жемоть вся пошла на Ригоу идоша на Жемоть помагаюче своимъ Нѣмцѣмъ и поимаша ихъ бещисленное множьство а дроугия избиша и тако придоша во своя со множествомь полона» (ПСРЛ, том 2, сл. 896—897).

Бачыце, як: пакуль «уся літва» ды «ўся жамойць» атакавалі спачатку Рыгу, а потым латышоў, торуньскія крыжакі зрабілі набег на пакінутую без абаронцаў Жамойць ды забралі ў палон мноства людзей. Здавалася б, вярнуўшыся з паходу, у які хадзілі разам, войскі літвы і жамойці павінны былі разам і кінуцца на Торунь (Торн), каб вызваліць сваіх. Ні пра што падобнае летапіс

не паведамляе. Відавочна, літва ваяваць за чужых не схацела, а жамойць ісці адна на Торунь не адважылася.

Так што сумесныя дзеянні літвы і жамойці, узаемадапамога адна адной у крыніцах практычна не адзначаюцца. І гэта перад тварам агульнай бяды — нямецкай навалы. І не ў нейкі адзін момант, а больш чым стагоддзе. Так маглі трымаць сябе толькі дастаткова чужыя этнасы.

Вялікі знаўца летапісаў здзіўлена зазначае: «Летапісы... упарта падзяляюць Літву на ўласна Літву і Жамойць» /Н. Улащик, с. 58/. Чаму здзіўлена? Таму што і Улашчык лічыў, што жамойць — частка літвы. Але ж ці можа частка быць нароўні з тым цэлым, у якое яна ўваходзіць? Уявіце сабе: «Беларусь і Магілёўшчына». Абсурд? Абсурд, бо з такога словаспалучэння вынікала б, што Магілёўшчына ў Беларусь не ўваходзіць. Значыць, калі гаворыцца: літва і жамойць, гэта азначае, што жамойць — не частка літвы. А формула «литва и жомоить» у летапісах паўтараецца бясконца.

Вось узяць афіцыйную назву гаспадарства: Вялікае Княства Літоўскае, Жамойцкае, Рускае (або Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае). Ці ж яна яднае літву ды жамойць? Наадварот — падзяляе. Калі б жамойць была часткай літвы, то ў гэтую назву яна ўвогуле не мусіла ўключацца. А вось тытул караля і вялікага князя Жыгімонта Трэцяга: «Король польский, великий князь литовский, руский, пруский, жомоитьский...» (Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. 1989, с. 42). Тут, як бачым, жамойць аддзяляецца ад літвы не толькі славянамі, але і немцамі. Цяпер радкі з Супрасльскага рукапісу: «В лѣто 6906 (1398 г. — Аўт.). Князь же великий Виговтъ Кестутевич литовъскый собра воя много безчислено, и царь Такътамыш с ним своимъ дворомъ, и литва, и немци, и ляхи, и жемоить, татарове и волохи, и поляне...» (ПСРЛ, том 35, с. 52). Тут літва і жамойць падзеленыя немцамі ды палякамі.

З гісторыі добра бачна, што жамойць і перад тварам нямецкай агрэсіі не надта прагла аб'яднання з Літвой, а калі пасля Грунвальдскай бітвы (1410 г.) была ўсё ж далучаная да ВКЛ, дык ужо ў 1418 годзе ўзняла паўстанне супроць Вітаўта (Литва, с. 257), якое і папярэднічала прысуду Сігізмунда вярнуць Жамойць Ордэну. І гэта аніяк нельга прызнаць выпадковасцю. Вітаўт, той самы Вітаўт, які даводзіў імператару, што літва і жамойць — адзін

народ, абыходзіўся з жамойцю, як з «разменнай манетай» (словы Урбана. Гл. «Полацак», 1992, № 4, с. 23). Сапраўды, у палітычных мэтах ён саступаў жамойць Ордэну ў 1384, 1389 гадах (БелСЭ, том 3, с. 105), а ў 1398 годзе падпісаў Салінскае пагадненне, згодна з якім Жамойць засталася за Ордэнам (Литва, с. 257). Што пры гэтым ён не сіле саступаў, а вёў гандаль Жамойцю, сведчыць той факт, што пры Ворскле (1399 г.) супраць татараў у войску Вітаўта біліся і крыжакі (Литва, с. 152), чым яўна плацілі за Жамойць.

Ды каб толькі гэта. Польскі даследчык з Вільні Ян Цехановіч, каментуючы мой артыкул «Племя пяці родаў», дзе сярод іншага выказваецца думка, што літва і жамойць — розныя плямёны, піша: «Калі літва і жамойць былі рознымі плямёнамі, адразу робіцца зразумелай нечалавечая жорсткасць літоўскага князя Вітаўта, які разам з нямецкімі наездцамі літаральна заліў жамойць крывёю падчас некалькіх набегаў пад канец XIV стагоддзя. Да аднапляменнікаў гэты палітык хутчэй не паставіўся б так бязлітасна, як тое апісваюць тагачасныя нямецкія, польскія ды рускія хронікі» (J. Ciechanowicz. Na wschyd od Bugu. Wilno — Chicago, 1991, c. 18).

У 1401 годзе жамойць паўстала супроць Ордэна. Карыстаючыся гэтым, Вітаўт прыбраў яе да рук, але ў 1404-м зноў аддаў немцам (Литва, с. 257).

Яшчэ вядома, што жамойць імкнулася да стварэння ўласнага гаспадарства. Пэўны час тая і была — у XIII стагоддзі, пад назвай Вялікае Жамойцкае Княства (Н. Улащик, с. 156). А ў складзе ВКЛ жамойць карысталася аўтаноміяй: пачынаючы з 1411 года існавала Жамойцкае староства. Староста меў правы ваяводы. Яго абірала жамойцкая шляхта, а вялікі князь толькі зацвярджваў. З пачатку 1440-х гадоў Жамойцкае староства называлася яшчэ і Жамойцкім княствам (Литва, с. 257). Зразумела, што калі б літва і жамойць былі адным народам, на такое вылучэнне жамойці не было б прычын.

Што ж датычыць мовы жамойці (сённяшняй летувіскай), то да яе гаспадарства ставілася, мякка кажучы, абыякава. Першая кніга на ёй, як ужо казалася, выйшла за мяжой, а ў межах ВКЛ — толькі праз 48 (!) гадоў пасля гэтага. І ў далейшым да 1625 года тут выпусцілі толькі 4 кнігі па-жамойцку, у той час як на беларускай, польскай ды лацінскай — шматлікія дзесяткі. Нават на нямецкай

мове ад 1605 да 1625 года ў Вільні з'явілася 6 кніг (А. Анушкин, с. 13). Пры гэтым трэба адзначыць, што ўсе жамойцкія кнігі былі рэлігійнымі, выдавала іх царква, а свецкія ўлады не мелі да гэтага дачынення. Такі быў «клопат» «летувіскага» гаспадарства аб развіцці «свае» мовы.

Як бачым, Вялікае Княства Літоўскае ставілася да жамойці як да народа не ўладнага, а падуладнага. Для дасведчанага гісторыка гэта павінна быць абсалютна ясна. Таму не можа не здзіўляць, што такі знаўца айчыннай гісторыі, як Генадзь Сагановіч, называе летапісную літву «летувісамі», дэкларуючы пры гэтым: «Аўтар лічыць магчымым дапасаванне сучаснага саманазову жыхароў Рэспублікі Летува да іх старадаўніх продкаў» (Г.М. Сагановіч. Айчыну сваю баронячы. 1992, с. 11). Не была, не магла быць летапісная літва продкамі летувісаў!

Чаму ж жамойты сталі «літоўцамі», «летувісамі»?

Я ўжо спрабаваў адказаць на гэтае пытанне ў «Племі пяці родаў», але яно такое заблытанае і складанае, што прыйдзецца вярнуцца да яго зноў.

Носьбітамі балцкіх гаворак былі не толькі жамойты, але і аўкштоты. Але іх было значна менеий, на аўтаномію яны не прэтэндавалі, таму пра іх амаль не чуваць у гістарычных крыніцах.

Апрача аўкштотаў, на ўсходзе сённяшняй Летувы жылі і іншыя неславянскія плямёны: дзяволтва (па-летувіску дялтува), нальшчаны (па-летувіску нальшя). Нальшчаны, падобна, асноўнай масай жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі (Литва, с. 135, карта). Таму, будучы блізкімі суседзямі крывічоў, яны, як і літва, цалкам славянізаваліся.

Дзяволтва ж ды аўкштота ад славянаў былі аддзеленыя літвой і нальшчанамі. Таму славянскі ўплыў на іх распаўсюджваўся марудна. Мова літвы, што сама згасала, таксама значнага ўплыву зрабіць не магла. І ў выніку мова аўкштоты захавалася як балцкая. Дзяволтва ж, якая не была балцкай, на што намякае канчатак -ва ейнай назвы, пад уплывам аўкштоты збалтызавалася. На астатняй жа тэрыторыі сучаснай Летувы, г. зн. на захад ад аўкштоты, нябалцкае насельніцтва балтызавалася пад уплывам жамойці. Балцкія нежамойцкія групы таксама кансалідаваліся з жамойцю, што была досыць актыўнай і мела аўтаномію.

Але гэтая аўтаномія распаўсюджвалася не на ўсё балцкае насельніцтва ВКЛ — у прыватнасці аўкштота, што папоўнілася

дзяволтвай, ёю не карысталася. Так балты сучаснай Летувы аказаліся падзеленымі на дзве часткі: жамойць ды астатнюю, значна меншую, якая ў Вялікае Княства Літоўскае ўваходзіла непасрэдна, без самакіравання.

Вядома, што і славяне ВКЛ часцяком называліся ліцвінамі, літвой. Гэтаксама па дзяржаве звалася літвой і аўкштота.

Летапісная, сапраўдная літва цалкам славянізавалася. Але гаспадарства па-ранейшаму звалася Вялікім Княствам Літоўскім. Мова, на якой гаварыла літва, ейныя асаблівасці хутка забыліся. Захавалася толькі памяць, што літва не была славянскай. А паколькі ў ВКЛ меўся этнас, які гаварыў не па-славянску, то на яго (аўкштоту) і стала пераходзіць назва «літва». Гэтаму спрыяла і сама аўкштота, якая сябе таксама стала зваць літвой, бо ейная ўласная назва («верхнія») у раўнінным краі гучала дастаткова дзіўна і незразумела (адкуль яна ўзялася, пагаворым пазней). Такім чынам, на першым этапе (да сярэдзіны XVI стагоддзя) «літвою» стала звацца з балтаў толькі аўкштота.



*Драўляны коўш і чаркі (Пярмянскі край, XVIII ст.)*

Адначасова новая «літва» працягвала зваць сябе аўкштайчяй. Але «аўкштайчяй» азначае «верхнія», а «жямайчяй» — «ніжнія». Вось з цягам часу і стала ўспрымацца, што і жамойць — таксама літва, толькі «ніжняя». А пакрысе формула «літва і жамойць» у новым сэнсе (аўкштота і жамойць) стала пераносіцца на больш ранні перыяд, калі літва зусім не разумелася як аўкштота, была абсалютна іншым, чым аўкштота, племем. (Нават балтафіл, вядомы расейскі археолаг В. Сядоў падзяляе Летуву мінулага на Жамойць, Аўкштоту і Літву. Гл. «Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1967. У далейшым — ФУБ, с. 387 і далей).

Сёння пераважнай большасцю даследчыкаў, аўтараў розных прац летапісная літва цалкам атаясамліваецца з аўкштотай. Да такога разумення рэчаў, між іншым, прыклалі руку немцы. Ужо

казалася, што першы пісьмовы помнік жамойцкай мовы быў выдадзены імі ў Кёнігсбергу. Гэтая праца працягвалася і надалей. І вось, пачынаючы «ад 1579 году ў выданьнях, што таксама выходзяць у Кёнігсбэргу, жмудзкая мова пачынае звацца літоўскай» (П. Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў, с. 38). Гэта хутка было падхоплена часткаю жамойтаў. Так, у 1595 годзе, выдаючы свой жамойцкі пераклад «Катэхізіса» Якуба Ледэсмы (іспанскі езуіт), святар Жамойцкай епархіі М. Даўкша напісаў, што ён зроблены на літоўскую мову. (Глядзі: Jan Bystroń. Katechizm Ledesmy w przekładzie schodnio-liteskim z wydania wileńskiego z roku 1605. Kraków, 1895, s. 2).

З гэтым не згадзіўся невядомы аўтар новага перакладу таго ж «Катэхізіса», які выдаў яго ў 1605 годзе. У прадмове ён пісаў: «Даходзілі да вушэй маіх шматлікія галасы такіх, якія казалі, што не разумелі Катэхізіса, перакладзенага ксёндзам Мікалаем Даўкшам, бо ён пераклаў яго па-жамойцку (падкрэслена мной. — *Аўт.*) — і прасілі мяне, каб ён быў перакладзены па-літоўску» (тамсама, s. 3). Такім чынам, новы перакладчык пратэставаў супроць таго, каб жамойцкая мова называлася літоўскай.

Але, аказваецца, ягоная «літоўская» мова амаль што нічым не адрознівалася ад жамойцкай. На аналіз яе Ян Быстронь траціць больш за 20 старонак, але адзначае ў асноўным толькі дыялектныя асаблівасці, фанетычныя ды крыху марфалагічных. Добра бачна, што «літоўская»



*Коўш (Беларусь, XVI ст.)*

аўкштоцкая мова — гэта ўсяго дыялект жамойцкай. Зразумела, што калі б ім сапраўды карысталася летапісная літва, то пра спрадвечны падзел «літва — жамойць», вылучэнне Жамойці ў аўтаномную адзінку Вялікага Княства не было б і гаворкі.

Як ужо казалася, да азначэння жамойці як «ніжняй літвы» дачыніліся немцы. А яны не толькі выдавалі на жамойшчыне масу рэлігійнай літаратуры. Яны яшчэ і вывучалі мову ды этнаграфію жамойтаў у болей познія часы — ужываючы для азначэння іх тэрмін «літоўцы». А навуковая нямецкая думка карысталася

вялікім попытам ды аўтарытэтам у Расеі: тут жа служыла шмат вучоных немцаў. Так, адным з буйных балтыстаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя быў ураджэнец Латвіі Э. Вольтэр (ён якраз і перавыдаў у 1886 годзе «Катэхізіс» у перакладзе Даўкшы). Вось і прайшло ад немцаў у расейскую навуку, што жамойць — частка летапіснай літвы.

Самі ж жамойты ўчэпіста трымаліся за сваю гістарычную назву аж да XX стагоддзя. Але пачалося жамойцкае адраджэнне, лідэрам якога здалося вельмі прывабным стаць «літоўцамі», спадкаемцамі магутнага гаспадарства: гэта ж так падымала самасвядомасць занядбанага, вечна прыгнечанага народа!

Так узнікла ды саспела тэрміналагічная блытаніна, з-за якой і сёння не адважваемся на поўны голас назваць Вялікае Княства Літоўскае, створанае нашымі продкамі крывічамі, дрыгавічамі ды літвой — нашым, беларускім гаспадарствам.

І я асабіста думаю, што каб нарэшце рассекчы клубок гэтай блытаніны, хаця б у галовах нашых суграмадзянаў, варта было б у сваёй літаратуры, друку сённяшніх летувісаў зваць жамойтамі, а краіну іх — Жамойцю, чым была б узноўленая гістарычная справядлівасць.

## Глава 4

# Дагістарычныя блуканні: шлях пярмянаў

Пішучы «Племя пяці родаў», гэта значыць, выказваючы гіпотэзу, што летапісная літва была племем пермскім, я мала задумваўся над тым, як і адкуль трапіла на Беларусь пермскае племя. Для мяне ў гэтым не было праблемы. З гісторыі вядомыя прыклады, калі нейкая этнічная група адрывалася ад асноўнай масы сваіх родзічаў ды сыходзіла «у прочкі» вельмі далёка. Так, на ніжняй Волзе жывуць калмыкі. Мова іхняя — адна з мангольскіх, а найбліжэйшая іхняя радня — бураты. Якутаў з іхняй цюркскай мовай ад найбліжэйшых цюркаў — хакасаў ды тувінцаў — аддзяляюць тысячы кіламетраў. А на Таймыры жыве яшчэ адзін невялічкі народ цюркскай групы — долганы.

У капітальнай працы Г.М. Васілевіч «Эвенки» (М., 1969) вычытаў такое. Аказваецца, аж да 1920-х гадоў эвенкі прытрымліваліся бадзячага ладу жыцця. Выбіўшы на адным месцы «прадуктовую» дзічыну, ішлі далей, рухаючыся вакол усёй Усходняй Сібіры — гэта значыць, сёння нейкае племя магло быць каля Байкала, гадоў праз дзесяць — на Енісеі, яшчэ праз 10–20 — на Анабары, а потым, з адпаведнымі часавымі інтэрваламі, на ніжняй Лене, Яне, Індзігірцы, Калыме, узбярэжжы Ахоцкага мора, адкуль вярталася зноў на Байкал, каб рушыць у той самы шлях нанова. На такое «кола» затрачвалася 150 гадоў!

Прыблізна так маглі рухацца па Усходне-Еўрапейскай раўніне і старажытныя пермскія паляўнічыя, пакуль не прыйшлі славяне. Болей шматлікія, лепш узброеныя, славяне адразу занялі найлепшыя для земляробства мясціны. Занялі «намёртва», перарэзаўшы прывычныя паляўнічыя маршруты. І хочаш не хочаш, пярмяне вымушаныя былі застацца там, дзе іх заспелі прыбышы. З цягам часу пярмяне, апрача Прыўралля, куды славяне прыйшлі не раней XIV стагоддзя, асіміляваліся. Дзе было іх меней — перайшлі на мову прыбышоў раней, дзе болей — пазней. Літва была параўнаўча вялікім племем, таму і захавалася да XIII–XIV ст.

Гідранімія Усходне-Еўрапейскай раўніны такую думку, здавалася б, пацвярджае: назвы расейскай поўначы вельмі нярэдка знаходзяць сабе адпаведнікі не толькі ў нас на Беларусі (як я ўжо паказваў у папярэднім раздзеле), але і пасярод Расеі, і на поўдні ейным, і на Украіне.

Не буду ўдаваць з сябе першаадкрывальніка, бо гэтая з'ява заўважаная задоўга да мяне. І каб паказаць гэта, прывяду дастаткова вялікую цытату з працы расейскага даследчыка А.І. Сабалеўскага «Названия рек и озер русского Севера» (Известия отделения русского языка и словесности АН СССР. 1927, № 32, с. 1–42)*.

Тэкст А. Сабалеўскага перасыпаны расейскімі назвамі рэкаў і азёраў, якія хацелася б захаваць у іх уласнай форме, таму падаю без перакладу, за што прашу прабачыць.

> «В упомянутом выше этюде /ИОРЯС, № 26, 27. — *Аўт.*/ мы сказали, что название Сула повторяется трижды. Его носят реки в Полтавской, Курской и Минской губ. Здесь мы дополним сказанное: это название принадлежит еще речкам 1) притоку Печоры, 2) притоку Казанки (басс. Волги), 3) притоку Ика (басс. Уфы). Сверх того: Сулица, приток Свияги /басс Волги/.
>
> В этом же этюде мы привели данные, что название Рыша носят три реки: Орша в Могилевской, Ирша в Киевской и Орша в Тверской губ. Здесь дополнение к ним: 1) озеро у гор. Новоржево носит название Ршо или Аршид, а деревня на его берегу — Орша; 2) один из притоков Уфы называется Арша /басс. Камы/. Сверх того: Ворша, приток Клязьмы; Воржица приток верхней Волги. Вот еще данные:
>
> Вязьма 1) приток Шоши, 2) приток Уводи /басс. Клязьмы/, 3) приток Днепра в Смоленской губ.;
>
> Ока 1) приток Волги, 2) приток Уфы (дадам ад сябе, што Ока маецца и ў басейне возера Ильмень у Ноўгарадскай вобласці. — *Аўт.*);
>
> Сура 1) приток Волги, 2) приток Пинеги (дадам, што мы маем раку Сураў у басейне Сажа. — *Аўт.*);
>
> Судомля 1) озеро в Тверской губ., 2) приток верхней Волги; сверх того, Судома в Псковской губ., Судомля в Смоленской губ.;

* Карыстаючыся выпадкам, складаю ўдзячнасць пецярбуржскаму тапаніміcту Сяргею Уладзіміравічу Папову, дзякуючы якому ўдалося пазнаёміцца з гэтай публікацыяй.

Немда 1) приток Волги выше Унжи, 2) приток Унжи, 3) приток Вятки, 4) приток Пижмы /басс. Вятки/, 5) речка в Орловской губ. /басс. Днепра/;

Уза 1) приток средней Волги, 2) приток Шелони, 3) в Минской губ., 4) в Могилевской губ.;

Ула 1) приток Волги, 2) приток Западной Двины, Улица — две речки, одна в Смоленской, другая в Черниговской губ., Ульва /басс. Камы/ (дадам ад сябе, што ў Комі рэспубліцы маюцца рэкі Ула ды Улью. — *Аўт.*);

Ловоть 1) приток Жиздры, 2) приток Волхова;

Сережа 1) приток Тёши /басс. Оки/, 2) приток Ловоти, Сережа в Орловской губ., Сереговка, речка в Волынской губ.;

Бережа 1) приток верхней Волги, 2) речка в Волынской губ. /басс. Днепра/; срв. Берега, приток Протвы /басс. Оки/; /.../

Луза 1) приток Юга, 2) приток Оки в Калужской губ.; срв. Лузма в Калужской, Лузна в Смоленской губ. (яшчэ маецца Луза ў басейне Пячоры. — *Аўт.*); /.../

Мелеча 1) и 2) речки бассейна Мологи, 3) река в Орловской губ. (басс. Днепра);

Межа 1) приток Унжи, 2) приток Западной Двины в Смоленской губ.;

Ухтома 1) и 2) речки бассейна Клязьмы, 3) речка бассейна Костромы, 4) впадает в Белое море; сверх того: Ухтым (из Ухтома?) речка бассейна Вятки, Ухтыш, приток Ижмы (басс. Печоры); /.../

Гостижка или Гостишка 1) в Тверской губ. /басс. Волги/, 2) и 3) в Смоленской губ., 4) в Могилевской губ. (басс. Днепра);

Шача 1) приток Оки, 2) приток Немды /басс. Волги/, 3) и 4) притоки Костромы; срв. Шоча, приток Пинеги;

Лем, приток Печоры, Лема 1) приток верхней Волги, 2) приток Чепцы /басс. Камы; срв. Лемля или Лямля, в Киевской губ.;

Лух приток Клязьмы, 2) приток Камы; срв. Луша, приток Венты-Виндавы (у Міёрскім раёне ёсць возера Луша. — *Аўт.*);

Меза и Мез-онда, притоки Костромы, Ле-меза (басс. Камы), Дере-мезенка в Киевской губ. (басс. Днепра), срв. Мезень;

Кожа 1) приток Онеги, 2) в Волынской губ., Скожа или Искожа в Смоленской губ. (басс. Днепра), Коже-озеро в Олонецкой губ.;

Свидь в Олонецкой губ. (и из Ѣ по новгородскому говору?), Сведь в Минской губ. (басс. Днепра);

Ситня 1) приток Шелони в Псковской губ., 2) в Могилевской губ., 3) в Смоленской губ. (басс. Днепра);

Суда, приток Шексны, Судка в Смоленской губ. (басс. Днепра), Судость в Орловской губ., еще Суда, приток Эльбы (в области по-

лабских славян), срв. Шуда (басс. Ветлуги), Шудья, приток Вишеры (басс. Камы);

Сума 1) приток Камы, 2) впадает в Онежский залив, 3) в Харьковской губ. (басс. Днепра);

Сумка 1) приток средней Волги (перед Свиягою), 2) в Могилевской губ. (басс. Днепра);

Суя (басс. Уфы), Шуя 1) приток Немды (басс. Волги), 2) речка близ Петрозаводска, 3) впадает в Онежский залив, 4) приток Сухоны, 5) в Витебской губ., Шуйца в Калужской губ. (басс. Днепра), срв. Шуйма в Вятской губ. /.../;

Сарка, два притока Суры, Сарма, приток Мокши, Сарья в Витебской губ., Сара, приток Илети (басс. средней Волги), Шерья (басс. Камы; е из а?);

Тулва, приток Камы, Тулица, приток Упы, под гор. Тулою, Потулица, приток Велны (басс. Одера);

Улема, приток Свияги, Улемка или Улемец в Калужской губ. (басс. Днепра), срв. выше Лем;

Ун и Унва, притоки Камы /.../ Унява, приток Днестра, Унеёвка, приток Пилицы (басс. Вислы); /.../

Уть и Ут (басс. Камы), Ута, приток Свияги, Уть, Не-уть (басс. Днепра), Уч, приток Клязьмы» (с. 3–5).

Акрамя прыведзенага, у Сабалеўскага маюцца яшчэ пералікі супадаючых гідронімаў, раскіданых па прасторах Усходне-Еўрапейскай раўніны. Але, я думаю, і гэтага дастаткова, каб адчуць галоўнае: рачныя і азёрныя назвы на ёй паўтараюцца і паўтараюцца, іншы раз праз тысячы кіламетраў. Прычым назвы яўна неславянскія. Зразумела, усе іх залічыць у пермскія было б неабачліва, бо на гэтай прасторы жылі і іншыя плямёны: мардоўскія, марыйскія, эстонскія, карэльскія, нейкія яшчэ. Але хоць крыху ведаючы пермскую лексіку, адзначаеш і нямала пермскіх, часам у вельмі нечаканых мясцінах.

У папярэднім раздзеле мы пераканаліся, што назву Сула можна супастаўляць з комі-зыранскім су «агароджа» + ва (ла). І вось аказваецца, што Сула маецца не толькі ў Комі рэспубліцы ды на Беларусі, а яшчэ і на Украіне (Палтаўская вобл.) і ў Заходняй Расеі (Курская вобл.); ёсць Сула ў Татарыі, у Башкірыі. Выходзіць, пярмяне былі не толькі там, дзе жывуць сёння, але і ў такіх аддаленых адна ад адной мясцінах, як Стаўбцоўшчына, Палтаўшчына, Куршчына, Татарыя ды Башкірыя.

У Каму ўпадаюць Ун і Унва. Гэта таксама гідронімы пермскія: ун па-комі «сон» («сонная» рака — павольная). А ў Днестр упадае Унява — тое сама, што Унва (ун + ва). Значыць, пярмяне былі і на Днястры?

Льём у комі мовах — «чаромха», льёма — «чаромхавы» («з чарэмхай»). Рака Лем упадае ў Пячору, адна Лема ў доплыў Волгі Кастраму, другая Лема ў доплыў Камы Чепцу, а пад Кіевам цячэ Лемля. «Лемля» — гэта льём з комі-зыранскім суфіксам — ля.

Зразумела, кожны раз, калі гідронім, дадзены ў нейкай мове, адшукваецца там, дзе гэтай мовы ўжо няма, трэба паглядзець: а ці не раскрываецца ён з мовы бліжэйшай? Гэта — раз. А два — абавязкова праверыць: ці маюцца паблізу яшчэ гідронімы мовы дальняй, гэта значыць, ці не выпадковая знаходка?

Палтаўская Сула, кіеўская Лемля. Дзве пермскія назвы-суседкі. Ці ёсць яшчэ?

Ніжэй у Днепр упадае Орель. Гэтая назва складаецца з двух пермскіх слоў: комі-пярмяцкага (і ўдмурцкага) ӧр «рэчышча» ды комі-зыранскага ёль «рэчка» (у Комі рэспубліцы маецца рака Ворга-ёль з назвай таго ж тыпу: ворга па-комі-зырански, як ӧр па-комі-пярмяцку — «рэчышча»). Вышэй Орели ўпадае Рось. У Рось — Росава. Назву Рось звычайна вытлумачваюць праз «Русь», назву старажытнаўкраінскай дзяржавы. Але гэта недарэчнасць, рэкі былі названыя нашмат раней, чым утварылася гэтая дзяржава, назву якой прынеслі варагі з Ноўгарада. Тым часам у Комі рэспубліцы маецца рака Розь, што азначае «дзюра, адтуліна, прабоіна». Рось і Розь па гучанні адно і тое ж, бо «з» напрыканцы слова чуецца як «с». А што назва Рось пермская, падкрэслена доплывам Росі, у назве якога гэтая аснова спалучаецца з комі ва «рака» (Росава).

Недзе ў Кіеве ці пад Кіевам ёсць ці была рэчка Лыбедь. Гэта не «лебедзь», а пермская назва з двух комі слоў: лыа «пясок» + бадь «вярба». І сам Кіеў можа быць айконімам пермскім, ад комі кыйны «паляваць» + ыйв «вярхушка»: Кый-йыв — «паляўнічая гара». Вядома, што Кіеў стаіць на пагорках, а «Аповесць мінулых гадоў» спецыяльна адзначае, што вакол Кіева калісьці былі дрымучыя лясы, дзе паляне «бяху ловяща звѢрь... мужи мудри и смыслени» (Изборник, 1969, с. 32). І археолаг зусім нечакана паведамляе, што паляне ў пэўнай меры ўяўлялі з сябе славянізаваных фіна-вуграў (Т.И. Афанасьева. Антропологический состав

восточно-славянских народов и проблема их происхождения. — Этногенез финно-угорских народов по данным антропологии. М., 1974, с. 74).

Цяпер пяройдзем у басейн Дона. І тут чакае нас шмат неспадзевак. Па-першае, ужо само слова Дон — пермскае: па-комі дон — «чысты, празрысты». Толькі вось назву гэтую тапанімісты тлумачаць зусім іначай, праз асецінскае дон, што азначае «вада». Маўляў далі імя Дону іранамоўныя скіфы, нашчадкамі якіх з'яўляюцца асеціны.

Бясспрэчна, што Асецiя бліжэйшая да Дона, чым Комі рэспубліка. Але ж пры скіфах Дон зваўся Танаісам, сваю сучасную назву ён атрымаў ужо пасля таго, як скіфаў не стала.

На чыю ж карысць вырашаецца спрэчка за Дон? Пермскі ён або іранскі? Вось тут і спатрэбіцца нам правіла № 2 для ацэнкі далёкамоўных назваў. Нагадаю, калі чытач забыўся, як яно гучыць: «ацані суседнія назвы».

Ёсць у басейне Дона рака Красивая Меча, шырока вядомая дзякуючы апавяданню Івана Тургенева. Цячэ яна ў Тульскай ды Белгарадскай абласцях, упадае ў Дон. Калі меркаваць па першаму слову Красивая, то назва чыста расейская. Але што такое Меча? Гэта з расейшчыны не зразумееш...

Гідронім Красивая Меча — унікальны. У ім першае слова перакладае другое, і перакладае з пермшчыны, бо па-комі мича — «прыгожы». Утварыўся ж ён, як можна зразумець, так: спачатку рака называлася Мича (а можа, у мясцовым пермскім дыялекце, і Меча). А калі, з нашэсцем новай мовы, пермская гаворка стала знікаць, назву пераклалі, ды не выкінулі пад печ, а захавалі разам з перакладам. Вось у гэтым і заключаецца ўнікальнасць назвы: перакладаў на картах Расеі, Беларусі, Украіны шмат, і пазнаць іх лёгка з-за няўклюднасці назваў (Орел, Ворона — замест Орлиная, Воронья), ды перакладзенае слова, як ужо непатрэбнае, у іх страчанае, а ў Красивая Меча дайшло да нашых дзён. Я асабіста ведаю яшчэ толькі адзін падобны гідронім — Молодой Туд у басейне Волгі (Цвярская вобл.). Па-ўдмурцку тудву — «паводка», ву — «вада». Паводку можна назваць «маладой вадой» — значыць, туд — «малады», і Молодой Туд — гідранімічнае «маслянае масла».

У Красивую Мечу ўпадае Сосна. Гэта таксама пераклад, але з якой мовы, мы не ведаем. А Сосна між іншых мае два такія до-

плывы: Тим ды Олым. І абодва маюць «пары» на далёкіх пермскіх землях: рэкі Химшер, Тиминка, Олэм у Комі рэспубліцы, Тимшер ды Олыч у Пермскай вобласці. Комі тымны — «загарадзіць», сер — «рака» /КЭСКЯ/. Адсюль Тимшер — «загароджаная рака». А олём па-комі — «жыццё».

У Варонежскай вобласці ў Дон упадаюць Битюг, Осередь, Черная Калитва. Па-расейску «біцюгом» завецца конь-цяжкавоз. Але рака названая не ў гонар гэтага каня. Наадварот, як сведчыць У. Даль (том I), конь завецца па рацэ, бо парода біцюгоў была выведзеная якраз на ёй. Так і Калитва не мае дачынення да калитки.

Ва ўсіх трох назвах — Битюг, Осередь, Калитва — комі канчаткі: Битюг — юг («бляск, ззянне» — назва пяці рэкаў Юг у Пермскай вобласці і шэрагу ў сумежных абласцях), Осередь — адз «даліна», Калитва — ва «рака». У Пермскай вобласці ёсць рака Очер, так што Осередь мае тут «пару». А. Крывашчокава-Гантман тлумачыць Очер як Ош-сер — «мядзведжая рэчка». Осередь без -едь (адз) да гэтага ош-сер нават бліжэйшае, чым Очер. Цікава адзначыць, што параўнаўча недалёка ад Осереди ў Дон упадае Медведица. У аснове назвы Битюг можа быць удмурцкае пытьы «след» з азванчэннем першага зычнага. Сэнс такой назвы — «дарога». У комі мовах туй азначае адначасова «дарога» і «след», і ў Пермскай вобласці маецца рака Туй, гэтую назву Крывашчокава-Гантман раскрывае як «дарога».

Яшчэ ніжэй у Дон упадаюць Иловля ды Чир. У Комі рэспубліцы маецца рака Ловля, дзве ракі Чер (Эжва Чер, Изьва Чер). Чер па-комі-зырансму — «доплыў». Ловля ідзе ад комі лов «вольха».

З усходу ў Дон упадае ў Растоўскай вобласці Хопёр. У назве яго таксама пермскі зыход: ӧр, аснова ж яго падобная да марыйскага куп «балота». А вось яшчэ адзін, як Красивая Меча, бясспрэчна пермскі гідронім: у Валгаградскай вобласці ў Хопёр упадае рака Кумылга, а па-комі гумыльга — «вір» (па-расейску «водоворот»).

Усе пералічаныя назвы ўзятыя з карты даволі дробнага маштабу, дзе шмат якія рэкі пададзеныя без азначэнняў. Можа, пермскія маюцца і сярод іх.

А паўночней, у басейне Акі, дзе іранцаў аніяк быць не магло, у наяўнасці рэкі Донец, Донок (ГБО, с. 158, 40).

А дзе ж іранскія назвы ў басейне Дона? Штосьь тапанімісты іх не згадваюць. Вось і атрымліваецца, што Дон — гідронім пермскі. І пярмяне насялялі гэтую раку, атрымліваецца, ад верху амаль да самога нізу.

Адкуль жа куды яны прыйшлі: з поўначы на поўдзень або з поўдня на поўнач? Давайце прыгледзімся да пермскіх моваў: можа, яны падкажуць штосьь.

Аказваецца, у гэтых паўночных мовах вельмі прыкметны пласт запазычанняў з іранскіх. Уяўляеце? Гэта кажу не я, а прафесійныя даследчыкі пермшчыны. Так, аўтары «Краткого этимологического словаря коми языка» В. Лыткін і Я. Гуляеў лічуць іранізмамі: амысь «нарог», кан «цар», меж «баран», морт «чалавек», мӧс «карова», нямӧд «анучы», нянь «хлеб», под «нага», пода «быдла», порсь «свіння», пурт «нож», саридз «мора», сур «піва» ды іншыя шырока ўжывальныя словы. А ва ўдмурцкай мове, «згодна з падлікамі лінгвістаў, маецца болей за 100 запазычанняў з розных моваў індаіранскай групы», піша ўдмурцкі навуковец (М. Атаманов, с. 113).

Яшчэ цікавая падрабязнасць. Шмат людзей не надта дасведчаных лічыць, што комі ды ўдмурты аж да прыходу расейцаў займаліся выключна паляваннем ды рыбу лавілі. А гэта не так. Археолагамі ўстаноўлена, што «удмурцкія земляробы... гадавалі ў вялікай колькасці пшаніцу мяккую, полбу, жыта яравое, авёс і ячмень. Апрача таго, сустракаліся палеткі карлікавай пшаніцы, гароху і, самае цікавае, рэпы. У гэты час (X–XIV стст.) з культурай рэпы не былі знаёмыя шмат якія народы Сярэдняга Паволжа ды Перадуралля. /.../ Акрамя гэтага, удалося знайсці насенне сачавіцы, маку, канопляў, звычайнага проса» (Т.Б.Киреева. Земледельческие культуры бассейна Чепцы в средневековье. — У кн.: Край Удмуртский, вып. 6. Ижевск, 1984, с. 114).

Мелі з глыбокай старажытнасці земляробства і паўночныя родзічы ўдмуртаў — комі-пермякі ды комі-зыране. Аб гэтым сведчаць іх самабытныя назвы палявых ды агародных культур: жыта — рудзӧг, пшаніца — шобді, ячмень — ид, авёс — зӧр, каноплі — пыш, гарох — анькытш, рэпа — сёркни, лён — шабді (усе — па-комі зыранску). Гэтыя словы, як сцвярджае КЭСКЯ, незапазычаныя, свае.

А вось, да прыкладу, у якутаў, якія сапраўды атрымалі земляробства ад расейцаў, усе назвы сельскагаспадарчых культур —

расейскія, толькі прыстасаваныя да якуцкай мовы: ячмень — нэчимэн, бульба — хартуоска (картошка) і гэтак далей. Дык няўжо комі вынайшлі земляробства на сваіх сённяшніх, занадта суровых для такога занятку землях? «Вычагодскія зыране жывуць паміж 60° ды 63° шыраты ў палосе ячменю і часткова жыта. Па берагах Вымі і Вішары, паўночных доплываў Вычагды, дзе берагавыя пагоркі большай часткаю глядзяць на поўнач, неўраджаі вельмі частыя, два разы ў 10 гадоў. Прычыны гэтых неўраджаеў — раннія халады. Трэба дадаць, што і ва ўраджайныя гады тут хлеба не стае», — піша комі даследчык і пісьменнік Каліcтрат Жакаў (К. Жаков, с. 313). Далей аўтар апавядае, што вычагодскім зыранам куды мілейшы лес, чым поле, і што ў іх няма ні паэзіі, ні



рэлігійнага містыцызму, звязаных з земляробствам. Гэта ўсё ясна паказвае, што земляробства ўзнікла ў комі нелзе ў болей спрыяльных для яго мясцінах. І там яно стала да таго важнай часткай жыцця, што яны не маглі ад яго адмовіцца і пад 63° паўночнай шыраты, дзе суровая глеба амаль нічога не давала.

Здавалася б, зусім лагічна набягае выснова, што калісьці пярмяне жылі далёка на поўдні, дзе сваім розумам дайшлі да земляробства і дзе запазычылі іранскія словы. Аж не: пярмяне лічуцца спрадвечнымі насельнікамі тых тэрыторый, якія займаюць сёння. Тут яны, лічыцца, і да земляробства дадумаліся. А як жа іранскія словы? А так: гэта іранцы, маўляў, у прапермскія часы дасягалі пермскіх земляў (гл. М. Атаманов, с. 114).

Зразумела, што пры такой пераканананасці ў пермскім «вечнасядзенні» пярмяне ў басейне Дона — фантастыка. Але фантастыка Донам не канчаецца.

Па-комі «чысты, празрысты» — дон, а па-ўдмурцку — дун. Гэта, шаноўны чытач, табе нічога не нагадвае? Правільна. Дун — аснова назвы Дунай. Зыход яе таксама пермскі. «У шматлікіх гідронімах на ю, — піша даследчык пермскай гідраніміі Крывашчокава-Гантман, — канцавы галосны адпаў, дзякуючы чаму з Вежаю, Сусаю, Тылаю, Видзаю атрымаліся формы Вежай, Сусай, Тылай, Видзай» (ГНВП, с. 22). Так адбылося з тымі гідронімамі Пермскай вобласці, якія апынуліся ў мясцінах, дзе комі-пярмяцкая мова адступіла пад ціскам расейскай. Зразумела, што і Дунаю ў славянскіх мовах магло перайсці ў Дунай.

Дарэчы сказаць, Дунай — так пра гэтую раку з жыхароў Дунайскага басейна кажуць толькі чэхі ды славакі. А вось немцы яе называюць Донау, дзе, як бачым, канцавое ю перайшло ў у (страціўшы й). У балгараў жа для Дунаю свая назва: Дунав, у сербаў — таксама Дунав або Дунаво, у славенцаў — Донава (ЭСБЕ, 1893, том 21, с. 232). Тут мы чуем або рэдукаваны (Дунав), або поўны (Дунаво, Донава) іншы пермскі зыход — ва «рака».

Прыгледзімся яшчэ раз да ўсіх гэтых Дунай, Донау, Дунав, Дунаво, Донава. Як бачым, у іх змяшчаецца і ўдмурцкае дун і комі дон, а спалучаюцца абодва гэтыя словы як з ю, так і з ва. Пяць назваў — і аніводнай, якая б супярэчыла пермшчыне. Дадамо да іх яшчэ і шостую: па-венгерску Дунай — Дуна. І яна выглядае цалкам пермскай. Такое багацце формаў, прычым усе яны

правільныя, не з'яўляюцца вынікам скажэння, сведчаць, мабыць, аб тым, што пярмяне жылі па ўсім басейне, за выключэннем, можа, самага верху. Гаварылі яны, зразумела, на розных дыялектах, і ў кожнай групе плямёнаў Дунай зваўся крыху іначай. А вакольныя народы бралі тую назву кожны ў свайго суседа.

Ці пацвярджаюць гэта іншыя гідронімы басейна? Я думаю, так. Возьмем зыход –ва. З ім рачных назваў у басейне Дунаю вельмі шмат (падаю іх так, як яны пішуцца на расейскіх картах): у Румыніі — Молдова, Бырзава; у Венгрыі — Бодва, Задьва, Лендва; у Чэхіі і Славакіі — Морава, Миява, Римава, Ондава, Йиглава; у былой Югаславіі — яшчэ адна Морава плюс Малая Морава, Южная Морава, Западная Морава, Сава, Драва, Нишава, Пива.

Не маючы даследаванняў па тапаніміі гэтых краін, зразумела, нельга з пераканананасцю сцвярджаць, што ўсе пералічаныя назвы — чужыя мясцовым мовам. Ды пермскае паходжанне многіх з іх проста кідаецца ў вочы: Морава, напрыклад — ад удмурцкага мур «глыбокі» (і ў Югаславіі ёсць рака Мура, верхні адрэзак якой у Аўстрыі носіць назву Мур), якому ў комі мовах павінна было б адпавядаць мор «глыбокі», але не захавалася. Нишава — ад комі нитш «мох», Пива — ад агульнапермскага пи «дзіця» (у Комі рэспубліцы маецца рака Пию, дзе да пи далучаны іншы гідранімічны тэрмін ю), Сава ад комі са «сажа», Лендва — ад комі-зыранскага лӧньыд «слабы», Бодва — ад комі-зыранскага ботьва «дажджавая вада», Задьва — аднакарэннае з удмурцкім ӟазег, комі дзодзӧг «гусь», Миява — ад удмурцкага мый «бабёр», «выдра», Ондава — ад комі-зыранскага ӧнтыны «імчацца», Молдова — ад комі мольыд «гладкі», «які ільсніцца», Бырзава — ад комі бырс «нечакана» (увайсці).

Ды яшчэ ў Чэхіі, у непасрэднай блізкасці да Дунайскага басейна, цякуць Влтава, Отава, Углава, Сазава — рэкі басейна Лабы /Эльбы/. Палова з іх адшыфроўваецца з дапамогай пермшчыны: Отава — ад комі ота «шырокі», Сазава — ад комі сӧдз «празрысты», «чысты».

Зыход ю ў гідронімах Дунайскага басейна таксама сустракаецца, у першую чаргу ў Румыніі, дзе ён захаваўся дзякуючы таму, што частка румынскіх прыметнікаў мае канчатак у/ю: гэта доплывы Дунаю Жиу ды Сию. Словаў жию, сию ў румынскай мове няма. А ў комі мовах ёсць шы «гук, голас», си «волас» («волас-

рака» — назва вобразная: маленькая, віецца/, і ў Пермскай вобласці цячэ рэчка Сия — былая Сию. У Чэхіі ў Мораву ўпадае Дие. Тут мы маем былое Ді-ю — комі «рака з астраўкамі» /ді — «астравок»).

У Югаславіі ў Малую Мораву ўпадае Ибар. У зыходзе гэтага гідроніма можна ўбачыць öр «рэчышча», як у Хопёр. Коранем же Ибара можа быць ыб — комі «ўзвышша; поле». Ва ўсходняй Славакіі ёсць рака Уг. Гэта можа быць тое сама, што Юг Прыўралля. Памежная між Венгрыяй ды Славакіяй рака Ипель — гэта, падобна, ад комі ыб + ёль «рэчка».

Ва, ю, öр, юг, ёль — гэта пермскія гідранімічныя тэрміны, якія могуць стаяць напрыканцы рачной назвы, а могуць і не стаяць, бо пермскія назвы могуць уяўляць з сябе і нейкае асобнае слова, як мы паказвалі вышэй. Такіх гідронімаў у Дунайскім басейне таксама нямала. На тэрыторыі Венгрыі ў Муру ўпадае Керка. Гэтая назва супадае з комі керка «хата». Праз Венгрыю цячэ і ўпадае ў Дунай у Сербіі Тиса. Тиса супадае з удмурцкім тысь — «збожжа, жыта». У той жа Венгрыі ў Дунай упадае Раба (пачынаецца ў Аўстрыі, дзе носіць імя Раб). Па-комі раб — «барда».

У Сербіі Тиса прымае доплыў Чик. Для гэтага гідроніма ў комі мове можна падабраць некалькі апелятываў: тшык «галодны», чикчи «чайка», чикыль «пасма валасоў» (корань чик тут азначае «штосьці такое, што віецца»). У Драву ўпадае Бедня — па-комі бедь «палка, кій», а па-ўдмурцку бöдöнö «перапёлка». У басейне Савы маюцца рэкі Тара, Сана, Уна. Гэта таксама пермскія словы: па-комі тар «цецярук», сан — «расамаха», уна — «шмат» (прыгадаем пскоўскую раку Многу), ун «сон». Дарэчы, у Комі рэспубліцы маюцца рэкі Тарью ды Унья. У Сербіі Дунай прымае Пек. Па-комі пöк — «ікра». Назвы рэкаў у Румыніі Нера, Сирет, Жижия можна супаставіць з комі словамі ньöр «лаза», сьöрт «вільготная мясціна ў даліне ракі, парослая кустоўем», джыдж «берагавая ластаўка, стрыж».

Вышэй ужо казалася, што у басейне Дона маецца Тим, а ў Комі рэспубліцы — Тименка. І ў басейне Дунаю: у Сербіі — Тимок, у Румыніі — Тимиш.

Такім чынам, не меней за тры дзесяткі дунайскіх гідронімаў можна «абвінаваціць» у тым, што яны — пермскія. Такая колькасць выпадковасць выключае. Таму ў яшчэ большай перакана-

насці, што ён пермскі, вернемся да гідроніма <u>Дунай</u>: ці не праўда, ёсць усё ж такі сумненні, што гэтая рака — «чыстая, празрыстая». Ці ж не цячэ яна ў Румыніі праз балоты?

Гэта так. Але ў рымскія часы Дунай называўся Дунаем (Данувіус) толькі ў верхнім ды сярэднім цячэнні, а ў ніжнім — Істэр або <u>Істрос</u> (ЭСБЕ, том 21, с. 232). А на верхнім адрэзку Дунай — сапраўдная горная рака, і чыстая, і празрыстая.

Дарэчы сказаць, няпермскімі сродкамі <u>Дунай</u> не адшыфроўваецца. Яго спрабуюць кваліфікаваць як назву «кельцкалацінскую» (ТТ, с. 224), не прыводзячы, аднак, ні кельцкага, ні лацінскага апелятыву. Не паддаецца адшыфроўшчыкам і старажытная назва <u>Істэр</u> /Істр/. А тым часам і яна — пермская. Тут у зыходзе яўна <u>ӧр</u> — «рэчышча». У аснове ж, падобна, старажытнае, сёння ўжо страчанае <u>іст</u> «бог». Я бяру гэта не са столі, бо і цяпер зварот да бога ва ўдмуртаў — «осто!». А па-венгерску «бог» — <u>іштэн</u>. А венгерская мова нясе на сабе адзнакі цесных кантактаў з пермскімі, аб чым можна прачытаць у зборнай працы «Языки народов СССР» (том 3, с. 10).

Адшыфроўка тапонімаў — магутны навуковы сродак, з дапамогай якога адшукваюцца сляды шматлікіх народаў. Але міжмоўная аманімія (<u>дон</u> па-комі, <u>дон</u> па-асецінску) вельмі часта прыводзіць да зацятых і бясконцых спрэчак паміж тапанімістамі. На кожны больш-менш прыкметны гідронім высоўваецца безліч версій, і кожная нібыта мае права на існаванне, хаця вядома ж, што правільнай можа быць толькі адна. Значыць, для таго, каб версія стала бясспрэчнай, яе пажадана падмацаваць чымсьці яшчэ.

Чым жа можа быць падмацаванай пермская версія дунайскай гідраніміі? Гістарычных сведчанняў, што пярмяне засялялі Дунай, няма. Археалагічных дадзеных, этнаграфічных не маю. Можа, яны і ёсць. Але ж увесь Дунайскі басейн — за мяжой. Літаратура дунайскіх краін выдаецца на мясцовых мовах, якіх я не ведаю. Дый дзе іх возьмеш — румынскія, венгерскія, сербскія, нямецкія кнігі па археалогіі ды этнаграфіі? Прынамсі, у Якуцку іх няма...

Ды ёсць, на шчасце, такая карысная рэч, як слоўнікі.

Толькі няхай чытач не падумае, што так яно і было: вывучыў аўтар гідранімію Дуная, і бліснула думка пра слоўнікі. Не. У жыцці было складаней і заблытаней. Пачаць з таго, што пер-

шая пермска-лацінская паралель апынулася ў маіх руках яшчэ да таго, як я звярнуў увагу на Дунай (Дон жа быў ужо «асвойтаны»).

А здарылася гэта так. Па просьбе комі краязнаўцы Н.А. Міцюшавай я напісаў артыкульчык пра свае пошукі для адной з сыктыўкарскіх газет. Артыкул быў надрукаваны і выклікаў у мясцовых чытачоў цікавасць, аб чым магу меркаваць па тых лістах, якія атрымаў. Трапіў ён і да даследчыка комі тапаніміі А.І. Туркіна, які жыве ў Таліне. Тым часам жыхар Вільні Вацлавас Валанцеюс, перакладчык з англійскай мовы, паслаў у Талін, да фіна-вугразнаўцаў, сваю працу пра летувіска-фіна-вугорскія сувязі, на якія натрапіў. У Летуве яна сустрэла глухую варожасць, бо летувіскае лічыцца чымсьці крышталёва-чыстым у пробах на фіна-вугорскасць, на гэтым уся літуаністыка пабудаваная. А тут — сунецца нейкі непрафесіянал з моўнымі фактамі, якія так проста не вытлумачыш. Ну дык лепш адмахнуцца і зусім не разглядаць.

Чалавек думаў, што робіць карысную справу для свайго народа, прасвятляючы ягоную гісторыю, а да яго — ледзь не як да агрэсара. Мабыць, В. Валанцеюс чалавек мужны, бо не стаў адступацца і паслаў сваю працу на суд чужапляменнікаў. На жаль, і на іх спадзяваўся ён дарма: А. Туркін, спаслаўшыся на няведанне летувіскай мовы, артыкул ягоны аналізаваць не стаў, а замест гэтага... даслаў Валанцеюсу мой, з сыктыўкарскай газеты. Я ж, каб ведаць думку чытачоў, спецыяльна даў у ёй свой адрас. І вось Валанцеюс напісаў мне. Так замкнулася гіганцкае кола Якуцк — Сыктывкар — Талін — Вільня — Якуцк, і скажыце пасля гэтага, што на зямлі звяліся цуды!

Так пачалося наша ліставанне. І ў адным з лістоў Валанцеюс паведаміў мне такі заўважаны ім факт: па-комі «муж» <u>верöс</u>, па-летувіску <u>viras</u>, а ў лаціне — <u>virus</u>. Гэта мяне, шчыра скажу, збянтэжыла. Я да таго часу ўжо меў каля дзесятка супадзенняў летувіскіх словаў з комі ды ўдмурцкімі і вытлумачваў іх так: паколькі з гістарычных крыніц не вынікае, што комі ды ўдмурты калі-небудзь у мінулым жылі паблізу Прыбалтыкі, то летувіска-пермскія паралелі — вынік цесных кантактаў летувісаў з іншым пермскім племем: зразумела, літвой. І згодна з гэтай схемай, літаральна ўсе летувіскія словы, што супадаюць з комі ды ўдмурцкімі, павінны быць пермскімі запазычаннямі ў летувіскай мове, мець пермскае паходжанне. А тут — летувіскае слова адна-

часова супадае з комі і лацінскім. І яно, такім чынам, або агульнаеўрапейскае, або запазычанае летувісамі з лаціны — скажам, з рэлігійнай літаратуры, бо летувісы — каталікі. А комі тады адкуль яго ўзялі? Рэлігійнай лацінскай літаратурай яны ніколі не карысталіся, у летувісаў узяць не маглі, бо ніколі з імі не кантактавалі... Спісаць на выпадковасць? Тым болей, што КЭСКЯ лічыць верöс спрадвечна пермскім... Але ці могуць быць выпадковымі такія поўныя супадзенні формы і сэнсу словаў з пяці гукаў?

Праз нейкі час і мне на вочы трапілася сенсацыйная «выпадковасць». Гартаючы «Этимологический словарь русского языка», складзены славутым немцам М. Фасмерам (у далейшым — «М. Фасмер»), я напароўся на такое: аказваецца, па-албанску palë (чытаецца палэ) — «бок» («сторона»). А я ўжо ведаў, што паўдмурцку «бок» («сторона») — пал. Ніштo сабе перазоў! Удмурція — і Албанія. Міма такога прайсці ўжо было немагчыма. На жаль, у Якуцкай бібліятэцы знайшоўся толькі зусім невялічкі албанска-расейскі слоўнік, а расейска-албанскага зусім няма. Але, сапраўды, па-албанску «бок» — palë.

Зацікаўлена гартаю слоўнік. Натыкаюся на xhep (джэп) — «кішэня». Па-комі «кішэня» — зеп, па-ўдмурцку — жеп (дзеп). Але, прыгадваю, у адной працы па якуцкай мове сказана, што «кішэня» і па-якуцку сиэп, і па-венгерску zseb (жэб), а яшчэ зеп сустракаецца ў расейскіх гаворках (В. Даль). Дзіўная папулярнасць у такога простага гукаспалучэння! Яго албанцы, мусібыць, узялі не з пермскіх гаворак, а з венгерскіх, бо венгерскае жэб да джэп бліжэйшае, чым зеп, жеп. А можа, гэтая дзівоса масцца і ў турэцкай мове? Якуцкая ж мова — цюркская, і турэцкая — таксама. А туркі доўгі час былі цеснымі суседзямі албанцаў, албанцы адбіваліся ад іх, як маглі... Бяру турэцкі слоўнік. І — сапраўды: па-турэцку «кішэня» — джэб.

Комі-зыране ды комі-пермякі цюркскага ўплыву практычна не зазналі. А вось удмурты жылі і жывуць у суседстве з цюркамі: татарамі, башкірамі. У іх шмат цюркскіх словаў, цюркскіх імёнаў (М. Атаманов, с. 116–120). Цюркскія ж мовы між сабою вельмі блізкія. І калі ўдмурцкае пал — цюркскага паходжання, то яно магло трапіць у албанскую мову праз турэцкую... Але ў турэцкім слоўніку пал са значэннем «бок» няма!

Аднак зусім паблізу ад албанцаў жывуць венгры, а венгры па мове — далёкая радня пярмянам. Можа, пал маецца ў венгерскай? Шукаю, баючыся расчаравання... Няма!

Выходзіць, албанскае палэ ды ўдмурцкае пал — «пара» без трэцяга лішняга. Што ж гэта дзеецца, людзі добрыя?

Слоўнік, як я сказаў ужо, сціпленькі (13 тысяч словаў), але знаходжу сёе-тое і яшчэ. Так, па-албанску va — «брод», а па-комі ва — «рака». Сувязь відавочная. Вось яшчэ: па-албанску bisht (бішт) — «хвост», па-ўдмурцку «хвост» — быж (у комі мовах бöж). Па-албанску bojë (бое) — «колер», па-ўдмурцку «колер» — буй. Праўда, Валанцеюс паведаміў, што ў сербахарвацкай мове «колер» — боя. Яўна неславянскае, як яно трапіла ў сербахарваччыну (па-венгерску колер — szin, сін) — з албанскай мовы або з дунайскай пермшчыны?

Далей. Па-албанску zarëj (чапэй) «ісці», па-ўдмурцку чапа «вытаптанае месца» (па-нашаму чапаць — «марудна ісці», па-латышску čapot (чапот) — тое сама). Па-албанску zast (част) «імгненне», па-ўдмурцку часта «ненадоўга». Па-албанску zun (чун) «хлопчык, сын», па-ўдмурцку чуньы «жарабя». Па-албанску denjë (дэне) «годны, шаноўны» — па-ўдмурцку дан «гонар, слава, аўтарытэт», дэно «рэлігійны, вернік».

Вось пасля гэтых знаходак і з'явілася думка «прайсціся» па дунайскіх гідронімах. А калі яны былі разгледжаныя — зазірнуць у слоўнікі іншых моваў, блізкіх да басейна. І зразумела, у першую чаргу — у лаціну, дзе Валанцеюс заўважыў virus, што паўтараецца ў комі верöс. Немалаважнае было і тое, што дзякуючы нашаму вядомаму крытыку Яўгену Лецку вялікі лацінска-расейскі слоўнік я меў дома, дзе можна працаваць з ім хоць удзень, хоць уночы.

Вынік, скажу шчыра, мяне аблавушыў. Я ж спадзяваўся знайсці лацінска-пермскіх паралеляў хоць з дзесятак, каб засведчыць пермскасць гідронімаў. Аказалася ж... Колькі аказалася — чытач зараз пабачыць сам, а папярэдне скажу вось што. Я не думаю, што пермска-лацінскія паралелі мною выбраныя ўсе. Чаму? Ды таму, што не маю капітальнага комі-зыранскага слоўніка, у мяне на руках толькі КЭСКЯ (каля 4 тысяч словаў). А якраз у гэтай пермскай мове і агледжваецца найбольш супадзенняў з лацінай — больш, чым у комі-пярмяцкай ды ўдмурцкай!

Калі сяму-таму са знаёмых у Якуцку я хваліўся, што вось, знайшоў лацінскія словы у пермскіх мовах, у адказ заўсёды чулася: «Што ж такога? Лацінскія словы ёсць ва ўсіх мовах». Але гаворка зусім не пра «рэвалюцыю» ды «канстытуцыю». Нам ужо неяк няўцям, што не заўсёды лаціна была мовай навукоўцаў ды палітыкаў, што быў час, калі на ёй гаварыла гіганцкая дзяржава — старажытны Рым, як мы на сваёй: пра надвор'е, цэны на рынку, нядбайнасць урада або каханне. Гутарковая лаціна, штодзённая, у навуковы ўжытак не перайшла, міжнароднай тэрміналогіяй стала толькі ў самай малой частцы. А менавіта з такой і стыкуецца пермшчына.

«Краткий этимологический словарь коми языка» пра якія-небудзь лацінізмы ў пермскіх мовах маўчыць. Анічога пра іх не паведамляецца і ў зборнай працы «Языки народов СССР» (том 3, Пермские языки. Коми-зырянский язык. Коми-пермяцкий язык, Удмуртский язык).

Першым у нас пойдзе слова лацінскае, другім, пасля працяжніка — пермскае з абазначэннямі к. (комі агульнае, комі-пярмяцкае, комі-зыранскае) ды у. (удмурцкае). Варта яшчэ памятаць, што ў лаціне літара c перад e, i чытаецца як «ц», а ў рэштцы выпадкаў — як «к». Пачнём:

antea «раней» — к. öнтай «нядаўна»;

artis «рамяство, навука, мастацтва» — к. артавны «лічыць, разлічваць; кеміць»;

bulla «валзяны пухір» — к. боль «пухір»;

bucca «шчака» /пукатая/ — к. бука «пукаты». Тут і наша пукаты;

bustum «месца пажару, пагарэлішча» — к. бус «пыл»;

baburrus «дурань, ёлуп» — к. бöб «дурны, прыдуркаваты»;

balo «бляяць», balantes «авечкі» — к. баля «ягня, авечка»;

calculis «каменьчык» — к. каля, у. кольы «галька»;

cena «страва» — к. кень «пенка»;

cervus «алень» — к. кöр «алень»;

ceveo «варушыць клубамі» — к. кевны «брысці»;

cicur «ручны» — к. кикар «рука»;

cinis «попел» — к. кинь «попел»;

coleus «яечка» (у машонцы) — к. кольк «яйка»;

comma «частка перыяду» — к. ком «момант»;

condo «будаваць» — к. конда «сасна» /будаўнічая/;

corpus «цела, касцяк» — к. корпа «касцяк, шкілет»;

cortina «кацёл, трыножнік» — к. кöрт «жалеза»;

culto «уробленыя палі» — у. культо, к. кольта «сноп»;
cumera «кош для збожжа» — к. кум «клець»;
curia «месца грамадскіх сходаў» — к. куравны «збіраць»;
curvo «рабіцца крывым» — к. курья «рачная затока»;
cutis «скура» — к. кучик «скура»; coxa «клуб, сцягно» — к. кок «нага»;
domo «утаймоўваць, надзяваць аброць» — к. дом «аброць, прывязь»;
donum «дар, плата» — к. дона «каштоўны»;
dulce «салодкі» — к. дуль «сліна»;
fanum «свяцілішча, храм» — к. пан «жрэц»;
farris «хлеб; пірог з полбы» — к. парас «камяк»;
fas «натуральнае права; няпісаны закон; лес» — к. пас «свядомасць; мэта; знак, метка, кляймо»;
fero «насіць» — к. перна «насільны крыж»;
fetus «нараджэнне на свет; ураджай» — к. петас «усходы»;
fistula «труба» — к. письтыны «прабіць адтуліну; пацячы»;
folico «раздувацца, як мех» — к. пöльтны — «дуць, раздуваць»;
folis «скураны пухір» — к. поль «пухір»;
for «гаварыць» — к. пöръявны «зманіць»;
foro «свідраваць» — к. порот «расколіна»;
funis «вяроўка, канат» — к. пун «жыла»;
furo «шалець» — к. пурны «пакусаць» (пра сабаку), к. пурга «завіруха»;
gaudeo «радавацца» — к. гаж «весялосць»;
gobis «пячкур» — к. гов «галавень» /рыба/;
hostis «ваенны працаўнік» — к. кось «бой»;
ictus «удар» — у. йыг гукападрабленне ўдару;
ira «гнеў, злосць» — к. йирны «грызці, кусаць, скрыгатаць»;
labea «губа» — к. льöб «губа»;
labes «правал» (яма) — к. лаб «нізіна»;
lappa «лопух» — к. лапкор «трыпутнік»;
latex «вільгаць, вадкасць» — к. ватлавны «пакрыцца вільгаццю»;
levis «гладкі, роўны» — к. вев «паверхня»;
lenio «супакойваць» — к. лöнь «ціхі, спакойны»;
licinio «пакрываць празрыстай тканінай» — к. личыд «прасторны» /пра вопратку/;
malum «дрэўны плод» — к. малег «ягады шыпшыны»;
mastico «жаваць» — к. масьтыны «дробна секчы»;
mellis «мёд» — у. мöль «нектар»;
mundus «убор» — к. мунтыны «падбіраць кавалкі тканіны пры краенні»;

mundus «чысты, ахайны» — у. мунчо «лазня»;
naris «ноздрына», часцей «нос» — к., у. ныр «нос»;
nemo «ніхто» — к. нем, у. нема «нішто»;
nodus «вузел» — к. нӧд «загадка»;
nomen «імя» — к. ним «імя»;
obesus «тлусты, тоўсты» — к. абача «тоўсты, як бочка»;
obex «завала» (на дзвярах), obeo «уваходзіць» — к. ӧбӧс «дзверы»;
objurgo «караць, біць» — к. ӧбыртны «ударыць»;
occa «барана» — к. агас «барана»;
ocus «іголка, шпілька» — к. октун, октым «рыбалоўны кручок»;
odi «ненавідзець» — у. ӧды «сіла, моц»;
onero «нагружаць» — к. ӧныр «сядло»;
ora «бераг, узбярэжжа» — к., у. ӧр «рэчышча»;
ordi «ткаць» — к. ордӧс «падкладка кашулі» /на плячах/;
ordo «рад, чарада» — к. арт «рад»;
orsa «пачатак» — у. ӧрсӧн «размнажэнне, распаўсюджванне»;
ortus «узыход» — к. ортсӧ «вонкі»;
os «рот; уваход, выйсце» — у. ӧс «дзверы»;
pabulum «ежа, корм» — к. паб «націнне»;
pagino «злучаць, змацоўваць» — к. паг «прышыўка» /цяслярскае/;
pango «уціскаць» — у. паньгатыны «уціснуць»;
panus «прадзіва» — к. панны «снаваць», панан «прадзіва» ;
pateo «быць адкрытым» — к. пась «адкрыты»;
pator «адтуліна» — к. пась «дзюрка»;
paveo «баяцца» — к. повны «баяцца»;
peripsema «смецце, бруд» — у. пера «бруд, нанос»;
pernix «спрытны, хуткі» — к. перыд «хуткі, спрытны»;
pestis «зараза, чума» — у. пӧськы «воспа»;
pinus «сасна, піхта» — к. понӧль «хвойны падрост», пинӧв «косаслойны» /пра дрэва/;
pondus «вага, важкае цела» — к. понӧд «гнёт»;
rabo «шалець» — к. рабыштны «ударыць»;
ratis «плыт» — к. радз «плецены з пруцця мат»;
ridica «патарачка» — к. ридз «сцябліна»;
ripa «бераг ракі» — к. рып «берагавая ластаўка»;
robus «драўніна дуба» — к. робес «палена»;
sanus «здаровы; разважлівы» — к. шань «добры, прыветны», шаньмыны «папраўіцца»;
sata «насаджэнні» — к. шать «прут», шаття «чарот»;
salar «стронга»;
salmo «ласось» — у. шалькко «мянтуз»;

segnis «марудлівы, марудны» — у. _ег «марудлівы, марудны»;

sero «сплятаць, злучаць» — к. сер «узор»;

sermo «гутарка» — к. сёрни «гутарка»;

sera «планка», «засаўка» — к. сёр два паралельныя брусы ў хаце, што ідуць ад палатак да супрацьлеглай сцяны (расейскае «грядка»);

sero «сеяць» — к. сёрём «сцірга»;

serilia «вяроўка з трыснягу» — к. сермёд «аброць»;

serpo «поўзаць», serpens «змяя» — к. сэрп «паганы, нячысты, брудны»;

serus «позні» — к. сёр «позні»;

servo «быць уважлівым; берагчы, захоўваць» — у. сёрег «старанны»;

sevo «абліваць салам» — к. сыв «сала, тлушч»;

sic «так» — у. дык «так, ужо ж», к. дзик «дакладна», «кропля ў кроплю»;

sica «кінжал» — к., у. шы «рагаціна»;

sibina «паляўнічае кап'ё» — у. шибоды «кап'ё, дзіда», к. зиб «шост»;

silva «лес» — у. шилё «нізкі лес, кустоўе»;

siliqua «стручок» — у. шильы «пяро цыбулі»;

sinuo «гнуць, згінаць» — к. синны «гнуць, сагнуць»;

siraem «густы вінаградны сок» — к. сыр «гронка»;

situs «цвіль, гной» — к. сіт «гной»;

siras «падземны свіран, падвал для збожжа» — к. жыр «пакой»;

sordes «гразь» — к. сьёрт «вільготная мясціна ў даліне ракі, парослая кустоўем»;

surus «шост, кол» — к. зор «дубіна, кол»;

sapo «мыла» — к. шап «белая мыльная пена»;

teres «круглы, гладкі» — к. тэр «лыч»;

tinnio «звінець» — к. тіньгыны «звінець»;

tiro «малады салдат, навабранец, неабучаны, нявопытны» — к. тіравны «дрыжаць»;

tono «грымець» — у. тонгес «глухі» (пра гук);

tudio «бесперапынна штурхаць» — к. тудла «шост для валкі дрэваў»;

tufa «султан на шлеме» — к. тупйёд «затычка»;

turbo «смерч, кругавы рух» — к. турбыльён «кулём» (у сэнсе «куляючыся»), турёб «завіруха», тюрны «каціцца» (пра кола);

turda «дрозд» — к. тури «жораў», у. тур «цецярук»;

turgeo «быць напоўненым, набітым» — к. турас «аб'ём»;

turma «натоўп» — у. урма «натоўп»;

tutela «клопат, апека» — к. тутас «гадаванец»;

uber «урадлівы» — у. убо «града»;

uligo «мокры, вільготны» — к. уль «вільготны»;

ulna «ніжняя частка рукі» — к., у. ул «ніз»;

ululo «лямантаваць, рыдаць» — к. ӧлюртны «ныць, хныкаць»;

umeo «быць вільготным» — к. юм «першы зліў піўнога сусла; сырое соладавае цеста»;

unco «раўці» (пра мядзведзя) — к. унявны «выць»;

urina «мача» — к. ур «гной»;

uveo «быць мокрым, вільготным» — к. уль «вільготны»;

vad «мель; дно» — к. вад «лясное забалочанае возера»;

varo «дурань, разявака» — к. варгес «непаслухмяны, лянівы»;

velo «накрываць» — у. вӧлыны «пасланць» /пасцель/;

venor «паляваць» — у. вень «страла»;

verbum «слова, выраз» — у. вераны «гаварыць, размаўляць», к. варов «гаваркі»;

vis «сіла, моц» — к. ви «сіла»;

vomo «вывяргаць у выглядзе ванітаў; уліваццa» (пра доплыў) — к. вом «рот; вусце»;

votum «ахвяра; прынашэнне» — к. вот «падатак».

Зразумела, калі б на маім месцы быў знаўца пермскіх моваў, ён адшукаў бы супадзенняў яшчэ болей. І ў сувязі з гэтым узнікае пытанне: няўжо да 1917 года аніводзін комі або ўдмурт не вучыўся ў класічнай гімназіі, дзе вывучалася лаціна? Хто яго ведае, можа, і так. Прынамсі, К. Жакаў, якога я вышэй цытаваў, ішоў да вышэйшай адукацыі праз іншыя навучальныя ўстановы — павятовае вучылішча, настаўніцкую семінарыю.

Не вучыўся лаціне і дапытлівы комі краязнаўца Андрэй Цэмбер (1874–1957). І гэтага асабліва шкада, бо інакш адкрыццё лацінска-пермскіх паралеляў было б зроблена на 70 гадоў раней. «Назвы рэкаў у Заходняй Еўропе, — пісаў Цэмбер у газеце «Югыд Туй» («Светлы шлях») ад 4 сакавіка 1923 года (карыстаючыся выпадкам, складаю ўдзячнасць Н.А. Мацюшавай за пераклад гэтага артыкула), — у перадачы Юліем Цэзарам ды Тацытам, маюцца, напрыклад, наступныя: Олава, Острава, Проскава, Скава, Ильменава, Рава, Рудава, Иглава, Плава, Велтава, Сава, Нишва ды г.д. Апошнія тры ракі — чыста зыранскія словы: Велтава (велт — дах, ва — рака) — «Дах-рака»: рака цячэ ў гарах Малдавіі вышэй узроўню дахаў» (з дапамогаю велт, па-мойму, можа быць адшыфраванай і Влтава. — *Аўт.*); Сава — «са — сажа», «ва — рака». «Сажа-вада» (значыць, чорная ад чарназёмнай

глебы, па якой яна цячэ); Нишва, на якой стаіць горад Ниш у Сербіі, ад слова нищ — «мох». «Махавая рака».

Краязнаўца звяртаў увагу вучоных, што назвы рэкаў канчаюцца на «ва» толькі ў зыранскай мове і болей у аніякай іншай. І калі б ён мог чытаць Цэзара ды Тацыта ў арыгінале, гэта значыць, ведаў лаціну, то, скіраваны ў гэты бок, не мог бы не заўважыць заўважанага мной: cicur — кикар, cinis — кинь, comma — ком, labea — льӧб, sapo — шап, serus — сёр ды іншых уражальных супадзенняў. І зрабіў бы правільныя высновы. А так — выказаў дапушчэнне, што «ў Заходняй Еўропе» ў рымскія часы жылі не японыя продкі, а нейкія іншыя фіны, якія і далі тыя назвы. Зыранская мова, маўляў, самая старажытная з фінскіх, таму яна да мовы тых старажытных заходнееўрапейскіх фінаў найбліжэйшая. Гэта значыць, Цэмбер меркаваў, што дзве тысячы гадоў назад усе фіны гаварылі па-комі-зырански. Дапушчэнне гэтае з пункту гледжання лінгвістыкі абсалютна нерэальнае.

Ну, а ВКП(б) лаціну са школьных праграмаў як мёртвую выкінула. І напладзіла філолагаў, якія яе не ведаюць. І вось вынік: колькі, мабыць, абаронена дысертацый па пермскіх мовах — а такой іх важнай рысы ніхто не заўважыў. А калі заўважыў — чаму змоўчаў?

Я разумею, што этымолагі прымуць не ўсе з выпісаных мною супадзенняў. Я нават здагадваюся, якія не прымуць. Але я іх усё ж далучаю — хай застаюцца для навукі. Хто ведае, можа, і спатрэбяцца.

У той жа час этымолагам прыйдзецца шмат што ў сваёй гаспадарцы перагледзець. Не падазраючы пра сапраўднае паходжанне слова, на якія выбрыкі яны іншы раз адважваюцца! (Гэта тычыцца этымолагаў не толькі пермскіх, але і беларускіх.) Вось, напрыклад, комі абача — «тоўсты, як бочка». Аўтары КЭСКЯ даюць яму такое тлумачэнне: «параўнай расейскае аббатиса — ігумення каталіцкага кляштара». Ды ад каго комі сяляне маглі пачуць такое слова? Хто ім убіў у галовы, што ігуменне каталіцкага кляштара — «тоўстая, як бочка»?

Вось яшчэ: «Агас «барана». Прыбалтыйска-фінскае слова, у сваю чаргу балцкага паходжання». Значыць, спачатку прыбалтыйскія фіны (эстонцы) запазычылі агас у балтаў (летувісаў, латышоў), а комі ўжо ад эстонцаў... Ці не занадта складана?

Перапісваючы з КЭСКЯ такія этымалогіі, панаставіў я ў сваім сшытку пытальнікаў. І — меў рацыю: аказваецца, і абача, і агас — лацінізмы. І ні пры чым «аббатиса», і спрашчаецца шлях «бараны»...

Як чалавек, што пералічаныя паралелі адшукаў і шмат над імі варажыў, хацеў бы даць этымолагам параду: не спяшайцеся ўсе іх абвяшчаць запазычаннямі ў пермскія мовы. Ёсць сярод іх і наадваротныя, гэта значыць, запазычанні з пермскіх у лаціну.




*Олта (Olt) —паўночны прыток Дуная, уздоўж якога калісьці жылі продкі сучасных жамойтаў, беларусаў і комі-пярмянаў*

Для каго-небудзь гэта можа здацца кашчунным: як! Вялікія рымляне штосьці узялі ад пушчавых паляўнічых, ды яшчэ з галіны духоўнага, да якой, безумоўна, адносіцца мова! Але ўзаемадзеянні моўныя і ўсе астатнія адбываюцца не па адных заканамернасцях. Любая выключна развітая і высоканармаваная мова можа ўбіраць у сябе, асабліва на бытавым узроўні, любую чужую лексіку, абы да таго была прычына.

Слова мунду ў якуцкай мове азначае дробную рыбку, якая па-расейску называецца гольян — з-за таго, што луска ў гальяна вельмі дробная, і складваецца ўражанне, што яе зусім няма («голы»). Як бачым, расейскі тэрмін для гальяна ёсць, але толькі ў Якуціі, дзе гальян водзіцца ў азёрах у велізарнай колькасці, гэтая рыба мае прамысловае значэнне. І вось мунду ў форме мундушка пераходзіць спачатку ў расейскія гаворкі Якуціі, а потым і ў расейскую літаратурную мову, навуковую літаратуру. І ўжо выданне «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» «Рыбы» (1989 г.) на с. 79 дае такую назву да артыкула пра гэтую рыбку: «Гольян озерный (мундушка)». Такім чынам, у якуцкага слова з'явіўся

шанц трапіць і ў нашу мову, хаця ў ёй для гальяна маецца сваё: аўдотка, сняток, лінёк.

Для таго каб зразумець, якім чынам маглі трапіць у лаціну пермскія словы, трэба ўявіць сабе ўзаемадачыненні паміж рымлянамі і суседзямі Рыму. Рым быў рабаўладальніцкай дзяржавай. Людзей, што траплялі ў палон у ваенных сутычках, звычайна не забівалі, а прадавалі ў рабства. Легіёны выпраўляліся па рабоў да «нецывілізаваных» суседзяў і спецыяльна. Вядома, што рабоў у рабаўладальніцкіх дзяржавах было вельмі шмат, — іх колькасць перабольшвала колькасць грамадзянаў у дзесяткі разоў. Так, паводле перапісу 309 года да н.э. у Афінах было 400 тысяч рабоў на 21 тысячу грамадзянаў (БСЭ, выд. 3-е, том 21, с. 300). Заваяванне Галіі Юліем Цэзарам мела сваім вынікам продаж у рабства каля мільёна рабоў! Згодна з паведамленнем Плінія Старэйшага, вольнаадпушчанік (г. зн. сам былы раб/ Цэцылій) у часы праўлення Аўгуста меў 4416 рабоў (гл. тамсама).

Рабы не толькі аралі зямлю, даглядалі быдла ды штосьь будавалі. Іх скарыстоўвалі ў хатняй гаспадарцы, як выхавальнікаў моладзі, даручалі самыя розныя справы. Рабыні часта былі наложніцамі гаспадароў. Ясная рэч, пры гэтым рабаўладальнікі і рабы не маглі не сумаўляцца неяк. Раб, які толькі што трапіў у палон, валодаў роднай мовай лепш, чым лацінскай, і карыстаўся роднымі словамі, якія міжволі ўваходзілі ў свядомасць гаспадароў. У літаратуры адзначаюцца выпадкі ўплыву на лаціну зафіксаваных на пісьме моваў: грэцкай, персідскай, старажытнаяўрэйскай. Няма сумлеву, што і беспісьмовыя мовы акаляючых плямёнаў праз захопленых Рымам рабоў насычалі сваёй лексікай лаціну.

Уплыў лаціны на акаляючыя беспісьмовыя мовы таксама ішоў, несумненна, не праз культурныя ды гандлёвыя сувязі, а з дапамогай рабоў. Кожны раб, што нарадзіўся не ў рабстве, да самой смерці не мог забыцца, што калісь быў вольным чалавекам і жыў, як хацеў сам, а не так, як загадвае гаспадар. Марыў аб сваіх родных мясцінах, ад якіх яго адарвалі, прагнуў сустрэцца зноў з блізкімі. Думаецца, што ўцёкі рабоў былі ў Рымскай дзяржаве звычайнай з'явай. Былі і ўцёкі масавыя (БСЭ, выд. 3-е, том 21, с. 300). Вяртаючыся да роднага племя, былы раб прыносіў дадому не толькі звесткі пра рымскія прыёмы гаспадарання, але і разнастайную лацінскую лексіку, якую паспеў засвоіць.

Уцёклы раб не абавязкова трапляў у сваё былое племя. Каб раба радзей цягнула на ўцёкі, пакупцы спецыяльна выбіралі палонных з як мага больш аддаленых краін. Персіянін або індыец, што ўцёк, дапусцім, у прыдунайскія вольныя пушчы, ужо не мог вярнуцца на радзіму і прыбіваўся да нейкага мясцовага племя. Тыя ж, трэба думаць, ахвотна прымалі ўцекачоў, бо з-за рабаўніцкіх рымскіх паходаў заўсёды мелі нястачу ў людзях, асабліва ў маладых здаровых мужчынах, якія перш-наперш і захопліваліся ў рабства (ды яшчэ і гінулі, адбіваючы нашэсці). Персіянін або індыец, што апынуўся ў нейкім дунайскім племі, таксама ж, мабыць, не маўчаў. І сумаўляючыся з новым атачэннем, нёс яму не толькі лацінізмы, але і словы сваёй першай, персідскай ці індыйскай мовы. Таму пярмяне для таго, каб назбіраць тых індаіранізмаў, што маюцца ў іх мовах сёння, і не абавязаныя былі ўступаць у кантакты з цэлымі індаіранскімі плямёнамі. (Хаця ў часы Вялікага перасялення народаў Дунайскі басейн зазнаў і іхнія нашэсці.) Так што продкі комі ды ўдмуртаў маглі зусім не сустракацца са скіфамі, якіх на Доне і Дняпры не стала яшчэ да нашай эры.

У «Латинско-русском словаре» І.Х. Дварэцкага, якім я карыстаюся (М., 1976), да лацінскіх словаў нярэдка даецца заўвага: «греч.» (старажытнагрэцкае). Яна стаіць і ля такіх прыведзеных мной словаў, як <u>comma</u>, <u>panus</u>, <u>peripsema</u>, што маюць паралелі з пермскімі. Узнікае думка: а ці не маглі гэтыя словы трапіць непасрэдна з грэцкай у пермскія, г. зн. ці не мог быць непасрэдны пермска-грэцкі кантакт?

Што ж, прыходзіцца вучыцца чытаць па-грэцку!.. Навучыцца з большага я, здаецца, навучыўся, але разумею, што, мабыць, і не кожны дзесяты з маіх чытачоў ведае грэцкі алфавіт. А ў той жа час, каб ад маіх знаходак не адмахнуліся навукоўцы, я павінен даваць іх у арыгінале. Таму прыйдзецца спачатку пісаць грэцкае слова так, як яго пісалі грэкі, а потым далучаць да грэцкага напісання транскрыпцыю нашымі літарамі (хоць больш прынятае лацінай). Так, здаецца, і ваўкі-навукоўцы будуць сытыя, і авечкі-ненавукоўцы не пацерпяць. Рушылі?

<u>Αυγη</u> /аюгэ/ «бляск, прамень, святло» — к., у. <u>юг</u> «бляск, ззянне, святло»;

<u>αιτος</u> /этос/ «жар, агонь» — к. ӧд «жар у печы; гарачыня»;

<u>αινος</u> /энос/ «страшны, моцны» — к. <u>ён</u> «моцны»; <u>ен</u> «бог»;

αμη /амэ/ «рыдлёўка» — к. амысь «нарог»;

αξιος /аксіос/ «годны» — к. ёксы «князь»;

αρδην /ардэн/ «падняўшы ўверх, высока» — к. ордны «паставіць старчма»;

αως /аос/, ηως /эос/ «зара, раніца; усход» — к. асыв «раніца; усход»;

βαιός /бэос/ «невялікі, малы» — к. посни «дробны, маленькі»;

βάσις /басіс або васіс/ «ход, крок» — к. васьков «крок»;

βια /біа або віа/ «сіла» — к. ви «сіла»;

βοτανη /ботанэ/ «корм» — к. пöт «сыты», пöтны «наесціся»;

βους /боюс/ «бык, карова» — к. бау «карова»;

γαλα /гала/ «малако» — к. йöл «малако»;

γενυς /гэнюс/ «сківаца» — к., у. ан «сківаца»;

γεραιος /гэрэос/ «стары, састарэлы» — к., у., ар, к. арöс «год»;

γυνη /гюнэ/ «жанчына», «жонка» — к. инь «жанчына, жонка»;

(у апошніх пяці выпадках пачатковаму грэцкаму «г» адпавядае ў пермскіх словах нуль гуку: тое, што такіх выпадкаў пяць, паказвае невыпадковасць з'явы);

γυρος /гюрос/ «круглы» — к. гыр «ступа»;

δαρος /дарос/, δηρος /дэрос/ «доўгі» — к. дыр «доўга»;

δοχη /дохэ/ «сасуд» — к. доз «сасуд»;

εγω /эго/ «я» — к. эг «я не» /асабовае адмоўе пры дзеясловах/;

ερατος /эратос/ «любы, прыемны» — ёрт «таварыш, напарнік»;

αρεις /арін/ «праклянцце, пагроза» — к. öрны «лаяцца»;

ζηλοω /дзэлоо/ «спаборнічаць, імкнуцца да чаго-небудзь» — к. зільны «старацца»;

ζυγιος /дзюгіос/ «пад'ярэмны» — к. дзуг «заблытаны»;

ζυμη /дзюмэ/ «закваска», «кіслае цеста» — к. шом «закваска», у. шумес «дзяжа», шöманы «заквасіцца»;

ζωμος /дзомос/ «поліўка, булён/ — у. зумыт «навар»;

ζωνη /дзонэ/ «пояс» — у. зундэс «кальцо»;

ζωρος /дзорос/ «чысты, нязмешаны» — к. сорöс «дамешак» (запазычанне з адваротным знакам);

ηλεος /элеос/ «дурны» — у. элес «румзлівы, надакучлівы»;

ηρεμος /эрэмос/ «ціхі, спакойны» — к. рам «рахманы»;

ηρωιχος /эроікос/ «гераічны» — у. эрик «воля, свабода»;

ινα /іна/ прыслоўе месца: «дзе, куды» — к. ин «месца»;

ιος /іос/ «страла» — к. ёсь «востры» /пра канец чаго-небудзь/;

χαλιας «хаціна, будан» — к. кола «будан»;

χαμπτιω /камптіо/ «гнуць, згінаць» — к. комбыля «сагнуты»;

χιναδος /кінадос/ «ліса» — к. кынь «пясец»;

χοιλας /коілас/ «даліна» — к. коляс «рачная затока»;

χυων /кюон/ «сабака» — к. коин «воўк»;

χυπτω /кюпто/ «нахіляцца, нагінацца» — у. купырыны «згорбіцца, сагнуцца»;

λεμμα /лэмма/ «шкарлупіна, скурка» — к. лӧм «струп, кароста»;

λημη /лэмэ/ «гной на вачах» — к. лем «клей; студзяністы навар»;

μελισσα /мэлІсса/ «пчала» — к. малязі «пчала»;

μελος /мэлос/ «песня, мелодыя» — к. мыла «меладычны, напеўны»;

μνα /мна/ «міна» /манета/ — к. мын «плата»;

μογος /могос/ «праца» — к. «справа»;

μοσχος /мосхос/ «маладая карова» — к. мцс «карова»;

μυζω /мюдзо/ «стагнаць, уздыхаць» — к. мудзны «стамляцца»;

νεβρος /нэброс/ «малады алень» — к. неблюй «аляня»;

νων /нюн/ «цяпер» — к. нин «ужо»;

ξυλον /ксюлон/ «адсечанае дрэва, палена, дровы» — к. сила «дрэва, паваленае бурай»;

ξυρεω /ксюрэо/ «стрыгчы» — к. шырны «стрыгчы»;

ονειρος /оніpoc/ «сон» — к. он «сон»;

ος /ос/ «свой» — к. ас «свой»;

παις /пэс/ «хлопчык, сын» — к. пи «хлопчык, сын»;

παχνη /пахнэ/ «шэрань» — к. пакта «шэрань», «сухі дробны снег»;

πεζα /пэдза/ «нага» — к. педзны «таптацца»;

πελεχυς /пэлэкюс/ «сякера» — к. пельны «адколваць»;

πελλα /пэлла/ «даёнка», πυελος /пюэлос/ «карыта» — к. пельса «кадушка, чоп»;

πιδαξ /підакс/ «крыніца»; πυτμην /пютмэн/ «дно» — к. пыдна «глыбіня», пыдцс «дно»;

πιλος «валяная шэрсць», «лямец» — к. пыльым «пух» /рэшткі ад трапання шэрсці/;

πιοτης /піотэс/ «тлустасць, тлушч» — к. пӧт «сыты»;

ποδος /подос/ «нага» — к. под «нага»;

πολιος /поліос/ «сівы» — к. пӧль «дзед»;

πορτις /портіс/ «цяля» — к. пӧрны «стаць цельнай»;

ποτη /потэ/ «палёт» — к. потны «гайдаць» /калыску/;

πυρ /пюр/ «агонь» — к. пурдны «абпальваць» /цэглу, гаршкі/;

ριγοω /рігоо/ «мерзнуць» — к. рыгзьыны «замерзнуць, скурчыцца»;

ριζα /рідза/ «корань» — к. ридз «сцябло»;

ρωγος /рогос/ «шчыліна, адтуліна» — к. розь «дзюрка, адтуліна»;

σαλος /салос/ «гойданка, хваляванне» /на моры/ — к. саль «пахмурнае летняе надвор'е»;

σαργανη /сарганэ/ «кош» — к. саръя «высокі кош»;

σινιαζω /сініадзо/ «прасяваць» — к. син «вочка» /у сетцы/;

σχευωρια /скеюорiа/ «падкопы, падступствы» — к. скöр «злы, сярдзіты»;

συς /сюс/ «свіння» — к. сöс «паганы», «брудны»;

ταυτη /таютэ/ «тут» — к. тат, таті «тут»;

φερω /фэро/ «насіць» — к. перна «насільны крыж»;

φως /фос/ «апёк» — к. пöсь «гарачы»;

χαλιξ /халікс/ «дробны камень, друз» — к. каля «галька»;

χειρ /хір/ «рука» — к. ки «рука»;

χορτος /хортос/ «агароджа, паша» — к. карта «хлеў; дом; двор», горт «дом»;

ωδε /одэ/ «так, такім чынам» — к. öд «дык», «жа» /па-расейску «ведь»/;

ωμος /омос/ «сыры» /пра мяса, плады/, «няспелы» /пра плады/, у пераносным сэнсе «дзікі, жорсткі» — к. омöль «дрэнны, брыдкі, агідны; слабы, хілы»;

ωρα /ора/ «пара года, асабліва вясна, лета», εαρ /эар/ «вясна» — к. ар «восень».

Я думаю, уважлівы чытач не прапусціў таго факта, што пэўныя пермска-грэцкія паралелі паўтараюць пермска-лацінскія. Я пакінуў такія паўторы таму, што яны даюць дадатковы імпульс для роздуму. Возьмем, напрыклад, перагук пермскага ви «сіла» з грэцкім βια «сіла» і лацінскім ви «сіла». Якія былі шляхі запазычання ў гэтай трыядзе?

Калі зыходзіць з прывычнай іерархіі моваў, то можна вырашыць, што на пачатку было грэцкае і ад яго ідуць пермскае і лацінскае. Але калі прасачыць за формаю словаў /віа — віс ві/ і ўлічыць, што першапачаткова ў грэцкай мове не было «в» — β чыталася як «б», а ў пермскіх мовах «в» спрадвечнае, то можна заключыць, што першым было пермскае ви, ад якога і ідуць грэцкае ды лацінскае словы, бо калі б пермскае ішло ад грэцкага, яно выглядала б як би, а ад лацінскага — як вис (абедзве формы ў пермскіх мовах магчымыя, бо па-комі-зырански і комі-пярмяцку би — «агонь», вис — «пратока»). Катэгарычна настойваць не буду, лінгвісты могуць вывесці і штосьці іншае. Я ж высвятляю: былі пярмяне ў Дунайскім басейне або не былі? Пермска-лацінскія і пермска-грэцкія паралелі сведчаць: былі.

На той сама млын ліюць ваду і румынска-пермскія супадзенні. На румынскую мову лінгвісты звычайна звяртаюць мала ўвагі: што, маўляў, у ёй цікавага — сумесь лацінскіх ды славянскіх словаў. Гэта правільна толькі часткова. І лацінскіх, і славянскіх лексем у ёй багата, але маецца і вялікі пласт невядомага паходжання. Яго ўзводзяць да гіпатэтычнай дака-фракійскай мовы, кваліфікаванай як індаеўрапейская. Па-сапраўднаму гэта яшчэ не праверана, бо дака-фракійскіх тэкстаў, на якіх можна было б учыніць такую праверку, няма і наўрад ці знойдзецца. Зразумела, надзеі траціць не будзем, а пакуль што магу прапанаваць матэрыял, здольны таксама ў пэўнай меры праліць святло на мінулае румынскай мовы. Вось што мне ўдалося здабыць:

ajuns /ажунс/ «прыбылы» — к. ожа ў выразе ожа кага «нованароджаны», дзе кага — «дзіця»;

alean /алян/ «туга, журба» — к. оллявны «выць» /па нябожчыку/;

bolta /болта/ «скляпенне, арка» — к. болк «верх павозкі»;

buca /бука/«ягадзіца» — к. бука «пукаты»;

buriaş /буряш/ «бочачка» — к. бурня «выдзеўбаны з дрэва збан»;

cere /чэрэ/ «прасіць» — к. корны «прасіць»;

cocoloş /коколош/ «камяк, шар» — к. коколь «згустак, камяк»;

domol «ціхі, спакойны» — к. домӧд «запруда»;

fir «нітка» — к. пирд «бёрда»;

fir «зярнятка, крупка» — к. пыриг «крошка»;

gabia /габжа/ «рука, лапа» — к. кабыр «кулак», «лапа» /часцей мядзведзя/;

gaina /гайна/ «курыца», gaita /гайта/ «сойка» — к. кай «птушка»;

gaura /гаура/ «нара» — к. горс «дупло»;

geună /гянэ/ «вейка» — к. гӧн «шэрсць, пух»;

ghebe /гэбэ/ «апенькі» — к. гоб «грыб»;

gogon «чорны шарык» — к. гӧгӧр «кругом, вакол»;

laş /лаш/ «баязлівы» — к. лача «надзея»;

laţ /лац/ «сіло на птушак» — к. лэч «сіло на лясную дзічыну»;

leasă /лясэ/ «лясны падрост, кустоўе» — к. ласта «нізінны луг, нізіна»;

legana «гайдаць» — к. легны «гойдацца»;

lemn «дрэва» /матэрыял/ — к. льӧм «чаромха»;

lesni «даваць палёгку» — к. лэдзны «выпускаць»;

măciucă /мэчюкэ/ «дубіна», «удар дубінай» — к. матшкӧдны «біць, лупцаваць»;

mădări /мэдэрі/ «песціць» — к. мада «мілы» /зварот/;

mala «кельня» — к. маль «вясло, рыдлёвачка»;

miez /мез/ «мякіш» /хлеба/ — к. мӧдз «мяккая частка далоні»;
mezin «малодшы» — к. мізьӧ «наймалодшы ў сям'і»;
muscel /мусчэл/ «пагорак; ланцуг пагоркаў» — к. мусюр «тара, водападзел»;
năboi /нэбой/ «навадняць» — к. нёпол «нізкая вільготная нізіна»;
nada «надстаўка» — к. над «прышыўка» /цяслярскае/;
pacea /пача/ «футра з сабаліных лапак» — к. пась «футра»;
pălărie /пэлэре/ «капялюш» — к. пал «капялюшык»;
peri «гінуць» — к. пӧрны «валіцца»;
pöpöс «пошасць», perimat «састарэлы» — к. рӧысь «стары»;
rabufni «ударыць» — к. рабыштны «ударыць»;
racni /ракні/ «крычаць, гарлапаніць» — к. раксыны «гучна крычаць»;
rascote «ламачча, сухое галлё» — к. рос «хмызняк; мятла, венік»;
razni «аддзяляць, падзяляць» — к. разьны «развязаць, расшпіліць»;
roca /рока/ «скала» — к. рӧч «бугор»;
ruta «дарога» — к. рупта «ледзь прыкметная сцежка», рукта «засярушаны снегам след звера»;
sur «сівы» — к. дзор «сівы»;
surpa «знішчаць» — к. сурым «смерць»;
şalau /шалау/ «судак» — к. шаляг «рыба» (якая, у слоўніку не сказана);
şar /шар/ «равок вінаграднага прэса» — к. шар «праліў»;
şicana /шікана/ «шукаць сваркі» — к. шыксьыны «сварыцца»;
şir /шір/ «пацеркі» — к. сыр «нізка з пацеркам»;
şoarece /шоарэчэ/ «мыш» — к. шыр «мыш»;
şuşcăi /шушкэй/ «цяжка ўздыхаць» — к. шуштӧм «журботны»;
tăcut /тэкут/ «спакойны» — к. такавны «заспакойвацца»;
tarac /тарак/ «слуп, паля» — у. топ «прама, вертыкальна»;
toarta «вушка посуду» — к. торта «палка з плоскай дужкай на канцы /для скучвання зерня на таку/»;
turna «ліць, наліваць» — к. гюрӧбӧн «струменем»;
unchiu /унклю/ «дзядзька» — к. унай «дзядзька», ун «цётка»; vaj /важ/ «стары, старадаўні»;
venin «злосць» — к. вен «спрэчка», «сварка»;
zarfir /зарафір/ «залатая нітка», дзе fir «нітка» — к., у. зарни «золата»;
zob /зоб/ «авёс» — к. зӧр «авёс».

Германцы і да гэтага часу жывуць у басейне Дуная. Гэта — жыхары Аўстрыі. А на пачатку нашай эры германскія плямёны —

готы, маркаманы, гэпіды ды іншыя — былі вельмі значным этнічным фактарам басейна. Гэта яны са стагоддзе расхіствалі Рым, яны і разбурылі ўрэшце імперыю. Уздоўж Дуная яны рухаліся як з захаду на ўсход, так і з усходу на захад. Ці адбілася прысутнасць германцаў у басейне на пермскіх мовах? Адбілася. Параўнаем такія нямецкія ды пермскія словы:

Bohe «дошка» — к. пӧл «дошка»;

Bolle «жаўлак» — к. боль «пухір, мазоль»;

Bub «хлопчык; падлюга, манюка» — к. бӧб «дурны, прыдуркаваты»;

Buckel «пукатасць» — к. бука «пукаты»;

Daube «бачарная дошчачка» — к. дав «лісцёвы лес»;

Garn «нітка» — к. гар «туга ссуканы»;

gemach «ціхі, марудны» — у. гембыр «марудны»;

Gurgel «горла, глотка» — к. горш «горла; ненажэрны»;

Jagd «паляванне» — к. яг «бор» (у комі мовах вӧр «лес», вӧравны «паляваць»);

Jahr «год» — к., у. ар «год»;

Kaule «шарык» — к. коль «шышка»;

kerben «рабіць засечкі» — к. керавны «секчы»;

Keule «дубіна, булава» — к. кой «паляўнічае кап'ё»;

Kunig «кароль, цар» — к. кан, у. кун «цар»;

Kumn «міска» — к. кумли «драўляная міска»;

Lache «лужына» — к. ляга «вільготная балоцістая мясціна»;

lottern «жыць бесклапотна /распусна/» — к. лотны «змарнаваць сродкі»;

Lust «радасць, задавальненне» — к. лӧсьыд «зручны, прыемны, прыгожы»;

mugen «жадаць» — к. мог «мэта»;

mokant «насмешлівы» — к. мокасьт «блазен»;

mollig «мяккі, далікатны» /навобмацак/ — к. мольыд «гладкі»;

Ochse «бык» — к. ӧш «бык»;

Oma «бабуля» — к. ёма «ведзьма»; «баба-яга»;

Pickel «прышч» — к. пыкӧс «пухліна»;

Pott «гаршчок» — к. пӧт «сыты»;

Racke «галка», «грак» — к. рака «варона»;

rege «жывы, рухавы» — к. регыд «хутка»;

reisen «рваць, разрываць» — к. резьӧдны «распароць, адпароць»;

scharf «востры» — к. шарба «нягладкі»;

Schaum «пена» — к. шом «закваска»;

scholling «вялікімі кавалкамі» — к. шолид «буйны, роўны»;

Shun «прыгожы, цудоўны» — к. шань «добры, прыгожы»;

Schund «дрэнь; хлам; старызна» — к. шунэд: шунэд пу — «засохлае дрэва», дзе пу «дрэва»;

Sehn «глядзець» — к. син «вока»;

Sehne «жыла» — к. сöн «жыла»;

Sohn «сын» — к. зон «сын»;

Sonne «сонца» — к. шондi «сонца»;

Sud «булён, адвар» — к. шыд «булён»;

Suhle «багна; лужына» — к. суль «макрата», сульк «наскрозь» /вымаклы/;

Tasse «кубак» — к. тасьтi «мiска»;

Tuch «хустка; анучка; сукно» — к. тукмыль «скрутак»;

Zoll «цаля» — к. дзоля «маленькi»;

Zug «улоў» — к. дзуг «повад, аброць».



*Вёска комi-пярмянаў Кiльмезь (Малмыжскi павет). Пачатак XX ст.*

У нямецкай мове маецца адзiн цiкавы граматычны момант. Прыгледзiмся да ейных адмоўных прыметнiкаў: «безжыццёвы» — leblos, «безграшовы» — mittellos, «бяздзейны» — latenlos. Як бачым, тут значэнне «без» надаецца не прыстаўкаю, як у славянскiх, балцкiх мовах, а адмоўным суфiксам, якi стаiць напрыканцы слова, што з'яўляецца фiна-вугорскай з'явай. Праўда, канкрэтнага суфiкса -лос у пермскiх мовах (як i ў iншых фiна-вугорскiх) няма, тут ягоную ролю выконвае ў комi мовах -тöм, ва ўдмурцкай -тэм: ва «вада» — ватöм «бязводны». Але вось удмурцкае слова эблес. Яно азначае «слабы». А па-комi эб — «сiла». Адсюль бачна, што ў старажытнасцi ва ўдмурцкай мове мог iснаваць суфiкс -лес, якому ў комi мовах адпавядаў -лöс.

Пасля сказанага не можа не звярнуць на сябе ўвагу тое, што нямецкі суфікс прыметніка -ig вельмі блізкі да аналагічнага комі-зыранскага -ид (-ыд), прычым супадзенні гэтых суфіксаў адзначаюцца і там, дзе супадаюць асновы (mollig — мольыд, schollig — шолид).

Наяўнасць пермска-лацінскіх, пермска-грэцкіх, пермска-румынскіх, пермска-нямецкіх, пермска-албанскіх лексічных паралеляў (пермска-славянскія разгледзім у іншай кнізе) робіць абсалютна бясспрэчнай прысутнасць пермскіх плямёнаў у Дунайскім басейне часоў Рымскай імперыі. І непазбежна паўстае пытанне: а як жа іншыя фінскія народы — суомі, эстонцы, мардва, марыйцы ды іншыя? Ці існавала калі-небудзь фінская супольнасць (фінскія падгрупы вельмі адрозніваюцца між сабой), і калі існавала, то дзе ўзнікла? На сённяшні дзень агульнай калыскай усіх як фінскіх, так і вугорскіх (ханты, мансі, венгры) народаў лічыцца Прыўралле (гл. ЯН СССР, том 3, с. 10). А як жа быць тады з дунайскім мінулым пярмянаў?

Паралеляў між іншымі фінскімі ды дунайскімі мовамі я спецыяльна не шукаў. Але спадарожна ўсё ж адзначаў сёе-тое. У старажытнагрэцкай мове πελεχυς /пэлэкюс/ — «сякера». А ў мардоўска-макшанскай пеель — «нож». У лаціне homo — чалавек».



*Беларуская вёска ў 30-я гады*

Па-макшанску «чалавек» — ломань. У лаціне «сасна» picea, па-макшанску — пиче. Па-румынску ţăcălie /цэкэле/ — «бародка клінам», măr /мэр/ «яблык» — па-макшанску сакал «барада», марь «яблык». У лаціне «чэрап» calva, па-эстонску kolp; у лаціне «груша» pirus, па-эстонску pirn; па-румынску «руды» roşka (рошка), «вулей» târnă (тырнэ), «шарсцяная спадніца» andros — па-эстонску «руды» ruske, «вулей» taru, «спадніца» undruk (у тым жа шэрагу і наша андарак).

Значыць, і мардва, і эстонцы таксама пабылі суседзямі Старажытнага Рыма. Можа, і не так доўга, як пярмяне, але пабылі. Цяпер, разумеючы гэта, лёгка адгадваеш розныя загадкі. Напрыклад, адно з плямёнаў, што склалі народ суомі (фінаў), у старажытных летапісах адлюстраванае як ямь (ПСРЛ, том 1, сл. 4, 11; том 2, сл. 9). Па-суомі тое ж слова гучыць як хяме (Р.А. Агеева. Страны и народы: происхождение названий. М.,1990. У далейшым — Р. Агеева-1, с. 55). Гэтае слова не тлумачыцца (гл. тамсама). А тут жа яўна лацінскае homo — «чалавек». Да homo магчыма, узыходзіць і іншы загадкавы этнонім — комі.

«Саманазва ўсіх комі... — піша Р. Агеева (тамсама, с. 63), — відавочна, старажытны этнонім. Яго спрабавалі звязаць з гідронімам Кама, што было б натуральна: продкі комі сфармаваліся ў Прыкам'і (як бачым, такі погляд пераходзіць з працы ў працу. — *Аўт.*). Аднак В. Лыткін паказаў, што комі і Кама — розныя словы. Маюць рацыю тыя даследчыкі, якія ўтвараюць этнонім комі са словаў са значэннем «чалавек»: манс. χum, селькуп. qum, відавочна, і ўдм. кумы (ужо не ўжываецца самастойна)». Такім чынам, ва ўдмурцкай мове мелася кумы — «чалавек». А ўлічваючы, што ўдмурцкаму «у» ў комі мовах часта адпавядае «о» (параўн.: «чалавек» — у. мурт, к. морт; «мядзведзь» — у. гундыр, к. гондыр), трэба прызнаць, што і ў комі мовах даўней магло быць слова комі са значэннем «чалавек». І не зусім не абавязкова яно з мансійскага хум або селькупскага квум: гэта хутчэй мансі ды селькупы запазычылі свае словы ў пярмянаў. З лацінскага homo ў комі мовах абавязкова павінна было атрымацца комо (з далейшым пераходам ненаціскнога «о» ў «і», бо ў комі мовах няма гуку «х»; прыгадайма паралель hostis «ваенны праціўнік» — кось «бой»).

Можа, і саманазва суомі таксама ідзе ад лацінскага слова. У летапісах гэтае слова пішацца сумь. Sum па-лацінску «існа-

ваць». Пермскае морт — мурт этымолагамі ўводзіцца да індаеўрапейскага кораня mar, што азначае «смерць», г. зн. «чалавек» — «смяротны». Але ж мог быць да тэрміна «чалавек» і наадваротны падыход: «чалавек» — «існы», асабліва ў насельніцтва маларэлігійнага, нехрысціянскага, якое мала думала пра замагільнае жыццё. Такім чынам, за сэнсам сумь стаіць «чалавек», а за формай — лацінскае sum.

Слова «фіны», вядомае з рымскіх часоў, таксама дагэтуль неразгаданае. Яго тлумачаць галоўным чынам праз германскае fenna «балота», «гразь». Але чаму тады яно стала агульным для ўсіх фінскіх народаў, няўжо ўсе жылі ў балотах? Агеева піша: «у расейскую мову слова фіны ўвайшло позна» (Р. Агеева-1, с. 55). Але ў «Слове пра паход Ігара» няраз нядобрым словам памінаецца хінава — нейкае невядомае, варожае Русі племя. Ясна, што тут гаворка не пра суомі, а нейкіх іншых фінаў. «Хінава» ясна паказвае, што ўжо тады гэты тэрмін быў агульным для розных фінаў.

Зазірнём яшчэ раз у лацінскі слоўнік і знойдзем там finis. Сёння гэтае слова стала спартыўным тэрмінам (фініш). А для рымлянаў яно азначала ў першую чаргу «мяжа, рубеж». Фіны — гэта памежныя для Рымскай імперыі плямёны. І ўлічваючы, што пярмяне, мардва, эстонцы, сумь і ямь сапраўды былі памежнымі для Рыма, — думаецца, новых версій для адшыфроўкі тэрміна фіны няварта шукаць.

Старажытныя грэкі сваіх суседзяў звалі барбарос «варвары». Гэтае слова этымолагі ўспрымаюць як берберы (жыхары паўночнай Афрыкі). Але няўжо далёкія берберы былі ў грэкаў да таго на языку, што іхнюю назву перанеслі на ўсе вакольныя народы? Чым ім тыя берберы так насалілі? Можа, ёсць сэнс падумаць яшчэ? Мне дык вось здаецца, што і барбарос ідзе ад «мяжа», пермскага бор. У пермскіх мовах нярэдка для ўзмацнення паўтараецца аснова слова. «Фіны» для Рыма, а для Грэцыі «барбарос»: і там, і там «памежныя» — вось кім былі пярмяне дзве тысячы год назад.

Мы няблага ведаем гісторыю Рымскай імперыі, а вось народаў, што жылі на ейных межах — не ведаем амаль зусім. На манускрыптах адлюстраваліся толькі тыя, хто ішоў на Рым з мячом і дубінай, рабаваў ды паліў гарады. А хто проста паляваў ды сеяў хлеб пад бокам у імперыі — такія людзі храністаў не цікавілі.

І мы не ведаем пра іх нават самых галоўных рэчаў: калі яны туды прыйшлі і калі пайшлі, дзе канкрэтна жылі і колькі іх было. Пра ўсё гэта можна толькі варажыць. Дык паспрабуем.

Яны жылі прынамсі на тых рэках, што носяць пермскія назвы. Але не толькі. А. Цэмбер выказаў мудрую думку: тыя назвы сёння гучаць «па-фінску», дзе фіны хоць у малой колькасці засталіся, бо хтосьці ж павінен быў навучыць гэтым назвам новае насельніцтва. А там, адкуль яны сышлі ўсе, згодна з гэтай логікай, назвы памяняліся. Таму пермскіх рэкаў у басейне Дуная, несумненна, было болей, чым цяпер. А іх і цяпер нямала. Калі іх акрэсліць лініяй, атрымаецца тэрыторыя немаленькая: Румынія і Венгрыя, Чэхія і Славакія, значная частка былой Югаславіі...

Пры Герадоце (V ст. да н.э.) Дунай называлі Істрам, але Марава яшчэ насіла назву Бронг, Сава — Альпіс, Серет — Арар (Геродот. История в девяти книгах. Л., 1972, геаграфічны паказальнік). Марава, Сава, Серет — гідронімы пермскія, Бронг, Альпіс, Арар — не. Ці не паказваюць гэтыя назвы, што ў V стагоддзі да новай эры якраз і ішло засяленне пярмянамі Дунайскага басейна?

А калі пярмяне пайшлі з Дуная? Перш-наперш: думаецца, не ўсе адразу. Штуршок жа дало Вялікае перасяленне народаў. У басейне адразу стала няўтульна. Заваёўнікі і рабаўнікі рухаліся то з усходу на захад, то з захаду на ўсход, уносячы гвалт і бязладдзе. Рым сваіх «памежных» абараніць не мог — сам трашчаў і хістаўся. І яны рушылі ў пошуках спакайнейшых месцаў: хто на Дон, хто на Днепр, на Днестр, а хто на Віслу. Так-так, і Вісла — назва пермская. Яна ідзе ад комі вис «пратока», а -ла — тое сама, што ва, «рака». Вісла — «рака з пратокамі», як Шчара (Шара) — «рака з пралівамі». У Віслу ўпадаюць Сан і Раба. Сан па-комі-зырански «расамаха», раб у комі мовах «барда». Раба ёсць і ў Венгрыі, а Сана ў былой Югаславіі. А вось моўныя прыклады: па-польску pielesz «родны дом», па-комі-зырански пельöс — «вугал (дома)»; па-польску piętro «паверх», па-ўдмурцку петра — «гарышча».

Днестр і Днепр, па-мойму, таксама гідронімы пермскія. Яны складаныя, і першая частка іх — Дон (Дун), а другая ў першым выпадку ранейшая назва Дуная Істр, у другім — корань удмурцкага öбырыны «знясільваць»: Дон-öбыр (блізкае да Донэбыр) — «Дон, які знясільвае». Сапраўды, Днепр у ніжнім ця-

чэнні зусім не мае доплываў (ЭСБЕ, том 20, с. 792) і пры набліжэнні да мора «знясільвае».

А вось такая цікавая падрабязнасць: у верхняй частцы Дняпроўскага басейна маюцца рэкі Дрына, Сава, Сана, Тара (ТТ) — у былой Югаславіі Дрин, Сава, Тара, Сана. У Славеніі Колпа — у басейне Акі тры ракі Колпь і тры Колпна (ГБО).

У папярэднім раздзеле мы пераканаліся, як шмат пермскіх гідронімаў на тэрыторыі летапіснай літвы. Цяпер здзіўляцца гэтаму зусім няма прычын. У параўнанні з Прыўраллем ад Беларусі да Дуная — рукой падаць. Больш здзіўляцца трэба таму, што дунайскія жыхары дабраліся аж да Котласа і Інты.

А з якога дунайскага пункта прыйшла літва? На такое пытанне можна было б толькі развесці рукі, калі б...

Калі б не кніга Ермаловіча «Старажытная Беларусь», дзе на старонцы 87 маюцца такія радкі: «Нямецкі гісторык XVIII ст. Л.А. Гебгардзі (1735–1802) прыводзіў пісьмовыя дакументы, з якіх відаць, што яшчэ ў XII ст. н.э. на левым беразе Дуная і ўздоўж ракі Ольты існавала мясцовасць Літва. Тут жа знаходзім і раку Літаву». І — спасылка на публікацыю 1851 года.

Ці мае дачыненне дунайская Літва да нашай? Давайце глядзець.

Ёсць у Маларыцкім раёне возера Олтуш. Пра гэтую назву В. Жучкевіч піша: «Назва-этнонім: олтушы — жыхары гістарычнай вобласці Закарпацця Алтэніі» (КТСБ, Олтуш). Якраз Алтэніяй завецца і сёння румынская вобласць у міжрэччы Олта (сучасная назва Ольты) і Дуная.

Насупраць Олта, з балгарскага боку ў Дунай упадае Віт. А ў Калінкавіцкім і Хойніцкім раёнах цячэ левы доплыў Прыпяці Віць. Дунайская Літава, пра якую паведамляе Ермаловіч, мае адпаведнік у Кобрынскім раёне ў выглядзе ракі Літкава. У Чырвонае возера, што ў Жыткавіцкім раёне, упадае рачулка Цесна. Гэта падобна да Тэзлуй — назвы ракі, што ўпадае ў Олт. Гідронімы Олтуш, Віць, Літкава, Цесна быццам бы паказваюць нам «вароты», праз якія літва ішла на Беларусь (цікава, што вярхоўі Нёмана, дзе Ермаловіч размяшчае летапісную літву, знаходзяцца строга на поўнач ад басейна Олта — па 25-м мерыдыяне). На гэтых валаёмах частка яе заставалася на жыхарства, асноўная ж маса рухалася далей. У Іўеўскім раёне цячэ Дунай, а ў Міёрскім раёне — Волта. Гэтая апошняя, як паведамляе Жучкевіч, даўней

звалася Олта, гэта значыць, дакладна так, як галоўная рака дунайскай літвы.

Адным са старажытных варыянтаў назвы Олт была Алута (История Венгрии, том I. М., 1971, с. 57. У далейшым — ИВ). І вось у Міёрскім раёне, непадалёк ад Волты (Олты) знаходзім раку Авуту.

Аж да сёння не высветленае паходжанне назвы Балтыйскага мора. «Корань balt у назве Балтыйскага мора тлумачылі па-рознаму: і як «балота», і як «белы» (летув. Baltas), і як «пояс». Імя Балтыйскага мора тлумачылі як балцкую, ілірыйскую або венетска-ілірыйскую назву» (Р. Агеева-1, с. 49).

Мабыць, нікому з тых, хто спрачаўся вакол гэтага імя, невядомае ці не прыгадвалася такое геаграфічнае паняцце: «Балта — пойма Дуная ў межах Ніжнедунайскай нізіны... з лабірынтам рукавоў, шматлікімі азёрамі і ліманамі. /.../ Шырыня — да 27 км. Пакрытая лясамі з вярбы і вольхі, зараснікамі трысця і чароту, шмат непраходных балотаў. /.../ У Малдаўскай ССР і Румыніі «балта» стала агульным пры азначэнні забалочаных поймаў і плаўняў любых рэкаў (БСЭ, выд. 2-е, том 5, с. 153). Такімі «балтамі» і ўяўляюцца берагі Балтыйскага мора каля Куршскай затокі з дэльтай Нёмана.

Олтуш, Олта /Волта/, Авута, Дунай, Літкава, Віць, Балтыйскае мора... Нехта ж прынёс гэтыя назвы з Дуная на Беларусь! Хто? Улічваючы, што мясцовасць каля ўпадзення Олта ў Дунай звалася Літвой, іншых кандыдатаў на гэтую ролю, апрача летапіснай літвы, быць не можа.

Безумоўна, Олт — гідронім пермскі. Ён ідзе ад оль, што пакомі-пярмяцку азначае: 1) «бярозава-яловы лес на забалочаных купінаватых нізінах»; 2) «вільготная, балоцістая мясцовасць». Абодва гэтыя значэнні нізоўям Олта адпавядаюць (у вярхоўях гэта горная рака. Даўжынёю яна прыблізна як Сож). Ужо гаварылася, што у пермскіх мовах маецца суфікс прыметніка -ыт (-ыд). Вось Олт і ўяўляецца прыметнікам, утвораным ад оль: Ольыт. Пры націску на першым складзе Ольыт цалкам магло перайсці ў Олт. А пры націску на другім складзе атрымлівалася, з фанетычнай карэкцыяй, Алута.

Вышэй за Олт у Дунай упадае Жиу, ніжэй — Сию. Гэта таксама пермскія назвы, пра іх мы ўжо гаварылі.

Шлях ад Олта да Беларусі, як каменьчыкамі, засеяны пермскімі гідронімамі. Рухаючыся ад яго на поўнач, перш трапляем у басейн Сирета, або Серета, як пісалася раней. Па-комі-зырански — «вільготная мясціна ў даліне ракі, парослая кустоўем». У старажытнасці гэтае слова магло гучаць як сьӧрӧт. У басейне Сірэта маюцца рэкі Молдова, Ракова, Тутова: усе тры канчаюцца на ва — комі «рака». Мольыд (да Молдова) па-комі-зырански «які ільсніцца», рака (да Ракова) — «варона», туту (да Тутова) — «адростак дрэва» (вобразнае азначэнне доплыву. У комі мовах вож адначасова і «сук», і «доплыў»). Молдова ўпадае ў раку, што завецца Нямцу, а ў Комі рэспубліцы ёсць рака Нем. Яшчэ ў басейне Сірэта: Сусита — ад комі сус «ядловец, кедр» у форме прыметніка сусьыт; Карин ад комі кар «горад» (-ын — суфікс прыметніка); Жижия ад комі джыдж «стрыж» і ю «рака» (у Іўеўскім раёне ёсць рака Жыжма); Уза — назва цёмная, але такая ёсць на Беларусі (доплыў Сажа).



*Удмурцкая льномялка*

Далей на поўнач... У Закарпацкай вобласці Украіны зноў рачныя назвы з ва: Боржава, Тересва. Боргыны па-комі-зырански «цурчэць», тэрмасьны — «спяшацца». Рака Уж, на якой стаіць Ужгарад, у Славакіі, аказваецца, завецца Уг, а гэта ўжо пермскае юг — «бляск, ззянне». На былых і сённяшніх пермскіх землях рэкаў з назвай Юг цэлыя прыгаршчы. (На Беларусі — Югна, Юхнаўка). У Цярнопальскай вобласці Серет (доплыў Днястра, а не Дуная, як румынскі Сирет), рака Иква (басейн Прыпяці/ з пермскім зыходам ва /у Комі-пярмяцкай акрузе дзве ракі Ик). А ў Валынскай вобласці агледжваем рэкі Вилия, Турья, возера Свитязь — акурат як у межах летапіснай літвы. Тут і рака Кожа (А. Сабалеўскі).

У Комі рэспубліцы маюцца рэкі Кожва, Белая Кожва, Черная Кожва. Гэтую назву Туркін (гл. А.И. Туркин. Топонимический

словарь Коми АССР. Сыктывкар, 1986, Кожва) тлумачыць праз комі кöжа «гравій, глеба з дробных каменьчыкаў з пяском». Але ў комі-зыранскай мове ёсць яшчэ і кöдж — «лука».

Зразумела, пералічаныя назвы не маглі б замацавацца, каб на гэтых рэках не заставалася частка племя, якое іх давала. Таму і пермскі струмень, што выцек з нізоўяў Олта, мусіў паступова танчэць і мялець. І на Беларусь літва прыйшла зусім нешматлікай, што спрасціла яе паглынанне.

Мець кантакты са славянамі літва магла яшчэ на Дунаі. Шлях на Беларусь таксама ляжаў праз славянскія землі. Таму літва прыйшла на Беларусь ужо моцна славянізаванай. Адсюль і славянскія «цаглінкі» двухасноўных ліцвінскіх імёнаў — рад-, люб-, што спалучаюцца з пермскімі: Радивил — «радасная навіна» (виль у пермскіх мовах «новы»), Любарт — «які любіць парадак» (арт па-комі-зырансву «парадак»).

Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага працэс славянізацыі паскорыла, бо літва, апынуўшыся са славянамі ў адным гаспадарстве, уступіла з імі ў больш цесныя дачыненні.

Пермскі этнас зліўся, растварыўся ў славянах. Але мы практычна не адзначаем сярод беларусаў уральскага расавага тыпу, да якога належаць комі-зыране, комі-пермякі ды ўдмурты. Як гэта разумець?

Мусібыць, так, што дунайскія пярмяне і не належалі да ўральскага тыпу. У антрапалагічным сэнсе яны былі звычайнымі еўрапеоідамі. Рымскія аўтары не пішуць пра наяўнасць на межах імперыі людзей з мангалоіднымі рысамі. Свой сённяшні, пераходны расавы тып комі ды ўдмурты набылі на сваіх сучасных землях, у выніку зліцця з тамтэйшымі паўночнымі мангалоідамі — блізкімі да ненцаў, ханты, мансі. Літва ж — адно з дунайска-пермскіх плямёнаў — калі і кантактавала з манголоідамі (частка гунаў, авараў), то вельмі нязначна, бо стэпавікі ў балотныя нетры не лезлі. Ад прыроды ж пярмяне былі еўрапеоідамі, як і большасць іншых фінаў (суомі, эстонцы, мардва).

Але ў нас і нашых далёкіх родзічаў — уральскіх пярмянаў — шмат агульнага: у лексічным складзе мовы, характары, міфалогіі, вопратцы, мелодыях, скоках. Спадзяюся, што аб гэтым мы калі-небудзь яшчэ пагамонім.

## Глава 5
# Дагістарычныя блуканні: шлях жамойці

У папярэдняй главе даведзена — і думаю, даведзена пераканаўча — што летапісная літва прыйшла з Дуная. На гэтым аўтар, які паставіў мэтай аддзяліць літву ад летувісаў, мог бы паставіць кропку. Чаму? Ды таму, што ўжо даўно сцвярджаецца і лічыцца нават бясспрэчным, што балцкія народы прама тут, у Прыбалтыцы, і ўтварыліся.

«Прарадзіма балтаў — хутчэй за ўсё, міжрэчча Віслы і Дняпра. Продкі балтаў — прабалты сфарміраваліся напрыканцы 3-га тысячагоддзя да н.э. у выніку асіміляцыі індаеўрапейскіх груп носьбітаў шнуравой керамікі, што шырока распаўсюдзіліся ў Сярэдняй і Паўночнай Еўропе, з мясцовымі плямёнамі, таксама еўрапеоідамі» (Литва, с. 135).

А раз літва прыйшла на Беларусь у I тысячагоддзі нашай эры, то, вынікае, не мела да сфарміраваных у Прыбалтыцы летувіскіх продкаў абсалютна ніякага дачынення.

Ды не верыцца неяк у спрадвечнае «сядзенне» балтаў у не такіх ужо і райскіх мясцінах. Не Грэцыя ж, не Італія. Зіма —халодная, вільготная і доўгая, галяком не паходзіш. Як паказвае прыклад пярмянаў, якіх таксама лічуць выключнымі дамаседамі, старажытныя плямёны імкнуліся туды, дзе цяплей, а ў менш прыдатныя мясціны выпраўляліся ўжо тады, калі вымушала жыццё...

На траве, на лісці, на пяску след нагі або колаў часцей за ўсё трымаецца адно да першага дажджу. Як жа нам узнавіць сляды дагістарычных вандровак?.. На шчасце, ёсць матэрыял, які захоўвае сляды чалавечых блуканняў тысячагоддзі. Гэты матэрыял — мова. Ды вось бяда: іх мала хто шукае. А калі яны і самі лезуць у вочы, часцяком ва ўпор не бачаць. I тады сапраўдная гісторыя падмяняецца прыдуманай, падманнай.

Яшчэ ў 1615 годзе нейкі Міхалон Ліцвін «прывёў каля ста падобных словаў лацінскай і летувіскай моваў» (ЯН СССР, том I,

Литовский язык). А хто гаварыў на лацінскай мове? Грамадзяне Рыма. А дзе яны жылі? У сваёй Рымскай імперыі. Ці дабіраліся да Летувы? Не. Дык як трапілі іх словы ў летувіскую мову?

Яшчэ. Тэрыторыя, на якой размяшчалася былая Югаславія, у рымскія часы звалася Ілірыкам. Тут жылі плямёны з ілірыйскай мовай. Не была яна пісьмовай, і засталося ад яе вельмі мала: імёны ілірыйцаў, тапонімы Ілірыка ды жменька словаў. Але і тое, што засталося, сведчыць: «Ілірыйская мова... паказвае сувязі з паўночнымі індаеўрапейскімі мовамі — балцкімі, германскімі, славянскімі» (Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990, с. 172. У далейшым — ЛЭС). Як бачым, у пераліку паўночных індаеўрапейскіх моваў балцкія стаяць на першым месцы, г. зн. яны бліжэйшыя да ілірыйскай, чым германскія і славянскія, хаця славяне жывуць у самім Ілірыку (сербы, славенцы, харваты ды інш.), а германцы (аўстрыйцы) з імі мяжуюць.

Тэрыторыю на ўсход ад Ілірыка ў часы Рыма займалі дака-фракійскія плямёны. Ад мовы іх засталося прыблізна гэтулькі, як ад ілірыйскай. Але і тыя рэшткі выяўляюць «цесную сувязь з балцкімі мовамі», адкрытую Уладзімірам Тапаровым (ЛЭС, с. 561).

І гэта не ўсё. Як піша Тапароў, «шэраг тапанімічных ізаглосаў яднае балцкі арэал з Паноніяй, Балканамі і Адрыятычным узбярэжжам» (ЛЭС, с. 64), г. зн. у Прыбалтыцы маюцца такія ж геаграфічныя назвы, як на Балканах, у Адрыятыцы ды Паноніі — той частцы Венгрыі, што ляжыць на захад ад Дуная.

У 15 томе другога выдання БСЭ ёсць «Этническая карта Европы». На ёй паказана, дзе жылі народы, вядомыя антычным аўтарам — рымлянам і грэкам. Хто ж тады, паводле іх, жыў у Прыбалтыцы? Толькі тры групы плямёнаў: карэоты, осіі ды галінды. Пра літву, жамойць, латгалаў, земгалаў, прусаў старажытныя аўтары не чулі.

Як жа ўвязваецца гэта з тым, што балты як селі ў сваім «мядзведжым кутку» 4—5 тысяч гадоў назад, так і сядзелі? А аніяк. Пытанне гэтае не абмяркоўваецца. Маўляў, ёсць балта-лацінскія, балта-фракійскія ды балта-ілірыйскія моўныя сувязі — ну і добра. Яны лішні раз сведчаць аб агульным паходжанні індаеўрапейскіх моваў. Маўляў, не лацінскія гэта словы ў летувіскай мове, а агульная індаеўрапейская спадчына, што дасталася ад індаеўрапейскай пра-мовы. І ў раздзеле «Лексика» артыкула

«Литовский язык» (ЯН СССР, том I, с. 520–523) пра лацінскія запазычанні ў летувіскай мове не гаворыцца анічога. «Найстаражытнейшыя запазычанні ў летувіскую мову, відавочна, прыйшлі з фіна-вугорскіх моваў, але яны вельмі мала даследаваныя» (с. 520).

На жаль, не маю працы Міхалона Ліцвіна (у напісанні аўтараў артыкула «Литовский язык», с. 502 — Миколас Летувис), як і выданняў па этымалогіі летувіскай мовы: на расейскай мове яны не выпускаліся — іх пісалі немцы, палякі, летувісы*. Таму прыходзіцца абапірацца на ўласныя назіранні.

Дапусцім, што лацінскае calva «чэрап» і летувіскае galva «галава» сапраўды ідуць ад той невядомай пра-мовы, тым болей, што і па-нашаму — «галава». Але вось пары: лацінскае senis «стары» — летувіскае senas (сянас) «стары»; лацінскае virus «мужчына» — летувіскае viras «мужчына»; лацінкае dentus «зуб» — летувіскае dantis «зуб»: чаму мы для тых сама значэнняў карыстаемся зусім іншымі словамі? Славянскія ж мовы таксама індаеўрапейскія і, лічыцца, найбліжэйшыя да балцкіх. А вось яшчэ: па-лацінску «барана» — occa (окка), па-летувіску — akëčios (акэчёс). Ці была ў часы праіндаеўрапейскай мовы (калі тая ўвогуле існавала) барана? Па-лацінску «кола» rota — па-летувіску ratas. Ці было у праіндаеўрапейскія часы кола? Індзейцы, напрыклад, да прыходу еўрапейцаў да кола так і не дадумаліся...

Узнікненне слова, што існуе са старажытнасці, датаваць цяжка. Але бываюць шчаслівыя выпадкі. Па-летувіску «пагорак» — kalva, а па-лацінску, як ужо гаварылася вышэй, calva — «чэрап». Якая тут сувязь? Ці, можа, яе зусім няма? Чэрап жа і пагорак — розныя рэчы. Але сувязь ёсць. Па-лацінску Calvariae (Кальварыя) — Галгофа, г. зн. пагорак, на якім быў распяты Хрыстос. Такім чынам, летувіскае kalva ўзнікла не само па сабе ад праіндаеўрапейскага кораня, а ідзе ад лацінскага Calvariae «Галгофа». (У румынскай мове Галгофа — Calvar, што яшчэ бліжэйшае да летувіскага kalva).

Чаму Галгофа ў лаціне — Calvariae, г. зн. «чарапная»? На гэта адказ дае «Библейская энциклопедия» (М., 1891; М., 1991): «Гал-

* Ежи Охманьский доказал, что под псевдонимом Михалон Литвин скрывается Венцеслав Миколаевич (ок. 1490–1560), секретарь канцелярии великого князя в 1534–42 и 1547–55 гг. Его рукописная книга «О нравах татар, литвинов и московитов» впервые была напечатана в 1615 г. в Базеле на латыни. — *Прим. ред.*

гофа (чэрап) — горнае ўзвышша на паўночны захад ад Ерусаліма, на якім быў распяты Госпад /.../ Назва Галгофы была дадзеная, верагодна, з-за падабенства мясцовасці з формаю чэрапа або таму, што тут часта было відаць чарапы страчаных злачынцаў» (с. 167). Такім чынам, па-старажытнаяўрэйску Галгофа называлася «Чэрап» не таму, што ўвогуле пагорак падобны да чэрапа (так сказаць было б няправільна), а таму, што гэты быў падобны на чэрап або на ім валяліся чарапы. Рымляне назву скалькавалі, скарыстаўшы сваё calva «чэрап». А паколькі продкі летувісаў ведалі, што Галгофа — пагорак, то запазычанае з лаціны і ўсечанае да kalva слова Calvariae стала азначаць у іх «пагорак», у значэнні ж «Галгофа» забылася (цяпер Галгофа па-летувіску Golgota. З ліста праф. Зінкявічуса да аўтара гэтых радкоў). Што цікава адзначыць, у летувіскай мове маюцца яшчэ два словы са значэннем «пагорак»: kaubrys і kaukaras, а «чэрап» па-летувіску kaukolė. Як бачым, залежнасць летувіскіх kalva ды kaukaras ад лацінскага матэрыялу відавочная, kaubrys жа з'яўляецца першасным летувіскім словам са значэннем «пагорак».

А калі ў лаціне ўзнікла Calvariae? Ясна, што з распаўсюджаннем хрысціянства. І значыць, на тыя часы продкі летувісаў былі або ў складзе Рымскай імперыі, або ў вельмі блізкім суседстве. Хрысціянамі яны тады не сталі (прынялі хрост на новай радзіме, у Летуве), таму для kalva значэнне «Галгофа» забылася, а «пагорак» засталося.

І ў румынскай мове маюцца паралелі з балцкімі, на што, здаецца, яшчэ не звярталася ўвагі (гл. ЛЭС: Балтийские языки, Литовский язык, Латышский язык; Румынский язык). Зразумела, што найболей цікавыя для нас — супадзенні з балцкімі тых румынскіх словаў, што не з'яўляюцца з паходжання ані лацінскімі, ані славянскімі. Напрыклад, па-пруску ape, па-летувіску upė (упэ), па-латыску upe — «рака», а па-румынску apă (апэ) — «вада». Па-летувіску і па-латышску daina — «народная песня», па-румынску «народная песня» — doina. Па-летувіску šiaurė (шяўрэ) — «поўнач», па-румынску seara (сяра) — «вечар». Па-румынску varf — «вяршыня, верх; вярхушка, кончык», па-летувіску і па-латышску varpa «колас», па-летувіску varpas «звон» (прадмет). Па-латышску rupjš «грубы», па-румынску rupe «раўці, ламаць, біць». Па-латышску dusmas «гнеў», па-румынску dușmani (душмані) «ненавідзець». Па-румынску rețea (рэця) «сетка»,

па-латышску retis «сіта, рэшата». Па-латышску ды па-летувіску baltas «белы», па-румынску bălţătură (бэлцэтурэ) — «белая пляма ў жывёл».

Асабліва ўражвае падабенства словаў дайна і дойна. Мабыць, за ім — нейкая блізкасць фальклору, духоўнага свету старажытных румынаў і балтаў.

А цяпер звернемся да «яцвяжскага» слоўнічка Зінова, пра які расказвалася ў раздзеле «Там, дзе жыла літва». Як ужо гаварылася там, Зінкявічус апублікаваў яго са сваім каментарам. І вось што, згодна з ягоным даследаваннем, аказалася: другое месца — пасля, зразумела, балцкага — у слоўнічку займае германскі, запазычаны лексічны пласт: «магчымых германізмаў... прынамсі, 18» (БСИ-1983, с. 24).

Здавалася б, нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо «паганы з Нарава» маглі пэўны час быць у цесным кантакце з крыжакамі, ад якіх і нахапаліся германізмаў. Але давайце прыгледзімся: сярод іх, напрыклад, augi «вочы» (ням. Auge), flums «кветка» (ням. Blume), hanus «рука» (ням. Hand), kaldi «халодны» (ням. Kalt). А гэта такія словы, што мусілі быць у чалавечым ужытку ад самога пачатку мовы. Значыць, калі гэта германізмы, то запазычанне іх павінна было адбіцца не пасля з'яўлення крыжакоў у Прыбалтыцы (мяжа XII–XIII стагоддзяў), а значна раней — дапушчальна, у часы Вялікага перасялення народаў, часы актыўнага перамешвання этнасаў і моваў. Аб тым жа гаворыць і слова, якім «паганы з Нарава» азначалі немцаў — guti, безумоўна, прама звязанае з готы. У Прыбалтыцы ж, трэба думаць, готы доўга не затрымаліся, бо галоўнай арэнай іх дзейнасці было памежжа Рымскай імперыі.

Да германізмаў Зігмас Зінкявічус адносіць і «яцвяжскае» nom/o/s (імя), узводзячы яго да нямецкага Name (імя). Але ж не далей ад nom/ds добра вядомае лацінскае nomen (імя»).Тут і ўзнікае міжволі думка: а ці няма ў «яцвяжскім» слоўнічку і іншых лацінізмаў?

Вось што дае параўнанне яго з лацінскай лексікай (першае слова «яцвяжскае», другое лацінскае):

ars «дым» — oris «дым»;
augd «расці» — augeo «павялічваць, пашыраць»;
cauta «віна» — cautas «хітры»;
deus «бог» — deus «бог»;

dontis «зуб» — dentis «зуб»;
durd «мець» — turgeo «быць напоўненым»;
jaunis «малады» — juvenis «малады»;
kalfa «галава» — calva «чэрап»;
laps «ліса» — lupus «воўк»;
libaj «губы» — labea «губа»;
mort «паміраць» — morior «паміраць»;
nakt «ноч» — noctis «ноч»;
paders «тата» — pater «бацька»;
pesi «быдла» — pasco «пасці»;
puro «багна» — puris «гной»;
rekti «прамы» — rectus «прамы»;
sala «сонца» — solis «сонца»;
sens «стары» — senis «стары»;
serpine «змяя» — serpens «змяя»;
waltida «здароўе» — valetuo «стан здароўя»;
ward «слова» — verben «слова»;
wendoris «жывот» — venter «жывот»;
wirba «жанчына» — virgo «дзяўчына, маладая дзяўчына» (такое ж самае чаргаванне «b» — «g» у летувіскім virbas «прут» і лацінскім virgeo «прут»);
wiras «мужчына» — virus «мужчына»;
wuld «хацець» — volo «хацець», vult «ён хоча».

Што лексемы балцкіх моваў, якія супадаюць з лацінскімі, з'яўляюцца не нейкімі «агульнаіндаеўрапейскімі», «спаконвечнымі», а запазычанымі лацінізмамі, гавораць такія назіранні. Калі б яны былі спаконвечнымі, то, мусібыць, меліся б у кожнай балцкай мове. А з «яцвяжскіх» лацінізмаў у летувіскай, напрыклад, няма ars «дым», nom/o/s «імя», paders «тата», serpine «змяя», waltida «здароўе», wirba «жанчына», wuld «хацець». У іншых выпадках лацінізм маецца ў «яцвяжскай» і летувіскай, затое яго няма ў латышскай або прускай



*Вісячая калыска комі (Ижэмскі р-н)*

мовах. Пэўныя лацінізмы маюцца толькі ў яцвяжскім слоўніку, г. зн. іх няма ні ў летувіскай, ні ў латышскай, ні ў прускай (serpine, waltida).

Яшчэ цікава, што балцкія «копіі» не аднолькава блізкія да лацінскіх «арыгіналаў». Па-латышску «жывот» veders, а па-«яцвяжску» wendoris, што бліжэйшае да лацінскага venter; «яцвяжскае» kalfa «галава» бліжэйшае да лацінскай крыніцы (calva «чэрап»), чым летувіска-латышскае galva; па-летувіску «бог» dievas, па-латышску dievs, а па-«яцвяжску» deus, што абсалютна супадае з лацінскім deus. А слоўнічак Зінова называецца «Паганскія гаворкі з Нарава», гэта значыць, «яцвягі» аніяк не маглі больш правільны лацінізм deus узяць з Біблії.



*Вісячая калыска ў беларускай хаце*

Зінкявічус у сваім каментары піша, што, не давяраючы цалкам сабе, перад тым, як аддаць артыкул у друк, пазнаёміў з ім некалькі вядомых лінгвістаў, як летувіскіх, так і расейскіх (імёны ён называе). Слоўнічак Зінова, такім чынам, аналізавала з паўдзесятка буйных індаеўрапеістаў. Чаму ж аніхто з іх не заўважыў у ім такі вялікі лацінскі пласт — болей за 10% усяго матэрыялу? Няўжо індаеўрапеісты так слаба ведаюць лаціну?

Вось красамоўны прыклад. Слова waltida Зігмас Зінкявічус сам і аналізаваць не стаў, даверыўся масквічу Уладзіміру Тапарову. А той даў шматслоўнае і «шматмудрае» тлумачэнне:

«Думаю, что общая идея ясна. Ср. лит. valtis «колос», valtėti «колоситься», праславянское voltь: русск. волоть «стебель вместе с плодом» (колосом, стручком и т.д.); «пучок», «горсть стеблей», «нить, волокно» и тому подобное — как символы плодородия, процветания, роста, силы, ср. волот «богатырь», «великан» (БСИ-1983, с. 19).

Як бачым, тут і летувіскае «колас», і расейскае «сцябліна разам з коласам», і волот «асілак» — хутчэй за ўсё, неславянскага паходжання, бо ідзе ад назвы племя волатаў (гл. М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь, с. 40). А галоўнай крыніцы «яцвяжскага» waltida — лацінскага valetudo «стан здароўя» (ідзе ад valeo «быць здаровым») няма.

Ёсць у слоўнічку Зінова запазычанні і з іншых моваў Дунайскага басейна. Вось «яцвяжска»-румынскія паралелі: winta «вецер» — vint (вынт) «вецер»; guld «ляжаць» — culkat (кулкат) «які ляжыць»; daina «песня» — doina «песня»; buni «добра» — bun «добры». Асабліва каштоўнае апошняе супадзенне, як найболей поўнае і непаўторнае (слова Wind «вецер» ёсць у нямецкай мове, daina «песня» ва ўсіх балцкіх). Дарэчы сказаць, Зінкявічус дае такое няўпэўненае тлумачэнне: «Ці не трэба buni звязваць з летув. butinai «абавязкова»?» (БСИ-1983, с. 11).

Вось паралелі «яцвяжска»-грэцкія: lets «дождж» — ετος (юетос) «дождж»; gema «нарадзіць» — γενεα (гэнэа) «нараджэнне»; argikas «вясёлка» — αργος (аргос) «светлы, бліскучы»; tarmi «горача» — δερμα (тэрма) «жар»; pagis «добры» — παγιος (пагіос) «моцны, цвёрды»; gimna «сям'я» — Гіменэй (бог сям'і, а таксама вясельная песня); sula «дзіра» — συλην (сюлэн) «труба».

Слова rada «праца» Зінкявічус нечакана тлумачыць праз сербахарвацкае рад «праца» (с. 17). Але гэтую тэму — як трапіла ў «яцвяжскую» гаворку такое далёкае паўднёваславянскае слова — ён не развівае. Auu «вада» ўзводзіць да нямецкага Au/e/ «луг», востраў», «нізіна каля ракі» (с. 10). А тым часам у албанскай мове «вада» — ujë (вымаўляецца уйэ), што дастаткова блізкае па гучанні і супадае па сэнсе. Па-»яцвяжску» brid «алень», па-албанску bri «рог, рогі» (спадарожна: па-летувіску gajla «шкада» — па-албанску gajle «клопат», «непакой»).

А цяпер пераходзім да сапраўднай перліны слоўнічка Зінова: па-«яцвяжску» alma — «яблык». Нічога падобнага ў іншых балцкіх мовах няма. Зінкявічус піша: «Можа, варта звязваць з летув. alméti «марудна сачыцца», «цячы, гнаіцца», almuo «гной» і інш.?» І дадае: «У індаеўрапейскіх мовах для назвы яблыка нярэдка ўжываюцца гукі а, л, м у рознай паслядоўнасці, параўн. лацінск. malum, грэцк. μηλον (мэлон)» (с. 9).

Няўжо індаеўрапеісту забаронена хоць іншы раз вызірнуць з-за «жалезнай заслоны» індаеўрапейскасці? Няўжо шаноўны прафесар ніколі не чуў, як адшыфроўваецца сталіца Казахстана Алма-Ата (правільней Алматы)?

Слова алма «яблык» маецца ў розных цюркскіх мовах. Але, зразумела, «паганы з Нарава» ў цюркаў яго запазычыць не маглі, патрэбна іншае вырашэнне. І яно не цяжкае: па-венгерску — «яблык» — alma, а венгры, як вядома, жыхары Дунайскага басейна, суседзі румынаў, немцаў, грэкаў, сербахарватаў, албанцаў.

Перазоў слоўнічка Зінова з венгерскай мовай на alma не канчаецца. Па-«яцвяжску» мяса fala, па-венгерску falas «жратва» (слова fala Зінкявічус спрабуе звесці з латышскім gala «мяса», але gala хутчэй пайшло ад грэцкага γαλα /гала/ «малако»).

Зразумела, усяго тры паралелі, прычым karo і hars супадаюць не на 100%, а ў слове а у слове fala перапісчыкам слоўнічка, Зіновым, магла быць зробленая апіска (замест gala) малавата. Таму выключна важны момант — ці маглі быць венгерска-балцкія кантакты — праверым на іншых балцкіх мовах, у першую чаргу на летувіскай.

Па-летувіску «вайна» karas. А гэта бліжэйшае да венгерскага hars, чым «яцвяжскае» karo. Вось яшчэ: па-летувіску (як і ў іншых балцкіх мовах) «песня» — daina. А па-венгерску «песня» — dal. Ці ёсць тут сувязь? Можна дапусціць.

Але перапынімся для некалькіх заўваг. Венгерская, або мадзьярская мова займае асобнае становішча. Гэта — адзіная мова свайго роду ў Еўропе. Спецыялістаў па ёй у нас мала, а апрача спецыялістаў, як па-венгерску чытаць, ведаюць, можа, адзінкі. Таму прыходзіцца даць невялічкі «лікбез». Большасць венгерскіх гукаў, асабліва зычныя, не выходзіць за межы вядомых нам па вывучэнні еўрапейскіх моваў, але перадача пэўных з іх на пісьме своеасаблівая. Той, хто чытае па-польску, прывык, што літаразлучэннем sz перадаецца гук «ш». У венгерскай мове sz — «с»,

а «ш», наадварот, перадаецца літарай s. Літара y (ігрэк) аніякага гуку не перадае, гэта накшталт нашага мяккага знака. G — «г», але літаразлучэнне gy паказвае не мяккае «г», а мяккае «д» — «дь», як у слове magyar «мадзьяр» (венгр). Мабыць, раней за gy сапраўды стаяла мяккае «г» або гук сярэдні паміж «гь» ды «дь», як і сёння ў латышскай мове. Націск у венгерскіх словах заўсёды падае на першы склад, таму ён не ставіцца, а тое, што падобнае да знака націску, у сапраўднасці паказвае падваенне галоснага гуку; калі ж над літарай стаяць быццам бы два націскі, гук патройваецца. Але я для спрашчэння набору гэтых знакаў ставіць не буду. «Ö» ды «ü» з дзвюма кропкамі такія самыя, як у нямецкай мове. Літаразлучэнне cs перадае «ч», zs — «ж».

Што ж датычыць летувіскага правапісу, то ў ім літарай ę перадаецца гук, блізкі да нашага «я», а ė з кропкай над ёю — нашага «э»; летувіскае c — наша «ц», č — наша «ч», š — наша «ш», ž — наша «ж». Летувіскае y (ігрэк) — доўгае «і». Яшчэ летувісы ўжываюць надрадкоўныя ды падрадкоўныя знакі для паказу націску трох узораў, інтанацыі, працягласці галосных гукаў; я гэтых знакаў паказваць не буду, бо для нас яны не маюць значэння. Інфінітыў у летувіскай мове канчаецца на -ti, у венгерскай на -ni, але канчатак венгерскага інфінітыву даюць не ўсе слоўнікі, абмяжоўваючыся асновай — так буду рабіць для эканоміі набору і я.

Пачынаем. Першым пойдзе слова летувіскае, пасля працяжніка — венгерскае:

baksnoti «басці» — bŏk «басці»;
bieca «атрута» — pac «атрута»;
čerškėti «бразгаць» — csŏrŏg, csörget «бразгаць»;
čypti «пішчаць» — csipag «пішчаць»;
čiuožti «слізгацець» — csuszik «слізгацець»;
deremas «які трэба» — derek «добры, слаўны»;
dobti «біць» — dobol «біць у барабан»;
durti «калоць» — darabol «калоць»;
gydyti «лячыць» — gyogit «лячыць»;
gobšas «сквапны, карыслівы» — kapszi «сквапны, карыслівы»;
gumbas «клубень», gumulas «камяк» — gumo «клубень», gŏmb «шар», gombos «клёцка»;
kabė «дужка» — kapocs «дужка»;
kabus «учэпісты» — kapaszkodo «учэпісты» (kodo гэта суфікс);
kampinas «дуга» — kampo «крук»;
karas «вайна» — hars «бой»;

karkti « храпець» — horkol « храпець»;
kaupas «куча» — kupac «куча»;
kautis «біцца» — csata «бітва»;
kėlti «будзіць» — kelt «будзіць»;
kicėnti «трухаць» — kowg «трухаць»;
kilpos «пастка» — kelepce «пастка»;
kosėti «кашляць» — kõhõg «кашляць» — kranksti «перхаць» — krakog «перхаць»;
kurkti «квакаць» — kuruttyol «квакаць»;
laiptas «прыступка» — lepcso «прыступка»;
lenkė «лагчына» — lankas «спадзісты»;
liemenė «камізэлька» — melleny «камізэлька»;
linguoti «калыхацца» — leng «калыхацца»;
maumas «жупел» — mumas «жупел»;
mauroti «гырчаць» — morog «гырчаць»;
mažas «малы» — morzsa «крошка»;
mazgoti «мыць» — moc «мыць», mosogat «мыць посуд»;
mostas «жэст» — mozdulat «жэст»;
mosuoti «махаць» — mozog «варушыцца, рухацца»;
paikas «дурны» — pajkos «гарэзлівы, шалапутны»;
pašiure «пуня» — feszer «пуня»;
pirtis «лазня» — firdes «лазня»;
pulkas «зграя» — falka «зграя»;
pieputis «ціпун» — pip «ціпун»;
rabėti «грукатаць» — robaj «гром, грукат»;
raide «літара» — rair «пісаць» — raiz «малюнак»;
raistas «коннік» — rajt «старт», rajta! «пайшоў!»;
rengti «рыхтаваць, наладжваць» — rendez «наладжваць»;
rykauti «гыркаць» — rikkant «гыркаць»;
rikė «капа» — rakas «капа валасоў»;
rodiklis «дышаль» — rud «жардзіна»;
ruja «зграя» — raj «зграя»;
saitas «прывязка» — szij «прывязка»;
seklus «мелкі» — sekely «мелкі»;
sekmė «удача» — siker «удача»;
siauras «цесны», вузкі» — szoros «цесны»;
sirgti «хварэць» — szurkol «хвалявацца»;
siulas «нітка» — szal «нітка»;
šokti «скакаць; рынуцца» — szõkes «уцёкі», szõkdecsel «скакаць»;
šikšna «рэмень» — szij «рэмень»;
širvas, širmas «сівы» — szũrke «сівы»;
šutas, šutra «гарачыня» — sũt «грэць, пражыць»;

tešmuo «вымя» — tõgy «вымя», tehen «карова», tej «малако»;
trešti «угнойваць» — tragyar «угнойваць»;
tureti «трымаць» — tart «трымаць»;
vada «зачэпка, прычына» — vad «абвінавачванне»;
vaga «баразна» — vag «рэзаць»;
vieta «мясцовасць» — videk «мясцовасць»;
vogti «красці» — fog «браць, узяць»; «лавіць»;
urvas «нара» — ũreg «нара»;
žabokles «цуглі» — zabla «цуглі»;
žaltis «гад» /змяя/ — galat «гад» /змяя/;
žiotys «зеў» /у кроснах/ — szad «зеў» /у кроснах/.

Той чытач, які мала знаёмы з этымалагічнымі працамі, можа зазначыць, што не ўсе з прыведзеных паралеляў супадаюць у дастатковай ступені, каб лічыць словы залежнымі адно ад аднаго. Але трэба разумець, што ў кожнай мове свая гукавая сістэма, з-за чаго далёка не кожнае запазычанае слова ў мове-прымальніцы застаецца ў тым сама выглядзе, што і ў мове-донару.

Напрыклад, у нас даўней не было гуку «ф», які і сёння змяшчаецца толькі ў запазычаных словах. Таму ў тых выпадках, калі з чужой мовы бралася слова з «ф», гук гэты перарабляўся ў «хв» (Хвелар), «кв» (квасоля), «п» (Пёкла замест Фёкла). У летувіскай мове таксама няма спрадвечнага «ф», таму, запазычваючы з венгерскай такія словы, як falka «зграя», feszer «пуня», fog «браць, лавіць», продкі летувісаў мусілі мяняць яго на нейкі ўласны — зразумела, дастаткова блізкі, у выніку чаго атрымлівалася pašiurė «пуня», pulkas «зграя», vogti «красці». Калі параўноўваць нашы словы з летувіскімі, можна заўважыць, што нашаму пачатковаму «ж» у летувіскай мове часта адпавядае «г»: жалеза — geležis, жоўты — geltonas. А вось у пары венгерскае gelat «гад» — летувіскае žaltis «гад» бачым наадваротнае: тут чужому «г» адпавядае летувіскае «ж». Гэта ўжо можа быць індывідуальнай асаблівасцю венгерска-летувіскіх паралеляў.

Потым: прыведзеныя мной пары шукаліся ў літаратурных, г. зн. апрацаваных і ўнармаваных словах, якіх у старажытнасці яшчэ не было. Тады людзі карысталіся дыялектнымі гаворкамі, якія адрозніваліся паміж сабой. І тое, што нам здаецца несупадзеннем, можа быць адлюстраваннем старажытных дыялектаў, як венгерскіх, так і летувіскіх.

Вядома, не выключана, што нейкія з адзначаных паралеляў утварыліся выпадкова, і этымолагі іх не прызнаюць. Але калі нават забракаваць і палову, то ўсё адно застанецца дастаткова шмат каранёў, запазычаных або з венгерскай у летувіскую, або з летувіскай у венгерскую мову. А трэба ж мець на ўвазе, што шукаў супадзенні чалавек, які не ведае ні той, ні другой. Калі б на маім месцы быў даследчык, што валодае хаця б адной з іх, — думаю, «улоў» быў бы значна большы.

Ды яшчэ мушу сказаць, што ўключыў у пералік не ўсе напатканыя мной пары, сумняваючыся з розных прычын. Адна з іх тая, што падобныя словы маюцца ў іншых мовах. І ўсё ж: павенгерску kard «шабля, меч» — і па-летувіску kardas «шабля, меч». І ў польскай маецца kord «кароткі меч, палаш». Але, улічваючы, што значэння «шабля» польскае kord не мае, можна дапусціць, што венгерска-летувіская паралель абышлася без польскага ўдзелу. Па-венгерску varsa (варша), па-летувіску varža (варжа), па-польску wiersza (верша) — усе тры словы азначаюць «венцер», але летувіскае і венгерскае па гучанні бліжэйшыя. Павенгерску fenyö — «сасна, піхта», тыя ж сама значэнні мае летувіскае kėnys; па-нямецку kien «сасновы», але гэты корань у нямецкай мове не мае дачынення да піхты, піхта тут абазначаецца адным словам не з сасною, а з елкай (Tanne). Таму можна дапусціць, што летувіскае перайшло з венгерскай, а нямецкае з летувіскай, бо пры непасрэдным пераходзе з венгерскай у нямецкую «f» у «k» не перайшоў бы, у нямецкай мове «f» маецца.

Заўважаюцца ў венгерскай і летувіскай мовах таксама словы, якія ў адной з іх даўжэйшыя на адну пачатковую літару: «рослы» — па-венгерску magas, па-летувіску augus; «ягада» — па-венгерску bogyo, па-летувіску uoga; «кошт» — па-летувіску vertė, па-венгерску ertek; «сляза» — па-летувіску ašara, па-венгерску siras . Ці ёсць сувязь паміж гэтымі словамі, хай высвятляюць этымолагі.

Летувіская і венгерская мова належаць да розных сем'яў: першая лічыцца індаеўрапейскай, другая — фіна-вугорскай. Прычым найбліжэйшыя родзічы венграў па мове — ханты і мансі, жыхары Заходняй Сібіры. На сваю сённяшнюю зямлю, у Венгрыю, яны прыйшлі толькі ў 896 годзе; перад там стагоддзе качавалі ў Прычарнаморскіх стэпах, а яшчэ раней — у данскіх (глядзі ИВ, с. 67 і далей). Летувісы ж, як сцвярджаецца, ніколі не

пакідалі Прыбалтыку. Растлумачыць адзначаныя супадзенні паходжаннем моваў з адной крыніцы нельга — і кантактаў паміж носьбітамі іх нібыта не было. Адкуль жа яны тады ўзяліся?

Зробім невялікае адступленне. Яшчэ ў 1957 годзе расейскі лінгвіст Б. Сярэбранікаў надрукаваў у Летуве ўжо згадваны намі сціслы, але вельмі цікавы матэрыялам артыкул, у якім прывёў больш за тры дзесяткі знойдзеных ім супадзенняў летувіскіх і латышскіх словаў з мардоўскімі, марыйскімі, удмурцкімі, комі і нават мансійскімі. Да якой жа высновы прыйшоў даследчык? Вось да якой: «Калі прыведзеныя паралелі ў нейкай ступені адлюстроўваюць ісціну, то... можна дапусціць наяўнасць у лясной палосе Волга-Клязьмінскага міжрэчча да з'яўлення ў гэтых мясцінах славянаў нейкай індаеўрапейскай мовы, вельмі блізкай да сучасных балцкіх моваў (Б.А. Серебренников. О некоторых следах... Труды Академии наук Литовской ССР, серия А, I. 1957, с. 71). Такім чынам, Сярэбранікаў выказаў думку, што непасрэднага кантакту паміж продкамі сучасных балцкіх народаў і пералічаных фіна-вугорскіх не было, а агледжаныя ім словы трапілі ў фіна-вугорскія мовы з нейкай балцкай — не летувіскай і не латышскай, якая нібыта існавала ў «лясной палосе Волга-Клязьмінскага міжрэчча».

Калі так, то паміж Волгай ды Клязьмай мусілі застацца тапанімічныя сляды таямнічага балцкага народа. Але Сярэбранікаў тапаніміку абранага ім рэгіёна не аналізуе і аніводнага балцкага тапоніма з гэтага міжрэчча не прыводзіць, так што застаецца абсалютна незразумелым, з чаго ён ўзяў, што прыдуманы ім народ жыў менавіта тут (зрабіў такі сур'ёзны ўплыў на кучу моваў, а ад самога і назвы не засталося!). А напрыклад Тапароў, хаця і нацягвае «балцкую коўдру» аж на Маскву, тапаніміку на ўсход ад Масквы лічыць суцэльнай фіна-вугорскай (В.Н. Топоров. Древняя Москва в балтийской перспективе. БСИ-1981. М., 1982, с. 3)

Прыпісваючы ўсе балта-фіна-вугорскія паралелі існаванню гэтага народа, што не пакінуў слядоў ні ў гісторыі, ні ў тапаніміцы, Сярэбранікаў такім спосабам сцвярджае, што літаральна ўсе балцка-фіна-вугорскія паралелі, агледжаныя ім, мелі адзін кірунак запазычання: з балцкіх моваў у фіна-вугорскія. Але ізноў жа аніякага філалагічнага аналізу, каб давесці гэта, не робіць.

У падобным стаўленні да балцкіх і фіна-вугорскіх моваў Сярэбранікаў не адзінокі. Не толькі расейскія, латышскія, летувіскія, нашы беларускія — нават і комі, эстонскія, суомі лінгвісты лічуць абсалютна бясспрэчным нейкі прыярытэт, перавагу балцкіх моваў над фіна-вугорскімі, і калі агледжваюць балта-фіна-вугорскую паралель, дык адразу абвяшчаюць слова балцкім, а потым ужо варожаць, якім шляхам яно магло трапіць у фіна-вугорскія мовы, іншым разам вельмі далёкія ад Прыбалтыкі, як комі-зыранская. Так можа стацца і з летувіска-венгерскімі паралелямі: глядзіш, і знойдзецца хто-небудзь — прыдумае яшчэ адзін балцкі народ, ды і ўладкуе ў Венгрыі, чым усё і растлумачыць.

Дык вось: хачу папярэдзіць такія спробы. Летувіска-венгерскіх паралеляў занадта шмат, каб яны маглі ўтварыцца дзякуючы мове-пасрэдніку. Гэта — раз.

Па-другое — нават і самы павярхоўны аналіз паказвае: напрамак летувіска-венгерскіх запазычанняў — узаемны. Вышэй на прыкладзе словаў, што ў венгерскай мове пачынаюцца з «f», а летувіскай з «p» ды «v», ужо было паказана, што тут напрамак запазычання — з венгерскай у летувіскую, бо ў венгерскай «p» ды «v» маюцца, і пры запазычанні зусім неабавязкова ператвараць іх у «f», а летувіскай «f» неўласцівае, чаму і ўзнікае патрэба ў яго замене. Або паралель: летувіскае karas «вайна» — венгерскае hars «бой». Калі запазычанне ішло ў венгерскім кірунку, то так бы і засталося, перадаючы нашымі літарамі, «карас», бо ўсе гукі гэтага слова ў венгерскай мове ёсць. Венгерскае ж hars (харц) пры запазычанні ў летувіскую мову абавязкова мусіла ператварыцца ў karas, бо, па-першае, у летувіскай мове няма «х», па-другое, слова не можа канчацца на «ц». А раз у летувіскай мове маюцца венгерскія словы, прычым не адно і не два, а шмат — абсалютна ясна, што з венграмі кантактавау не неикі іншы балцкі народ, а продкі саміх летувісаў.

Вядома, што да сённяшняга дня летувісы падзяляюцца на žemaičiai і aukštičiai, што ў літаральным перакладзе азначае «жыхары ніжняй мясцовасці» і «жыхары верхняй мясцовасці». Узнікненне гэтых, не геаграфічных (як «менчукі, «віцябляне»), а этнаграфічных груп, як сцвярджаецца ў шматлікіх выданнях, было выклікана нібыта розніцай у рэльефе: маўляў, Жамайція

(у летапісах Жамойць) — нізіна, і Аўштайція (у летапісах Аўкштота) — узвышша.

Але калі бліжэй пазнаёміцца з геаграфіяй Летувы, то высвятляецца, што яе найвышэйшыя пункты не перабольшваюць 300 метраў над узроўнем мора, у той жа час найвышэйшыя пункты Сярэдне-Летувіскай нізіны дасягаюць 90 метраў (Литва, с. 12), так што для звычайнага чалавека — не географа — мясцовыя «верх» і «ніз» нічым асаблівым не адрозніваюцца, — дык што ўжо і гаварыць пра тое, каб такія «верх» і «ніз» спрычыніліся да ўтварэння этнаграфічных асаблівасцяў. Да таго ж на поўначы Жамойці маецца Жамойцкае ўзвышша, якое па вышыні практычна не саступае Аўкштоцкаму (Литва, с. 127, 256), а межы Аўкштоты ў мінулым «мяняліся» (Литва, с. 127). Археолагі размяшчаюць племя аўкштотаў паміж рэкамі Швянтойі ды Нявежіс, г. зн. акурат на Сярэдне-Летувіскай нізіне (ФУБ, с. 382; аўтар раздзела В.В. Сядоў).

Уся гэтая незразумельшчына можа быць вытлумачана толькі тым, што этнаграфічныя групы жамойтаў і аўкштотаў сфармаваліся недзе ў іншым месцы і ў сучасную Летуву прыйшлі ў «гатовым выглядзе», і не яны называюцца па тутэйшых мясцовасцях, а мясцовасці сталі называцца па гэтых этнаграфічных групах. А паколькі аўкштоты, у адрозненне ад жамойтаў, былі групай невялікай і мянялі сваё месцазнаходжанне, то мяняла свае межы і Аўкштота.

Латышы таксама склаліся з двух плямёнаў — земгалаў і латгалаў. Гэтыя назвы таксама не атрымалі належнага тлумачэння. Элемент -гал узводзіцца да латышскага gals «канец», у сувязі з чым слова «земгал» адшыфроўваюць як «ніжні канец», бо па-латышску zems, як па-летувіску zemas «нізкі». Але чаму людзі назвалі сябе «ніжнім канцом»? І калі земгал — «ніжні канец», то які «канец» латгал? На гэта адказу не даецца. «Сучасную назву краіны Latvija і саманазву latvietis (латышы) звязваюць з назвай ракі Late (гл. Р. Агеева-1, с. 52–53).

Мабыць, даследчыкам не прыходзіць на памяць, што ў расейскай мове, як і беларускай, польскай, слова край (а гэта тое сама, што канец) адначасова азначае «краіна». Гэта невыпадкова, таму што кожная краіна абмяжоўваецца нейкім краем. Дык чаму не магло ў старажытнасці і латышскае gals адначасова з «канец, край» азначаць «краіна»?

Латгалы, земгалы — гэта словы не латышскія: расейскія, нашы. А латышы кажуць: latgalietis. Латгалія ж для латышоў — Latgale: г. зн. латгал — «жыхар Латгаліі», і таму для нас правільней было б называць латтальцамі, земгалаў — земгальцамі. Цяпер усё робіцца больш зразумелым: гэта не земгалы — «ніжні канец», а Земгалія — «ніжняя краіна», земгальцы ж — ейныя жыхары. А Латгалія? Раз Земгалія — «ніжняя краіна», то, можа, Латгалія — «верхняя»? Толькі вось у латышскай мове слова lat у значэнні «верхні» няма. Але па-эстонску laty — «вярхушка». А эстонцы — цесныя суседзі латышоў. І прызнаецца, што латышская мова зазнала моцны ўплыў эстонскай (гл. ЛЭС, Балтийские языки, Латвийский язык). Латв-гале вымаўляецца цяжка — зразумела, -в- проста павінна было выпасці. А вось у назве Latvija ў болей спрыяльным гукавым атачэнні яно захавалася.

Што ж атрымліваецца? Летувісы — ніжнія-верхнія, латышы — верхнія-ніжнія... Адкуль гэта? Тым болей, што ў дачыненні да Латвіі казаць пра верх-ніз увогуле бяссэнсна. Тым не менней усходні латышскі дыялект называюць верхнелатышскім (ЯН СССР, том 1, с. 497).

Накіруемся зноў у Венгрыю. Магутны Дунай, што цячэ праз яе строга з поўначы на поўдзень, падзяляе гэтую краіну на дзве часткі: усходнюю — Альфёльд ды заходнюю — Дунантул, што літаральна азначае «за Дунаем». Але гэтая назва ўзнікла толькі пасля прыходу венграў, а з антычных часоў Дунантул зваўся Панонія ад племя панонаў, што здаўна жыло тут. Племя гэтае па мове, лічыцца, было ілірыйскім. На пачатку нашай эры ў Панонію прыйшлі рымляне і далучылі яе да свае правінцыі, што называлася Ілірыкам. Ілірык з-за гэтага стаў занадта груваcткім, і ў 24 годзе н.э. быў падзелены для зручнасці кіравання на Верхні Ілірык — Далмацыю і Ніжні — Панонію. Але гэтым не скончылася. Пры імператары Траяне, у 107 годзе ўжо Панонію «распалавінілі» на Верхнюю і Ніжнюю. Мяжа паміж Верхняй і Ніжняй Паноніяй ішла з поўначы на поўдзень ад Дуная да Савы паўз возера Балатан (ИВ, с. 30, 36, 40). Падзел Паноніі на Верхнюю і Ніжнюю захоўваўся вельмі доўга. Так, іх можна ўбачыць на карце «Моравское княжество», змешчанай у 27 томе другога выдання БСЭ на с. 274, а Мараўскае княства існавала у IX стагоддзі (яго разбурылі венгры). У параўнанні з рымскімі часамі тут толькі

тая розніца, што мяжа паміж Верхняй Панoніяй і Ніжняй ідзе па рацэ Раба (Раб).

Адміністрацыйны падзел Паноніі на Верхнюю і Ніжнюю, такім чынам, дзейнічаў не меней за 806 гадоў і быў для жыхароў яе настолькі звычным, што замяняў этнічныя імёны, якіх тут перабыло за тыя стагоддзі безліч (мы яшчэ гэта пабачым): адны былі «верхнія», незалежна ад моваў і гаворак, другія — «ніжнія». Вось чаму і летувісы, і латышы, што прыйшлі ў Прыбалтыку адсюль, аказваюцца і «верхнімі», і «ніжнімі», а дакладней, «жыхарамі верхняй зямлі» і «жыхарамі ніжняй зямлі», хаця на сённяшніх іх землях ніякага верху і нізу няма (Ніжняя Панонія, нізінная, прылягала да Дуная, а Верхняя ўяўляла з сябе сярэднягор'е).



ПАННОНИЯ I–II вв.

Я ўжо казаў, што паводле ЛЭС, у Паноніі маюцца тапонімы, якія адшыфроўваюцца з дапамогай балцкіх моваў. Але у ЛЭС няма аніводнага прыкладу, падрабязных картаў Венгрыі адшукаць не ўдалося. Але вось некалькі фактаў. «История Венгрии» (том I) паведамляе: возера Балатан, што да прыходу венграў насіла славянскае імя <u>Блатно</u> (Балотнае), у рымскія

часы называлася Пельса (ИВ, с. 39), а па-летувіску pelkė — «балота»! Там жа, на старонцы 72, сказана, што адна з рэкаў Панонії ў 454 годзе называлася Неда — рака з падобнай назвай Ніда цячэ ў Прыбалтыцы, па зямлі старажытных прусаў. У Балатан з паўднёвага захаду ўпадае рака Зала — па-латышску zale «трава»; з Балатана ў Дунай цячэ Шыо, а па-летувіску — šuo (шуо) — «сабака». («Сабачыя» рэкі ў тапаніміцы вядомыя: напрыклад, вялікую раку ў Якуціі Індыгірку ў XVII ст. расейскія землепраходцы называлі Сабачай). Першапачаткова Дунаи зваўся Істрам; у Летуве ёсць рака Істрас.

А ў той жа час далёка не ўсе аказваюцца балцкімі гідронімамі Латвіі ці Летувы. Так, не вырашаецца з балцкага матэрыялу назва Нёман (гл. М. Фасмер, том III; КТСБ). А ў Комі рэспубліцы маюцца рэкі Немын, Нем (ГНК).

Ды не толькі Нёман мае «пару» за межамі Прыбалтыкі. Наша Вілія ў Летуве вядомая як Няріс (Neris). Рака Нэрис маецца і ў Комі рэспубліцы /ГНК/. Прычым, калі з летувіскай мовы Няріс, па сутнасці, не раскрываецца, то па-комі нэрис — «узвышша, пагорак» (гл. КЭСКЯ, Нöрис). У комі мове, як і ў іншых фіна-вугорскіх, назоўнік у сваёй уласнай форме, без дадатковых суфіксаў і канчаткаў можа выконваць ролю прыметніка. Адсюль ясна, што назва ракі Нэрис — не «Пагорак», а «Пагорачная», «З пагоркамі». А ў Летуве Няріс якраз і ідзе паміж пагоркамі: «прарываючыся праз адгор'е Ашмянскага ўзвышша, робіць вялікую луку» (Литва, с. 440). У басейне Акі маецца рака Нериста (ГБО, с. 137).

Па Беларусі і Летуве цячэ Мяркіс; у басейне ракі Масквы ёсць рака Мерка, у Карэліі возера Мерк-ярве. Летувіскай рацэ Няважіс адпавядае Невежа ў Тульскай вобласці; у Летуве рака Шушве — у Тамбоўскай вобласці Шушляй (ляй, лей па-мардоўску — «рака»); у Летуве Дубіса — у Тульскай вобласці Дубича; у Летуве Юра (гэтая рака ўпадае ў Нёман і ейная назва не можа быць супастаўленай з летувіскім jura «мора») — ва Уладзімірскай вобласці рака Юра і возера Юра, у Тамбоўскай — рака Юр; у Летуве Мінія — ва Уладзімірскай вобласці Мининка, Минька; у Летуве Муша — у Тамбоўскай вобласці Мушка і г.д.

Шэраг рэкаў у Прыбалтыцы мае назвы з -ва: Аунува, Ашва, Бябірва ды інш. А як вядома, гэта — гідранімічны зыход пермскі, бо ў комі-зыранскай і комі-пярмяцкай мовах ва — «рака». У ле-

тувіскай жа мове, як і латышскай, -ва такога значэння не мае, не з'яўляецца -ва ў гэтых мовах і канчаткам прыметніка, як у карэльскай, пра што мы ўжо гаварылі.

А вось сведчанне чалавека, які ад нараджэння жыве ў Летуве і родная мова якога — летувіская, жыхара Вільні Вацлаваса Валанцеюса: «Подавляющее большинство названий литовских рек ничего для нас не означают. В таком случае они не литовского происхождения». І далей Валанцеюс прыводзіць такія прыкмечаныя ім факты: у Цвярской вобласці — возера Селигер, у Летуве — рака Сілігір; у той жа час: у Югаславіі Драва — у Летуве Саусдравас; у Летуве Купа — у Югаславіі Купа; у Летуве Алса — у Чэхаславаччыне Ольша; па-летувіску «рака» upė — у Чэхаславаччыне рака Упа (дадам ад сябе, што ў Летуве таксама ёсць рака Упэ, а шэраг рачных назваў канчаецца на -упэ, -упіс).

Такім чынам, на карысць паходжання летувісаў (і, зразумела, балтаў увогуле) з Дунайскага басейна, а канкрэтна — з Паноніі гавораць: наяўнасць звычайных (а не тэрміналагічных або рэлігійных) лацінскіх славаў у летувіскай мове; наяўнасць у летувіскай мове ілірыйскіх і дака-фракійскіх слядоў; наяўнасць летувіска- ды латышска-румынскіх моўных паралеляў; наяўнасць балцкай гідраніміі ў Паноніі, Югаславіі ды Чэхаславаччыне, у той жа час невыразнасць з летувіскай мовы пераважнай масы найзначнейшых гідронімаў Летувы; саманазвы летувісаў і латышоў як «верхніх» і «ніжніх»; і нарэшце, вялікі пласт летувіска-венгерскіх лексічных паралеляў.

А што могуць супрацьпаставіць усяму гэтаму прыхільнікі погляду, што балты склаліся як этнасы ды не выходзячы пяць тысяч гадоў жылі ў Прыбалтыцы? Ды нічога. Гэты погляд нічым не даведзены. Ён — аксіёма, якая быццам бы і не патрабуе доказаў. Усё, што гэтай аксіёме не адпавядае, або «не заўважаецца», або вытлумачваецца самым недарэчным чынам.

Так, вышэй ужо казалася, што антычныя аўтары не згадваюць у Прыбалтыцы ні літву, ні жамойць, ні земгалаў з латгаламі, ні прусаў, затое пасяляюць у ёй іншыя плямёны: карэотаў, осіяў, галіндаў — гэта значыць, нельга сказаць, што анічога пра гэты край не ведалі. Ужо форма осіі крыху нагадвае «эстонцаў»; яшчэ бліжэйшае да апошняга эсціі або айсціі, як называлі жыхароў Прыбалтыкі ў пасляантычны час. Але паколькі эсціі лакалізаваліся старажытнымі аўтарамі ў Летуве, то абвяшчаюцца яны...

балтамі: «Старажытная назва балцкіх плямёнаў — <u>эсціі</u> або <u>айсціі</u> (<u>Aesti</u>), паходжанне яе не ўстаноўлена». А як жа быць з тым, што сёння эсціі (эстонцы) — зусім не балцкае племя, а народ фіна-вугорскай групы? На гэта даследчык этнонімаў піша: «У далейшым гэтае імя перайшло на прыбалтыйскіх фінаў — эстонцаў» (Р. Агеева-1, с. 49). Чаму перайшло? Чаму эстонцы ўзялі чужое імя? Адказ шукаць бескарысна.

Гідранімія Летувы, Латвіі ды Усходняй Прусіі такімі даследчыкамі, як А.М. Трубачоў, У.М. Тапароў ды іх школа, без усякага аналізу абвешчаная скрозь балцкай, хоць у большай частцы сваёй з балцкіх моваў не вырашаецца. І знайшоўшы дзе-небудзь у іншых краях такія ж, як у Прыбалтыцы, тапонімы, балтафілы сцвярджаюць: тут жылі балты. Даходзіць да смешнага: балты, на погляд іх, сягалі аж да Башкірыі — на той падставе, мабыць, што назва ракі Уфа нагадвае летувіска-латышскае упэ «рака» (гл. Р. А. Агеева. Проблемы межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточно-славянской территории. БСИ — 1980. М., 1981, с. 144).

Такія ж падвышаныя, перабольшаныя ацэнкі даюцца і балцкім мовам. Яны «паўней захоўваюць старажытную індаеўрапейскую моўную сістэму, чым іншыя сучасныя групы індаеўрапейскіх моваў. Існуе пункт гледжання, згодна з якім балцкія мовы ўяўляюць з сябе рэштку старажытнай індаеўрапейскай гаворкі, што захавалася пасля вылучэння з гэтай сям'і іншых індаеўрапейскіх моваў» (В.Н. Топоров. Балтийские языки. ЛЭС, с. 64). Асабліва ж расхвальваецца летувіская мова: «Летувіская мова — самая архаічная з усіх жывых індаеўрапейскіх моваў; яна лепш захавала гукавую сістэму індаеўрапейскай пра-мовы (а хто тую пра-мову чуў? — *Аўт.*), шмат марфалагічных асаблівасцяў» (Литва, с. 384). Калі для латышскай мовы яшчэ прызнаецца пэўная колькасць фіна-вугорскіх запазычанняў, то ў летувіскай іх нібыта лічаныя адзінкі. Ці не таму, што «яны пакуль што вельмі мала вывучаныя»? (ЯН СССР, том I, с. 520.)

Тэзіс аб выключнай архаічнасці балцкіх моваў палягае, па сутнасці, на нічым не даведзеным уяўленні, што балты як група этнасаў склаліся ў Прыбалтыцы і спрадвечна месціліся тут. Маўляў, жылі сабе ў закутку, пазбаўленыя моўных уплываў, а тым часам у мовах іншых агледжваюцца паралелі з самымі рознымі індаеўрапейскімі мовамі: і з лацінай, і з санскрытам, і з іранскімі

мовамі, ілірыйскай, кельцкімі, германскімі... Маўляў, адкуль бы яны ўзяліся, калі б балцкія мовы не былі «рэшткай старажытнай індаеўрапейскай гаворкі»?

Цяпер мы ведаем, адкуль. Паглядзіце на сучасную карту Еўропы. Даліна Дуная на ёй — як доўгая зялёная стужка паміж жоўта-карычневымі стужкамі гор. Гэта яна вяла ў сэрца Еўропы чалавечыя орды, служачы ім натуральнай дарогай, па ёй бясконцыя стагоддзі рухаліся яны і з усходу на захад, і з захаду на ўсход. І заўсёды на гэтым шляху аказвалася Панонія, хто б і куды не ішоў.

Яшчэ ў стагоддзі да нашай эры тут з'явіліся кельты. Панавалі яны аж да 88 года да н.э., калі ім учынілі разгром рымляне. Але ілірыйцы і паноны нядоўга заставаліся вольнымі. Па хуткім часе сваю ўладу тут усталяваў Рым — на 400 гадоў. Уздоўж Дуная рымляне стварылі ланцуг умацаванняў і крэпасцяў. А па другім беразе сноўдалі самыя розныя варвары: фракійцы, дакі, потым германцы (маркаманы, готы, гепіды ды інш.). Прарываючы «лімес» (умацаваную мяжу імперыі), варвары ўчынялі набегі аж на Італію, — што ўжо казаць пра Панонію! У трэцім стагоддзі ў Альфёльд прыйшлі іранамоўныя аланы, бараны, герулы, уругунды, у сярэдзіне IV стагоддзя — сарматы. У 401 годзе на Альфёльд заявіліся гуны, каб панаваць 50 гадоў. Гунаў змянілі германцы, тых — авары (558 г.). Авары прывялі з сабою славянаў, што складалі важную частку іхніх узброеных сілаў. Гэта дзякуючы славянам Аварскі каганат трымаўся аж да 796 года, пакуль яго не зруйнавалі франкі (германцы). У Паноніі ўтвараецца славянскае Блаценскае, або Панонскае княства — яшчэ да прыходу венграў (мадзьяраў)*.

Людзі з іншых краін, часцяком вельмі далёкіх, прыходзілі сюды не толькі як заваёўнікі і не заўжды па сваёй волі. Асабліва гэта тычыцца рымскіх часоў. Неабдымная імперыя прасціралася ад Атлантычнага акіяну да Персіі — па ўсім бязмежжы гэтым бясконца перакочваліся чалавечыя масы: кудысьці ішлі салдаты, насустрач ім гналі рабоў, цягнуліся караваны з таварам... З канца II стагоддзя ў Паноніі ў вялікай колькасці з'яўляюцца ўра-

---

* Блаценскае княства (Blatenske knizectvi) існавала ў IX стагоддзі вакол возера Балатан (Блацен). Галоўны горад — Блаценград. Першы князь – Прыбіна (у 842–860 гг.), другі — яго сын Коцел (у 860–874 гг.). У 874 годзе франкі пакарылі княства, а Коцела забілі. — *Рэд*

джэнцы Усходу: Сірыі, Віфініі, Іудзеі, Егіпта, Кападокіі (ИВ, с. 40). Насельніцтва Паноніі робіцца чымсьці накшталт вавілонскага падчас «стоўпатварэння». Аб гэтым сведчыць тадышняе рэлігійнае жыццё: «Было шырока распаўсюджанае шанаванне дзяржауных багоў Рыма... шанаваліся грэцкія багі — Геракл, Немезіда, Асклепій; егіпецкія — Ізіда і Серапіс, кельцкая багіня Эпона ды іншыя. Шматлікіх прыхільнікаў, асабліва сярод вай-



скоўцаў і рабоў. меў Мітра — іранскае боства святла. /.../ Мітра доўга заставаўся адным з найболей нязломных сапернікаў хрысціянства. Шырокае распаўсюджанне, асабліва ў вайсковым асяроддзі, атрымаў культ Юпітэра Даліхена — боства сірыйскага паходжання. Шанаваўся таксама «Дунайскі коннік» — боства, што ўзнікла на Дунаі ўжо ў перыяд імперыі» (ИВ, с. 50).

Што ж рабілася ў такіх умовах з карэнным насельніцтвам, з ягонай мовай? Зразумела, што калі б гэтая мова захоўвалася некранутай, то гэта азначала б пастаянную канфрантацыю з прыбышамі, імкненне да стварэння і падтрымання ўласнай дзяржавы, як гэта было, да прыкладу, з армянамі. Нічога падобнага ў Паноніі не назіраем. Заваёўнікі мянялі адзін аднаго, а мясцовае насельніцтва кожны раз падпарадкоўвалася ім без аніякага супраціву. Анічога не ведае гісторыя і пра ягоныя паўстанні. Значыць, жыхарства Паноніі кожны раз зрасталася з новымі прыбышамі, засвойвала іх звычаі і мову (гэта меней тычыцца такіх качэўнікаў, як гуны ды авары, што жылі галоўным чынам у стэпах Альфёльда). Дык у выніку і іх уласная мова з кожным новым нашэсцем насычалася новым матэрыялам. Тым і можна тлумачыць наяўнасць у балцкіх мовах лацінскіх, кельцкіх, германскіх, іранскіх, індыйскіх і іншых словаў. Апошнім з нашэсцяў да прыходу венграў было славянскае — адсюль і безліч славянізмаў, якія падаюцца лінгвістамі як вынік «агульнага паходжання» балцкіх і славянскіх моваў.

Быццам бы бачыўшы перадгісторыю летувісаў, мінуластагодні даследчык пісаў: «Паводле назіранняў... летувісы недаверлівыя, пры першым знаёмстве несумоўныя... з асцярожнасці, якою яны ў найвышэйшай ступені вызначаюцца. Рыса гэтая выпрацавалася ў летувісах гістарычна: вельмі ўжо часта даводзілася ім пераходзіць з аднаго падпарадкавання ў другое, дык яны перасталі нават разумець, каму падначальвацца, каго слухаць, і да ўсіх сталі ставіцца падазрона. /.../ «Флегма» летувісаў... увайшла ў прымаўку; аніякі іншы народ не пакараецца зменлівасцям жыцця з такім непарушным спакоем. /.../ Яшчэ ў 2-й палове XVI ст. летувісы, засуджаныя на смерць, вешалі сябе ўласнымі рукамі» (ЭСБЕ, том 34, с. 628).

І гэты народ, сцвярджаецца, <u>заваяваў</u> Беларусь і Украіну, сотні гадоў панаваў у бяскрайнім гаспадарстве!

Чаму ж пры такой звычцы падпарадкоўвацца будучыя «балты» ўрэшце пакінулі сваю адвечную радзіму, падаліся на не вельмі ўтульную поўнач?

Аварскі каганат быў фактычна дафеадальным утварэннем. Гэта значыць, авары бралі даніну — і не болей. Земляробствам яны не займаліся, праца прыгонных сялян ім не была патрэбнай. Калі ж каганат быў разбураны, на месца яго прыйшлі феадалы, славянскія ды франкскія. Пачалося запрыгоньванне мясцовых жыхароў. Адначасова ішла хрысціянізацыя, якая ў Паноніі перапынялася шмат разоў нашэсцямі паганаў. Пачалася вострая барацьба паміж Канстанцінопалем і Рымам за душы яшчэ нехрышчоных (як вядома, у ёй узялі актыўны ўдзел вернастаўленікі славянаў Кірыла ды Мяфодзія). Вось у гэты час, падобна, і пакінулі Панонію паганы земгальцы. На сваім новым месцы, у Прыбалтыцы, яны першы раз адлюстроўваюцца ў пісьмовых крыніцах пад 870 годам (Литва, с. 251).

Продкі ж летувісаў яўна затрымаліся ў Паноніі, прычым надоўга, іначай не склаўся б адчувальны летувіска-венгерскі лексічны пласт (у латышскай мове мадзьяры змы толькі тыя. што трапілі праз летувіскую). Характэрнае такое супадзенне: па-венгерску «прыгонны» — jobbagy (йоббадь), па-летувіску — baudžiavos (бауджявос). Венгерскае слова складанае: job — «права», bagyad (бадяд) — «стамляць», значыць, «прыгонны» — той, каго «стамляюць па праву». Спалучэнне «гб» кепска вымаўляецца, таму і зрабілася не jogbagy, а jobbagy. Летувісы ўзялі з гэтага слова другую частку. Такім чынам, у той час, калі венгры ўводзілі прыгон (на пачатку, зразумела, запрыгоньваліся не венгры), продкі летувісаў былі яшчэ ў Паноніі.

Адначасова з прыгонам венгерскае гаспадарства, што вельмі хутка асвойталася ў Еўропе, стала насаджаць і хрысціянства. Вось тут панонскае жыхарства і не стрывала. У 1046 годзе грымнула магутнае антырэлігійнае паўстанне. Паўстанцы знішчылі «ледзь не ўсіх святароў ды манахаў» (ИВ, с. 118). Але паўстанне было жорстка задушанае.

Зрэшты, продкі летувісаў, можа, пакінулі Панонію яшчэ раней, на пачатку рэлігійнага ціску. Мы ж ведаем, як жамойць працівілася хросту. Нават крыжакі, што спецыяльна заявіліся ў Прыбалтыку, каб «хрысціць паганаў», за доўгі час панавання над жамойцю далучыць яе да царквы не змаглі. Жамойты пры-

нялі хрост толькі пасля Грунвальда, калі Ордэн вымушаны быў саступіць іх Вітаўту — у 1413 годзе (Литва, с. 623). А тая частка жамойтаў, што засталася ў складзе Усходняй Прусіі, прыняла хрост ажно ў 1525 годзе (Литва, с. 378).

У літаратуры мне не ўдалося адшукаць дату першаи згадкі жамойці ў пісьмовых крыніцах. Па маіх жа ўласных назіраннях, у Іпацьеўскім летапісе яна ўпершыню згадваецца пад 1215 годам (ПСРЛ, том 2, сл. 725) — як бачым, вельмі позна ў параўнанні з земгальцамі (870 г.) ды літвой (адзначаная ў пачатковым летапісе сярод плямёнаў — суседзяў славянаў).

Пераход «балтаў» у Прыбалтыку ва ўжо пісьмовую для Еўропы эпоху застаўся незаўважаным храністамі, і гэта павінна сведчыць, што перасяленцаў было няшмат. Але яны прыйшлі не на пустое месца. Тут здаўна жылі іншыя плямёны. Прыбышы ўступілі ■ імі ў трывалы кантакт, змяшаліся з імі і асімілявалі, дзякуючы чаму носьбітаў «балцкіх» моваў стала значна болей. Пераходу мясцовага, ранейшага жыхарства на мову прыбышоў паспрыяла дзейнасць лютаранскіх місіянераў, з дапамогай якіх узнікла летувіская, ■ адначасова і латышская пісьмовасць, быў наладжаны выпуск рэлігійнай літаратуры для летувісаў і латышоў на іх мовах.



*Пярмяцкі венцер для рыбы*

Падсумуем сказанае ў гэтым раздзеле і папярэднім: жамойць — з Паноніі, ■ літва — з нізоўяў Олта. А падзяляе гэтыя рэгіёны, калі рухацца па Дунаі, недзе 700 кіламетраў — як ад паўднёвай мяжы Беларусі да паўночнай.

Зразумела, што ўмовы для складвання этнасаў і моваў у гэтых рэгіёнах былі розныя. Напрыклад, ніхто не лічыць, што на поўдні Румыніі жылі ілірыйскія плямёны. Тут адчуваўся значны грэцкі ўплыў. Тут нашмат раней, чым у Паноніі, з'явіліся славяне (а можа, і ўвогуле ўтварыліся тут. Пісаў жа аўтар «Аповесці мінулых гадоў»: «Сѣли суть словѣни по Дунаеви», адкуль і «разидошася по земли». На пачатку нашай эры на Ніжнім Дунаі жылі гетры, якія

лічуцца продкамі славянаў). Сюды пры сваім руху на захад не заходзілі венгры, яны адолелі Карпаты на Украіне (ИВ, с. 95). Адсюль ясна, што ў мове літвы венгерскага следу не магло быць.

Вядома, у мовах сучасных пярмянаў і венгерскай маецца значны агульны пласт. Нават канчатак інфінітыва ў іх аднолькавы (у пермскіх -ны, у венгерскай -ni). Але гэта, насуперак гіпотэзе агульнага паходжання фінскіх і вугорскіх моваў, якая цяпер слушна аспрэчваецца (гл. К.Ф. Мейнандер. Проблема происхождения финно-угров по данным антропологии. М., 1974, с. 18—20), можа тлумачыцца працяглым суседствам пярмянаў і венграў на Доне ў IV—VIII стагоддзях нашай эры (што былі там венгры, сведчаць гістарычныя крыніцы, а што пярмяне — гідранімія Данскога басейна). А літва на Доне не была. Яна паишла, безумоўна, адразу на Поўнач, на Беларусь, бо праз паўднёвыя стэпы сюды не трапіла б. Таму, між іншым, і ў нашай мове амаль няма венгерскіх словаў, а тыя, якія ёсць (як шэраг), маюцца і ў польскай, г. зн. прайшлі да нас праз яе. А калі б мова літвы была насычаная венгерскай лексікай, то хоць бы частка яе дасталася нам у спадчыну.



*Венцер (Нараўлянскі раён)*

На Дунаі літву і жамойць падзялялі 700 кіламетраў. Але у Паноніі маглі жыць свае пярмяне. Засталіся ж тут такія рачныя назвы, як Раба, Лендва. Таму частку пермскіх словаў, якія змяшчаюцца ў летувіскай мове, жамойць і аўкштота маглі запазычыць яшчэ ў Паноніі, а рэштку — на сваёй сённяшняй тэрыторыі. Падзяліць паводле гэтага летувіскія пярмізмы вельмі цяжка. Падзялюся толькі такімі назіраннямі. У комі мовах маецца слова рам — «ціхі, спакойны, рахманы», а ў грэцкай — ηρεμος (эрэмос) з тым сама значэннем. Паколькі дунайская літва жыла ў непасрэднай блізкасці да Грэцыі, то можна дапусціць, што жамойць атрымала сваё ramus «ціхі, спакойны» не ад пярмянаў Паноніі, а ад літвы, г. зн. пасля сустрэчы з ёю ў Прыбалтыцы. Але гэта толькі ў тым выпадку, калі рам дунайскімі пярмянамі было

запазычана ў грэкаў, а не мелася ў пермскіх гаворках спрадвечна. і наадварот, грэцкае ηρεμος з'яўляецца пярмізмам.

А вось выпадак больш рэльефны. У комі мовах рыт — «вечар», «захад». А па-латышску riets «захад» (сонца), rietumi «захад»; у той жа час rits «раніца», riti «усход». Што б гэта такое азначала? А тое, што пермскае рыт запазычвалася латышамі двойчы: адзін раз у прамым, другі — у наадваротным сэнсе (прыкладам наадваротнага запазычання могуць быць грэцкае ділэ /σειλη/ «вечар» — грузінскае діла «раніца»). Адбылося ж так, відавочна, таму, што адзін раз рыт запазычвалася на Дунаі, другі — у Прыбалтыцы.

Літва была ў Прыбалтыцы не адзіным пермскім племем, аб чым сведчыць гідранімія. Але аб'яднаць іх літва не змагла, бо сама па хуткім часе славянізавалася. І дробныя пермскія плямёны растварыліся ў жамойці.

Як бачым, гісторыя балтаў уяўляецца пасля адкрыцця летувіска-венгерскіх моўных паралеляў зусім інакшай, чым з наяўнай літаратуры. Патрабуе перагляду і арэал распаўсюджання балтаў, пра што пагаворым у наступным раздзеле.

## Глава 6

# Балцкая «коўдра»

Цяпер, калі мы пераканаліся, што продкі летувісаў і латышоў прыйшлі ў Прыбалтыку не так даўно, вернемся да таго, як асвятляецца іх гісторыя ў літаратуры.

«Прарадзіма балтаў, — піша аднатомная энцыклапедыя «Літва» (с. 135. Гэтае месца вышэй ужо цыталася), — хутчэй за ўсё, міжрэчча Віслы і Дняпра. Продкі балтаў — прабалты — сфармаваліся ў выніку асіміляцыі індаеўрапейскіх групаў носьбітаў шнуравой керамікі, што шырока распаўсюдзіліся ў Сярэдняй і Паўночнай Еўропе, з мясцовымі плямёнамі таксама еўрапеоідамі. Да канца 3 — пачатку 2 тысячагоддзя да н.э. носьбіты культуры шнуравой керамікі засялілі ўсю тэрыторыю паміж Віслай на захадзе і лініяй Масква — Курск на ўсходзе. Іх арэал у асноўным супадае з распаўсюджваннем тапанімікі балтаў».

Чым жа пацвярджаецца сцверджанне, што балты «засялялі ўсю тэрыторыю» аж да лініі Масква — Курск? Толькі тым, што сказана ў працытаваным урыўку: па-першае, шнуравой керамікай, якая ў археалагічных раскопах агледжаная як у Прыбалтыцы, так і паблізу, ды тапанімікай, нібыта суцэльна балцкай аж да Масквы ды Курска.

Між тым «усё больш абазначаецца крызіс падыходу да гэтай навукі (археалогіі. — *Аўт.*) як да этнічнай гісторыі, не адлюстраванай на старонках пісьмовых крыніц. /.../ Археалогія на цяперашнім этапе развіцця аднаўляе перш за ўсё гісторыю матэрыяльнай культуры старажытнага насельніцтва. Археолагам удаецца фіксаваць асаблівасці ўказанага насельніцтва, але этнаграфічныя, а не этнічныя. Ставіць знак роўнасці між імі было б небяспечнай памылкай, бо этнаграфічна адзіная матэрыяльная культура здольная аб'ядноўваць этнічна зусім розныя групы» (С.Я. Рассадзін. Этнас поўдня Беларусі ў далетапісны час. Старонкі гісторыі Беларусі. 1992, с. 22). Так мяркуе навуковец-археолаг.

Але і для ненавукоўца відавочна, што на археалагічных знаходках няма этнічнага кляйма і, скажам, беларускі гладыш прак-

тычна нічым не адрозніваецца ад украінскага. І калі нават лічыць, што гаршкі з адбіткам шнура выпрабляліся майстрамі-балтамі, то хто можа гарантаваць, што тыя гаршкі не выменьваліся іншаэтнічнымі суседзямі на нейкія ўласныя вырабы, што балты-гаршкалепы не траплялі ў якасці палонных або прымакоў у суседнія этнасы, дзе працягвалі ляпіць тыя гаршкі.

Тапаніміка — іншая рэч. Тапаніміка можа вызначыць этнічную прыналежнасць тэрыторыі куды надзейней, хаця ў старажытнасці людзі абменьваліся не толькі гаршкамі, але і словамі (што было паказана вышэй на пермска-летувіскіх, пермска-лацінскіх, пермска-грэцкіх ды іншых параллелях). Трэба толькі, каб тапаніміка была аб'ектыўнай, не падагнанай, не перакручанай згодна з жаданнем тапаніміста, каб улічвала ўсе вядомыя факты і крытэрыі.

На жаль, сярод даследчыкаў гідраніміі Беларусі і прылеглых абласцей Расіі пераважаюць такія, для каго галоўнае — не пошук ісціны, а доказ, што назва балцкая. І як толькі тапаніміcту трапіцца ў рукі хоць якая, нават самая хісткая зачэпка, болей яму нічога не трэба: назва балцкая — і годзе. Так вось балцкую «коўдру» і цягнуць праз усю Беларусь аж да Масквы і нават далей.

Пачалося гэта не ўчора, а амаль сто гадоў назад. Падрабязна расказваюць пра гэта Тапароў і Трубачоў у «Гісторыі пытання», што адкрывае іхнюю кнігу «Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья» (с. 4 і далей). Аказваецца, першым думку аб неабходнасці вывучэння назваў «мясцовасцяў, рэкаў ды азёраў», каб падзяліць славянскае і балцкае, выказаў наш Адам Кіркор (1857 г.), але сам у гэтым напрамку нічога не зрабіў. Толькі ў 1897 годзе з'явілася першая праца, у якой з дапамогай тапанімічных дадзеных рабілася спроба зразумець дапісьмовую гісторыю Беларусі. Гэта быў артыкул А. Качубінскага «Тэрыторыя дагістарычнай Літвы», дзе аўтар абмежаваў гэтую тэрыторыю з поўдня Прыпяццю, а з усходу — басейнам Бярэзіны (дняпроўскай).

«Пэўныя з ягоных этымалогій, — пішуць Тапароў і Трубачоў, — аказаліся цалкам прымальнымі і захавалі сваё значэнне да нашага часу. Да іх можна аднесці наступныя: Берешта (тут і далей гідронімы падаю, як у расейскім арыгінале. — *Аўт.*), левы доплыў Ясы і возера ў Барысаўскім павеце... (ад) летувіскага beržti «бялець»; Ула доплыў Заходняй Дзвіны, параўн. лтш. ola

«галька», летув. uola «скала»; Уса, доп. Нёмана, летув. uosis «ясень»; Клева, доп. Бярэзіны, параўн. летув. klevas «клён»; Ольса, доп. Бярэзіны... летув. alķsnis «вольха»; Свида, доп. Бярэзіны, параўн. летув. svidus «бліскучы» ды інш. Да гэтага пераліку можна было б дадаць шэраг бясспрэчна балцкіх гідронімаў Беларусі, якія Качубінскі прыводзіць без этымалогіі» (ТТ, с. 5).

Звернем увагу на апошнія словы: аказваецца, Качубінскі абвяшчаў балцкімі і такія гідронімы, паходжанне якіх не мог растлумачыць! Гэта значыць, дзейнічаў згодна з прынцыпам: што не разумею, тое балцкае. Прынцып гэты захаваўся да нашага часу. І карыстаюцца ім не толькі такія балтафілы, як Тапароў з Трубачовым, але і абаронца славянскасці нашай гідраніміі Жучкевіч. Вось што піша ён пра назву Зэльва: яна «балцкага (верагодна, яцвяжскага) паходжання, хаця дакладнага адпаведніка ў сучасных мовах не адшукваецца» (КТСБ, Зельва). Бачыце, як: балцкага адпаведніка не адшукваецца, а назва ўсё адно балцкая. Навошта ж тады тапаніміка? Выпісаў назвы, пасядзеў над імі, прыкінуў: гэта, падобна, славянская, а гэта — неславянская, значыць, балцкая — і канец. А на мой погляд, сапраўдная тапаніміка там толькі і пачынаецца, дзе даследчык сутыкаецца з назвай, разгадка якой не ляжыць на паверхні. А калі яна такія назвы адмаўляецца тлумачыць, то гэта ўжо не навука.

Ідэі Качубінскага, пішуць далей Тапароў і Трубачоў, падхапіў расейскі філолаг А.Л. Пагодзін, які надрукаваў у 1901 годзе артыкул «З гісторыі славянскіх вандровак». У ім «асобнае месца адведзенае вынікам даследавання Качубінскага, з шэрагам палажэнняў якога аўтар салідарызуецца. Разам з тым Пагодзін значна пашырае тэрыторыю старажытнага распаўсюджання балцкіх плямёнаў, галоўным чынам ва ўсходнім накірунку. Менавіта ён звярнуў увагу на рэлікты балцкай гідраніміі ў басейне Акі: назвы рэкаў Упа, параўн. летув. upė лтш. upe «рака»; Жиздра, параўн. /.../ летув. žigždras «буйны пясок».

Апрача гэтага, Пагодзін дапоўніў спіс балцкіх гідронімаў Беларусі некалькімі пераканаўчымі супастаўленнямі: Лоша /бас. Прыпяці/, параўн. Лоша, доп. Віліі, летув. lašis «ласось»; Жовин, воз. у б. Мінскай губ., параўн, летув. žuvinas «рыбны»; Миготo, воз. у б. Мінскай губ., параўн. летув. miegotas «сонны»; Галы, назва шматлікіх балотаў Мінскай губ., Гало, воз., параўн. летув. galas «канец».

Пагодзін зрабіў далей дапушчэнне, што характэрным рэліктам балцкай каланізацыі трэба лічыць наяўнасць гідронімаў з коранем nar/ner, параўн. Narew, Нара (басейн Акі), а таксама старажытна-прускія Narien, Narussa, Ponarinne, летув. Neris, Narupė, лтш. Naružas. Пошукі балцкай гідраніміі на ўсходзе, у басейне Акі, з неабходнасцю паставілі пытанне аб старажытнай балта-фінскай этнічнай мяжы, якую, аднак, ён адносіў занадта далёка на ўсход, у межы Тамбоўскай ды Пензенскай губерняў (названыя тэрыторыі ў эпоху дапушчальных балта-фінскіх кантактаў былі, па ўсёй верагоднасці, заселеныя цалкам волжскімі фінамі)» (ТТ, с. 5).

Не будзем выкладаць далей «Историю вопроса» і памазгуем над тым, што ўжо працытавана. Для свайго часу погляды А. Качубінскага ды А. Пагодзіна, безумоўна, мелі прагрэсіўнае значэнне. Адшукваючы балцкія назвы там, дзе панавала славяншчына, яны будзілі думку чытача, прымушалі глядзець на гісторыю славянскіх тэрыторый больш глыбока.

Але ці сапраўды іх балцкія этымалогіі бясспрэчныя? Пачнём з Качубінскага. Назву Берешта ён узводзіць да летувіскага beržti «бялець», але як з гэтага beržti атрымалася Берешта? Не можа ж рака азначацца інфінітывам «бялець». Не можа яна, зразумела, называцца і дзеепрыметнікам «бялеючая», калі ў мове маецца простае слова «белы» (baltas). Да таго ж «Русско-литовский словарь» у 4 тамах дае цэлую нізку летувіскіх словаў са значэннем «бялець», але сярод іх няма beržti. А нашы энцыклапедычныя даведнікі (БелСЭ, ЭПБ) не даюць для Беларусі рэкаў Берешта і Яса, у якую, паводле Качубінскага, Берешта ўпадае. Нарэшце, такіх рэкаў для Верхняга Падняпроўя не даюць і самі Тапароў з Трубачовым, хаця карыстаюцца ў сваёй кнізе дарэвалюцыйным спісам гідронімаў Верхняга Падняпроўя (а згодна з Качубінскім, Берешта і Яса знаходзіліся ў Барысаўскім павеце). У нас маецца толькі возера Бярштоўскае, але не пад Барысавам, а ў Шчучынскім раёне, г. зн., паблізу ад мяжы з Летувой, і нічога дзіўнага не было б, калі б яго назва ішла ад летувіскага слова — толькі, зразумела, не ад beržti.

А нешта лепшае летувіскі слоўнік прапанаваць не можа, бо калі, напрыклад, адштурхвацца ад beržas «бяроза», то незразумела, адкуль у назве Бярштоўскае ўзялося «т». Таму балцкая этымалогія для гэтай назвы «не праходзіць», і мусім шукаць іншую.

У нас маецца мінімум два возеры і адна рака з назвай Бярэжа. Тапароў і Трубачоў, аналізуючы гідронім Бережевка, пішуць: «сувязь з расейскім берег сумніцельная» — і залічваюць яго ў балцкія.

Але як жа «сумніцельная», калі бераж — яўна ад бераг? Трэба толькі разумець, што гэта не першапачатковая назва, а перакладзеная з іншай мовы, і сэнс яе — што рака, возера мае выразна акрэсленыя берагі. З якой жа мовы — якраз і падказвае назва возера Бярштоўскае: у пермскіх мовах «возера» — ты, і можна дапусціць такое развіццё назвы: бераг-ты («возера з берагамі») — берах-ты — берашты — бяршты — Бярштоўскае. І што гэтая назва пермская, пацвярджае Бережевка — на прамежкавым этапе (пасля перакладу асновы) Береж-ва, з пермскім ва «рака». У Верхнім Падняпроўі, апрача Бережевки, маюцца яшчэ Бережница, Бержница (ТТ, с. 176). А пермскае дор «бераг» захавалася, падобна, толькі ў назве Доренка (ТТ, с. 184).

Назву Ула Качубінскі выводзіць ад латышскага ola, што азначае «галька». На першы погляд, усё добра: і супадзенне поўнае, і сэнс адпаведны: вядома ж, галька ў рэках бывае. Але ў латышскай мове націск, за выключэннем некалькіх словаў, у якія ola не ўваходзіць, падае толькі на першы склад, а ў назве Ула націскны склад — другі. Што ж да летувіскага uolą «скала», то яно да беларускай ракі не стасуецца сэнсам. Прытым не можа ж у індаеўрапейскай мове рака называцца «скала», «уцёс»: мусіць быць уцёсісты, уцёсістая. А па-летувіску «уцёсісты», «скалісты» — uolėtas , uolingas, што далёка ад Ула. А тым часам у Летуве маецца якраз рака Ула, доплыў Мяркіса (гл. Литва, карта паміж с. 32—33) — не Уолетас і не Уолінгас.

Натуральна думаць, зыходзячы з гэтага, што наша Ула — не скажэнне гэтых Уолетас ды Уолінгас, а назва іншага паходжання і да летувіскай мовы дачынення не мае. Што і пацвярджае той факт, што рака Ула маецца ў Комі рэспубліцы. Туркін перакладае гэты гідронім з комі як «ніжняя» (А. Туркин, Ула). Але я думаю, тут іншае. На сённяшніх пермскіх тэрыторыях і прылеглых да іх маюцца рэкі Ула, Юла (Архангельская вобл.), Ува (Удмурція), Юва (Свярдлоўская вобласць). На мой погляд, гэта ўсё — варыянты назвы Юва, што азначае ў комі мовах «рачная вада».

Пра назвы Уса і Клява (што яны не балцкія) мы ўжо казалі ў раздзеле «Там, дзе жыла літва». Таму адразу пяройдзем да Оль-

сы. Калі б яна была ўтвораная ад alksnis, дык, відавочна, гучала б як Алксіна (альховая) або Алсіна, Альсіна, але аніяк не Ольса, бо немагчыма дапусціць, каб у беларускай мове з яе аканнем чужое (летувіскае) «а» над націскам перайшло ў «о». А па-комі-пярмяцку оль — «балоцістая мясцовасць», са — злы дух (містычная асоба). Гэтыя са маглі быць і вадзянікамі (васа), і лесавікамі (вöрса); адсюль ясна, што магла мець свайго «гаспадара» і оль — «балоцістая мясцовасць», і называўся ён ольса. «У гонар» такіх істот цалкам маглі называцца вадаёмы. У нас у Браслаўскім раёне ёсць возера Войса, а па-комі-зырянску войса — «злы калядны дух» (вой — «поўнач», напрамак свету). А ў Смаргонскім раёне адна вялікая вёска называецца Войстам. Сэнс ейнай назвы — «няма войсы» (у комі мовах тöм — адмоўны суфікс са значэннем «без»). Такім чынам, Ольса — гэта такая рака, якою валодае злы балотны дух ольса.

Нарэшце, Свида. Сапраўды, па-летувіску svidus — «бліскучы». Але ж і па-комі-пярмяцку свиттявны (корань свит — «блішчэць». Мы ўжо дамовіліся ў артыкуле «Там, дзе жыла літва», што назва возера Свіцязь ідзе ад пермскага слова, бо мае пермскі суфікс валодання -öсь /свит-öсь/ — «з бляскам»). Яшчэ на Беларусі маюцца возера Свідна і рака Свідовец, яна ж Свідоўка. Гэта тыпова фіна-вугорскія назвы, з фіна-вугорскімі зыходамі: у Свідна — на (тыпу ва), у Свідовец, Свідоўка — замаскаванае ва, бо першапачатковай формай гэтых назваў, без сумлеву, была Свідва. І яшчэ на закуску: у Ноўгарадскай вобласці ў возера Воже ўпадае рака Свидь, а сюды балтаў яшчэ не заводзіла аніводная гарачая тапанімічная галава.

З распрацовак Пагодзіна, безумоўна, найболей непарушнай здасцца этымалогія назвы Упа — ад летувіска-латышскага упэ «рака». Ніканаў піша: «У гідроніме Упа бачаць адзін з галоўных слядоў даўнейшага распаўсюджання балцкіх моваў у Сярэднім Паоччы, звязваючы з летувіскім upė «рака» (В. Никонов, Упа).

Тут нібыта і спрачацца не выпадае: апелятыў з назваю супадае, у Летуве ёсць рака Упэ — які можа быць сумлеў? Але для аб'ектыўнай тапанімікі сумлеў — вядучы матыў. І я пачынаю сумнявацца. Чаму ў летувіска-латышскім упэ націск падае на першы склад, а ў назве Упа на другі? Далей. У басейне той ж Акі, ва Уладзімірскай вобласці маецца рака Упор. У гэтай назве Упа яўна спалучаецца з комі-пярмяцка-ўдмурцкім öр — «рэчышча». У ба-




*Блаценскае, або Панонскае, княства*
*і Мараўская дзяржава ў IX стагоддзі*

сейне ракі Мокшы (Тамбоўская вобласць) цячэ Упалая. Тут Упа злучаная з мардоўскім ляй «рака». У Разанскай вобласці маецца рака Упта. У той жа вобласці ёсць і возера Палупа, дзе -упа выглядае як гідранімічны тэрмін пры аснове Пал (усе пералічаныя гідронімы ўзятыя з ГБО, с. 233, 260, 10, 160). Нарэшце, у Комі рэспубліцы маецца рачная назва Упа — варыянт гідроніма Ула (ГНК). З усяго сказанага і вынікае думка, што доплыў Акі Упа атрымаў імя ў адпаведнасці з пермскім тыпам ю + ва «рачная вада» (па дыялектах — Юва, Юла, Ува, Ула, Упа). І не выпадкова рака ў Комі рэспубліцы адначасова носіць назвы Ула і Упа.

Ёсць яшчэ спосаб праверыць, балцкая назва Упа або не: даследаваць гідранімію ейнага басейна. Адшукваюцца тут іншыя балцкія назвы — значыць, балцкае паходжанне Упы набудзе падтрымку. Г. Смаліцкая пералічвае недзе каля 300 гідронімаў Упскага басейна. І сярод іх сустракаецца Невежа (ГБО, с. 70) — як Нявежіс у Летуве. Значыць, Упа — летувіскі гідронім? Не будзем спяшацца! Бо Нявежіс з летувіскай мовы не раскрываецца. Няма ў летувіскай мове ні слова нявежіс, ні такога вежіс, каб можна было падумаць, што Нявежіс — гэта вежіс з адмоўем не.

Што ж гэта за назва — Нявежіс? Ёсць у комі мовах вежа — «святы», а на пермскіх тэрыторыях — рэкі з назвамі, утворанымі ад гэтага слова: тры ракі Вежаю і адна Вежавож («Святы доплыў») у Комі рэспубліцы, Вежай і Вежайка, а таксама Вежа ў Пермскай вобласці. Тлумачачы іх, Крывашчокава-Гантман піша: «У комі мовах вежа — свяшчэнны, асвячоны. Параўн. вежа ва — святая вада. /.../ Назву рака магла атрымаць у сувязі з абрадам хросту, што ўчыняўся ў перыяд хрысціянізацыі Пермі Вялікай звычайна ў рацэ, асвечанай хрысціянскім крыжам» (ГНВП, Вежа).

Але, думаецца, у гэтым даследчыца памыляецца. «Святымі» рэкі, як і крыніцы, азёры, гаі, у паганаў-фінаў існавалі задоўга да хросту. Вера ў «святасць» асобных мясцін і ландшафтаў, асабліва вадаёмаў перадалася і славянам, і балтам. На Беларусі, як падае «Паказальнік геаграфічных назваў» БелСЭ, два Святых возеры (у сапраўднасці іх больш) і рака Свячанка. Ёсць вёска Вежын (Рудабельскі раён) — чыста пермская назва, ад комі вежа «святы» і ын «месца».

А ў Летуве адна з найбольшых рэкаў — Швянтойі, што азначае «святая». Паралельна ёй і цячэ другая буйная рака Летувы —

Нявежіс. Такім чынам, абсалютна правільна будзе заключыць, што Ня-вежіс — «не-святая» (з нейкай прычыны пазбаўленая святасці). Праўда, адмоўе не выглядае неяк не па-фіна-вугорску, хутчэй па-славянску ці па-балцку. Але ў комі мовах нярэдкія словы з адмоўем не: недыр «нядоўга» (дыр «доўга»), некод «ніхто» (код «хто») і да т.п. Улічваючы, што адмоўе не сустракаецца і ў іншых фіна-вугорскіх мовах (марыйскай, венгерскай ды інш.), даследчыкі тлумачаць супадзенне яго з індаеўрапейскім не= старажытнай роднаснасцю фіна-вугорскіх ды індаеўрапейскіх моваў (КЭСКЯ, НЕ). Такім чынам, не ў комі мовах — не пазнейшае запазычанне з расейшчыны, ■ выключна старажытная з'ява і цалкам магло быць у пярмянаў Прыбалтыкі.

Болей гідронімаў, якія былі б і ў басейне Упы, і ў Прыбалтыцы, здаецца, няма. А ці ёсць яшчэ пермскія побач з упінскай Невежей? Ёсць, і даволі шмат. Адзін з найбольшых доплываў Упы — Шат, што ідзе ад комі шать «прут; тонкая галіна лісцёвага дрэва». З меней значных гідронімаў басейна:

Вьевка (калі не ад в'ецца, то ад комі вӧв «конь»);

Губец (удмурцкае губи «грыб» + суфікс прыметніка -эсь);

Дігодня (комі дзигӧдны «абдымаць». Магчыма, рака робіць вялікую луку вакол вёскі);

Дубка (комі дуб «прэсны», ад славянскага дуб было ■ Дубовая);

Зарытва (комі дзирыд «які ўспыхвае» — па-расейску «мерцающий»), ва «рака»;

Илемель (комі ильм «ильм», назва дрэва, ёль «рэчка»);

Кадыбка (комі кад «час» або «дрыгва», ыб «поле»: «часовае поле» або «дрыгвяністае поле»);

Кандитовка (комі конда «сасна», -ыт суфікс прыметніка, ва «рака»);

Коковна (комі-пярмяцкае коков «хахол», назва вобразная. Адшыфроўка здаецца дзіўнай, але зусім паблізу цячэ Хохолец).

Колпна (комі колип «тонкі лёд»);

Лошка (комі лос «вільготная нізіна»);

Лютец (комі лют «хуткі»+суфікс прыметніка -ӧсь);

Обидомка (удм. обыда «ведзьма»);

Пановка (комі пан «жрэц», ва «рака» — першапачатковае Панва);

Расенка (комі рас «гай, зарасці»);

Рыдомка (комі рыдов, рыдол «дрыгва»);

Рыска (комі рыз «нітка, што аддзялілася па зрэзу тканіны», вобразная назва);

Серпушка (комі сэрп «брудны»);

Солова (комі сол «кара дрэва, якая ідзе на пакрыццё будана», ва «рака»);

Тула (комі тулавны «прыбываць, затапляць» — пра ваду);

Тулица (комі-пярмяцкае туллись «які пырскае, плюскоча»);

Тырна (комі тыр «поўны»);

Увос (комі ув «ніз», -ӧс суфікс).

Можна было б далучыць і іншыя назвы (гідронімы пададзеныя з ГБО, с. 67—87).

Цяпер падумаем над назваю ў Летуве. Упэ. Яе паходжанне быццам бы навідавоку: ад летувіска-латышскага упэ — «рака». Але давайце падумаем: ці можа рака мець назву Рака? Абсурд! Назвы ж даюцца рэкам як дрэвам, птушкам, вёскам не з прыхамаці, а каб адрозніваць іх адна ад адной. Назва Рака магла б быць дадзенай рацэ толькі ў адным выпадку: калі можна сумнявацца, што гэта рака — напрыклад, цячэ праз балота, вельмі марудна, аж плынь не заўважаецца. А калі яна мае даўжыню 345 кіламетраў, як тульская Упа — якія могуць быць сумненні? Такім чынам, апелятыў упэ, нягледзячы на ягоную выключную «гідранімічнасць», тульскай Упе абсалютна не адпавядае. А летувіскай Упэ? Гэта рака невялікая, але ўсё ж адзначаная ў энцыклапедыі «Литвы» сярод прыблізна сотні найбольшых рэкаў, а ўсяго ў Летуве 758 рэкаў, даўжыня якіх перабольшвае 10 кіламетраў (Литва, с. 14). Так што наўрад ці дае Упэ зачэпку для сумлеву, рака яна ці не.

Ды яшчэ ў Летуве маюцца рэкі Упітэ, Упіна, Упінікэ (з энцыклапедыі «Литва» і карты «Lietuvos keliai» /«Дарогі Летувы»/, выдадзенай у Вільні ў 1989 годзе). Упінэ па-летувіску — «рачная»: ці ж не дзіўная назва для ракі? Упітэ, Упінікэ — такіх словаў летувіскія слоўнікі не даюць. Як жа ўтварыліся назвы Упітэ, Упінікэ? Наконт Упітэ можна падумаць, што ад Упа з дапамогай пермскага суфікса -ыт.

Вось і прыходзіш да меркавання, што Упэ ў Летуве названая не балтамі. Першапачаткова яна гучала як Упа. А калі тэрыторыя стала летувізавацца, ператварылася ў Упэ пад ціскам летувіскага слова, што супала з назвай Упа чыста выпадкова.

Гідранімічныя тэрміны-зыходы ў рачных назвах Летувы амаль не вылучаюцца. Тут вельмі мала стандартных канчаткаў, якія

паўтараліся б раз-пораз: толькі ва ды упэ / упіс. Гэта зусім не тое, што ў фіна-вугорскіх, асабліва пермскіх гідронімах, дзе наадварот, рэдкая назва не мае гідранімічнага тэрміна ва, ю, ӧр, ёль, вож ды інш. І гэта нармальна, бо ў індаеўрапейскіх мовах свае сродкі ўтварэння гідронімаў. Але чаму ён усё ж такі ёсць, гэты гідранімічны тэрмін упэ — упіс — ва (у гідронімах Летувы, як мы ўжо казалі, пермская спадчына)?

Назваў з упэ — упіс у Летуве шмат для таго, каб іх лічыць зусім выпадковымі, але мала, таму што складаюць яны толькі прыблізна 6% агульнай колькасці (15 з 250, выпісаных С.В. Казлоўскім з карты «Дарогі Летувы»). Чаму канчатак «рака» носіць толькі адна з 16 назваў? Непатрэбны? Тады навошта носіць кожная 16-я?

Адказ падказвае аналіз гэтых назваў. Вось яны: Алкупіс, Барупэ, Друкупэ, Дуобупіс, Йоудупэ, Йонупіс, Лаўкупэ, Лянупіс, Мажупэ, Мішупэ, Ненупэ, Уосупіс, Швянтупіс, Швянтупэ, Шяшупэ. Здавалася б, канчатак іх чыста летувіскі. Але калі звярнуцца да слоўнікаў, то Друкупэ, Мішупэ, Ненупэ, Шяшупэ, аказваецца, не маюць летувіскіх апелятываў. А рэштка ў гэтым сэнсе выглядае так: Алкупіс — alkus «галодны», Барупэ — baras «участак», Дуобупіс — duobė «яма», Йоудупэ — juodas «чорны», Йонупіс — маецца корань jon з няўлоўным сэнсам: jonpapartis «страусопер, чорны корань», jonvabalis «светлячок», jonvaikis «галаварэз»; што яднае папараць, светляка ды галаварэза — няясна (ноч? чарната?). Лаўкупэ — laukus «поле», Лянупіс — lėnas «ціхі, спакойны, марудны», Мажупэ — mažas «малы», Уосупіс — uosis «ясень», Швянтупіс, Швянтупэ — šventas «святы».

Як бачым, у летувіскай гідранімічнай сістэме, з ейнай найперш характарызацыяй патоку, з гэтага могуць змясціцца, бадай што, толькі Дуобупіс, Йоудупэ, Лянупіс, Мажупэ, а астатнія — быццам бы з фіна-вугорскай, бо характарызуюць берагі: «участак», «поле», «ясень», «святы». Пры гэтым тры апелятывы маюць дакладныя паралелі ў комі мовах: baras «участак» — бор «участак», juodas «чорны» — сьӧд «чорны», lėnas «ціхі, спакойны» — лӧнь «ціхі, спакойны», а пэўныя іншыя летувіскія назвы маюць сэнсавыя пары сярод пермскіх гідронімаў: Алкупэ ад «галодны» — комі Нем, Немын ад нем «нічога», Дуобупіс ад «яма» — комі Йир ад йир «водмат», Лаукупэ ад «поле» — комі-пярмяцкая

Ыба ад ыб «поле», Швянтупіс ад «святы» — пра комі Вежа, Вежаю («Святая рака») мы ўжо казалі.

Да тых жа назваў рэкаў Летувы, што не маюць летувіскага апелятыву, у пермскіх мовах, за выключэннем Друкупэ, падабраць можна: Мішупэ — комі мича «прыгожы», Ненупэ — комі нёнь «сасок, жаночыя грудзі» (у Пермскай вобласці ёсць рака Нёнь), Шяшупэ — удмурцкае шашы «асака». Йонупіс таксама можна вывесці з комі апелятыву ён «моцны». Дарэчы, у Комі рэспубліцы маюцца рэкі Енва, Мичаю, Ленаю, Маджа, Сёдъю, якім адпавядаюць Йонупіс, Мішупэ, Лянупіс, Мажупэ, Йоудупэ.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што да летувізацыі назваў з упэ (упіс) яны былі пермскімі, канчаючыся на дыялектны гідранімічны тэрмін упа, па значэнні роўны юва «рачная вада». Паколькі упа вельмі блізкае да летувіскага упэ «рака», яно і захавалася ў крыху перайначаным выглядзе (упэ, упіс). Асновы ж часткай былі захаваныя, часткай перакладзеныя. А ва ўсіх іншых гідронімах Летувы зыход — упэ (упіс) летувісамі не даваўся як непатрэбны. Таму назваў з упэ (упіс) у выніку і аказалася няшмат.

Але мы, прызнацца, занадта затрымаліся на Упэ. Другой бясспрэчна бліскай знаходкай А. Пагодзіна лічыцца назва Жиздра, якую ён вывеў ад летувіскага žigždras «буйны пясок». Супадзенне, здавалася б, непаўторнае. Але і пры такім тапаніміст перш за ўсё павінен звяртацца да слоўнікаў той мовы, на зямлі якой знаходзіцца гідронім. І калі б ён зазірнуў у «Толковый словарь» Даля, то ў томе I на с. 541 знайшоў бы: «Жиздорить ряз. вздорить, задирать, быть сварливым, ссориться. Жиздора вздорный человек». Як бачым, жиздора супадае з Жиздра нават лепш, чым žiegždra (так болей правільна, згодна са слоўнікам), бо апошняе чытаецца жягждра, ды яшчэ з націскам на апошнім складзе.

А ці можа быць перанесеным на раку значэнне «вздорный человек»? Тут трэба мець на ўвазе, што слова жиздорить з паходжання яўна неславянскае. Нават славуты этымолаг расейскай мовы так і не змог растлумачыць ягоны корань (М. Фасмер, том I, жиздор). Несумненна, што расейцам яно дасталося ад нейкіх іхніх фіна-вугорскіх продкаў — мурамы, мяшчоры або іншага племя. А ў той зніклай мове жиздора магло азначаць, дапусцім, «гарэзлівы», «шалапутны». У прынцыпе ж можа быць і рачная назва са значэннем «дурны», бо ёсць рэкі, якія часта мяняюць рэчышча, прыносячы гэтым шкоду чалавеку. У Комі рэспубліцы

цячэ рака Буб — доплыў Большой Визинги, у Пермскай вобласці — яшчэ адзін Буб, доплыў Обвы, а ў комі мовах бöб — «дурны, прыдуркаваты; дзікі, гарэзлівы». Гэтая назва паўтараецца пад Масквой у форме Бубна. Жиздра ад Бубны параўнаўча недалёка і цалкам можа мець такое ж значэнне.

На пагодзінскай трактоўцы назвы Лоша спынямца не будзем, бо мы яе ўжо разглядалі ў раздзеле «Там, дзе жыла літва». Назву возера Жовін ён выводзіць ад летувіскага žuvinas «рыбны». Ці шмат рыбы ў вадаёме плошчай 0,16 квадратнага кіламетра — у ЭПБ не сказана. Думаецца, аднак, што няшмат: возера старычнага тыпу, г. зн. вузкае і мелкае. А вось каліна па берагах такіх азёраў, бывае, расце густа. Таму і болей прыдатнай здаецца адшыфроўка з дапамогай комі жов «каліна» + ин «месца». І фанетычна жов + ин бліжэйшае да Жовін, чым žuvinas. Дарэчы, ин «месца» прыцягваць не абавязкова. У комі-пярмяцкай мове маецца суфікс прыметніка -ын: пыдын — «глыбокі», вылын — «высокі». Дык Жовін можа быць утвораным ад жов з дапамогаю гэтага суфікса: жовын — Жовін.

Назву возера Мигото Пагодзін супастаўляе з летувіскім miegotas «сонны». Гэтае возера, паводле Пагодзіна, знаходзіцца ў былой Мінскай губерні. Але БелСЭ і ЭПБ не даюць яго і для ўсяе Беларусі. Значыць, калі яно існуе, то вельмі маленькае, плошчаю меней за 0,10 кв. кіламетра (гектар). А які сэнс падкрэсліваць у назве такога возера, што яно «соннае»? Маленькія азёры ўсе «сонныя» (спакойныя). Да таго ж, «сонны» па-летувіску не miegotas, а megantis (мягантіс) або meguistas (мягуістас). А паколькі ў зыходзе Мигото яўна чуецца комі-ўдмурцкае ты «возера», то больш правільна шукаць сэнс назвы ў пермскіх мовах. Па-комі мег — «лука» (ракі), мык «ялец» (дробная рыбка). Калі Мигото возера старычнае, як і Жовін, то мег «лука» цалкам адпавядае.

«Назвы шматлікіх балотаў» Галы, возера Гало Пагодзін выводзіць з летувіскага galas «канец». Але ў комі-зыранскай мове таксама маецца галö «рыса, кон» (г.зн. тое сама «канец»). Так што калі і магчымая такая назва, то яна не абавязкова балцкая. А яшчэ маецца беларускае слова гала — «голае месца», «прастора між лесу», «лапіна», «балотная сенажаць» (ЭСБМ, том 3). І вядомае яно не толькі ва ўсіх усходнеславянскіх мовах, а і «частко-

ва ў заходнеславянскіх». Этымалагічна ж яно, падобна, звязанае з голы (тамсама, гала 2). Ад яго і трэба выводзіць Галы, Гало.

Пагодзін «выдвинул далее предположение, что характерным реликтом балтийской колонизации следует считать наличие гидронимов с корнем nar/ner». Гэта значыць, як знойдзеш назву з гэтым коранем — тут была «балцкая каланізацыя». На падста-



*Рэзь на варотах (Комі-пярмяцкая акруга)*

ве чаго ж? Ды фактычна толькі таго, што ў Прыбалтыцы і каля яе сустракаюцца такія назвы, як Нарев, Нарин, Нарусса, Понарине, Нярис, Нарупэ, Наружас. А як жа апелятывы? Пра іх Тапароў і Трубачоў, пераказваючы Пагодзіна, маўчаць. І ў далейшым у сваёй кнізе, карыстаючыся гэтым nar/ner, пазбягаюць гаворкі, што ж ён азначае. Так і застаецца гэта невядомым. Таму звернемся да Жучкевіча, які пра Нараў піша: «Наиболее верагоднае балцкае паходжанне асновы, супастаўляльнай з летувіскім nërti (чытаецца нэрті. — *Аўт.*) «ныраць». Тая самая аснова, што і ў назве возера Нарач». А пішучы пра Нарач, дадае такія балцкія апелятывы: nara «русалка», naaras «нырок, гагара» (КТСБ, Нарев, Нарочь).

«Ныраць», «русалка», «гагара». Хто б і што ні казаў, аніколі не згаджуся, што гідронім можа быць утвораны ад «ныраць». Бо што хацелі б людзі сказаць такой назвай? Што рака або возера ныраюць? У Момскім раёне Якуціі мне казалі, што частка горнай

ракі Цірэхцях цячэ пад зямлёй, але ж у Прыбалтыцы ды Беларусі такога не бывае. Называць жа вадаём словам «ныраць» таму, што хтосьць у яго дае нырца, проста абсурдна, бо качка можа ныраць і ў вялікай лужыне.

Наконт «русалкі» спрачацца не буду, такую назву старажытныя людзі маглі даваць, «гагара» — таксама. Але чаму мы павінны думаць, што і назвы, якія пачынаюцца на нер-, таксама ўтвораныя ад нара, наарас?

Такім чынам, для назваў з коранем нер прыдатных апелятываў ні Пагодзін, ні ягоныя паслядоўнікі не даюць. А тым часам у Верхнім Падняпроўі маюцца такія гідронімы з ім: Нератовка (2 ракі), Нересна, Нересно, Неропля, Нертка, Неруза (Неруса), Нерчай. І ўсе яны Тапаровым і Трубачовым залічаныя ў балцкія на падставе старадаўняга дапушчэння Пагодзіна (ТТ, с. 198).

Яшчэ болей назваў з Нер у басейне Акі: Нераш, Нергаслей, Нердовской, Неребужское, Неревец, Неревка, Неревское, Неревской, Нереж, Нереж Сухой, Нережской, Нерепское, Нересль, Нереста, Нерехта, Нериж, Нериста, Нериста Сухая, Нерль, Нерль Малая, Нермуровская, Нермуровской, Неросовское, Нероча, Нерошенка, Нерпеевской, Нерептское, Нерская, Неруч, Неручь, Неручьи, Неруш, Нерчеушевской (гл. ГБО, алфавітны паказальнік гідронімаў).

Рассыпаныя ж яны па ўсім басейне. Напрыклад, Нергаслей, Неревец, Неревка, Нерская ды інш. Знаходзяцца ў ніжнім правым Паоччы, г.зн. у чыста мардоўскіх у мінулым мясцінах. (Зыход назвы Нергаслей — мардоўскае лей «рака».) І што ж, гэта ўсё —



*Рэзь на варотах сялянскай сядзібы (Чашніцкі раён)*

балцкія гідронімы? Пагодзін усе іх, дарэчы, лічыў адзнакамі «балцкай каланізацыі», аж адсоўваў міфічную мяжу балтаў у Тамбоўскую губерню.

Зразумела, усе гэтыя гідронімы прыпісваць аднаму апелятыву і нават аднаму кораню было б неабачліва. Не такое непаўторнае спалучэнне нер, каб яно магло належаць адной мове. Ясна толькі, што пераважная большасць іх аніяк не можа быць балцкімі, бо мае фіна-вугорскія зыходы. Неруч, Неручь, Нероча, Нераш — гэта з -ач, пра якое мы гаварылі ў раздзеле «Там, дзе жыла літва».

Нереж, Нериж — тут у зыходзе даволі часты гідранімічны тэрмін — иж. Каб пераканацца, што ён існуе, параўнаем рачныя назвы Немда і Немдеж (Кіраўская вобласць Расеі, былая Вяцкая). Ва Удмурціі ёсць рака Иж, на якой стаіць удмурцкая сталіца Ижевск. Ёсць і яшчэ адна рака Иж у басейне Вяткі, некалькі рэкаў Ижма (напрыклад, у Комі рэспубліцы). Назву Иж зразумець не могуць (М. Атаманов, с. 138). Я думаю, што ў нейкай мёртвай мове, блізкай да пермскіх, иж азначала тое сама, што ў пермскіх юг — «бляск, ззянне», бо иж да юг падобнае вонкава; иж, як юг, стаіць і на пачатку гідроніма, і ў зыходзе, і самастойна ўтварае назву.

Нарев, Неревка, Неревец — тут іншы гідранімічны тэрмін, эрзянскае йов, што азначае «рака» (КЭСКЯ, Ю). Нересль, Нерль — зноў зыход пермскі, комі ель «рэчка» (Нересёль — Нересль, Нерёль — Нерль). Нериста, Нерихта — тут гідранімічны тэрмін невядомай мовы -та (-да), параўнай Нем — Немда, Юг — Ухта. У Нергаслей, Нермуровская, Нерпетская нер, падобна, спалучаецца з другой асновай — гас, мур, пет, што магчымае ў фіна-вугорскіх назвах.

Раз зыходы разнамоўныя, значыць, і значэнне нер трэба шукаць не ў адной мове. У комі-зыранскай ньӧр — «лаза». Гэта вельмі прыдатны апелятыў для невялікіх, лазовых рэчак. Назву комі ракі Нерица Туркін тлумачыць праз дыялектнае нер «прыбалотная паласа, вільготная нізіна каля балота» (А. Туркін, с. 78). Нэрис па-комі-зырански, як ужо гаварылася, «пагорак» (Нериста). На жаль, не маю слоўнікаў эрзянскай мовы, у якой, улічваючы Нарев, нер павінна быць (або было). Па-эстонску пööг «вяроўка», што стасуецца да вобразнай назвы.

Цяпер пра корань нар. Тут сякія-такія балцкія апелятывы («русалка», «гагара») паслядоўнікі Пагодзіна даюць. Але ці можна аналізаваць назву, не звяртаючы ўвагі на ейны зыход? Што такое гукі н-а-р, няўжо ў аніякай іншай мове, за выключэннем летувіскай ды латышскай, яны не могуць злучыцца ў такім парадку? Вось, калі ласка: па-эрзянску нар — «луг». Як нам тады вырашаць, балцкая назва Нараў або эрзянская? Зразумела, разгледзеўшы яе да канца, разам з зыходам.

Што азначае ў балцкіх мовах слова Нараў (або Нарэв па-польску), узятае цалкам? Нічога, такога слова няма. А ў эрзянскай йов «рака», і Нар-йов — «лугавая рака». Або Нарва, ёсць у нас на Беларусі такая рака. Які тут зыход? Ва — у комі мовах «рака». І нар у пермскіх мовах ёсць: азначае «нары», месца для сну. М. Фасмер гэтае слова тлумачыць адмовіўся (М. Фасмер, том III, нары). Зразумела, чаму: ён жа не ведаў, што гэтае слова пермскае. Такім чынам, зыходзячы з пермшчыны, атрымліваецца: Нарва — «сонная рака». І сапраўды, другая, славянская назва нашае Нарвы — Няцеч (гл. ЭПБ).

Нарач — тут таксама пермскі зыход –ач (адз). Адз — не «рака», а «даліна». Даліну маюць і рэкі, і азёры. Я падкрэсліваю гэта таму, што ў нас і возера Нарач, і рака Нарач, і рака выцякае з возера, дык няясна, што ж было названа першым. І паколькі возера Нарач вельмі вялікае, а рака Нарач малая, то можна падумаць, што першым атрымала гэтае імя возера. Нарач — не дробнае Мигото, гэта «беларускае мора», і што яно спакойнае, «соннае» — называльнікі маглі падкрэсліць.

А што Нарач — гідронім не балцкі, не ад «русалкі» летувіскай або «гагары» ідзе, паказвае наяўнасць возера Нарош ва Уладзімірскай вобласці. Дарэчы сказаць, там яшчэ і рака Нарашма, другая назва якой гучыць Нарачмар (ГБО, с. 133, 190, 220).

Не буду пераказваць усю «Историю вопроса», пададзеную Тапаровым і Трубачовым. Скажу толькі, што яшчэ сааўтары адзначаюць асаблівыя заслугі ў «балтызацыі» Беларусі ды заходняй Расеі летувіскага філолага Казіміра Бугі і М. Фасмера. Тыя ж даследчыкі, якія сумняваліся ў «балцкім гарызонце», як Развадоўскі ды Лер-Славінскі, што «шукаюць фінскія гідронімы далёка на поўдні і захадзе, аж да Усходняй Германіі» (ТТ, с. 10), спачуваннем іхнім не карыстаюцца.

А вось такі абзац: «Кіпарскі і Ойнас, — пішуць Тапароў і Трубачоў, — датуюць раннія балта-славянскія кантакты некалькімі стагоддзямі пазней славяна-фінскіх кантактаў. Акрамя агульных меркаванняў, яны зыходзяць пры гэтым з фактычнай адсутнасці славянскіх запазычанняў са слядамі насавых галосных ва ўсходне-балцкіх мовах, пры наяўнасці гэтых слядоў у фінскай» (с. 12).

Перачытваючы зноў гэтыя словы, шчыра скажу, не магу стрымаць захаплення: якое моўнае чуццё ў Кіпарскага ды Ойнаса! Яны ж не ведалі, мабыць, пра венгерскія запазычанні ў летувіскай мове, пра пермска-лацінскія, пермска-грэцкія паралелі. А зрабілі такую правільную выснову. Сапраўды, калі ўлічыць, што фінскія плямёны здаўна жылі ў Румыніі, а славяне якраз адсюль рухаліся ў Панонію, якой дасяглі толькі ў VI–VII стагоддзях, то і праўда атрымліваецца, што са славянамі будучыя балты ўступілі ў кантакт пазней, чым славяне з фінамі (у шырокім сэнсе).

Тапароў і Трубачоў гіпотэзу Кіпарскага — Ойнаса, зразумела, не прымаюць: «Да балта-славянскіх кантактаў, пачынаючы з сярэдзіны I тыс. н.э., трэба, відавочна, падыходзіць іначай, чым да кантактаў славянаў і фінаў». Чаму іначай — сумніцельныя развагі наконт гэтага пераказваць не буду.

З 1959 года да пошуку балцкай тапанімікі далучаюцца сааўтары «Лингвистического анализа...». Тапароў выступае з артыкулам «О балтийских следах в топонимике русских территорий». У ім «указваецца на недастатковую выяўленасць балцкіх гідронімаў на расейскіх тэрыторыях і прапануецца некалькі новых этымалогій з балцкага: Гжать... параўн. старажытна-прускае gudde «кустоўе, лес», летув. gudkarklas, gudobele; Гердота, левы доплыў Угры, ад балт. gard-; Держа /Ржэўскі раён/, параўн. летув. diržus «вязкі» (ТТ, с. 14).

Прызнаюся, мяне гэтыя радкі здзівілі: як можна выводзіць Гжаць з гуддэ? І што азначае балцкае гард? І няўжо для Держи нельга анічога падабраць, апрача летувіскага діржус? Гжать і недалёкая Гжель, на мой слых, — пермскія назвы ад асновы гаж «вясёлы» з двума гідранімічнымі пермскімі тэрмінамі: Гжать — з адз (чытаецца адзь), Гжель — з ёль. Гердота — гэта можа быць ад комі гӧрд «чырвоны» (сярод доплываў Северскага Данца ёсць рака Красная; у Комі рэспубліцы цякуць рэкі Гӧрдъю і Гӧрдъёль, глядзі ГНК), а Держа — хутчэй за ўсё, няўклюдны пераклад

з нейкай мовы на расейскую. Напрыклад, па-макшанску держать (трымаць) — кирдямс, а ў Верхнім Падняпроўі ёсць рака Кирденка (ТТ, с. 190), у назве якой, апрача мардоўскага кораня, заўважаецца і мардоўскі суфікс прыметніка -нь.

Вось такі, я сказаў бы, занадта зацікаўлены ў балтызацыі падыход уласцівы і кнізе «Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья». Папярэднікі Тапарова і Трубачова вырывалі з карты асобныя назвы, у якіх сувязь з балцкім матэрыялам, як ва Упа, здавалася ім пераканаўчай. Вырывалі дастаткова далёка ад балцкіх тэрыторый, дзякуючы чаму «пашыралі» іх да неразумных межаў. але паколькі вырывалі, то стваралі ўражанне ачаговага, а не суцэльнага балцкага засялення ў мінулым. Супраць такога пярэчыць цяжка, бо ў старажытнасці на шляху плямённых вандровак, дзякуючы мізэрнай шчыльнасці насельніцтва, не было перашкод, і ў прынцыпе нейкае племя з Прыбалтыкі магло прыйсці на Упу, на Жыздру і нават далей. Але такога ўяўлення аб балтах Тапарову і Трубачову здалося мала. І яны паставілі мэту давесці, што балты на ўсёй тэрыторыі Верхняга Падняпроўя — гэта значыць, да самых верхніх доплываў Дняпра, Сажа, Дзясны, жылі да прыходу славянаў скрозь, не дапускаючы сюды нікога іншага.

Каб не быць галаслоўным, прывяду лічбы. Усе гідронімы Верхняга Падняпроўя (а іх прыблізна 1070) Тапароў і Трубачоў падзяляюць на тры групы: балцкія, славянскія і «прочие». Дык вось, балцкіх у іх аказваецца каля 900, славянскіх — каля 90, а ўсіх «прочих» — каля 80. Параўнайце: 900 — і 80! Прычым гэтыя «прочие» размяшчаюцца аўтарамі пераважна па краі Верхняга Падняпроўя — у басейнах Дзясны і Сейма. А, скажам, басейн Бярэзіны ў іх — цалкам балцкі. За такой гідраніміяй бачыцца ўжо нейкая старажытная магутная балцкая дзяржава, з межамі ды войскамі на межах. Толькі вось гісторыя штосьці пра такую дзяржаву маўчыць.

Чым жа дасягаецца суцэльная балтызацыя Верхняга Падняпроўя? Спосабаў у сааўтараў шмат, і амаль усе яны спрэчныя, а часткай і заганныя.

Галоўны з іх — знайсці верхнедняпроўскаму гідроніму тапанімічную пару на тэрыторыях, пра якія вядома, што яны балцкія або сёння, або ўчора (зямля прусаў). Такія назвы для Тапарова і Трубачова з'яўляюцца непарушна балцкімі, не зважаю-

чы на тое, маюць яны ў балцкіх мовах тлумачэнне або не. Вось характэрны прыклад. Аналізуючы гідронім Неманка (доплыў Сажа), аўтары пішуць: «З балцкага (параўн. летув. Nemunas)» — і ўсё. Выходзіць, Неманка балцкая толькі таму, што частка Нёмана цячэ па Летуве. А што сам К. Буга, летувіскі тапаніміст, не мог давесці летувіскасць Нёмана (гл. КТСБ, Неман), што цэлы шэраг даследчыкаў выводзіць яго з фінскай асновы (тамсама), не мае значэння. Напісалі назву па-летувіску — і гатова.

Непарушна летувіскімі здаюцца сааўтарам і гідронімы блізкага памежжа Летувы, Латвіі, Прусіі. Гідронім Велейка імі аналізуецца так: «Параўн. Вилейка, л. допл. Вилии, пр. допл. Немана. Дапушчальнае балт. паходжанне». І не мае значэння, што Вілія ў Летуве не завецца Віліёй, што там яна Няріс.

Могуць сказаць, што Тапароў і Трубачоў не такія і вінаватыя — маўляў, аказаліся ў палоне агульнапрынятай думкі, што балты спрадвечна жылі на сваіх землях. Але ж для таго і існуе тапаніміка, каб высвятляць, правільна такія рэчы кажуцца або не.

Вось пярмяне таксама лічуцца спрадвечнымі насельнікамі сваіх тэрыторый, асабліва комі-пермякі. Але комі-пярмяцкі лінгвіст Крывашчокава-Гантман у сваёй кнізе «Географические названия Верхнего Прикамья» не імкнецца давесці, што кожная назва ейнага краю — комі-пярмяцкая. Так, яна паказвае ўсе спрэчкі вакол гідронімаў Кама, Вишера, Весляна, адносна розных дае заўвагу: «Цёмная назва» (Луным, Пудьва, Сылчим ды інш.), прызнае за шэрагам гідронімаў комі-зыранскае, удмурцкае, нават цюркскае паходжанне (Истер, Косыл, Кэкнеса ды інш.), хаця сёння цюркаў (татараў, башкіраў) аддзяляюць ад комі-пермякоў немалыя адлегласці.

Такі падыход, безумоўна, правільны, бо не дазваляе навуковай думцы спыніцца, патрабуе новых і новых пошукаў, што прыносяць новыя знаходкі. Ці ж не спыняюць, напрыклад, такія супадзенні, як комі-пярмяцкі Истер — старажытная назва Дуная Істр, комі-пярмяцкі Извер — нярэдкі гідронім Извор на паўднёваславянскіх землях (КТСБ, Изва).

Так павінны былі працаваць і Тапароў з Трубачовым. Калі яны за асноўны свой метад абралі параўнаўчы, то трэба было, перш чым рабіць назвы з балцкіх тэрыторый сваім галоўным струментам, праверыць, ці сапраўды ўсе яны балцкія. Ці нельга было, напрыклад, пачаць з такіх назваў, якія паўтараюцца ў Летуве і на

Беларусі і маюць быццам бы летувіскія асновы, але ў Летуве выглядаюць не па-летувіску: Клява, Турыя, Ула (пра іх мы ўжо гаварылі).

Далей. Нават і летувіскія даследчыкі адзначаюць у Летуве фіна-вугорскія гідронімы: «А.П. Ванагас канстатуе каля 30 гідронімаў фіна-вугорскага паходжання... Асноўная іх частка знаходзіцца на поўначы Летувы і разглядаецца як працяг арэала фіна-вугорскіх гідронімаў у Латвіі» (Л. Думпе, Дз. Паэгле. Проблема этногенеза и этнической истории балтов в исследованиях последних лет. БСИ-1982, с. 282). Такім чынам, і ў Латвіі маецца цэлы «арэал» фіна-вугорскіх гідронімаў! А тапонімамі Латвіі сааўтары карыстаюцца гэтак жа безаглядна, як Летувы ды Прусіі.

Я тут невыпадкова ўжыў «тапонімамі», а не «гідронімамі». Для кнігі Тапарова і Трубачова гэта вельмі характэрна: для доказу, што той ці іншы гідронім Верхняга Падняпроўя з'ўляецца балцкім, яны бяруць з названых тэрыторый не толькі назвы рэкаў, азёраў, але і тапонімы ўвогуле, г.зн. і назвы населеных пунктаў. Пры гэтым часцяком «балцкасць» верхнедняпроўскага гідроніма ў сааўтараў абапіраецца выключна на айконімы (глядзі іхнія тлумачэнні рачных назваў Росана, Серижа, Мрай, Габья, Даворка, Кирденка, Корейка, Рова ды шмат іншых). А айконімы ж ствараюцца паводле іншых заканамернасцяў, чым гідронімы. Бывае, зразумела, што вёска ці горад атрымлівае імя ад ракі або рэчкі, возера, на якіх стаіць, але часцей асновай назвы чалавечага паселішча рабіліся імёны, прозвішчы, мянушкі людзей.

Таму ў іх шмат зусім выпадковага. Напрыклад, маюцца ў нас дзве вёскі з назваю Мацюкі (Іўеўскі і Шчучынскі раёны). Ад чаго яны: ад імя Мацей ці звычайнага мацюкі? Ды ад чаго б ні было, ці можна з гэтым айконімам падступацца да назвы рэчкі Маціца? А вось Тапароў і Трубачоў прыблізна так і робяць.

Трэба яшчэ дадаць, што большасць вёсак на балцкіх тэрыторыях узнікла не раней за XIV стагоддзе, г.зн. пасля ўтварэння ў Прыбалтыцы гаспадарстваў: Вялікага Княства Літоўскага і Ордэна. ВКЛ, як вядома, сваю частку Прыбалтыкі славянізавала, Ордэн — германізаваў. Значная частка паселішчаў, крэпасцяў, што ўзнікалі тады, атрымлівала славянскія ды нямецкія назвы. А для Тапарова і Трубачова ўсе яны — балцкія.

Зрэшты, няправільна было б сказаць, што Тапароў і Трубачоў выводзяць балцкасць гідронімаў выключна з дапамогаю та-

панімікі Летувы, Латвіі, Прусіі. Карыстаюцца яны і балцкай лексікай для пошуку апелятываў.

Але паглядзіце: балцкіх назваў у Верхнім Падняпроўі, паводле іх, да 900, а балцкіх апелятываў да гэтых назваў даюць каля 140 (гл. ТТ, с. 265), г.зн. вельмі шмат застаецца без апелятываў. А цэлы шэраг апелятываў выклікае сумлеў і пярэчанні. Вось Бабруйка. Тапароў і Трубачоў узводзяць гэтую назву да летувіскага bebras. А чаму не да беларускага бабёр. якое азначае тое сама, што і bebras? Бабёр ад Бабруйкі не далейшае, чым бябрас, дык навошта такі выверт?

Да гідроніма Вязовенка сааўтары падабралі аж тры апелятывы: прускае ansonis, летувіскае ažuolas і латышскае ozols — усе тры азначаць «дуб». Але якім мудрым спосабам з іх атрымалася Вязовенка? І чаму яна ўтварылася не ад славянскага вяз?

Деревенье — назва, здавалася б, ясная: або ад дерево, або ад деревня. Але для сааўтараў такое рашэнне занадта простае: яны прапануюць летувіскае derva (дярва) — «смала».

Назва ракі Птичь (Пціч): не задаволіла сааўтараў паходжанне ад птица, птичий, і прапанавалі яны... летувіскае putytis «птушаня». І змясцілі яе ў раздзел «Балцкія», не зважаючы яшчэ і на тое, што, як паведамляюць самі, у дакументах мінулага Пціч адлюстраваная як Бчичь (ТТ, с. 203).

Балтызацыя Верхняга Падняпроўя для Тапарова і Трубачова — не самамэта. Яно для іх — толькі плацдарм, з якога можна рушыць далей на ўсход. Аб гэтым міжволі думаеш, калі чытаеш напісаны праз 20 год пасля «Лингвистического анализа...» артыкул Тапарова «Древняя Москва в балтийской перспективе» (БСИ-1981, с. 3–61).

Літаральна на першай старонцы аўтар абвяшчае: дзякуючы поспехам тапанімікі нарэшце устаноўленая старажытная мяжа паміж балтамі ды фіна-awграмі. Яна ішла па Маскве-рацэ аж да ейнага ўпадзення ў Аку. І на захад ад гэтай «мяжы» фіна-вугорскія назвы нешматлікія і ізаляваныя; затое на ўсход ад яе мала слядоў балцкіх (с. 3). «Унутры таго кліна, якім уваходзіць у Падмаскоўе арэал балцкай гідраніміі, прыходзіцца не меней за 300 назваў балтамоўнага тыпу, а калі пашырыць гэтую тэрыторыю за кошт паветаў Калужскай, Смаленскай і Цвярской губерняў, што прымыкаюць да Падмаскоўя, то колькасць назваў павялічыцца да 400» (с. 6).

І далеи ідзе пералік гэтых «балцкіх» назваў, праўда, не ўсіх — прыблізна 170. Аніякага аналізу іх пры гэтым не прыводзіцца, замест яго ў артыкуле — нярэдкія спасылкі на «Лингвистическии анализ...» — маўляў, адшыфроўкі там.

Зразумела, аналізаваць усе 170 прыведзеных Тапаровым гідронімаў я не буду, на гэта спатрэбілася б дзесяткі старонак, але сёе-тое пакажу. Так, у балцкія ён залічвае назвы Веля, Велья, Велеса, а па-мардоўску веле — «вёска», і ў басейне Акі цэлая куча падобных назваў. Прывяду яшчэ мардоўскія апелятывы да гідронімаў, якія Уладзімір Тапароў лічыць балцкімі:



*Хата ў марыйскай вёсцы Малае Бязрукава (з Вяцкай губерні)*

Алчанка — алашань «конскі»;
Дидеика — тидяй «маці» /«сямейная» назва/;
Ильятенка — илядень «вячэрні»;
Исня — исаня «вярба» /памяншальнае/;
Карженка — карга «журавель»;
Кастинка — кстынь «сунічны»;
Келенка — келунь «бярозавы»;
Лама — лама «багаты»;
Меденка — медень «мядовы»;
Нара — нар «луг»;
Ража — равжа «чорны»;

Селеня — сееленя «вожык» /памяншальнае/;
Толжа — толга «пяро»;
Уча — уча «авечка».

Узнікае пытанне: як жа так? Сам жа Тапароў у сааўтарстве з Трубачовым пісаў у «Лингвистическом анализе...», што Голова Оки (выток Акі) — калька з мардоўскай назвы (ТТ, с. 20. Гэта абсалютна дакладна, бо па-мардоўску пря адначасова «галава» і «выток»). А ўсе пералічаныя — у басейне Акі, і ляжаць у ім ніжэй, чым Голова Оки. Ці ёсць верагоднасць, што сярод іх могуць быць мардоўскія? Вельмі вялікая — скажа кожны аб'ектыўны даследчык. Прынамсі, праверыць гэта трэба абавязкова. Ці ўчыняў такую праверку Тапароў? Адназначна — не. Бо апелятывы, прыведзеныя мной, проста ляжаць на паверхні, яны — з літаратурнай макшанскай мовы (а часткова і эрзянскай), маюцца ў кожным, самым сціслым слоўніку.

Ворсинка, Гряда, Ендова, Жижола, Заденка, Катышка, Клеткина, Мошонка, Осень, Селитенка, Скоба, Скородайка, Чисьмена, Шутинка — чаму гэтыя назвы з расейскімі асновамі трапілі ў Тапарова ў балцкія? (Ендова — «невялікая круглая затока, звязаная з ракой або возерам»; жижолка — «вяроўка»; скорода — «барана»; чисьмена — ткацкі тэрмін, пасма ў тры ніткі).

Аўтар лічыць, што гэта пераклады? Але чаму абавязкова з балцкіх назваў? Яны ж па форме (асабліва Гряда, Ендова, Жижола, Осень, Скоба, Чисьмена) несумненна фіна-вугорскія, бо не ў балцкіх жа мовах, а ў фіна-вугорскіх назоўнік адначасова з'яўляецца і прыметнікам, а словы ендова, жижолка, чисьмена і самі па сабе несумненна фіна-вугорскага паходжання

Што ж за балты, на думку Тапарова ды іншых прыхільнікаў «балцкай перспектывы» Масквы, жылі ў Падмаскоўі? Пра гэта — у наступным раздзеле.

Глава 7

# Падмаскоўная літва

Хто ж, на думку Тапарова, пакінуў балцкія гідронімы ў Маскоўскай, Калужскай, Тульскай, Смаленскай абласцях?

Можа, яшчэ памятае чытач з раздзела «Дагістарычныя блуканні: шлях жамойці», што на пачатку нашай эры ў Прыбалтыцы антычнымі аўтарамі (канкрэтней — Пталамеем) згадваліся нейкія галінды.

Паколькі Прыбалтыка лічыцца спрадвечна балцкай (што гэта не так, мы ўжо пераканаліся на летувіска-венгерскіх паралелях), то для масы даследчыкаў галінды — безумоўна балцкі этнас.

А ў рускіх летапісах гаворка ідзе пра племя голядзь, што «сядзела» ў Падмаскоўі ў XI–XIII стагоддзях. На якой мове яно размаўляла — звестак няма. Вядома толькі, што час ад часу ў славянаў з ёю здараліся сутычкі.

Вось і ўзнікла ў даследчыкаў думка (каму першаму яна прыйшла, сказаць не магу, падобна Тапарову), што голядзь — тое сама, што галінды. А раз галінды — балты, то і голядзь — балты. Гэтая тэма распрацоўваецца ўжо больш за 30 гадоў. У выніку «балцкасць» голядзі стала настолькі ўзаконенай, што сцвярджаецца і ў энцыклапедычных выданнях: «ГОЛЯДЬ — балт. племя, в 1-м — нач. 2-го тыс. н.э. населяло бас. Протвы между землями вятичей и кривичей» (СЭС).

Аніякіх гістарычных указанняў, што голядзь — тое сама, што галінды, няма. На чым жа палягае такое сцвярджанне даследчыкаў? Ды галоўным чынам на падабенстве пляменных назваў. А ў другую чаргу — на суб'ектыўным аналізе тапанімікі.

Але ж міжмоўная аманімія тычыцца не толькі агульных словаў ды тапонімаў (напрыклад, па-макшанску лама «багаты», па-эвенкійску ламу «мора»: з першага рака Лама пад Масквой, ад другога — эвенкійская назва Байкала Лама). Выпадковымі могуць быць і супадзенні этнічных назваў. Старажытнае насельніцтва Азербайджана называлася албанцамі. А сёння мы ведаем Албанію — краіну на Адрыятычным моры. Жыхары гэтай краіны, дарэчы, самі сябе называюць шкіптар, што блізка да

скіфы. Ці можна сказаць, што старажытнае насельніцтва Азербайджана, сённяшняе Албаніі і скіфы маюць між сабой этнічную тоеснасць? Вельмі было б неабачліва.

Гэтаксама было б недарэчнасцю ставіць знак роўнасці паміж галіндамі і галамі, як называлі рымляне кельтаў. А вось галінды і голядзь, выходзіць, адно і тое ж. І ці не таму, што ні пра галіндаў, ні пра голядзь невядома нічога канкрэтнага?

«Галінды, — піша Тапароў /В.Н. Топоров. Галинды в Западной Европе. БСИ-1982, с. 129), — адзінае з вядомых сёння плямёнаў старажытных балтаў, якое ўзяло ўдзел у «вялікім перасяленні народаў», пачаўшы сваю міграцыю на некалькі стагоддзяў раней. Міграцыя галіндаў ажыццяўлялася ў двух розных напрамках: на паўднёвы ўсход і пазней на паўночны ўсход у адным выпадку і на поўдзень (або паўднёвы захад) у другім выпадку. У выніку сляды галіндаў (перш за ўсё адлюстраванне іх імя) агледжваюцца на вялізных прасторах Еўропы — ад берагоў Атлантычнага акіяна да лясоў Падмаскоўя».

Зразумеў, чытач, пра што гаворка? На карце «ад Атлантычнага акіяна да лясоў Падмаскоўя» агледжаныя сляды імя галіндаў, г.зн. тапонімы, якія нагадваюць слова галінд. Такія назвы сустракаюцца нават у Іспаніі. Пра гэта даследчык піша выключна сур'ёзна. Але чамусьці яму не прыходзіць у галаву, што, да прыкладу, у Іспаніі маглі быць мовы, а магчыма, і сёння маюцца дыялекты, у якіх слова «галінд» азначае што-небудзь накшталт «голад», «галіна»... А чаму б не завесці галіндаў у Галандыю? Таксама падобнае слова.

Зрэшты, да шляхоў галіндаў у Заходняй Еўропе нам дачынення няма, тым болей, што яны праблематычныя. Чым тлумачыць Тапароў, што адна частка галіндаў рушыла ў Іспанію, а другая — у Падмаскоўе?

Нічым не тлумачыць. Захацела — і рушыла.

Яшчэ цікавае пытанне: чаму галінды пайшлі ў Падмаскоўе не напрасткі, а неяк крыва: «на паўднёвы ўсход і потым на паўночны ўсход»? З чаго вынікае такі маршрут?

Рэч у тым, што Тапароў цікуе след галіндаў не па гістарычных крыніцах (якіх няма), а па тапонімах. А на поўдзень ад Прыпяці, у Валынскай ды Ровенскай абласцях Украіны, маюцца назвы Голядин, Голяда. Гэта трэба было неяк растлумачыць. Вось і ўзнік такі пункцір шляху галіндаў: спачатку ў Маравію, потым на Ук-

раіну, а ўжо адтуль — на Маскву. Цікава, якім быў бы шлях галіндаў у Падмаскоўе, калі б Тапароў агледзеў раку Галядзу, што ў Докшыцкім раёне?

Старажытныя плямёны, зразумела, ішлі не па компасе. Але, думаецца, нейкі агульны напрамак усё ж вытрымліваўся. Калі ж ён рэзка мяняўся, то на тое мусілі мецца нейкія важныя прычыны. А як гэта зразумець: прыйшлі галінды ў Маравію ды падзяліліся, адна частка пайшла на захад, у Іспанію, другая — на ўсход, у Падмаскоўе? Штось у гэтым не тое...

А вось калі б голядзь (не галінды, зразумела, бо на Украіне няма тапонімаў Галінд, ёсць толькі Голяд) ішла не з Прыбалтыкі, а як літва, з поўдня, з Румыніі, то на Украіне сапраўды магла падзяліцца: хтось пайшоў на Галядзу, хтось у Падмаскоўе: не такая ўжо вялікая розніца ў напрамку.

Зразумела, адных назваў з коранем голядь мала, каб давесці, што голядзь — галінды. Таму Тапароў і «балтызуе» так старанна гідранімію Падмаскоўя.

У папярэднім артыкуле я ўжо паказваў, якімі метадамі карыстаюцца аўтары «Лингвистического анализа...». Гэтыя метады цалкам скарыстоўваюцца і ў артыкуле «Древняя Москва в балтийской перспективе». Таму правядзём свой уласны аналіз.

Зыходзячы з геаграфічнай блізкасці мардвы (асабліва ў гістарычным плане), можна было б падумаць, што голядзь была мардоўскай. Тым болей, што мардоўскія назвы ў Падмаскоўі ёсць.

Але значна болей, як ні дзіўна, гідронімаў пермскіх. Звернемся да спісу «балцкіх» назваў, што дае Тапароў у сваім артыкуле. Спіс гэты змяшчае каля 170 гідронімаў. Прывяду з іх тыя, што, на мой погляд, можна лічыць пермскімі:

Болва — ад комі пöл «дошка» + ва;

Бунятка — ад комі пун «жыла» (вобразная назва);

Важаночка — ад комі важ«ш «які старэе»;

Вилейка, Вилия — ад комі виль «новы»;

Воржинка — ад комі воргэ «рэчышча»;

Ворча — калі не расейскі пераклад (ворчать), то ад комі ворч «вобад»;

Восьма — ад улмурцкага вöсь «маленне», ма — гідранімічны тэрмін, адэкватны ва;

Гжать, Гжель — гаварылася ў папярэднім раздзеле;

Гозбуже — ад комі гос «тлушч», бöж «хвост»;

Дерельня — ад комі дöра «палатно» (вядома, што палатно бялілі на рэчках) + гідранімічны тэрмін ёль «рэчка»;

Деркулька — ад комі дёрок «пясок» (буйны і жорсткі), уль «вільготны»;

Дуба — ад комі дуб «прэсны»;

Желема — ад комі шель «малады» + ма;

Жижмель — ад комі джыдж «стрыж» + ма (параўн. Жыжма ў басейне Нёмана) + ёль або ад удм. Жыжом «слабець» + ёль;

Житойка — улм. жыто «вячэрні» + ю «рака» з перахолам у й;

Жукопа — ад удм. Жук «каша» + учм суфікс -эп;

Заменка — ад удм. заман «хутка»;

Зэрия — ад комі зэр «дождж»;

Издетель — ад комі из «камень» + Тител (назва іншай ракі ў спісе далей);

Иночь — ад комі ын (ын «месца», ёсць рака Ын у Комі рэспубліцы + гідранімічны тэрмін ач/адз);

Истонка — ад удм. исатон «які дражніць»;

Истоя — ад старажытнага ист «бог» (параўн. удм. осто «бог», венг. іштэн «бог»);

Истра — паўтарэнне старажытнай пермскай назвы Дуная Істр (пра ейную пермскасць гаварылася ў раздзеле «Дагістарычныя блуканні: шлях пярмянаў»);

Каденка — ад комі кад «дрыгва»;

Козелка — ад комі кöз «елка» + ёль»;

Комеча — ад комі ком «харыус» + ач;

Кубрь — ад удм. куба «старая» + гідранімічны тэрмін öр «рэчышча»;

Ланка — ад комі-пярмяцкага лана «расамаха»;

Лашутка, Лоша — ад комі лос «вільготная нізіна»;

Лобь — ад комі лöп «дрэўны хлам, ламачча, якое нясе вада», або удм. лобы «вілы», або комі льöб «губа» — сэнс такой назвы цемнаваты, але на поўначы слова губа ужываецца замест «бухта», што, несумненна, з'яўляецца фіна-вугорскім вобразным следам. У пермскай вобласці маецца рака Лобва, назву якой Крывашчокава-Гантман тлумачыць праз лöп, калі ж абраць апелятыў льöб, то гэта, мусібыць, азначала б «з бухтамі»;

Мезенка — ад комі мизьö «наймалодшы ў сям'і»;

Мемеиха — ад удм. мемей «мама»;

Мерегель — удм. мерыж «крыва, коса» (прыметнік мерег «крывы» страчаны) + ель;

Можайка — ад удм. мог «марудны» + ю «рака» з пераходам у й;

Непрета — ад удм. напра «гушча, жыжа, асадак»; Ольсафка — ад комі ольсавны «слаць» (палатно);

Палея — ад удм. паля «ягня»;

Понар, Понора — ад комі пон «сабака» або пони «маленькі» + öр;

Протва (у летапісах Поротва) — ад комі пöрöтны «валіць» (лес) + ва;

Салита — ад комі сальыд «пахмурны вільготны» (пра надвор'е). У Падмаскоўі ёсць таксама рака Кымерша — ад комі кымöр «хмара», а ў Смаленскай вобласці рака Хмара, несумненны пераклад. Несумненная таксама сувязь словаў кымöр і хмара;

Руза — ад комі рудзны «цячы»;

Сарповка — ад комі сэш «брудны»;

Сетовка, Сетунь — ад комі сетны «дарыць», першая з гідранімічным тэрмінам ва, другая з комі уна «шмат». Што назвы рэкаў з коранем дар магчымыя, паказвае Дарченка з таго самага спісу Тапарова;

Силинка — ад удм. силё «ламачча, дрэўны хлам»;

Субита — ад фіна-вугорскага sup «асіна» з пермскім суфіксам прыметніка -ит або ад комі сöп «жоўць» з тым сама суфіксам;

Тара — ад комі тар «цецярук»;

Титель — ад комі дзит «сініца» + ёль;

Турейка — ад комі тури «жураве́ль» або удм. тур «цецярук»;

Тяжинка — ад комі таг «хмель»;

Угра — ад комі юг «бляск, ззянне» з гідранімічным тэрмінам ра, аналагічным ва, або ад комі йогра «югра» (ханты і мансі, якія даўней жылі ў Еўрапейскай частцы Расеі);

Ужепа — удм. уж «жарабок» + суфікс -эп;

Ула — гаварылася вышэй, можна яшчэ дадаць, што па-ўдмурцку уло «галінасты» (гэта азначала б «з доплывамі»);

Улушинка — ад удм. улэп «жывы»;

Усия — ад удм. усы «барана», перакладамі чаго, мусібыць, з'яўляюцца Скородинка і Скородайка са спісу Тапарова;

Ужбица — ад удм. ужпи «жарабя»;

Цидель — аснова няясная, але ў Пермскай вобласці маецца рака Цидва з зыходам ва, у Цидель іншы пермскі зыход ель;

Чачинка — агульнапермскае чача «цацка» або удм. чача «корушка» /рыба/, удм. ЧатЧа «дробналессе»;

Чельвянка, Челивянка — ад комі чельо «зерне», з зыходам ва або удм. чöльы «мезенец», параўн. Мезенка вышэй — магчыма, што гэта і пераклад;

Чермянка — ад комі чер «доплыў»;

Чечера — ад тых жа каранёў, што і Чачинка, з зыходам ӧр, або ад удм. чочоро «распусны»;

Шана, Шанка, Шанкина — ад комі шань «прыгожы»;

Якоть — ад комі яг «бор»,»сасоннік» з зыходам адз.

Думаецца, што калі б даследчык папрацаваў як след з гэтымі гідронімамі, то ў яго не ўзнікла б жадання абвяшчаць іх утворанымі ад балцкіх каранёў. Бо нават такі падазроны на балцкасць, як Брукель (параўн. летувіскае brukis «рыса, штрых»), усё ж не балцкі. Брукель канчаецца на -ель, а гэта пермскае ёль. І ў смаленскім дыялекце брук — «пясчаная водмель у рацэ» (ЭСБМ, том І, с. 383). У гэтага слова паходжанне незразумелае, магчыма, фіна-вугорскае. Ёсць і яшчэ адно расейскае дыялектнае слова — брукать «гаварыць незразумела» (В. Даль). У такім выпадку -ель можа быць славянскім суфіксам (параўн. Круцель).



*Эвалюцыя пярмяцкай бараны*

Згодна з летапісам голядзь «сядзела» на Пратве-рацэ — паўднёва-заходняй мяжы Маскоўскай вобласці. Тапароў піша: «годнае ўвагі згрупаванне балцкіх назваў у басейне самой Пратвы (на гэта практычна не звярталася ўвагі раней) і на памежных тэрыторыях, г.зн. у самым непасрэдным суседстве» (БСИ-1981, с. 21). І прыводзіць 22 гідронімы.

Давайце разгледзім іх:

Алекса — падобна, марлоўскі, ад алакша «бялок яика» («белыя» рэкі не рэдкасць) або невядомага фіна-вугорскага паходжання з гідранімічным зыходам -кса.

Вормишка — пермская, ад вор «лес» з гідранімічным тэрмінам ма;

Ворченка — ад комі ворч «вобад»;

Восенка — калі «в» карнявое, то ад удм. вось «маленне» — аналагічна «святым» рэкам;

Вуокса — доплыў Ладагі, Лекса, Илекса ў Аланецкаи губерні ды інш. (А. Соболевский, с. 15);

Дугна — ад удм. дыг «марудны»;

Журишка — ад удм. шур «рака» + гідранімічны тэрмін иж (гаварылася вышэй);

Заденка — расейская (у кожнай вёсцы бывае «перад» і «зад», у Расеі кажуць «пройти задами» — г.зн. за гародамі);

Истирна — ад старажытнай пермскай назвы Дуная Істр, з мардоўскім памяншальным суфіксам -ня;

Карженка — мардоўскі, ужо гаварылася;

Картинка — ад комі карта «хлеў» з суфіксам прыметніка ын або з ин «месца»;

Колочь — ад комі кöл «маленькая затока, маленькае возера» з гідранімічным зыходам -ач;

Локня — параўн. комі лёк «нетры, непраходны лес на балоце», ёсць рака Лёк у Пермскай вобласці;

Нара, Наренка — мардоўскія, гаварылася вышэй;

Салинка — ад комі саль «пахмурнае летняе надвор'е», аналагічна назве Салита;

Ситинка — ад комі сіт «гной»;

Смердка — верагодна, ад расейскай асновы «смердеть»;

Серпея, Серпейка — пермскія, аб гэтым казалася вышэй;

Таруса — ад комі тар «цецярук», з пермскім суфіксам прыналежнасці — öсь;

Чичера — пермскі гідронім, ужо гаварылася.

Як бачым, і для гэтых гідронімаў няма патрэбы звяртацца да балцкага матэрыялу. Мушу яшчэ сказаць, што хоць Тапароў і піша, што ў гэтым спісе пераважна гідронімы з басейна Пратвы, у сапраўднасці такіх, здаецца, толькі 8: Локна, Чичера, Карженка, Смердка, Истирна, Восенка, Салинка ды Ситинка.



*Розныя ўзоры беларускай бараны*

Усяго ж, згодна з даследаваннем Г. Смаліцкай, у басейне Пратвы болей за 160 рачных назваў, і ёсць сэнс паказаць іх крыху шырэй, чым гэта робіць Тапароў. Тут ёсць мардоўскія: Аложа (алаша «конь»), Руденка, Руда (рудас «гразь»); Карженка, Ильятинка (гаварылася ў папярэднім раздзеле); Плакса (палакс «крапіва», непадалёк ад Плаксы цячэ Крапивенка); Кшома (кши «хлеб» + ма).

Але зноў болей пермскіх:

Дедец — аднакарэнная з недалёкім гідронімам Дедва, дзе выразнае комі ва, дед па-комі «галаўня» (хвароба зерня), Дедец — дед-ось;

Залоча — ад комі дзоля «маленькі», з зыходам -ач або Ока (Залоча — маленькая Ака: дзоля-Ока – Дзолока — Залоча);

Качелка — ад комі кач «луб» (ужываўся пярмянамі ў ежу) з зыходам ёль;

Кашинка — калька з пермскіх назваў Падмаскоўя Рукапа, Жукопа, што ў асновах змяшчаюць комі рок «каша» і ўдмурцкае Жук «каша»;

Колпь — ад комі колип «тонкі лёд»;

Корижа — ад комі кор «ліст» (дрэва) або кöр «алень» + иж;

Лож — магчыма, ад комі вож «доплыў» (у дыялектах комі-пярмяцкай мовы в — л);

Людка — ад комі лют «хуткі»;

Межуха — ад комі мег «лука ракі» або меж «баран» з гідранімічным тэрмінам юга (Ветлуга ды шмат іншых лічыцца старажытнапермскім «рака»);

Мжуг — ад комі меж «баран» або мег «лука ракі» + юг;

Ничега — калька з комі нем, удмурцкага нема «нічога», можа і ад комі нитш «мох»;

Обизерка — ад удм. абыз «знахар» + öр;

Орданка — ад комі орда «бурундук» (у Комі рэспубліцы рака Ордаю);

Полая — ад комі пöд «дошка» з зыходам ю, магчыма і расейская версія;

Свинец — расейскі пераклад з пермскага, прыгадаем Езус у недалёкім адсюль басейне Сейма, што перакладаецца з комі эзысь як «срэбра», а свінец па-комі, відавочна, як і волава, озысь;

Сигаровка — ад комі сигöр «скат» + ва;

Супрут — верагодна, калька з пермскай назвы Шатец (басейн Упы): Шатец — Шат-ось у літаральным перакладзе «з прутом», адкуль Су-прут;

Текижа — ад комі тега «сціртa» з гідранімічным тэрмінам иж;
Уготка — ад удм. югыт «светла».

Шэрагу падмаскоўных рэкаў і рэчак Тапароў адшуквае блізкія па гучанні гідронімы ў гістарычнай Галіндыі, адной з вабласцей старажытнай Прусіі:

Визынка, Визенка, Выза — Wuyse;
Кубрь, Кубарь, Кубер — Kubra;
Лама — Lamasila;
Лубянка — Lubano;
Малшинка, Молшенка, Молщин — Mals у Malsowangus;
Метелка — Mete;
Нара, Наренка — Nar (маецца на ўвазе Нарев у Польшчы);
Нидалька — Nida;
Радуча — Raducken;
Руса — Russe;
Скородинка — Skarde
(БСИ-1981, с. 21).

Але да аніводнага з «галіндскіх» гідронімаў апелятыву ён не дае, хаця і сцвярджае, што галінды раўназначныя прусам, а сам з'яўляецца спецыялістам па прускай мове (з 1975 года выдае слоўнік прускай мовы. Глядзі ЛЭС, Прусский язык). Тым часам:

Вызынка, Вызенка, Выза — ад комі видз «луг»;

Кубрь, Кубарь, Кубер — ад удмурцкага куба «старая» + öр;

Лама — ад марлоўскага лама «багаты»;

Лубянка — расейская калька, верагодна, з комі кач «луб» (параўн. Качелка ў басейне Пратвы);

Малшенка, Молшенка, Молщин — ад мардоўскага мала «блізкі» і шине «смурод»;

Метелка — яўная расейская калька, лапушчальна з комі рос, што аднача́сова азначае «хмызняк» і «мятла, венік» — пры перакладзе на славяншчыну выбралі не тое значэнне (замест «хмызняк» — «мятла»);

Нара, Наренка — ад мардоўскага нар «луг», нарань «лугавы»;

Нидалька — ад комі ныд «вільготная дрыгвяністая мясціна каля берага, на схіле гары» і оль — «лісцёва-хваёвы лес на балоцістай мясцовасці»;

Радуча — расейская назва (параўн, радуша «милый, любезный» — В. Даль);

Руса — ад рос «хмызняк», «мятла» (параўн. Метелка);

Скородинка — расейская калька (відавочна, з удмурцкага усы «барана», параўн. рака Усия) і не можа быць супастаўленай з чужамоўным Skarde.

Такім чынам, з балцкіх моваў, як ускосна прызнае Тапароў, пералічаныя ім падмаскоўныя і «галіндскія» назвы не раскрываюцца, а з пермскіх, мардоўскіх, расейскай — дастаткова лёгка і пераканаўча. І можна было б сказаць, што супадзенні паміж падмаскоўнымі ды «галіндскімі» гідронімамі выпадковыя. Але для выпадковасці, бадай што, іх зашмат. Чым жа пэўныя з іх (Кубрь — Kubra, Выза — Wuyse, Нара — Nar, Нидалька — Nida) тлумачацца?

У папярэдніх раздзелах ужо было паказана, што фіны на мяжы нашай эры жылі ў басейне Дунаю. І адтуль яны рушылі не ў адзін час і не ў адным кірунку. Напрыклад, у Польшчы агледжваюцца пермскія гідронімы Вісла, Раб, Сан, мардоўскія Нараў, Кшна. Дык ці варта здзіўляцца, што тамсама маюцца і пермскія Ніда, Wuyse, Кубра, мардоўскія Ламасіла (лама «багаты», сюла «кішка»)?

Паглядзіце, якія яшчэ рачныя назвы маюцца на поўначы Польшчы: Вда, Гвда, Брда, Вкра. Гэта ж так нагадвае пачаткі шматлікіх мардоўскіх словаў, для нас амаль невымаўляльныя (врьгаз «воўк», крхка «глыбокі» ды інш.)! А вось у Балтыйскае мора ўпадае ў Польшчы Лупава. А ў Пермскай вобласці — Лопва, Лопья (некалькі рэкаў), Лупья (2 ракі), Лупта; Лупта ў Комі рэспубліцы. Гэтыя назвы ідуць ад комі лӧп — «дрэўны хлам, што нясе рака ў паводку; завал» (А. Крывашчокава-Гантман). У цэнтры Польшчы — рэкі Равка (марыйская назва Волгі — Рава), Нер (па-комі ньӧр «лаза»). У Віслу ўпадае Свідэр, што ідзе ад комі-пярмяцкага свиттявны «блішчэць» ды ӧр «рэчышча». Назва вялікай ракі Варта (доплыў Одэра) — ад комі вартны «малаціць». Сам Одэр — ад комі-пярмяцкага од «луг» ды ӧр «рэчышча». Нарэшце, Лаба ў Германіі (Эльба) — ад пермскага кораня лаб са значэннем «нізіна» (гл. КЭСКЯ, лаб).

Ніда, дарэчы, у Польшчы не адзіная: акрамя «галіндскай», ёсць і яшчэ Ніда — што ўпадае ў Віслу непадалёк ад Кракава. А ў Паноніі, як гаварылася ў раздзеле «Дагістарычныя блуканні: шлях жамойці», у антычныя часы была рака Неда. Гэтыя тры ракі ясна паказваюць шлях з Паноніі на поўнач. Нідалька ў Пад-

маскоўі — іншы кірунак рассялення пярмянаў, што, можа, меў канцавым пунктам раку Нида ў Ненецкай нацыянальнай акрузе (Ямал).

А ці маглі да «галіндскіх» назваў мець дачыненне галінды, калі, як піша Тапароў, пайшлі з Прыбалтыкі на стагоддзі раней за Вялікае перасяленне народаў (БСИ-1982, с. 129)? Калі яны сапраўды пайшлі, то свае назвы панеслі з сабою, а тыя, што мы маем сёння, далі людзі, якія прыйшлі сюды пасля галіндаў і ўжо болей нікуды не рухаліся. І можна не сумнявацца, што балтамі галінды не былі, бо продкі летувісаў, латышоў і, зразумела, прусаў прыйшлі з Дуная ў Прыбалтыку значна пазней, чым галінды адсюль пайшлі. А хто былі галінды па мове — думаецца, не ўстановіць ніхто, бо ад іх не засталося аніякіх моўных рэшткаў, апрача іх агульнага імя «галінды».

І голядзь не пакінула па сабе аніводнага слова, пра якое б мы цвёрда ведалі, што яно голядскае, аніводнага ўласнага імя, бо ці належаў голядзі баярын Кучка, што жыў там, дзе ўзнікла Масква (У. Тапароў) — невядома, бо ёсць і расейскае слова кучка (малая куча), і мардоўскае (кучка па-макшанску — «сярэдзіна»). Толькі вось у адрозненне ад галіндаў голядзь несумненна паўплывала на тапанімію Падмаскоўя, бо вядома, што яна папярэднічала тут славянам і нікуды не сышла, засталася, растварылася ў расейцах. Значыць, пэўная частка гідронімаў, якія мы аналізавалі, належаць ёй. Якая ж? Пермская ці мардоўская?

Але перш чым адказаць на гэта, вернемся да пытання, паднятага ў «Плем і пяці родаў»: ці магло слова «вада» ў старажытнасці азначаць адначасова і «племя, народ»?

З гэтай гіпотэзай чытачы «Племя» пагадзіліся не ўсе. Так, вядомы беларускі пісьменнік з Беласточчыны Сакрат Яновіч пісаў, што этнонім літва, выход якога я тлумачу як «народ, племя» (другое, забытае значэнне комі ва «вада») «правільней і слушней» было б перакласці як «Пяцірэчча» («Літаратура і мастацтва», 1989, 20 кастр., с. 16).

Аднак, аказваецца, на тое, што назвы розных этнасаў неяк звязаныя з вадой, звярнулі ўвагу задоўга да мяне. Імкнучыся зразумець, ад чаго ўтварылася слова русь, беларускі філолаг П. Ф. Крапівін яшчэ ў 1954 годзе параўноўваў яго з расейскімі «русло», «русалка», «русалии», «руса», пагадзіўшыся з чэшскім даследчыкам П. Шафарыкам, што ў праславянскай мове існава-

ла слова rusa са значэннем «рака»*. «Значыць,а — піша Крапівін, — у аснове назвы народа «русь» ляжыць якоесьці старажытнае слова, значэнне якога можна абагулена наблізіць да значэння «вада». Гэтая дзіўная на першы погляд назва народа знаходзіць сабе пацвярджэнне ў тым, што і вядомая з «Повести временных лет» назва фінскага племені «весь» таксама паходзіць ад вады, таму што па-фінску вада — vesi» (гл. П. Крапівін. Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь». Імя тваё Белая Русь. 1991, с. 70).

«Праф. Казанскага ўніверсітэта І.Н. Смірноў у сваёй працы «Вацякі. Гісторыка-этнаграфічны нарыс» (Казань, 1890), — працягвае Крапівін. — паведаміў аб тым, што назвы рэк у Удмуртыі, якія канчаюцца на «ма», маюць тыя ж пачатковыя часткі, якія ўжываюцца ў назвах рэк у зыран і пермякоў, але з канечным «ва», напрыклад: у Удмуртыі «Віль-ма», «Нерт-ма», «Урдо-ма», у зыран і пермякоў «Віль-ва», «Нерт-ва», «Урд-ва». Грунтуючыся на гэтым, ён зрабіў наступны вывад: «з прычыны таго, што «ва» ў зырана-пярмяцкай мове азначае «ваду» і «раку», мы робім вывад, што тыя ж назвы мае і «ма» /П. Крапівін, с. 76/. І ўрэшце Крапівін заключае, што ў пляменнай назве нерома зыход таксама азначае «вада» (с. 80).

Тут міжволі просіцца, каб яго далучылі, той факт, што было яшчэ і племя мурома, якое ўвайшло ў склад расейцаў. Яно таксама канчаецца на ма.

Не магу згадзіцца, аднак, што ў праславянскай мове мелася слова руса, якое азначала б «рака». Як магло здарыцца, каб слова з такім важным значэннем і такое лёгкае для вымаўлення, з праславянскай мовы, ад якой вядуць адлік больш за дзесятак моваў, перайшло толькі ў адну з іх — расейскую, дый не само сабою, а толькі водгуллем у словах русло, русалка? У такіх выпадках просіцца больш рэальнае тлумачэнне: запазычаннем. Вядома, што племя русь, якое жыло ў ваколіцах Ноўгарада Вялікага і чыя назва перайшла пазней на славянаў, было неславянскім Якім яно было па мове — невядома. Але вось такая цікавая падрабязнасць: у комі мовах рудзавны — «цячы», рузь (розь) — «дзюрка, адтуліна». Ад гэтых словаў да русло — адзін крок. І зусім

---

* Павел Юзеф Шафарик (1795–1861) – знаменитый филолог-славист и историк Главные его труды — «История славянских языков и литературы всех диалектов» (1826). Славянские древности» (1837) и «Славянская этнография» (1843) — *Ред.*

не выключана, што этнонім русь звязаны якраз з пермскім коранем рудз — руз.

Існуе думка, што летапісная весь — продкі невялікага народа вепсаў, што жыў у Пецярбургскай вобласці, і што словы весь ды вепс — адно і тое ж. Але гэта наўрад. Няўжо славяне былі такія глухія, што не чулі «п» у «вепс», ужываючы слова без гэтага гуку некалькі стагоддзяў? Вядомы знаўца фінскіх моваў пісаў: «Дачыненне гэтай назвы (вепс. — *Аўт.*) да... назвы весь яшчэ змяшчае няяснасць» (Д.В. Бубрих. Не достаточно ли емских теорий? Известия Карело-Финского филиала Академии наук СССР, 1950, № 1, с. 83). Такім чынам, сапраўды можна думаць, што весь ідзе ад старажытна-фінскага слова «вада» (па-фінску vesi, па-эстонску vesu).

Па-мардоўску «вада» — ведь. А ў старажытна-расейскім творы «Слово о погибели Рускыя земли...» згадваецца племя веда, якое (так можна зразумець з тэксту) межавала з мардвою (Изборник, 1969, с. 326).

У лугава-марыйскай мове «вада» — вўд (блізкае да вюд). А адно з карэльскіх плямёнаў звалася людиками (в ды л — гукі блізкія). Яшчэ адно карэльскае племя — водь. Гэта ўжо супадае са славянскім «вада», «воды» (у С. Ясеніна — «розовая водь»). Могуць сказаць: а прычым тут славянскае слова? Але ж старажытныя славяна-фінскія сувязі яшчэ зусім не высветленыя, які там быў абмен лексікай — невядома. Прынамсі, мардоўскае ведь — ці такое яно ўжо далёкае ад «вада»?

Яшчэ адно летапіснае племя — ятвезь. У літаратуры сустракаецца і другая форма гэтага этноніма — ятвяги, але яна, думаецца, скажоная. Іпацьеўскі летапіс дае ятвязь (ПСРЛ, том 2, сл. 816—817 ды інш.), на Беларусі маецца некалькі тапонімаў Яцвезь, у тым ліку рака ў Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці.

Назва ятвезь выразна падзяляецца на дзве часткі: ят- і -везь, а везь (летапіснае -вязь) займае яўна прамежкавае месца паміж мардоўскім ведь ды суомі-эстонскім ves, з чаго можна зрабіць выснову, што і -везь — «вада», тым болей, што ёсць гідронім з такім зыходам (рака Яцвезь), у Пскоўскай вобласці маецца возера Вязь, у Смаленскай — рака Вязьма. І калі прыняць, што -везь — гэта «вада» ў сэнсе «племя», то назву ятвезь можна лёгка адшыфраваць: па-ўдмурцку ят — «чужы», значыць, ятвезь — «чужое племя». Такую назву маглі даць яцвягам суседзі.

Цяпер вернемся да пермскага ва. Ім канчаюцца этнонімы літва і мардва (дзіўна, што Крапівін не заўважыў гэтага, хаця і звярнуў увагу на канчатак ма — нерома, раўназначны ва). Але не толькі. На с. 135 аднатомнай энцыклапедыі «Литва» змешчаная карта «Балты в начале XIII века», на якой сярод іншых пазначаныя «землі»: Дайнава, Судува, Скалва, Каршува, Дзялтува, Кнітва, Бандава, Вентава, Талава. Але што такое землі для пачатку XIII стагоддзя, калі ў Прыбалтыцы яшчэ не было дзяржаў? Тэрыторыі, занятыя адпаведнымі, аднанайменнымі плямёнамі. Значыць, усе гэтыя дайнава, судува ды г.д. — этнонімы. У летувіскай мове маецца вельмі рэдкі зборны суфікс -ва, і ўсе пералічаныя этнонімы маглі б утварыцца з ягонай дапамогай.

Але не ўсякі зборны назоўнік можа быць этнонімам. Вось дайнава. У гэтага слова аснова — быццам бы летувіскае daina «песня». Ну і што гэта будзе разам з суфіксам зборнасці? Відавочна, слова, якое азначае «песні ў іх сукупнасці». А прычым тады этнас? Другая плямённая назва — бандава. Па-летувіску banda — «статак». Гэтае слова з суфіксам зборнасці зноў-такі мусіць азначаць не людзей, а «статкі ў іх сукупнасці». Ясна, што суфікс зборнасці можа ўтварыць этнонім толькі ад асновы, што азначала б чалавека — напрыклад: «рыбак», «араты» ды г.д. Тады суфікс зборнасці паказваў бы, што адно племя — народ рыбакоў, другое — аратых. Адсюль зразумела, што дайнава і бандава з летувіскай мовы як этнонімы не вырашаюцца.

А іншыя з пералічаных плямённых назваў — судува, скалва, каршува, талава ды г.д. увогуле не маюць у летувіскай мове апелятываў. Цяпер дапусцім, што -ва ў гэтых назвах — старое знаёмае, пермскае ва «вада», у другім значэнні «племя, род». Для бандава ва ўдмурцкай мове знаходзім банда «чалавек». З такой асновай банда-ва супадае значэннем з морд-ва (морт па-комі «чалавек»). Ва ўдмурцкай мове адшукваецца і аснова для скалва — скал «карова», адкуль скалва — «кароўскае племя», г.зн. якое мае кароў. Ёсць ва ўдмурцкай мове і суд «русы», з чаго судува — «русае племя», племя русых людзей. Для каршува ў комі-пярмяцкай мове маецца карч «гародніна»: каршува — «гародніннае племя». Талава — гэта ад эстонскага tall «хлеў»: «племя, якое мае хлявы» — дарэчы, талава жыла на поўначы Латвіі, непасрэдна мяжуючы з эстонцамі, дык прыцягненне эстонскага апелятыву не павінна выклікаць пярэчанні. Слова дайна

ў пермскіх мовах няма, але ёсць комі-зыранскае тоин «таўкач» (у ступе); такім чынам, тоина-ва (дайнава) — «племя з таўкачом», г.зн. мае крупы, займаецца земляробствам.

Назвы дзялтува, кнітува, вентава змяшчаюць перад канчаткам -ва гук «т», што падобна да рэшткаў пермскага прыметнікавага суфікса -ыт/-ит, -ид. Дялтува — пачатковае дялытва, кнітува — пачатковае кнытва, вентава — пачатковае веньтва. Такія назвы з пермскага матэрыялу адшыфраваліся б так: дялытва — ад комі дзель «ягня» (зрэшты, у летапісе ПСРЛ, том 2, сл. 735, 863 не «дялтува», а дяволтва, Дявелтва); кнытва — адзін з магчымых варыянтаў: ад агульнапермскага кын «мерзлы», у сэнсе «цвёрды, моцны»; веньтва — ад удмурцкага вень «страла». Аснова веныт добра чуецца і ў назве старажытнага племя венедаў (венетаў), што лічыцца славянскім, але ў «Аповесці мінулых гадоў» згадваецца сярод неславянскіх: «Афетово же колено и то Варязи. Свеи. Оурмане. ГотЪ. Русь. АгланЪ. ГаличанЪ. Волохове. РимлянЪ, НЪмци. Корлязи. Венедици ■ Фрягове и прочии» (ПСРЛ, том 2, сл. 4).

Судува — ці няма тут сувязі з чуддзю? Чудзь — суд. Быццам бы адно і тое ж слова ў розных дыялектах. Чудзь лічыцца племем эстонскім дарэмна. Эстонцы ж захаваліся. Эстонамоўнае племя хутчэй злілося б з роднаснымі па мове суседзямі, чым са славянамі.

Такім чынам, вялікая колькасць фактаў пацвярджае, што ў назвы розных фінскіх этнасаў уваходзіць слова, якое сёння азначае «вада», ■ ў старажытнасці, апрача гэтага, мела яшчэ і значэнне «племя». Дамовіўшыся пра гэта, паспрабуем адшыфраваць назву голядь.

Тапароў у сваім артыкуле «Древняя Москва в балтийской перспективе» паведамляе, што ў летапісах гэтая назва пісалася двума спосабамі: голядь і годлядь, прычым другі варыянт сустракаецца ў двух розных летапісных спісках, што выключае выпадковую памылку (БСИ-1981, с. 16). Гэты факт ён аніяк не каментуе, бо яму нявыгадна акцэнтаваць увагу чытача на двухварыянтнасці назвы. Сапраўды, калі больш правільным з'яўляецца варыянт годлядь, дык гэта вельмі аддаляе голядь ад галінд. А тым часам, паставім пытанне рубам: навошта было складальнікам летапісаў устаўляць «д», калі яго не было? Ясна, што нінавошта. Значыць, першасным варыянтам было годлядь, а голядь атрымалася, па-

першае, з-за каструбаватасці слова, па-другое, з-за блізкасці яго да славянскага «голы» — так якраз і быў асэнсаваны гэты этнонім славянамі, з пункту гледжання якіх «д» здавалася недарэчнай устаўкай.

Слова голлядь выразна падзяляецца на дзве часткі, год і -лядь. Спачатку зоймемся другой. «Л» у розных мовах чаргуецца з «в», таму не будзе нацяжкі параўнаць гэтае -лядь з мардоўскім ведь «вада». А ў пермскіх мовах ведь або лядь няма, «вада» ў комі мовах ва, ва ўдмурцкай ву. Значыць, голлядь — мардоўская назва? Не будзем спяшацца, бо ў мардоўскіх мовах слова не можа пачынацца са звонкага гуку (у дадзеным выпадку «г»).



Вячоркі марыйскіх жанчын Фота 1996 г.

І яшчэ такія штрыхі. Непадалёк ад Олта, на якім жыла дунайская літва (а літва з нашых даследаванняў выходзіць племем пермскім), у Дунай упадае рака Ведя.

З мардоўскім ведь гэтая назва супадае вельмі добра, але канчатак яна мае не мардоўскі.

Зразумела, што сэнс гідроніма Ведя не прымітыўнае «вада», ■ «водная», «якая нясе шмат вады». А «водны» па-мардоўску не «ведя» — ведень. Калі ж слова ведь было б у нейкай пермскай мове, то ўтворанае ад яго «водны» («з вадой») гучала ■ акурат як ведя (параўн. комі пась «футра» — пася «апрануты ў футра», визь «палоса» — визя «паласаты», «з палосамі»). Далей, у Верхнім Падняпроўі ёсць рака Ведоса (ТТ, с. 178). Гэтая назва ўтвораная ад ведь папермску, з суфіксам прыналежнасці -ось (надае фактычна той

жа самы сэнс, што і суфікс -а, -я, г.зн. Ведоса раўназначная Ведя). А назва Сведзь доплыва Бярэзіны /Дняпроўскай/ уяўляе з сябе напалову кальку з гідроніма Ведоса: суфікс -ось перакладзены ў прыстаўку с- і пастаўлены перад асновай ведь.

Яшчэ да гэтага можна дадаць, што ў Комі рэспубліцы і Архангельскай вобласці цячэ рака Виледь (Вилядь), доплыў ракі Вычегда (ГНК). Гэтую назву можна падзяліць на ви (комі-зыранскае «сіла») + ледь. У комі-пярмяцкай мове маецца слова ӧслядь «лес, спушчаны на ваду для сплаву». Як бачым, ӧслядь мае непасрэднае дачыненне да вады, ракі. Якім чынам яно ўтварылася, са слоўніка не відаць, але, па-мойму, можна дапусціць, што -лядь тут — «вада». Усё пералічанае кажа за тое, што слова ведь (ледь) было калісьці і ў пермскіх гаворках — можа, тых, што мелі кантакт з мардоўскімі.

А калі годлядь пермская назва, то ці можна падабраць апелятыў для першай часткі, год? Я думаю, можна яе супаставіць з комі кад — «дрыгва». У дыялекце голядзі яно цалкам магло гучаць як «год», бо «г» — звонкі варыянт «к». Гукі «а» ды «о» таксама чаргуюцца ў блізкіх мовах і дыялектах (параўн. расейскае горсть і польскае garść).


*Сялянкі з Камянецкага раёна ў святочным убранні*

Такім чынам, калі нашыя разважанні і здагадкі правільныя, то годлядь (голядь) азначае «балотнае племя», што, зыходзячы з ландшафтаў той часткі Дуная, дзе цячэ Ведя, цалкам адпавядае.

Але навошта ўся гэтая спрэчка з Тапаровым, што яна дае для разумення гістарычных лёсаў літвы — тэмы гэтае кнігі? Вось якую пікантную дэталь паведамляе Тапароў: аказваецца, у 1258 годзе, сказана ў летапісе, маскоўскі князь

Міхайла Яраслававіч «бысть убьен от Литвы на Поротве» і «тое же зимы оу Зупцева победиша Литву Суждальскыи князь». «Летописная литва» на Протве в глазах историка едва ли отделима от протвинской голяди», — каментуе Тапароў (БСИ-1981, с. 20).

Для Тапарова, як ужо гаварылася, голядзь — племя балцкае і літва Міндоўга — таксама. З'яўленне літвы на Пратве, дзе яна спачатку перамагла маскоўскага князя, а потым прайграла князю суздальскаму, ён тлумачыць жаданнем далучыць аднаплеменнае насельніцтва (працвінскую голядзь) і яго тэрыторыю (БСИ-1981, с. 18). Літва ж, як мы ўжо пераканаліся, была не балцкай, а пермскай. Але і голядзь, падобна, таксама. Так што сапраўды літва і голядзь маглі быць «аднапляменнымі» — прынамсі, дастаткова блізкімі па мове.

Але ці магла ў 1248 годзе літва Міндоўга апынуцца на Пратве? Яшчэ Вялікае Княства Літоўскае практычна не існавала або існавала ў вельмі вузкіх межах (Чорная Русь ды Літва). Каб дабрацца да Пратвы, літоўскаму войску трэба было б прайсці ўсё Полацкае ды Смаленскае княствы, якія ў ВКЛ яшчэ не ўваходзілі, уламацца ў землі, што кантраляваліся Залатой Ардой. І для чаго? Далучыць голядзь да Літвы было немагчыма, бо між імі ляжалі два княствы. А калі паход быў рабаўніцкі, то каго літва збіралася рабаваць? «Аднапляменнікаў»? А ці мела голядзь такія багацці, каб на іх варта было пакваліцца? Дый летапіс не паведамляе, што літва кагось рабавала. Не гаворыць ён, і адкуль тая літва ўзялася, куды кіравалася. Сказана толькі: Міхайла Яраслававіч «бысть убьен на Поротве». Дык чаму б не дапусціць, што тая літва на Пратве <u>жыла</u>, а маскоўскі князь хадзіў (няўдала) яе ваяваць?

Гэта робіцца асабліва дапушчальным, калі звярнуцца да іншых летапісных паведамленняў. Вядома, што у першыя дзесяцігоддзі стварэння і станаўлення ВКЛ галоўным ворагам яго ным было Галіцка-Валынскае княства, адкуль Навагародку і ліцве ўвесь час пагражала небяспека. Навагародак і літва ў даўгу не заставаліся: хаця ваявалі і з меншым поспехам, але ўчынялі паходы на ворага таксама. І вось пад 1247 годам Іпацьеўскі летапіс паведамляе: «В лето 6755. Воеваша Литва около Мѣлницѣ Лековнии великъ плѣнъ прияша. Данило же и Василко гнаста и по нихъ до Пиньска /.../ Милостью Божиею побѣгшимъ Литвѣ

и избити быша и плѣнъ весь отъяша. А сам Лонкогвени боуденъ оутече» (ПСРЛ, том 2, сл. 797).

Няўжо ж адразу пасля гэтага паражэння літва адправілася ў Падмаскоўе, пакінуўшы ўласныя дамы без абароны? А ў 1249 годзе Даніла і Василька, што ваявалі з палякамі, «посласта в Литвоу помощи просяща и послана быс от Миндога помощь» (ПСРЛ, том 2, сл. 801). А ці змог бы Міндоўг паслаць дапамогу галіцка-валынскім князям, калі б літва за год да таго была разгромленая «оу Зупцева» суздальскім князем?

Дапушчэнне, што ў Падмаскоўі жыло племя, якое таксама называлася літвой, дазваляе вытлумачыць шэраг цёмных мясцін у летапісах. Так, Лаўрэнцьеўскі летапіс неаднаразова паведамляе пра напады літвы на Ноўгарадчыну, размешчаную вельмі далёка ад Панямоння:

1225 год: «Тое же зимы повоеваша Литва около Торьжку бяше /.../ и гости биша и Торопетьскую волость повоеваша (ПСРЛ, том 1, сл. 510).

1229 год: «Тое же зимы приидоша Литва повоеваша Любие Мораву и СѣлѣгѢрь» (тамсама, сл. 511).

1235 год: «Того же лѣта изгониша Литва Русу... и сташа Рушане противу и выгнаша ис посада бьюще па поле и оубіша много Литвы» (тамсама, сл. 513). Нагадаю, што сёння Старая Русса — горад на поўдзень ад возера Ільмень, Торжок і Торопец — гарады ў Цвярской вобласці, тамсама і возера Селигер — г.зн. паміж Ноўгарадскай ды Маскоўскай абласцямі.

У тым жа 1235 годзе, калі нейкая літва рабавала Русу, «Данил же возведе на Кондрата (польскага князя. — *Аўт.*) Литвоу Миндога» (ПСРЛ, том 2, сл. 776).

Неразуменне таго, што на ўсходзе і захадзе дзейнічала розная літва, прыводзіць да скажонага ўяўлення аб літве Міндоўга як аб нейкім вялікім народзе, што быў здольны адначасова пасылаць ваенныя экспедыцыі ў процілеглыя бакі. Але ж літва ў барацьбе і з Галіцка-Валынскім княствам, і з Ноўгарадам нязменна цярпела паражэнні. Пачыналіся набегі быццам бы ўдала, а потым — «литву избиша, весь плѣн отъяша». Так было ва ўсіх працытаваных з летапісаў выпадках, у чым лёгка пераканаецца чытач, ідучы па маіх слядах. Дык які быў сэнс для літвы, калі б гаворка ішла пра адно племя, адначасова дзейнічаць у розных месцах, там і тут анічога не здабываючы і толькі страчваючы людзей?

Скупыя летапісныя крыніцы часта змяшчаюць вельмі каштоўныя сведчанні, трэба іх толькі ўважліва чытаць. Пра напад літвы на «Ноўгарадскую воласць» у 1225 годзе ў іншым, чым вышэй цытаваўся, спісе таго сама Лаўрэнцьеўскага летапісу сказана: «Тое же зимы воеваша Литва Новгородьскую волость ■ поимаша множество... христианъ ■ много зла створиша воюя около Новагорода ■ около Торопца и Смоленска ■ до Полтеска» (ПСРЛ, том 1, сл. 447—448).

«И до Полтеска»! Што б гэта азначала? Чаму пералік мясцін, на якія нападала літва, ідзе з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад (Ноўгарад — Смаленск — Полацк), ■ не наадварот? Чаму канцавым пунктам набегу аказваецца Полацк, найбліжэйшы да літвы Міндоўга? Ды таму, мусібыць, што літва, пра якую тут ідзе гаворка, жыла не на захадзе ад Полацка, а на ўсходзе ад Смаленска.

Апісанне ж нападу літвы на Русу ў 1235 годзе мае такі працяг: «Рушане... оубиша много литвы... ■ (літва. — *Аўт.*) отступиша на Клинъ» (ПСРЛ, том 1, сл. 513). Бачыце: на Клін, у сённяшнюю Маскоўскую вобласць! Чаму не на захад, калі гэта была літва Міндоўга, а на паўднёвы ўсход, у зусім іншым кірунку? Ці ж не таму, што аднекуль з-пад Кліна яна і ішла на Русу?

Дзве літвы ў розных канцах — гэта, здавалася б, неверагодна. Але ў басейне Пратвы маюцца дзве ракі, якія носяць назву Литвиновка (ГБО, с. 92, 94), а непадалёк, у басейне ракі Асётр, цячэ рака Литовка (ГБО, с. 152). Не маглі ж замацавацца гэтыя назвы, калі б літва не жыла тут, а толькі прыходзіла парабаваць!

Ідучы з Дуная на поўнач, літва, такім чынам, і па дарозе пакідала свае нейкія часткі, і дзялілася ў руху: адны ішлі наперад, другія збочвалі. Так і адарвалася ад агульнай масы літвы яе працвінская галіна. У параўнанні з наднёманскай падмаскоўная літва была зусім невялікай і асаблівых подзвігаў не ўчыніла, але, як бачым, мела неспакойны характар, дзякуючы чаму адбілася ў летапісах, заблытаўшы гісторыю асноўнай, наднёманскай літвы.

Я прывык, і некаторыя мае чытачы прывыклі называць літву «племем пяці родаў». Я і кнігу гэтую хацеў назваць так, як даўні артыкул. Але наяўнасць ракі Литовка прымушае вярнуцца да назвы літва. Рэч у тым, што раней Литовка насіла імя Олитовка, зафіксаванае дакументам 1554 года. І непадалёк ад гэтай Литовки

цячэ яшчэ рака Алитовка, якая пад 1237 годам зафіксаваная як Олитовка (ГБО, с. 152).

Олитовка! Корань олит-, а не літ, як у словах літва, Литовка А гэта нам няблага знаёмае: Олт, дунайскі доплыў, на берагах якога яшчэ у XII стагоддзі была мясцовасць Літва!

Такім чынам, праясняецца і пачатковая назва Олта — Оліт, і тая акалічнасць, што ў рымскія часы Олт насіў і імя Алута. І літва, зыходзячы з Литовки-Олитовки, спачатку звалася оліτва. Прычым, паколькі на Олце была мясцовасць Літва, атрымліваецца, што олітва стала пераходзіць у літва яшчэ на Дунаі — мусібыць, з-за двух націскаў такога кароткага, хаця і складанага слова: адзін на «о», другі на «а». Урэшце, у новым моўным асяроддзі, славянскім, першы гук канчаткова адарваўся і знік зусім.

Што ж такое літва, олітва? Ва (племя) з ракі Оліт? Можна і так. Але вышэй («Дагістарычныя блуканні: шлях пярмянаў») я ўжо пісаў, што азначае Оліт. Оль у комі мовах — мяшаны лес на балоце або «балоцістая мясцовасць», балота. Ольыт — магчымы прыметнік ад гэтага оль: «балоцісты», «балотны». Дык ці нельга перакласці олітва як «балотнае племя»?

Паглядзіце цяпер: олітва — «балотнае племя» і годлядь (кадведь, кадледь) — «балотнае племя». А Тапароў піша: «Летописная «литва» на Протве для историка едва ли отделима от протвинской голяди». Дзве назвы з адным сэнсам і, мабыць, сапраўды аднаго племя.

Жывучы на балотах па Дунаі, Олце і Ведзі, літва і на Беларусі заняла балоцістую мясцовасць. Пра гэта было вядома далёка ад Літвы. «А литва изъ болота на светъ не выникываху», — пісаў пра былыя часы ў сярэдзіне XIII стагоддзя аўтар першага літаратурнага ўзору, створанага на тэрыторыі сучаснай Расеі (Слово о погибели Рускыя земли .. Изборник, 1969, с. 326).

Ці літва апынулася зноў на балотах таму, што прывыкла да іх на Дунаі, дзе багны хавалі яе ад варожых нашэсцяў? Ці прыйшла на Беларусь занадта позна, калі ўсе лепшыя абшары былі падзеленыя між іншымі прыбышамі? На гэта могуць адказаць толькі новыя, паглыбленыя даследаванні.

Глава 8

# Памяць Зямлі

Мы ўжо гаварылі: вызначаць старажытныя этнічныя межы па чарапках гаршкоў, на якіх няма аніякіх моўных адзнак, рызыкоўна. Што цяпер, пасля адкрыцця венгерска-летувіскіх моўных паралеляў, рабіць тым, хто дзесяцігоддзямі сцвярджаў, што культура штрыхаванай керамікі (І тыс. да н.э. — першая палова І тыс. н.э.) належыць балтам?

Але адмаўляць якое б там ні было значэнне археалогіі для высвятлення этнічных працэсаў мінулага няварта. Важна толькі, каб разгляд археалагічных знаходак рабіўся аб'ектыўна, з улікам не толькі блізкага, але і далёкага, а іншы раз і вельмі далёкага матэрыялу — гэта значыць, каб кругагляд археолага-аналітыка быў як мага шырэйшы.

Вернемся да старажытнасцяў, што абвешчаны балцкімі. Ці параўноўваліся яны з матэрыялам нябалцкіх тэрыторый? Па-мойму, не. Усё «балцкае» лічыцца балцкім аксіяматычна, згодна з прынцыпам: гэта так, бо іначай быць не можа. А давайце прыгледзімся да такой важнай праявы чалавечага, як пахаванні.

У 1987 годзе ў Маскве археолагі выдалі вялікую і прыгожую кнігу на глянцавай паперы «Финно-угры и балты в эпоху средневековья» (адказны рэдактар і адзін з аўтараў — доктар гістарычных навук В.В. Сядоў). Яна не проста апісвае знаходкі на балцкіх і фіна-вугорскіх тэрыторыях, а яшчэ і робіць спробы хоць неяк паказаць гісторыю этнасаў. Першая частка яе называецца «Финно-угры», другая — «Балты» (аўтар усёй другой часткі — Сядоў).

Што ж цікавага маецца ў гэтай кнізе адносна старажытнасцяў Летувы? А вось што. Аказваецца, паводле пахавальнага абраду тэрыторыя ейная выразна падзяляецца на тры часткі: адна — ад Балтыйскага мора да ракі Дубіса, другая — ад Дубісы да ракі Швянтойі, трэцяя — на ўсход ад Швянтойі да мяжы з Беларуссю. І аўтар лічыць, што заходняя частка ў мінулым належала племю жамойтаў, сярэдняя — аўкштотаў, а ўсходняя — племю літва, якое ён з аўкштотай не змешвае.

У археалагічным сэнсе гэтыя землі характарызуюцца наступным чынам: «Магільнікі жамойтаў у другой палове I — пачатку II тысячагоддзя з'яўляюцца грунтавымі і цяпер не маюць аніякіх наземных прыкметаў. /.../ У V–IX стагоддзях непадзельна панаваў абрад целапакладання» (с. 383), г.зн. над магіламі не рабілася насыпаў, а нябожчыка клалі ў яму некранутым.

«У IX–X стст. у выглядзе рэдкага выключэння на жамойцкіх магільніках з'яўляюцца трупаспальванні. З XII стагоддзя яны практыкуюцца часцей, але пераважна на ўскраінах арэалу жамойтаў. Пахаванні па абраду крэмацыі выконваліся ў прадаўгаватых ямах... глыбінёй 0,35 — 0,70 м. Спаленне нябожчыкаў рабілася ўбаку», г.зн. не ў самой магіле, дзе рэшткі спаленых касцей складваліся кучкай (с. 384). «У X–XII стст. у рэдкіх выпадках разам з нябожчыкам хавалі і каня» (с. 383).

На ўсход і паўднёвы захад ад «арэала жамойтаў», у басейне ракі <u>Нявежіс</u>, у нізоўях правабярэжжа ракі <u>Няріс</u> і ў парэччы Нёмана ад вусця Няріса да горада Смалінінкай (на думку Сядова, землі аўкштоты) «вылучаецца своеасаблівая група магільнікаў. Яны змяшчаюць захаванні паводле абраду трупаспальвання, які часта суправаджаецца трупапакладаннем коней» (с. 387).

Пахаванні такія ўжываліся тут не спрадвечна. Першапачаткова ў «Аўкштоце» былі такія ж, як і надалей у «Жамойці»: грунтавыя, без насыпаў, з целапакладаннем. У V–VI стагоддзях з'яўляецца і трупаспаленне, нароўні з целапакладаннем. А пачынаючы з VII стагоддзя, «у магільніках аўкштоцкага рэгіёну пануе трупаспаленне. Крэмацыя нябожчыкаў рабілася ўбаку. Для захавання выкопваліся круглыя або авальныя ямы... Кальцынаваныя косці складваліся на дне невялікай кучкай. Усе захаванні бязвурнавыя» (с. 387).

«У X–XII стст. на магільніках аўкштотаў... побач з захаваннямі чалавека сталі хаваць коней. Абрад пахавання людзей заставаўся ранейшым (трупаспаленне). /.../ У аўкштоцкім рэгіёне даследавана болей за 1 тысячу конскіх захаванняў» (с. 389).

«Пахавальным помнікамі плямённай групоўкі літва, — працягвае Сядоў, — былі курганы, што атрымалі ў навуковай літаратуры найменне ўсходнелітоўскіх». Тэрыторыя літвы ў сувязі з гэтым вылучаецца сярод суседніх балцкіх плямёнаў выразна» (с. 390). Усяго вядома каля 7000 усходнелітоўскіх курганоў, вышынёй да паўтара і болей метраў.

У самых ранніх курганах (IV–V ст.) сустракаюцца трупапакладанні ў падкурганных ямах. Часам побач з мужчынам у адной падкурганнай яме хаваўся конь. У V стагоддзі ў курганах з'яўляюцца рэшткі крэмацыі, а ў VI яны ўжо дамінуюць. Найболей познія трупапакладанні адносяцца да сярэдзіны VI стагоддзя. Спаленыя косці клаліся або пад курган, або ў сам курган на рознай вышыні, іншым разам пад ягонай вяршыняй» (с. 392).

Але гэта яшчэ не ўсё. «На працягу ўсяго перыяду бытавання трупаспальвання ва ўсходнелітоўскіх курганах захоўваўся звычай хаваць каня. Найбольшага распаўсюджання ён дасягае напрыканцы першага і на пачатку другога тысячагоддзя н.э. Няспаленага або спаленага каня звычайна хавалі асобна ад чалавека, насыпаючы яму спецыяльны курган. /.../ Заўважана, што для паўднёвай часткі арэала ўсходнелітоўскіх курганоў характэрныя былі захаванні спаленых коней» (с. 393).

Арэал усходнелітоускіх курганоў заходзіць і на Беларусь. «У канцы I — на пачатку II тысячагоддзя ў басейне Верхняй Віліі, як і ва Усходняй Летуве, шырокае распаўсюджанне атрымалі захаванні коней, што з'явіліся ў сярэдзіне I тысячагоддзя. Спаленага або няспаленага каня хавалі звычайна асобна ад чалавека» (Я.Г. Зверуго, с. 27). Спаконвечным курганны абрад у Летуве Сядоў не лічыць: «Цалкам відавочна, што курганны абрад ва ўсходнія раёны сучаснай Летувіскай ССР прыйшоў з сярэдзінных паўночных раёнаў Летувы, а таксама сумежных з імі раёнаў Латвіі, дзе курганныя пахаванні вядомыя з першых стагоддзяў нашай эры» (с. 395).



*Пярмяцкая валакуша*

Што ж вынікае з пераказанага і працытаванага? Што да IV–V стагоддзяў н.э. па ўсёй тэрыторыі Ле-

тувы, відавочна, панаваў адзін пахавальны абрад: трупапакладанне ў ямах без аніякіх насыпаў. У IV стагоддзі над імі ва Усходняи Летуве пачынаюць насыпаць курганы. У V стагоддзі ва ўсходнелітоўскіх курганах з'яўляюцца рэшткі крэмацыі, а да сярэдзіны VI стагоддзя трупаспаленне робіцца тут пануючым. У «Аўкштоце» курганоў над магіламі па-ранейшаму не насыпаюць, але з VII стагоддзя і тут спальваюць трупы. У «Жамойці» ж трупаспаленне з'яўляецца толькі ў IX стагоддзі, і то «ў выглядзе рэдкага выключэння».



*Конь на нашых землях зрабіўся хатняй жывёлай у 3-м тыс. да н.э.*

Ва Усходняй Летуве яшчэ ў часы падкурганнага трупапакладання пачынаюць хаваць разам з чалавекам каня. Гэты звычай у перыяд курганнага трупаспальвання робіцца пануючым. У «Аўкштоце» хаваць з чалавекам каня пачынаюць толькі ў X стагоддзі. Захаванні з канём асаблівага размаху дасягаюць тут у X—XII стагоддзях. У «Жамойці» ж вельмі рэдкія, прычым толькі на мяжы з «Аўкштотай», захаванні з канём з'яўляюцца ў X—XII стагоддзях. Тут пануючым застаецца аж да канца дахрысціянскага часу пахаванне няспаленага цела ў яме без насыпу, без каня.

Трупапакладанне і трупаспаленне, захаванне без каня і з канём — гэта вельмі розныя звычаі, можна сказаць, супрацьлеглыя.

Гэтаксама і насыпанне курганоў — вельмі сур'ёзнае адрозненне ад простага закопвання нябожчыкаў. За ўсімі гэтымі звычаямі стаіць зусім розны светапогляд, зусім розныя рэлігійныя ўяўленні. Чым жа выклікалася іх змена? На такое пытанне Сядоў адказу не дае. Адзінае, што ён сцвярджае — гэта што курганны абрад ва Усходнюю Летуву прыйшоў з Латвіі, дзе з'явіўся раней. А ў Латвіі — адкуль ён узяўся? Над гэтым аўтар не задумваецца зусім. Трупаспаленне, лічыць ён, на тэрыторыі Летувы было спаконвечным, бо ішло ад носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі (с. 395). Але чаму яно па ўсёй Летуве на доўгі час замянілася на трупапакладанне, а потым ва Усходняй Летуве і «Аўкштоце» вярнулася зноў, у «Жамойці» ж знікла назусім? І на гэтым аўтар не спыняецца...

Чаму не спыняецца — зразумела. Бо ўсе гэтыя змены, зыходзячы з адвечнага жыцця-быцця балтаў у Летуве, не вытлумачыш. Або вытлумачыш так, што самому няёмка будзе. Дык лепш зрабіць выгляд, што праблемы не існуе. Але ж ці можа навука, хай і такая прыблізная, як археалагічная этналогія, абмяжоўвацца канстатацыяй фактаў?

Не трэба быць вельмі здагадлівым, каб зразумець, што пералічаныя змены пахавальнага абраду не маглі адбыцца без вонкавага штуршка. Рэлігійныя ўяўленні, асабліва звязаныя з «тым светам» — рэч вельмі кансерватыўная. Вось характэрны прыклад. Да прыходу расейцаў (XVII ст.) якуты хавалі сваіх нябожчыкаў... на дрэвах, ставячы труну-калоду з ім на памост (арангас). Расейскай адміністрацыі прыйшлося прыкласці нямала намаганняў, перш чым якуты сталі хаваць сваіх нябожчыкаў у зямлі. Зразумела, што ў Прыбалтыцы першага тысячагоддзя, дзе ў той час не было дзяржавы, ніхто нікому не мог загадаць хаваць так, а не іначай. Значыць, змены пахавальнага абраду маглі выклікацца толькі прыходам этнічных груп з іншымі звычаямі і звычкамі.

А цяпер падумаем, адкуль жа прыйшлі тыя этнічныя групы, з якіх ландшафтаў? Пачнём з курганоў. Навошта яны ў лясным краі? Тут не бывае моцных вятроў. Невялікі грудок, насыпаны над магілай, трымаецца да двух дзесяцігоддзяў і не дае хаваць на тым сама месцы новага нябожчыка. Іншая рэч — стэп, дзе вецер дзьме і дзьме безупынку, узмацняючыся да ўраганаў. Тут, каб магіла захавалася, грудка мала. Тут патрэбны вялікі курган, цяжкі і трывалы. Апрача памяці пра нябожчыка, курганы, бачныя

ў стэпах здалёк, выконваюць і арыентіровачную функцыю, што пры дагістарычным бездарожжы было выключна важным. Вось і думаецца, што курганы ў Латвіі, а потым і ў Летуве з'явіліся не самі па сабе, а з прыходам нейкіх людзей, што мелі дачыненне да стэпу. Зразумела, курганам Латвіі і Летувы далёка да стэпавых па вышыні. Але пасярод лясоў насыпаць высокія курганы і не было патрэбы. Тут захоўваліся (і захаваліся да нашых дзён) і значна ніжэйшыя. Можна было іх і ўвогуле не насыпаць. Але адмовіцца ад курганоў адразу не даваў звычай, што, можа, трымаўся тысячы гадоў.

Цяпер пра захаванні коней, што ўзнікаюць ва ўсходняй Летуве (і на прылеглых мясцінах Беларусі) адначасова з курганамі. Ці маглі людзі, якія жылі тут спрадвечна, — раптам, без дай прычыны ўвесці такі своеасаблівы звычай? Давайце разбірацца. Летува, як і Беларусь, край лясны і сёння, а паўтары тысячы гадоў назад, мусібыць, уяўляў з сябе амаль непраходныя нетры. Чым жа займаўся ейны жыхар у тыя часы? «На жаль, — піша Сядоў, — ворыўных прыладаў працы (плуга, сахі. — *Аўт.*) у помніках другой паловы I тысячагоддзя н.э. (у Летуве. — *Аўт.*) пакуль не знойдзена» (с. 395). Ворыўнае земляробства тут узнікла толькі ў XIII стагоддзі (Литва, с. 262).

Значыць, у IV–V стагоддзях было толькі прымітыўнае, матычнае земляробства для якога конь не быў патрэбны. Чым жа тады карміўся чалавек? Зразумела, тым, чым да ўзнікнення земляробства ўвогуле — паляўнічай ды рыбацкай здабычай. А ці вялікую карысць мог прынесці на паляванні або рыбацтве конь? Гнацца за дзічынай па пушчанскіх нетрах на кані немагчыма; на ім можна толькі даехаць да месца палявання ды адвезці дадому здабыча, але ж у краі, парэзаным рэкамі і рачулкамі, гэта зручней было рабіць на лодцы. Што ж да рыбацтва, то ў ім лодка мае перад канём такія ўражальныя перавагі, што іх і даводзіць не трэба. Лодка была і галоўным транспартным сродкам. Што ж заставалася на долю каня? Імчаць конніка ў бітву? Але ці былі тады ў Летуве конныя войскі? Вельмі сумніўна.

Трэба дадаць яшчэ і такую акалічнасць. У лясах Летувы, як і Беларусі, доўгі час (аж да канца XVIII стагоддзя) захоўваўся дзікі лясны конь. Людзі на іх палявалі, іхняе мяса ўжывалі ў ежу (Литва, с. 368). Зразумела, аднак, што галоўным аб'ектам паля-

вання лясны конь быць не мог: на гэтую ролю прыдаваліся іншыя звяры — алені, дзікі, зубры і інш., з болей смачным мясам.

Ужывалася ў ежу і малако кабыл (Литва, с. 388). Але, ізноўтакі, ці магло тое малако канкураваць з каровіным. Таму ў гаспадарках утрымлівалася значна болей рагатага быдла, чым коней. І як паказвае астэалагічны матэрыял тагачасных паселішчаў, на першым месцы ў ім ідуць косці кароў, на другім — свіней, на трэцім — казаў ды авечак (ФУБ, с. 396).

Што ж атрымліваецца: у гаспадарцы болей карыснай, чым конь, была карова, як аб'ект палявання важнейшым быў алень і дзік, у ваеннай справе конь яшчэ не ўжываўся... Чаму ж менавіта каня сталі хаваць разам з людзьмі?

Сакрэт, несумненна, у тым, што гэта рабілі зусім не тыя людзі, якія жылі ў Летуве спрадвеку. Гэта падкрэсліваецца яшчэ і тым, што не ўсе жыхары Летувы ўзялі звычай на ўзбраенне: «жамойты» ж хаваць коней не сталі! Гэта рабілі толькі «літва» ды «аўкштота». Значыць, яны і прынеслі аднекуль звычай. Адкуль? Адтуль жа, што і курганны абрад: са стэпаў або з тэрыторый, памежных са стэпам.

Для таго каб паверыць у гэта, давайце падумаем, чым быў конь для стэпавіка. Чалавек стэпаў земляробствам, як і лоўляй рыбы, не займаўся зусім. Яго галоўнай крыніцай жыцця была качавая жывёлагадоўля — выпасанне статкаў. Ад іх качэўнік атрымліваў мяса і малако, скуры для сваёй вопраткі, шэрсць для лямцавых юртаў. Зразумела, што для таго, каб забяспечваць усім гэтым сем'і, што харчаваліся без хлеба, без гародніны, статкі мусілі быць вельмі вялікімі — у сотні і тысячы авечак, кароў і іншага быдла.

Адкуль жа ўзяліся ў чалавека такія процьмы жывёлы?

Розныя даследчыкі, у тым ліку і нашы сучаснікі, выказваюцца ў тым сэнсе, што качавая жывёлагадоўля вырасла з аселай, г.зн. спачатку чалавек прыручыў у адзінкавай колькасці маладняк розных дзікіх жывёлаў, а потым, размножыўшы вялікія статкі, пусціўся з імі ў бясконцую вандроўку па стэпах (В.А. Шнирельман. Происхождение скотоводства. М., 1930, с. 237 і далей).

Мабыць, аўтары падобных выказванняў не разумеюць самі, што пішуць. Можа, качэўніку ягонае жыццё і здаецца нармальным, чымсьці прывабным, але ж зусім іншы погляд на ка-

чэўніцтва ў аселых земляробаў. Аселы мае трывалы, надзейны дом, участак зямлі, на якім ён можа рабіць усё, што яму трэба; усё, што зробіць, застаецца пры ім; ён мае пастаянную і надзейную крыніцу ежы — свае палеткі. Калі ж у яго яшчэ і шмат быдла, дык ягонае жыццё ўвогуле робіцца сытым і заможным. Качэўнік вымушаны пастаянна цягацца за сваімі статкамі, жыць у шатры, што мала засланяе ад сцюжы, круглыя суткі пасці ды ахоўваць ад драпежнікаў сваё быдла, мець рэчаў не болей, чым можна вазіць з сабой. Таму ў гісторыі невядомыя выпадкі, калі б аселыя земляробы сталі качэўнікамі-жывёлаводамі. А калі ў каго з'яўляўся лішак быдла, то яго ж можна было або з'есці, або прадаць. Такім чынам, такая схема ўзнікнення качавой жывёлагадоўлі выключаецца.

А якой яна была ў сапраўднасці? Геніяльную думку на гэты конт яшчэ ў 1900 годзе выказаў польскі пісьменнік, даследчык этнаграфіі якутаў Вацлаў Серашэўскі. Незлічоныя статкі капытных — авечак, кароў, коней і іншых — існавалі ў стэпах спрадвечна, і чалавек тут абсалютна ні пры чым. Ён на зары свайго існавання паляваў у пушчах, дзе заўсёды можна высачыць здабычу, паставіць пастку, выкапаць яму і гэтак далей. Але звяры ў лясах рэдка ходзяць вялікімі групамі. Каб падтрымліваць сваё жыццё, паляўнічы мусіў увесь час шукаць і шукаць здабычу. Таму ён з зайздрасцю глядзеў на вялікія статкі жывёлаў, што насіліся сюдтуд па стэпах і тундрах. І вось аднойчы ён адважыўся выбрацца ў стэп, каб болей у лес не вяртацца. З гэтага часу людзі, што сталі стэпавікамі (або тундравікамі) ужо не адставалі ад статкаў, да якіх прымацаваліся, як абцугамі. Жывучы гэтымі статкамі, яны адначасова і ахоўвалі іх ад ваўкоў, чым зберагалі для сябе болей мяса. Ішлі стагоддзі. Паступова жывёлы сталі прывыкаць да таго, што ўслед за імі нястомна ідзе двухногае стварэнне, рэжа іх і доіць, а калі трэба, і ратуе.

Я тут не цытую Серашэўскага, а хутчэй развіваю ягоную думку, выказаную даволі скупа (W. Sieroszewski. Dzieła. Kraków, 1961, tom XVII (I), s. 161–162). Як усё геніяльнае, яна надзвычай простая і відавочная. Чаму ж да яе не прыйшоў аніхто іншы? Мусіць, таму, што еўрапейская навука мае вельмі цьмянае ўяўленне пра прыроду стэпаў і жыццё качэўнікаў. У прыватнасці, даследчыкі не ведаюць, што яшчэ да нядаўняга часу ў стэпах меліся вялікія статкі не толькі свойскія, але і дзікія, а ў тундрах і сёння дзікіх

аленяў амаль гэтульki ж, як i свойскiх; што стэпавае i тундравае свойскае быдла i да гэтага часу напалову дзiкае i як толькi апека чалавека над iм прыпыняецца, вельмi хутка зусiм дзiчэе. У прыватнасцi, свойская аленегадоўля штогод губляе шмат пагалоўя з-за таго, што свойскiя аленi ўцякаюць да дзiкiх.

Таму немагчыма не пагадзiцца з Серашэўскiм, калi ён пiша, што прыручэнне статкаў цягнулася стагоддзi. Чалавек жа не прыносiў статкам вялiкай карысцi. Ён iх нiчым не кармiў, сена iм не касiў: стэпавыя капытныя пасвяцца круглы год, i зiмой здабываючы сухую траву з-пад снегу, якога тут вельмi мала. Чалавек у стэпе прападзе без статку, а статак без чалавека можа жыць.

Безумоўна, са стэпавага быдла першай была асвоеная авечка, бо валодае найменшай хуткасцю — за авечкамi чалавеку цiкаваць было лягчэй. I няма анiякага сумлеву, што апошнiмi былi прыручаныя табуны коней — самай хуткаходнай жывёлiны стэпу. Але, вядома, асобныя конi, выгадаваныя са злоўленых жарабятаў, паявiлiся ў качэўнiкаў задоўга да конскiх табуноў. Вось гэта i стала пераломным момантам у гiсторыi стэпу. Сеўшы на каня, чалавек стаў гаспадаром бязмежных прастораў. Цяпер ён мог без цяжкасцi дагнаць свой статак i накiраваць яго ў патрэбным кiрунку. Коннiк мог адначасова сачыць i за некалькiмi статкамi, што без каня анiяк не ўдавалася.

Такую вялiзную ролю адыграў конь ва ўмацаваннi стэпавага ладу жыцця. I ўжо за адно гэта стэпавiк павiнен быў абагаўляць каня. А гэта ж яшчэ не ўсё. Едучы на канi, чалавек ужо не трапляў пад капыты i рогi быкоў; болей паспяхова змагаўся з ваўкамi. Далей: стэпавiк кармiўся не толькi свойскiмi статкамi. Важнае месца ў ягоным жыццi займала i паляванне на яшчэ дзiкiх капытных. А стэп «прастрэльваецца» вачмi на шмат кiламетраў. Падкрасцiся да дзiкага быдла, калi яно пасвiцца на адкрытай прасторы, немагчыма. На канi ж яго можна проста дагнаць.

Калi ж у стэпе, дзе фактычна няма дзе схавацца, пачалiся ўзброеныя сутычкi памiж людзьмi, а потым i войны, дык i цяпер чалавек на канi меў перад пешым каласальную перавагу, бо мог iмклiва напасцi i гэтак жа iмклiва ўцячы, а чалавек без каня аказваўся цалкам безабаронны.

Дый увогуле: што такое чалавек без каня ў стэпе? Ён асуджаны на гiбель, на смерць, бо не ўстане здабыць сабе ежу. Дык, можа, той першабытны паляўнiчы, што ўпершыню выйшаў з лесу

ў стэп, ужо меў каня? Мы ж ведаем, што, апрача стэпавага, быў яшчэ і лясны конь, жарабятаў якога мог прыручыць пушчанскі паляўнічы. Бо вельмі цяжка ўявіць сабе, як мог чалавек пешкі рухацца хаця б за статкам авечак. Тыя ж статкі прывыклі ўцякаць ад ваўкоў, дык мусілі бегаць дастаткова хутка.

У качэўнікаў дзіця — хоць дзяўчынку — саджалі на каня, калі яно яшчэ і хадзіць не ўмела. І не злазіў з сядла чалавек аж да смяротнай хваробы, бо яно праз усё жыццё было ягоным рабочым месцам. А колькі разнастайных абрадаў ды гульняў звязана ў стэпавікоў з канём! Колькі аб ім складзена казак, песняў, легенд! Такім чынам, пры жыцці стэпавік быў непадзельны з канём. Натуральна, што, паводле рэлігійных уяўленняў, конь мусіў служыць чалавеку і пасля смерці.

Этнаграфія стэпавікоў вывучаная слаба, працы па ёй рэдкія і скупыя. Але ці варта сумнявацца, што звычай хаваць чалавека з канём ідзе ад стэпавікоў, для якіх, па-першае, конь так шмат значыў і, па-другое, якія мелі коней дастаткова, каб іх нават хаваць. Прынамсі, качэўнікі-венгры такі звычай мелі. І іх дахрысціянскія могільнікі якраз такія — тут пераважалі захаванні з канём (ФУБ, с. 327).

Такім чынам, звычай хаваць нябожчыкаў у курганах ды яшчэ з канём — безумоўна аніяк не мог скласціся сам сабой у лясной Летуве. Хто ж яго прынёс сюды? Летапісная літва? Але ж мы назву «літва» пераклалі ўжо як «балотнае племя», а не «стэпавае».

Праўда, мы не ведаем, колькі часу літва жыла на Олце і адкуль яна туды прыйшла. А што пермскія плямёны займалі Дунайскі басейн не спрадвечна — гэта ясна: тыя рэкі, што ў ім носяць цяпер пермскія імёны, у часы Герадота называліся іначай. А вось што піша БСЭ (выд. 2-е, том 37, с. 337): «У VI ст. да н.э. на тэрыторыю Румыніі пранікаюць з усходу качэўнікі-скіфы». Скіфаў мы прывыклі лічыць іранамоўнымі. Але гэта агульная грэцкая назва вялікай колькасці розных плямёнаў. І хто сказаў, што ўсе яны былі іранскімі? У пермскіх мовах шмат іранскіх словаў (гл. раздзел «Дагістарычныя блуканні: шлях пярмянаў»). Ці не ад іранамоўных скіфаў часткова запазычваліся яны? У сваю чаргу, і скіфы мелі пермскія словы. «Греческо-русский словарь» 1899 года (складальнік А. Вейсман) з указаннем «скіфскае» падае εναρεες (энарээс) «жанчынападобны мужчына». А ў комі мовах энь — «самка».

Адсюль вынікае, што пярмяне, у тым ліку і продкі літвы, маглі быць сярод скіфаў і разам з імі «пранікнуць» у Румынію. Тут, у новых умовах жыцця, яны маглі і асесці на балотах, страціўшы большую частку быдла, што прыгналі са стэпаў, але захаваўшы стэпавы пахавальны абрад. Рэлігійныя ўяўленні паганаў — рэч выключна трывалая, у чым пераканалася не адно пакаленне місіянераў, што спрабавалі хрысціянізаваць літву.

Стэпавыя звычаі маглі трымацца ў «абалотненай» олцкай літвы яшчэ і таму, што побач безупынку праносіліся ўсё новыя качэўнікі: сарматы, гуны ды іншыя. І ўсё ж: разважанні — не факты. Вось калі б мы цвёрда ведалі, што на Олце маюцца курганныя захаванні з канём, то можна было б прама звязаць іх з усходнелітоўскімі курганамі. Ды на жаль, літаратуру па археалогіі Румыніі адшукаць не ўдалося.

Таму паспрабуем пайсці іншым шляхам. На працягу ўсёй гэтай кнігі даводзілася, што літва была этнасам пермскім. А што пішуць пра пахавальныя звычаі прыўральскіх пермскіх тэрыторый?

З працы «Финно-угры и балты в эпоху средневековья» вынікае, што ў Комі рэспубліцы і Пермскай вобласці ў першым



*Сельскі воз у комі-пярмянаў*



*Сельскі воз (Гомельскі павет, пачатак XX ст.)*

тысячагоддзі нашай эры было шырока распаўсюджанае як трупапакладанне, так і трупаспаленне. Большсць захаванняў — грунтавыя, без насыпаў. Але ў верхнім Прыкам'і маецца вялікая група курганных могільнікаў. Захаванні ў іх — бірытуальныя, г.зн. як па спосабу трупапакладання, так і трупаспальвання. «Карпатлівы аналіз пахавальнага інвентара паказаў, што ён датуецца часам ад IV да VII стагоддзя» (ФУБ, с. 146).

Нагадаю, што і ва ўсходняй Летуве курганы, напачатку з трупапакладаннямі, з'явіліся ўпершыню ў IV стагоддзі. Такім чынам, паміж верхняпермскімі і ўсходнелітоўскімі курганамі можна праводзіць паралель. Але вось якая рэч: у Комі рэспубліцы і Пермскай вобласці пакуль што не знойдзена захаванняў з канём, якія з'яўляюцца галоўнай адзнакай археалагічнага гарызонту ўсходняй Летувы. А коней старажытныя пярмяне мелі, прычым нават болей, чым іншай жывёлы: «У складзе статку былі конь, карова, авечкі. Сярод астэалагічнага матэрыялу на першым месцы стаяць косці каня» (ФУБ, с. 126); «у гаспадарцы харынска-ламаватаўскіх плямёнаў галоўную ролю адыгрывала конегадоўля. Сярод касцей свойскіх жывёлаў косці каня ўсюды пераважаюць» (ФУБ, с. 150). Як паказваюць археалагічныя знаходкі, коней прыносілі на могілках у ахвяру; відавочна, іх елі на памінках. Але пахаванняў каня не адкрыта. Тым часам, пахаванне з канём — звычай настолькі характаралагічны, што не прыняць яго пад увагу нельга. Дык што, усходнелітоўскія курганы з конскімі захаваннямі наўрад ці належаць пярмянам?

Але даваице вернемся да пытання, дзе жыла летапісная літва. Ермаловіч на падставе летапісных крыніцаў ды тапанімічных дадзеных сцвярджае, што ейны арэал не выходзіў за межы сённяшняй Беларусі. А пахаванні з канём амаль не выходзяць за межы сучаснай Летувы. На Беларусі яны агледжваюцца толькі па верхняй Віліі, што геаграфічна непасрэдна звязаная з усходняй Летувой гэтай ракою (Я. Зверуго, с. 27, 8). На Наваградчыне, Слонімшчыне ды Валкавышчыне неславянскіх курганоў вельмі шмат (Я. Зверуго, карта на с. 8), аднак захаванняў з канём няма. А характар захаванняў у тутэйшых курганах прыблізна такі ж, як і ў верхнякамскіх — з трупапакладаннем або трупаспаленнем. Розніца толькі тая, што ў могільніках на поўначы рэшткі крэмацыі хаваліся ў падкурганных ямах, а ў тутэйшых — на зямлі пад курганом або ў самім кургане. Але і на Беларусі сустракаюцца пахаванні попелу ў падкурганных ямах (Я. Зверуго, с. 23).

Значыць, неславянскія курганы Наваградчыны ды вакольных мясцінаў Беларусі супадаюць з пермскімі, што лішні раз паказвае пермскасць летапіснай літвы, якая жыла тут. А ўсходнелітоўскія курганы з канём? Яны, верагодна, належаць блізкаму (бо курганы іх з чалавечымі рэшткамі такія ж самыя, што і ліцвінскія), але іншаму этнасу. Якому?

Энцыклапедыя «Литва» паказвае (с. 135, карта), што на поўначы літва межавала з дялтувой, а на ўсходзе — з нальшай. І дарэчы сказаць, на тэрыторыях гэтых плямёнаў усходнелітоўскіх курганоў з конскімі захаваннямі шмат, што паказвае карта 45 у кнізе «Финно-угры и балты в эпоху средневековья». У прыватнасці, тыя адзінкавыя захаванні з канём, што знойдзеныя на Беларусі (верхняя Вілія), размяшчаюцца, згодна з энцыклапедыяй «Литва», на тэрыторыі не літвы, а нальшы. Дык ці не лагічна дапусціць, што і ўсе астатнія захаванні з канём належаць дялтуве ды нальшы?

Энцыклапедыя «Литва» (с. 135, карта) адводзіць летапіснай літве вельмі вялікі абсяг: ад Наваградка да ўпадзення Віліі ў Нёман. А на поўначы гэты абсяг, паводле карты, яшчэ і прыкметна пераходзіць Вілію. І калі параўнаць гэта з картай 45 (ФУБ), а таксама дадзенымі Я. Звяругі, то атрымліваецца такая дзіўная рэч: прыблізна на палове «літоўскай» тэрыторыі распаўсюджаныя захаванні з канём, а на другой палове, паўднёвай, іх няма. Так у невялікага племя не бывае, не можа быць.

Таму натуральна ўзнікае думка, што мяжа паміж літвой ды дялтувой, літвой ды нальшай у энцыклапедыі «Литва» праведзеная няправільна і што прыблізна на сучаснай беларуска-летувіскай мяжы летапісная літва канчалася, далей пачыналася або дялтува, або нальша, або і тая і другая.

Мы практычна нічога не маем ад моваў дялтувы і нальшы. Затое назвы гэтых плямёнаў вельмі красамоўныя. Перш за ўсё, яны цікавыя тым, што рашуча адрозніваюцца ад тых формаў, якія дае Іпацьеўскі летапіс — амаль адзіная крыніца па ранняй гісторыі ВКЛ: дялтува ў ім — дяволтва (або дявельтва), нальша — нальшчаны. Чаму ж энцыклапедыя «Литва» адмовілася ад гэтых формаў, аддаўшы перавагу «дялтуве» і «нальшы»? Лічыць іх скажонымі? Але калі скажэнне ішло ў бок ускладнення назвы? Чалавечая мова мае такую ўласцівасць, што любое незразумелае слова схільны ператварыць у штосьці прасцейшае, а не наадварот. Так і адбылося ў летувіскай гутарковай мове, дзе з дяволтва за стагоддзі атрымалася «дялтува», а з нальшчаны — «нальша». Бо па-летувіску і «дялтува», і «нальша» нічога не азначаюць

Прыслухаемся да слова дяволтва. Нічога не чуеш, чытач? Або ўсё-такі чуеш у сярэдзіне гэтай назвы знаёмае Олт? Дяволтва — гэта ж дяв-олтва, дяв-олітва, наша літва з папярэднім дяв. Дяв — гэта нібы азначэнне літвы. І азначэнне гэтае таксама пермскае: па-комі дав — «лісцёвы лес, гай на сухім месцы», «лясная паша», «сухадол» (КЭСКЯ), «пагорак, дзе сосны» (К. Жаков. Под шум северного ветра, с. 316). Ва ўсіх значэннях дав — нейкая сухая мясціна, з соснамі, гаем або ляснаю пашай. Выходзіць, дяволтва — гэта олітва, літва сухіх мясцінаў.

Цяпер нальшчаны. Гэтае слова яўна складаецца з двух. І што ж? Абодва раскрываюцца з пермскага матэрыялу: па-комі нальк — «пастка на дробнага звера», чань — «жарабя». Налькчань — нальшчаны — гэта такія людзі, якія ловяць у пасткі жарабят, коннае племя. «Коннае племя» — гэта вельмі стасуецца да захавання з канем, якое ўжывалі нальшчаны.

Такім чынам, калі меркаваць па назвах дяволтва ды нальшчаны, то яны таксама былі пермскія або блізкія да пермскіх, асабліва дяволтва, якая, мажліва, была абломкам літвы (невыпадкова галоўная рака гэтых плямёнаў носіць пермскія назвы: на нальшчанскай тэрыторыі яна Вілія, на дзяволтаўскай — Няріс). Толькі на сваёй папярэдняй зямлі, у басейне Дунаю, яны

жылі на сушэйшых мясцінах, бліжэй да качэўнікаў-стэпавікоў, таму і ўжывалі конскія захаванні.

А ці былі захаванні з канём яшчэ ў каго-небудзь з фінаў? Так, былі. Жыў у ніжнім цячэнні Акі народ мурома, што згадваецца на старонках «Аповесці мінулых гадоў». Зліўся ён з будучымі расейцамі яшчэ ў XI стагоддзі. Ад яго засталася назва горада Мурам, былінны асілак Ілля Мурамец ды шэраг археалагічных помнікаў, даследаваных толькі часткова. І вось што піша Л.А. Голубева: «Выдатнай рысай пахавальнага абраду мурамы з'яўляюцца конскія захаванні. Яны вядомыя з VI—VII стагоддзяў (акурат як ва ўсходняй Летуве! — *Аўт.*), але большасць адносіцца да болей позняга часу (і ў гэтым супадзенне! — *Аўт.*). Агледжана 96 такіх захаванняў у 11 могільніках» (ФУБ, с. 85).

Супадаюць і асобныя рысы захаванняў. Так, ва ўсходнелітоўскіх курганах «інвентар конскіх захаванняў сціплы. Гэта двухчленныя або трохчленныя цуглі, іншы раз са псаліямі, і жалезныя спражкі» (ФУБ, с. 393); мурама ж нярэдка хавала коней зусім без рыштунку (тамсама, с. 85). «У выглядзе рэдкага выключэння, — піша Сядоў, — сустракаюцца захаванні людзей у адным (усходнелітоўскім. — *Аўт.*) кургане з канём» (тамсама, с. 393). Мурама ж хавала чалавека з канём у адной магіле даволі часта (тамсама, с. 85).

Паміж конскімі захаваннямі ва ўсходняй Летуве і мурамы ёсць і адрозненні. Хаця ўвогуле захаванні мурамы бірытуальныя, Голубева не піша, ці спальвалася пры захаваннях хаця б частка коней. Нічога не піша і пра курганы: захаванні мурамы — грунтавыя.

Зразумела, што дзяволтва з нальшчанамі і мурама — розныя этнасы. Але, адчуваецца, мелі і шмат агульнага. Як маецца агульнае і ў пахаваннях мурамы да прыўральскіх пермскіх. Так, у могільніках вымскай культуры (Комі рэспубліка) сустракаюцца такія захаванні, калі цела чалавека аказваецца спаленым без галавы, якая папярэдне аддзялялася і пасля клалася ў магілу разам з рэшткамі спаленых касцей (ФУБ, с. 125). Такі сама спосаб захавання адзначаны і ў магільніках мурамы (ФУБ, с. 84). У могільніках мурамы і пермскіх знаходзяцца вельмі падобныя рэчы — напрыклад, упрыгожанні ў выглядзе вісячых на круглай аснове «качыных лапак» (ФУБ, табліцы XXXL, з LXV, 26). Нема-

лаважна і тое, што ў комі-пярмяцкай мове маецца слова мурома са значэннем «буры», «цёмна-карычневы».

«Шматлікія тапанімічныя ды гідранімічныя дадзеныя дазваляюць залічыць мураму да паволжска-фінскага племя, паводле мовы блізкага да мардвы, але якое адрозніваецца значнай своеасаблівасцю», — піша Л. А. Голубева. — У IX–XI стст. мурама паводле сумы этнаграфічных прыкметаў, якія могуць быць устаноўленыя археолагамі, выступае як самастойная этнічная супольнасць» (ФУБ, с. 82). Ці не тыя гэта прыкметы, што набліжаюць мураму да пярмянаў?

Але вернемся да Летувы. Як павінен памятаць чытач, Сядоў паводле захаванняў 1-га тысячагоддзя падзяляе яе на тры часткі: тэрыторыя жамойтаў — на захад ад Дубісы; тэрыторыя аўкштогы — паміж Дубісаю і Швянтойяй; на ўсход ад Швянтойі — тэрыторыя і племя літва. На першай усё тысячагоддзе пануюць звычайныя і грунтавыя могільнікі з трупапакладаннем; на другой — грунтавыя могільнікі з крэмацыяй людзей і трупапакладаннем коней; на трэцяй — усходнелітоўскія курганы са спаленнем як людзей, так і коней. Прычым у IV–Vстагоддзях пад курганамі хавалі няспаленыя целы, ■ захаванняў з коньмі тады не было зусім. Захаванні ■ канём з'яўляюцца разам з абрадам крэмацыі у V стагоддзі.

З гэтага ясна, што стваральнікі курганоў прыйшлі ва ўсходнюю Летуву дзвюма хвалямі: спачатку тыя, хто целы не спальваў і коней не хаваў, а праз стагоддзе-паўтара — носьбіты абраду хавання коней. І тыя, і другія прыйшлі ад нейкіх прыстэпавых участкаў або мелі стэпавае мінулае. І магчыма, у мінулым кантактавалі між сабой яшчэ на сваіх ранейшых землях. Таму іх новая сустрэча адбылася без аніякіх канфліктаў, плямёны сталі жыць мірна і перамешана, у выніку чаго першыя перайшлі да абраду крэмацыі.

Паколькі ў летувіскай мове агледжваюцца сляды суседства з венграмі, ■ такое суседства не магло мець месца раней за канец IX стагоддзя, то трэба думаць, што носьбіты курганнага абраду, якія прыйшлі ў IV–VI стагоддзях, не былі носьбітамі балцкіх гаворак. І мяркуючы па іх назвах (дяволтва, нальшчаны), яны належалі да фіна-вугорскіх плямёнаў.

Тэрыторыя на захад ад Дубісы ў сэнсе пахавальнага абраду практычна не мянялася. Тут панавала аж да хросту трупапакла-

данне ў грунтавых ямах без насыпаў. Значыць, і гэтае насельніцтва не было балцкім, бо прыйшло сюды задоўга да перасялення «балтаў» з Дуная.

А вось «аўкштоты» Сядова «балтам» адпавядаюць. На тэрыторыі іх, паміж Дубісай ды Швянтоияй, захаванні коней, прычым масавыя («у аўкштоцкім рэгіёне даследавана болей за 1000 конскіх захаванняў. — ФУБ, с. 388), з'яўляюцца тут якраз у X стагоддзі. Гэта не мог быць прыход носьбітаў абраду пахавання з канём з усходняй Летувы, бо тут коней, як і людзей, хавалі ў курганах, а «аўкштоты» над магіламі людзей і коней насыпаў не рабілі. Акрамя таго, спальваючы нябожчыкаў, коней яны закопвалі няспаленымі — у адрозненне ад насельнікаў усходняй Летувы.

У міжрэчча Дубісы і Швянтойіі ў X стагоддзі яўна прыйшло новае жыхарства — відавочна, даволі шматлікае, бо могільнікамі, якія яно пакінула, міжрэчча ўсеяна густа. Яно змагло паўплываць нават на насельніцтва ўсходняй Летувы, што жыло тут ужо каля




*Так званая «Аўкштота» — гэта частка былой Віленскай губерні*

400 гадоў: курганы з рэшткамі коней сустракаюцца тут з VI стагоддзя, але «найбольшага распаўсюджвання» гэты звычай «дасягае напрыканцы першага і на пачатку другога тысячагоддзя» г.зн. са з'яўленнем пахаванняў з канём у «Аўкштоце».

Я бяру тэрміны Сядова «Аўкштота», «аўкштоты» ў двукоссе таму, што не магу згадзіцца, быццам паміж Дубісай ды Швянтойяй ў часы захаванняў з канём жыла адна аўкштота. Не. Тут прыбышы з Венгрыі, што ўзялі ад венграў (а можа, яшчэ і раней — ад авараў) абрад пахавання з канём, першапачаткова размясціліся ўсе: і аўкштота, і жамойць. На захад жа ад Дубісы жамойці тады не было. Тут жылі галоўным чынам куршы, якія ў наступныя часы перайшлі на мову жамойці, у выніку чаго стварыўся сённяшні жамойцкі дыялект летувіскай мовы (гл. З. Зинкявичус. К вопросу о происхождении жемайтского диалекта. БСИ-1982, с. 114–115).

У далейшым як жамойць, так і аўкштота рассяліліся з цеснага для сябе ўчастка, балазе мясцовае насельніцтва было рэдкае, размясціліся між яго і з цягам часу асімілявалі дзякуючы больш высокай культуры, прынесенай з сярэдзіны Еўропы. Дапамагала асіміляцыі, трэба думаць, і тое, што мясцовае жыхарства падзялялася на мноства дробных плямёнаў, што размаўлялі на самых розных дыялектах, не маючы агульнай мовы, а таксама паспрыяла нямецкая агрэсія, супраць якой паганскія плямёны кансалідаваліся вакол жамойці.

Так памяць зямлі папраўляе няўважлівых даследчыкаў, што гатовыя пад папярэднія ўяўленні падагнаць увесь знойдзены матэрыял.

# Падрахунак

Затрымаемся на гэтым месцы ды азірнёмся назад, наладзім агледзіны: што мы знайшлі на нашай доўгай дарозе?

Нагадаю, што пачалася яна са сцвярджэння Міколы Ермаловіча, што аніводнае імя літоўскіх князёў не адшыфроўваецца з летувіскай мовы. Гэты тэзіс намі праверавы са слоўнікамі ў руках. Сапраўды, большасць імёнаў летапіснай літвы не мае этымалогій у летувіскай мове. А адсутнасць канцавога -с гаворыць за тое, што яны і ўвогуле не балцкія.

Якое ж паходжанне гэтых імёнаў? Аніводная з трох версій, прапанаваных іншымі даследчыкамі: што яны скажоныя хрысціянскія, нехрысціянскія славянскія, скандынаўскія — выпрабавання фактамі не прайшла.

Яшчэ ў 1989 годзе ў артыкуле «Племя пяці родаў» («Літаратура і мастацтва», 18 жніўня), абапіраючыся на тое, што назва літва канчаецца на -ва, як дзесяткі рачных назваў Беларусі, а гэта канчатак пермскі (ва ў комі мовах — «рака»), аўтар выказаў здагадку, што літва была племем угра-фінскім (пермскім), і паспрабаваў адшыфраваць каля дзесятка ліцвінскіх імёнаў з дапамогай сучаснай комі-пярмяцкай мовы.

У далейшым, па-першае, быў значна пашыраны кантынгент ліцвінскіх імёнаў, па-другое, аўтар звярнуўся і да матэрыялу іншых пермскіх моваў — комі-зыранскай ды ўдмурцкай. У выніку высветлілася, што кірунак выбраны правільна і імёны летапіснай літвы сапраўды раскрываюцца з пермшчыны.

Для пацвярджэння або абвяржэння таго, што летапісная літва была па мове блізкай да сучасных пермскіх народаў, аўтар разгледзеў гідранімію раёнаў Беларусі, на якіх, як даведзена Ермаловічам, размяшчалася летапісная літва. Высветлілася, што ранейшае ўяўленне аб гэтай тэрыторыі як суцэльна балцкай не вытрымлівае крытыкі. Больш за палову тутэйшых гідронімаў — угра-фінскія (пермскія). Яны не толькі паўтараюцца на сучасных пермскіх тэрыторыях (Нёман, Шчара, Зэльва ды інш.), але і без цяжкасцяў адшыфроўваюцца з пермскіх моваў.

Большасць такіх гідронімаў мае пермскія гідранімічныя канчаткі-тэрміны (ва, адз ды інш.). Летувіскіх (жамойцкіх) гідронімаў на разгледжанай тэрыторыі практычна няма, а тыя ле-

тувіскія этымалогіі, якія прапаноўваліся раней, пры аб'ектыўным аналізе адхіляюцца.

На цеснае суседства продкаў сённяшніх летувісаў і нейкага пермскага этнасу паказваюць шматлікія летувіска-пермскія лексічныя паралелі, адкрытыя рознымі даследчыкамі, у тым ліку аўтарам гэтых радкоў, усяго болей за 100.



*Калі не ведаеш, дзе зроблены фотаздымак, дык цяжка зразумець, хто гэта — беларускія дзяўчаты, ці пярмяцкія або марыйскія*

Даследуючы пытанне, якім чынам пермскае племя магло апынуцца на Беларусі, аўтар разгледзеў гідранімію Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і напаткаў цэлы россып пермскіх рачных назваў у басейне Дуная. А ўдакладняючы магчымасць гэтага нечаканага факта, адкрыў і яшчэ большую неспадзеўку.

Аказалася, што ў пермскіх мовах да 140 словаў супадае з лацінскімі, да 80 — з грэцкімі, да 60 — з румынскімі, да 40 — з нямецкімі. Такім чынам, бяспрэчна, што на пачатку нашай эры еўрапеоідныя па расе пермскія плямёны размяшчаліся ў басейне Дуная, адкуль і рушылі, згодна з гідранімія й, на Днестр, Днепр, Дон, дзе частка іх засталася і пасля асімілявалася славянамі, а частка дайшла да Урала, дзе сама асімілявала паўночных мангалоідаў, у выніку чаго ўтварыўся так званы ўральскі, пераходны расавы тып.

Як сведчаць гістарычныя дакументы, што згадваюцца ў кнізе Ермаловіча «Старажытная Беларусь», яшчэ ў XII стагоддзі на дунайскім доплыве Олце была мясцовасць Літва. Аўтар даследаваў гідранімію паміж Олтам і Беларуссю і ўстанавіў, што на гэтай прасторы шмат пермскіх гідронімаў. Такім чынам, трэба згадзіцца, што літва прыйшла на Беларусь з Олта.

У сваю чаргу, балты таксама не займалі адвечна тыя тэрыторыі, на якіх жывуць сёння. Аб гэтым сведчаць адкрытыя аўтарам

летувіска-венгерскія лексічныя паралелі (усяго каля 70). Вядома, што венгры прыйшлі на сваю сённяшнюю зямлю толькі ў 896 годзе, а да таго качавалі ў стэпах Прычарнамор'я і Дона, куды прыйшлі з Азіі. Адсюль бачна, што найбліжэйшы да Летувы пункт венгерскага гістарычнага шляху — Венгрыя. І сапраўды, на венгерскім правабярэжжы Дуная (т.зв. Панонія) захоўваюцца яўна балцкія гідронімы. У летувіскай мове агледжваюцца паралелі з лацінскай, ілірыйскай, дака-фракійскай, румынскай мовамі.

Такім чынам, продкі летувісаў да прыходу венграў жылі ў Паноніі, адкуль рушылі ў Прыбалтыку не раней за X стагоддзе. І якраз у гэты час у Летуве з'яўляюцца новага тыпу грунтавыя захаванні крэміраваных рэшткаў чалавека з аднačасовым захаваннем няспаленага каня.

Што яшчэ прынясе нам гэтае падарожжа ў мінулае? Будзем ісці далей.

# Резюме

Для подавляющего большинства исследователей совершенно несомненно, что летописная литва, давшая название и князей Великому Княжеству Литовскому, является предком современного летувисского (литовского) народа. Однако имеется много данных, свидетельствующих об ином.

Это, прежде всего, установленный беларуским историком Н.И. Ермоловичем истинный ареал летописной литвы. Оказалось, что ее границы не выходили за пределы современной Республики Беларусь, где летописная литва занимала срединное положение. Имена литовских князей (Миндовг, Гедимин, Витень, Витовт и многие другие) не этимологизируются с достаточной убедительностью средствами летувисского языка, на что указывали российские лингвисты еще в XIX веке. Имеются исторические факты о равнодушии и даже враждебности литовских князей к жамойтам — носителям того языка, который сегодня называют летувисским (литовским), о стремлении жамойтов к обособлению от литвы, о восстаниях жамойтов против владычества литовских князей.

В связи со сказанным в литературе выдвигались версии, согласно которым литва была либо особым балтским, либо славянским племенем.

Проведя анализ имён литовских князей и гидронимии ареала литвы, определенного Ермоловичем, автор пришел к неожиданному выводу, что летописная литва по языку была угро-финской (пермской), т.е. сродни таким этносам, как коми-зыряне, коми-пермяки и удмурты, что подтверждается значительным числом (более 100) летувисско-пермских лексических параллелей, указывающих на тесное соседство летувисских предков с носителями пермской речи.

Выясняя вопрос, откуда мог пермский этнос прийти в Беларусь, автор подверг анализу гидронимию Восточной и Центральной Европы и обнаружил более 30 пермских речных названий в бассейне Дуная. Мысль, что древние пермяне вышли именно отсюда, подтверждают пермско-латинские (ок. 140), пермско-греческие (ок. 80), пермско-румынские (ок. 60) и пермско-немецкие (ок. 40) лексические параллели.

Коми и удмурты — потомки тех древних европеоидных пермян, которые проделали наиболее длинный путь от дунайской прародины. В Приуралье они ассимилировали местных монголоидов, в результате чего возник уральский, переходный расовый тип.

Что касается литвы, то она отправилась на север в Беларусь с дунайского притока Олта (Румыния), где до XII века существовала, согласно историческим документам, провинция Литва.

В свою очередь, предки летувисов тоже не являются исконными жителями Прибалтики. Автор обнаружил большое число летувисско-венгерских лексических параллелей. Хорошо известно, что венгры пришли в Европу с востока. До IX века они кочевали в степях Дона, а в XI — в причерноморских степях. Ни там, ни там проживание нынешних балтов не предполагается. Отсюда ясно, что предки летувисов могли соседствовать с венграми только в Венгрии, где встречаются балтийские гидронимы. Есть немало и других указаний на то, что предки летувисов и других балтов жили в правобережной части Венгрии — так называемой Паннонии.

На современную свою территорию венгры пришли в 896 году. Значит, предки летувисов покинули Паннонию не раньше X века, так как образование венгерско-летувисского лексического слоя требовало времени.

Анализ археологических раскопок показывает, что именно в X веке на территории нынешней Летувы появился новый тип захоронений — с конем, когда кремированные останки человека погребали в грунтовых могилах без насыпи, а коня закапывали поблизости несожженным. Вероятнее всего, носителями этого обряда и были предки летувисов — выходцы из Паннонии.

К началу XVI столетия летописная литва полностью растворилась в славянах Беларуси. С этого времени этноним «Литва» переходит сначала на восточных летувисов (т.наз. аукштайтов), а в XIX–XX вв. и на западных — жамойтов.

О влиянии пермской составляющей на беларуский язык, беларускую антропонимию, на гидронимию Беларуси, а также о роли пермян в сложении славянства вообще автор размышляет во второй части своего исследования.

# Послесловие редактора

Вопрос о происхождении беларуского этноса и беларуского языка, а также о первоначальной территории расселении наших предков волнует не только ученых, но и широкие круги общественности. По этим вопросам уже давно ведутся ожесточенные споры, в которых сталкиваются диаметрально противоположные мнения, концепции, теории.

Одни авторы утверждают, что беларусы изначально были славянами, другие им возражают — «нет, балтами!», третьи занимают промежуточную позицию: предками беларусов явились балты, которых постепенно ассимилировали (то есть, «растворили» в своей преобладающей массе) славяне, пришедшие на наши земли. Соответственно, сторонники этих взглядов используют для доказательства своей правоты аргументы из области антропологии, генетики, лингвистики, истории и других научных дисциплин.

Начало широкому обсуждению проблемы происхождения и этнической принадлежности древних литвинов положил Николай Ермолович своими книгами «Па слядах аднаго міфа» (1989 г.), «Беларуская дзяржава — Вялікае княства Літоўскае» (1990 г.) і «Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды» (1994 г.).

В 2003 году наши читатели смогли познакомиться с монографией известного беларуского историка-эмигранта Павла Урбана «Старажытныя літвіны. Мова, паходжанне, этнічная прыналежнасць».

За последние два года (2009–2010) появились еще несколько работ, посвященных проблеме возникновения и локализации «летописной Литвы» и ответу на вопрос о том, кто скрывался за термином «литвины»? Это «Утроп Літвы» Здислава Ситько, «Высновы літвіна» Генадия Ковша, «Тайны беларуской истории» Вадима Деружинского, а также сборник статей под общим заглавием «Предыстория беларусов с древнейших времен до XIII века».

Итак, мы узнали следующие версии:

(1) литвины (и русины) были балтами, которые изначально проживали на беларуских землях, но постепенно ославянились (Н. Ермолович);

(2) литвины — потомки прибалтийских славян (лютичей), смешавшиеся с местным населением (П. Урбан);

(3) литвины — потомки балтийского народа пруссов (В. Деружинский);

(4) литвины (и русины) имели смешанное балтийско-скандинавское происхождение (Г. Ковш);

(5) литвины — не народ, ■ воинское сословие смешанного этнического происхождения (З. Ситько).

И вот перед вами исследование Ивана Ласкова, которое он завершил еще 18 лет назад! Его взгляд на происхождение наших предков идет вразрез со всеми названными выше теориями. Литвины не балты, не славяне, даже не балто-славяне. ■ совсем иной этнос, угро-финский (родственный современным коми-пермякам)!

В качестве главного метода доказательства Ласков избрал выявление лингвистических совпадений и параллелей, использовав для этого материалы гидронимики, ономастики и так называемой «базовой» лексики. Любой читатель сам может убедиться ■ том, что рассуждения автора логичны и достаточно обоснованны. Конечно, это не значит, что мы должны немедленно отбросить ■ забыть все другие теории. Но детально ознакомиться с концепцией Ивана Ласкова, тщательно обдумать ее, соотнести со своими представлениями абсолютно необходимо.

По крайней мере, если проследить по карте направление неспешного «дрейфа» наших далеких предков от притоков Дуная ■ лесным дебрям Коми-Пермяцкого края, то оно совпадает с выводами генетического исследования А.И. Микулича. Заселение юго-западной и центральной Беларуси происходило вдоль линии с юго-запада на северо-восток, ■ сама миграция наших далеких предков началась из района, находившегося к юго-западу от Днестра.

Так что, повторяю еще раз, прочитать книгу Ласкова необходимо любому человеку, которого интересует тайна происхождения нашего народа.

*Анатоль Тарас*

# Літаратура

*Абрэвіятуры*

БелСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (у 12 тт.). Мн., 1969–1975.
БСИ — Балто-славянские исследования (штогоднік, Масква).
БСЭ Большая Советская Энциклопедия.
ГБО — Смолицкая Г.П. Гидронимия бассейна Оки М., 1976.
ГНВП — Кривощекова-Гантман А.С. Географические названия Верхнего Прикамья. Пермь, 1983.
ГНК — Географические названия Коми АССР. Словарь-справочник. Сыктывкар, 1990.
ИВ — История Венгрии, том I. М., 1971.
КТСБ — Жучкевич В. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974.
КЭСКЯ — Лыткин В.И., Гуляев Е.С. Краткий этимологический словарь коми языка. М., 1970.
ЛЭС — Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990.
ПСРЛ — Полное собрание русских летописей.
СЭС — Советский энциклопедический словарь. М., 1988
ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (у 5 тт.). Мн., 1978–1984.
ТТ — Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.
ФУБ – Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987.
ЭПБ — Энцыклапедыя прыроды Беларусі (у 5 тт.). Мн., 1983–86.
ЭСБЕ — Эциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона.
ЭСБМ — Этымалагічны слоўнік беларускай мовы (выдаецца з 1978 г.).
ЯН СССР — Языки народов СССР (у 5 тт.). М., 1966–1968.

*Крыніцы, якія падаюцца без скарачэнняў*
*або скарочаныя да прозвішча аўтара*

Агеева Р.А. **Страны и народы: происхождение названий.** М., 1990. (Агеева-1)

Агеева Р.А. **Проблема межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточно-славянской территории.** // БСИ-1980. (Агеева-2)

Айхенвальд А.Ю., Петрухин В.А., Хелимский Е.А. **К реконструкции мифологических представлений финно-угорских народов.** // БСИ-1981.
Анушкин А. **На заре книгопечатания в Литве.** Вильнюс, 1970.
Атаманов М.Г. **Удмуртская ономастика.** Ижевск, 1988.
Афанасьева Т.И. **Антропологический состав восточно-славянских народов и проблема их происхождения. // Этногенез финно-угорских народов по данным антропологии.** М., 1974.
**Белоруссия и Литва.** СПб, 1890.
**Библейская энциклопедия.** М., 1891; 1991.
Бірыла М. **Беларуская антрапанімія.** Часть 2. Мн., 1969 (М. Бірыла, 2).
Бубрих Д.В. **Не достаточно ли емских теорий?** // Известия Карело-Финского филиала Академии наук СССР. 1950, № 1.
Ванагас А.П. **Максимальный ареал балтской гидронимии и проблема происхождения балтов. // Этнографические и лингвистические аспекты этнической истории балтских народов.** Рига, 1980.
Василевич Г.М. **Эвенки.** Л., 1969.
Галяк Л. **Паходжаньне літоўскіх князёў.** Нью-Ёрк, 1983.
Геродот. **История в девяти книгах.** Л., 1972.
Грицкевич В.П. **От Немана к берегам Тихого океана.** Мн., 1986.
Гуревич Ф.Д. **Скандинавские находки X–XI вв. на территории Белоруссии.** // Скандинавский сборник-XXXII. Таллин, 1988.
Даль В.И. **Толковый словарь великорусского языка** (В. Даль).
Думпе Л., Пазгле Дз. **Проблема этногенеза и этнической истории балтов в исследованиях последних лет.** // БСИ-1982.
Ермаловіч М. **Па слядах аднаго міфа.** Мн., 1989.
Ермаловіч М. **Старажытная Беларусь.** Мн., 1990
Емельянов А. **Грамматика вотяцкого языка.** Л., 1927.
Жаков К. **Под шум северного ветра.** Сыктывкар, 1990.
Зверуго Я.Г. **Верхнее Понеманье в IX–XIII вв.** Мн., 1989.
Зинкявичюс З. **К вопросу о происхождении жемайтского диалекта.** // БСИ-1982.
Зинкявичюс З. **Польско-ятвяжский словарик?** // БСИ-1984. И зборник. М., 1969.
Киреева Т.Б. **Земледельческие культуры бассейна Чепцы в средневековье. // Край Удмуртский,** вып. 6. Ижевск, 1984.
Крапівін П. **Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь». // Імя тваё Белая Русь.** Мн., 1991
**Краткий коми-русский, русско-коми ботанический словарь.** /Складальник А.Н. Ракин/. Сыктывкар, 1989.
**Литва. Краткая энциклопедия.** Вильнюс, 1989 (Литва).
Лыткин В.И. **Древнепермский язык.** М., 1952.
Мельникова Е. **Скандинавские рунические надписи.** М., 1977.

Мейнандер К.Ф. **Проблема происхождения финно-угров по данным археологии.** // **Этногенез финно-угорских народов по данным антропологии.** М., 1974.

Никонов В.А. **Краткин топонимический словарь.** М., 1966

**Псковские летописи**, вып. I. М -Л., 1941.

Римша В.П **Белорусы.** // **Системы личных имен у народов мира.** М., 1989.

Римша В.П. **Некоторые белорусские антропонимы балтийского происхождения.** // БСИ-1980.

Рассадзін С. **Этнас поўдня Беларусі ў далетапісны час.** // **Старонкі гісторыі Беларусі.** Мн., 1992.

Сагановіч Г. **«Літва, мая Айчына!»** // «Наша слова», 1990, №№ 8, 9.

Сагановіч Г. **Айчыну сваю баронячы.** Мн., 1992.

**Скандинавские сказания.** М., 1988.

Соболевский А. **Названия рек и озер русского Севера.** // Известия отделения русского языка и словесности АН СССР. 1927, № 32.

Стеблин-Каменский М.К. **Мир саги. Становление литературы.** М., 1983.

Топоров В.Н. **Древняя Москва в балтийской перспективе.** // БСИ-1981.

Топоров В.Н. **Галинды в Западной Европе.** // БСИ-1982.

Туркин А И. **Топонимический словарь Коми АССР.** Сыктывкар. 1986.

**Удмуртские народные сказки.** Ижевск, 1976.

Улащик Н.Н. **Введение в изучение белорусско-литовского летописания.** М., 1985.

Унбегаун Б. **Русские фамилии.** М., 1989.

Урбан П. **У сьвятле гістарычных фактаў.** Мюнхэн — Нью-Ёрк. 1972.

Урбан П. **Да пытаньня аб этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў.** // «Полацак», 1992, № 1–6; 1993, № 1 і далей.

Фасмер М. **Этимологический словарь русского языка.** М., 1986.

Чивилихин В **Память.** // Роман-газета. 1982. №№ 16–17.

Шнирельман В.А. **Происхождение скотоводства.** М., 1980.

Юргевич В. **Объяснение имен князей литовских.** М., 1884.

Bystroń J. **Katechizm Ledesmy w przekładzie wshodnio-litewskim z wydania wileńskiego z r. 1605.** Kraków, 1895.

Ciechanowbcz J. **Na wschód od Bugu.** Wilno — Chicago. 1991.

Sieroszewski W. **Dzieła**, t. XVII(1). Kraków, 1961.

## *Перакладныя слоўнікі*

**Венгерско-русский карманный словарь** (Ок. 13.000 слов). Сост. М Сабо. Будапешт, 1989.

**Греческо-русский словарь.** Сост А. Вейсман. 1899.

**Карманный русско-финский словарь** (Ок. 11.000 слов). Сост С.С. Елисеев. М., 1987.

**Коми-пермяцко-русский словарь** (27.000 слов). Сост. Р.М. Баталова и А.С. Кривощекова-Гантман. М., 1985.

**Комиа-роча да роча-комиа словарь (коми-русский и русско-коми словарь). Для начальной школы.** Сост. З.А. Прошева и А.А. Безносикова. Сыктывкар, 1986.

**Краткий албанско-русский словарь** (13000 слов). М., 1951.

**Латинско-русский словарь** (Ок. 50.000 слов). Сост. И.Х. Дворецкий. М., 1976.

**Латышско-русский словарь.** Сост. О. Логинова, А. Гутманис, П. Рогозинников. Рига, 1990.

**Литовско-русский словарь** (Ок. 65.000 слов). Сост. А. Либерис. Вильнюс, 1988.

**Нямецка-беларуска-рускі слоўнік** (Л. Браноўская, Н. Любчэўская, У. Марціноўскі, В. Рудакоўскі, Г. Шчуцкая). Мн., 1988.

**Полный русско-латинский словарь,** составленный А.И. Орловым. М., 1876.

**Румынско-русский словарь** (42.000 слов). Под ред. Б.А. Андрианова и Д.Е. Михальчи. М., 1954.

**Русско-венгерский словарь,** тт. 1–2. Сост. Л. Хадрович, Л. Гальди. Будапешт, 1986.

**Русско-литовский словарь,** тт. 1–4. (Ок. 90.000 слов). Сост. Х. Лемхенас. Вильнюс, 1982.

**Русско-мокшанский словарь** (Ок. 20.000 слов). Сост. С.Г. Потапкин, А. К. Имяреков, М.Е. Бабина и Д.С. Коняев. М., 1941.

**Русско-немецкий словарь** (Ок. 53.000 слов). Под ред. С.И. Лепинг, Н.П. Страховой, К. Лейна и Р. Эккерта. М., 1983.

**Русско-румынский словарь** (Ок. 30.000 слов). Под ред. М.В. Сергиевского и К.А. Марцишевской. М., 1940.

**Русско-турецкий словарь** (Свыше 35.000 слов). Сост. З.Г. Щербинин. М., 1989.

**Русско-эстонский словарь** (Ок. 20.000 слов). Сост. Н.Г. Каротамм. М., 1944.

**Удмуртско-русский словарь** (Ок. 35.000 слов). Сост. А.С. Белов, В.М. Вахрушев, Н.А. Скобелев, Т.И. Тепляшина. М., 1983.

**Эстонско-русский учебный словарь** (Ок. 7000 словарных статей). Сост. Х. Лээметс, А. Лиивас, Г. Каарма, И. Кюльмоя, А. Ыйм, Т. Лагле. Таллинн, 1990.

# Змест

*Научно-популярное издание*

**ЛАСКОВ Иван Николаевич**
**ЛЕТОПИСНАЯ ЛИТВА: РОДСТВЕННИКИ И СУДЬБА**
**(книга-поиск)**

Научный редактор — *А. Е. Тарас*

Подписано в печать 20.05.2011. Формат 60 × 90 $^{1}/_{16}$
Бумага офсетная. Гарнитура NewtonC. Печать офсетная.
Усл. печ. л. 18,0
Тираж 300 экз.

«Наша будучыня»
Вільня, Рэспубліка Летува

Ужо даўно ідуць спрэчкі аб паходжанні беларускага этнаса і першапачатковай тэрыторыі жыхарства нашых продкаў. У гэтых спрэчках сутыкаюцца дыяметральна процілеглыя меркаванні. Адны сцвярджаюць, што беларусы – першапачаткова славяне, іншыя пярэчаць – «балты!», трэція займаюць прамежкавую пазіцыю: продкамі беларусаў былі балты, якіх «расчынілі» ў сваёй масе славяне, прыйшэлыя на нашы землі.

Аўтар кнігі лічыць, што нашы продкі – не балты, не славяне, нават не балта-славяне, а угра-фінскія плямёны, роднасныя сучасным пярмянам і марыйцам! Галоўны метад яго доказаў – лінгвістычны аналіз асабістых імёнаў, гідронімаў, тапонімаў, «базавай» лексікі.

Гэта не значыць, што трэба адпрэчыць усе іншыя погляды. Але пазнаёміцца з канцэпцыяй Ласкова патрэбна. Бо ісціна нараджаецца на памежжы розных тэорыяў.

